## *«Зайздрошчу я мастам...»*

Песня Ігара Лучанка «Алеся», што загучала на пачатку сямідзесятых, імгненна стала шлягерам.

*Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманны,*
*Палынны жаль смугой ахутаных дарог,*
*Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны*
*Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог...*

гучала адусюль, уражваючы слухача не толькі прыгажосцю мелодыі, але і незвычайнай чысцінёй і пяшчотнасцю эмоцыі, якую несла паэтычнае слова. Аўтару яго, Аркадзю Куляшову, чалавеку амаль «юбілейнага ўзросту», пачалі тэлефанаваць сябры — аматары яго паэзіі. Пасля традыцыйных для самой сітуацыі слоў захаплення нязменна надыходзіла чарга такое заўвагі:

— Я не думаў(-ла), што ты такі малады душой!

— Добра ж ты ведаеш маю паэзію...— гучала ў адказ, з чым субяседнік, не адчуваючы іроніі, спяшаўся пагадзіцца, пакуль аднойчы аўтар не вытрымаў і не ўдакладніў:

— Шчыра кажучы, я напісаў гэты верш (у аснову песні «Алеся» лёг верш «Бывай!..», напісаны ў 1928 годзе,— В. К.) чатырнаццацігадовым...

Чатырохгадовым, у імкненні паквітацца з дарослымі за крыўду, мой бацька, Аркадзь Куляшоў, падпаліў хату крыўдзіцеля. Пра жудасны пажар восені васемнаццатага, калі выгарала палова мястэчка, мне ў сярэдзіне сямідзесятых расказвалі бацькавы аднавяскоўцы, калі я яшчэ не ведала, а яны ўжо забыліся, каму былі абавязаныя такой бядою.

Усведамленне бяды, якую ён прынёс землякам, абудзіла самасвядомасць будучага паэта. «Так детство кончилось. Он прежним больше не был»,— скажа Аркадзь Куляшоў, пераносячы свой псіхалагічны вопыт на героя, шасцігадовага хлапчука, што імгненна пасталеў пад бомбамі і агнём кулямётаў, у вершы «На Минском шоссе», напісаным у сорак першым для франтавой газеты.

У 1973 годзе, на схіле жыцця, прадчуваючы, мабыць, свой скрушны лёс і ўжо не спадзеючыся на большае ў творчасці, бацька напісаў цыкл вершаў, сярод якіх — «Зайздрошчу я мастам»:

Зайздрошчу я мастам, не іх канструктарам,
Дарогам, па якіх да нашых дзён
Імчаць саставы з посвістам і грукатам,
Не помнячы праслаўленых імён.

Хачу, каб так і слова —
не жалезнае,
Знаёмае з пакутай і слязьмі,—
Ад славы і імёнаў незалежнае,
Трымала сувязь з часам і людзьмі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А аўтар хто? Дзе рос? Як празываецца?
Ёсць весткі альбо там яны ляжаць,
Дзе ўжо нічога ўслых не вымаўляецца? —
Знаць важна, але можна і не знаць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Верш гэты — паэтычнае крэда сталага Куляшова. Ідэя ананімнасці творчасці, якую аўтар выказвае як дапушчальную ў адносінах і да ўласнай, выцякае з яго поглядаў на месца паэта ў грамадстве. Сэнс яго дзейнасці Куляшоў бачыць у выніках творчай працы. Свае думкі паэт выказвае афарыстычна, не тлумачачы. Прастатой яны могуць збянтэжыць чытача з тых, хто шукае мастацтва не ў глыбіні проста выказанай думкі, а ў мудрагелістасці самацэльнай формы. Прапаную расшыфроўку аўтарскага крэда, «запазычаную» ў вядомага рускага журналіста і філосафа пачатку стагоддзя В. М. Мураўёва, рэпрэсіраванага на пачатку трыццатых. Пра апошняе ўзгадваю, каб не тлумачыць, чаму равеснікі майго бацькі ў культуры, асабліва з вясковых, не маглі стаць нашчадкамі грамадскай думкі дзеячаў перадрэвалюцыйнага пакалення. Плён працы апошніх вяртаецца да нас толькі сёння. Таму, сутыкаючыся з іх думкай, ацэньваеш у куляшоўскай не толькі глыбіню, але і яе самастойнасць.

«Вывучаючы сваё малое «я» паглыбленнем у яго,— пісаў Мураўёў,— я адкрываю яго здольнасць да бясконцага пашырэння, якое ў пэўны момант ператварае яго ў Вялікае « Я к Шлях да гэтага пашырэння — не сузіральны. Імя яму — здзяйсненне. Гэтая творчасць, што няспынна і вечна з'яўляецца і ўваскрасае,— ёсць Бог. Адносіны паміж мною і Богам з'яўляюцца адносінамі паміж маім

малым і вялікім «Я». Сваё Вялікае «Я» разам з тым я адчуваю як бясконцую сусветную плынь творчасці, якая мяне нясе... Скіроўваючы позірк у глыбіні свайго Вялікага «Я», чалавек знаходзіць сілы і сродкі ўздзеяння на навакольны свет».

1994 год для Куляшова юбілейны. Сёння ён мог бы адзначаць сваё васьмідзесяцігоддзе. На жаль, ён ужо не з намі. Мы ж па-ранейшаму з ім. Тыя, хто наталяе прагу сваёй душы з крыніц паэзіі. І хоць куляшоўская стала ўжо класікай, яна — не толькі гісторыя нашай літаратуры. На здзіўленне, вялікай сваёй часткай творчасць Куляшова сугучная нашаму часу, бо як мысліцель ён абганяў свой. Таму і сёння яго паэтычнае слова ўдзельнічае ў справах жывых вопытам жыцця аўтара.

Мой бацька быў адным з тых рэдкіх людзей, хто рана ўсвядоміў сваё прызначэнне і падпарадкаваў яму свой лёс.

Ён быў паэтам савецкай эпохі беларускай літаратуры, які пазбегнуў рэпрэсій, скіраваных супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, выпадкова: па маладосці, асцярожнасці і шчаслівым збегу абставін. Ён ніколі не выкарыстоўваў палітычнай кан'юнктуры ні ў жыцці, ні ў творчасці. На фоне паэтаў-сучаснікаў ён глядзеўся апалітычным, хоць сёння, застаўшыся ў сучаснай паэзіі амаль адзіным прад стаўніком свайго пакалення, выглядае інакш. Гэты феномен яшчэ раз нагадвае нам, што творчасць нельга разглядаць пазагістарычна. А што да Куляшова,— дык у адзінкавых — у адрозненне ад большасці сваіх паэтычных паплечнікаў — вершах палітычнага гучання ён услаўляе не рэжым, а ідэю вольнасці, роўнасці і брацтва, у якую шчыра верыў. А шчырасць — перадумова мастацтва. Палітычныя памылкі можна дараваць мастаку, бо палітыка — не яго справа. Няшчырасць — нельга. Яна разбурае мастацтва, якое на ёй трымаецца. Бацька ніколі не здраджваў паэзіі няшчырасцю, чым, магчыма, тлумачыліся халодныя адносіны ўлад да лепшага свайго паэта. «Можа даваць нечаканасці»,— гаварылася пра яго «наверсе». Прыклад Куляшова — сведчанне таго, што паняцце «свабода творчасці» — катэгорыя духоўная.

Большасць успамінаў тых, каму дадзена ўбачыць паэтычны феномен Куляшова ў шырокім кантэксце савецкай і нават сусветнай паэзіі, пачынаюць сваё слова пра яго творчасць з аднаго і таго ж факта — паэмы «Сцяг брыга ды», што ўбачыла свет у часопісе «Знамя» за 1943 год.

Доўгі след палявых каляін
Вывеў нас да родных мясцін,

Да мясцін, дзе з маленства я рос,
Да сяброў,
Дубоў,
Да сябровак бяроз.
Тут навузнік вісеў на сасне,—
А чаго
Яго
Не відно больш мне?
Дуб стагодні стаяў на лугу,—
А чаму
Яму
Добры дзень сказаць не магу?
Я пазнаць не магу аніяк
Стрэчнай вёскі... Дзе школа? Вятрак?
Дзе знаёмыя хаты?.. Адны
Сярод поля тырчаць каміны.

«Мы зразумелі тады,— скажа, успамінаючы сябра, балкарскі паэт Кайсын Куліеў,— што беларуская літаратура ўзбагацілася творам высокай паэзіі, а Беларусь набыла сапраўднага, вялікага паэта!»

Заканамернае для куляшоўскага пакалення ў жыцці і літаратуры суаднясенне яго паэзіі з паэмай «Сцяг брыгады» ў першую чаргу (бо магчымыя і іншыя асацыяцыі, якія, як мне здаецца, і выступаюць ужо на пярэдні план,— з цыклам вершаў «Юнацкі свет», напрыклад,— цікавы тым, што тут упершыню прагучаў самабытны паэтычны голас Куляшова), альбо з паэмай «Хамуціус», вяршыняй светапогляднага развіцця аўтара,— такое (са «Сцягам брыгады») суаднясенне яго творчасдці фіксуе той момант развіцця савецкай літаратуры, калі яна ўключыла ў сябе яго паэзію як актыўны пачатак, здольны ўплываць на далейшае развіццё паэтычнай думкі паэтаў Савецкага Саюза.

Сам «выхад» Аркадзя Куляшова на «арбіту» савецкай паэзіі адбыўся раней, у 1940 годзе, калі ўбачыў свет яго першы зборнік на рускай мове («Дубрава»), а датай нараджэння паэта ў роднай літаратуры трэба лічыць 1926 год.

У 1946 годзе паэма «Сцяг брыгады» атрымала вышэй шую літаратурную ўзнагароду. Аўтару праз некалькі дзён споўнілася трыццаць два. За плячыма — дваццаць год працы ў літаратуры, а наперадзе — яшчэ трыццаць два, якіх ён не змарнуе, напружана працуючы ў паэзіі. Вынік гэтай працы — філасофская лірыка «Новай

кнігі», вершы і пераклады розных год, паэмы «Далёка да акіяна», «Варшаўскі шлях» і «Хамуціус»...

Гэтыя вышыні — вех і творчага шляху Куляшова, які лёгка паддаецца перыядызацыі таму, што паэт ніколі не перапяваў нават уласных паэтычных знаходак.

Ён быў першаадкрывальнікам у паэзіі. Таму кожны паэтычны твор Куляшова нараджаўся як дзіця — абрываючы пупавіну еднасці з папярэднікам.

Так, напрыклад, «Новая кніга», зборнік вершаў, які ўбачыў свет у 1964 годзе, зазнала тую ж долю, што і паэма «Сцяг брыгады» пры яе напісанні. Ухваленая Твардоўскім, яна не адразу была ўспрынятая крытыкай з-за нечаканай для многіх навізны светаадчування аўтара, доказам якой з'явілася:

Парушыўшы законы прыцягнення,
Планетамі сярод другіх планет
Існуем мы з табой як выключэнне,
Мая любоў,— як свет і антысвет.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аднак зямля б мая асірацела
І ўвесь сусвет ахутала б імгла,
Каб, выбухнуўшы раптам, адляцела
Ты ў невядомасць з хуткасцю святла.

*(«Парушыўшы законы прыцягнення...»)*

Прыведзены верш быў напісаны ў 1962 годзе, праз год пасля таго, як наша «зямное» светаадчуванне было ўзарвана палётам у Космас першага чалавека, не ўсімі яшчэ асэнсаваным як пачатак касмічнай эры ў развіцці чалавецтва.

Вершы «Новай кнігі» — вынік таго, што свядомасць аўтара ўключыла ў сябе Космас як частку сферы пражывання чалавека, — сведчаць не пра аператыўнасць Куляшова ў засваенні новай моднай тэматыкі, а пра апярэджванне свайго часу яго паэтычнай думкай.

Развіццё тэмы Космасу ў паэзіі гэтага аўтара — яскравы таму прыклад. Першы вершаваны зварот паэта да «братоў па розуму» ўбачыў свет у 1930 годзе, калі нават трактар многім, у тым ліку і самому Куляшову, здаваўся цудам тэхнікі, што не перашкаджала яму прадбачыць логіку тэхнічнага прагрэсу так, быццам ён быў не паэтам, а супрацоўнікам другога вялікага летуценніка — будучага Галоўнага канструктара першых касмічных апаратаў Сяргея Каралёва, які ў

тым жа трыццатым біўся над стварэннем першай у свеце касмічнай лабараторыі.

А беларуская літаратурная крытыка абвінавачвала Куляшова ў «адцягненасці» яго паэзіі. Ён падобных думак не аспрэчваў. «Успрымае крытыку» — лічылі аўтары. Куляшову было шаснаццаць...

Тэма Космасу ніколі не пераставала хваляваць паэта. Памятаю, як у 1947 годзе, пасля публікацыі ў часопісе «Знание — сила» артыкула Фелікса Зігеля пра Тунгускі метэарыт, для нас наступіў перыяд хатніх дыскусій па пытанні аб яго паходжанні. Бацька ўжо тады, як, зрэшты, і заўсёды, прытрымліваўся думкі аб іншапланетным паходжанні гэтага касмічнага аб'екта. Новы этап роздуму паэта аб сусвеце даў беларускай паэзіі верш «Зямля», напісаны ў тым жа 1947 годзе.

Хочам паветра глынуць
Не з балону,
Хочам на край свой зірнуць
Па-былому,

Чуць, як хістаюцца
Хвойныя ветры,
Як там купаюцца
Дрэвы ў па ветры,

Чуць, як калоціцца неба ад грому.
Годзе,— вы крыкнеце,— час нам дадому!

Будзе прыемнай назад нам дарога —
Быццам салдатам з паходу цяжкога.

Здасца зямля нам, ад смагі зялёным,
Флягай з вадою, балонам з азонам.

Здасца яна нам, шчаслівым бясконца,
Хлебам ружовым, што выпекла сонца.

Год праз дваццаць ён уразіць касманаўта Пятра Клімука дакладнасцю апісання Зямлі, убачанай з калязямной арбіты.

Наватарства вершаў «Новай кнігі» ў тым, што, аб чым бы ні пісаў паэт, ён глядзіць на праблему вачыма чалавека новай эры, касмічнай, бо Космас для Куляшова — не абстракцыя далёкіх

сусветаў, як, скажам, у яго рускіх папярэднікаў, а прастора, якую абжывае чалавек.

Апошняя буйная веха творчага шляху Аркадзя Куляшова — драматычная паэма «Хамуціус», прысвечаная нацыянальнаму герою беларускага народа і яго патрыятычнай справе. Паэт звярнуўся да асобы Каліноўскага, трэба думаць, таму, што эвалюцыя ўласнага светапогляду прывяла яго да высноў, якія некалі склалі пафас усяго жыцця героя. Загаварыўшы пра Каліноўскага, Куляшоў зноў «параўняўся з нашчадкамі». Сёння мы нават маглі б падлічыць, на колькі гадоў аўтар у дадзеным выпадку абганяў свой час. Гэта ж толькі зараз зайшла гаворка пра тое, што паэму варта было б уключыць у праграму навучання, у той час як у 1980 годзе, праз два гады пасля смерці аўтара, паэму знялі з друку ў томе паэзіі Аркадзя Куляшова ў вялікай серыі «Бібліятэка паэта», што выходзіла на рускай мове ў выдавецтве «Советский писатель».

Як бачым, грамадству спатрэбіліся амаль два дзесяцігоддзі, каб усвядоміць, што твор варты таго, каб грамадская думка засвоіла яго. Колькі ж часу спатрэбіцца на самое засваенне? Нават сёння, калі актуальнасць праблематыкі твора — незалежнасць Беларусі — пацверджана жыццём.

Ва ўспамінах пра Куляшова прагучала неяк думка, што ён быў запаволеным у жыцці і творчасці. Так мог сказаць толькі той, хто ведаў бацьку павярхоўна. На самай справе паэт працаваў многа і напружана. Ён — аўтар амаль двух дзесяткаў паэм і соцень вершаў. Пяру паэта належаць артыкулы пра творчасць беларускіх, рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Ён — вядомы перакладчык. Узровень куляшоўскіх перакладаў такі, што яны і зараз — узоры перакладчыцкага майстэрства. Такая заангажаванасць працай пры адказным да яе стаўленні патрабавала ашчаднасці ў выбары накірункаў. І калі нешта з таго, што ён хацеў ці абяцаў зрабіць, не ажыццявілася, дык гэта таму, што ляжала, трэба думаць, у рэчышчы другарадных у сістэме вартасцей Куляшова спраў, да якіх так і не дайшла чарга.

Да другарадных спраў сваёй сістэмы адносіў бацька і перакладчыцкую працу. Сустрэча з музай другога паэта была для яго адпачынкам ад уласнай творчасці.

Чаго Куляшоў зусім не пісаў, дык гэта ўспамінаў, бо лічыў, што «мемуарысты пішуць больш пра сябе, чым пра тых, каго ўспамінаюць». Гэта, безумоўна, перабольшванне, але бацька быў чалавекам выключнай да сябе патрабавальнасці і аб'ектыўнасці. Гэтым, магчыма, і тлумачыцца Узровень яго артыкулаў пра паэзію, як

і паэмы, прысвечанай сябру, рускаму паэту Аляксандру Твардоўскаму, якога, не без падстаў, лічыў сваім земляком.

«Варшаўскі шлях» — паэма пра час і месца паэта ў ім. Яна — рэквіем Твардоўскаму, самому Куляшову і ўсім сапраўдным паэтам усіх часоў і народаў. А эпілог — зварот да нас, нашчадкаў, тых, хто ідзе на змену:

Я знаю, ты, мой шлях, пераджывеш
Мяне, мой верш.
Дык знай, калі рубеж
Ты не мінеш, які завуць вайною,
Апошняй бітваю дабра са злом,
З тым злом, што мы пад Брэстам і Масквою
У сорак першым нішчылі з табою,—
Знай: дзень, што судным выбухне агнём,
Той дзень і нашым будзе судным днём.
Тады мяне ты ўспомні, як салдата...

«Варшаўскі шлях», «мой шлях» у такім паэтычным кантэксце для Куляшова — сімвал яго роднай Беларусі. І дай Божа, каб яе будучы лес склаўся так, каб нашчадкам не даводзілася звяртацца да салдацкага вопыту свайго паэта. Хай гэты вопыт стане гісторыяй, назаўсёды адыдзе ў нябыт. А Куляшоў хай застанецца ў нашай паэзіі яе пяшчотным лірыкам, тым, кім ён і быў народжаны, хоць і не здолеў у поўнай меры рэалізаваць сябе такога, бо сам лес народны рабіў мужчын салдатамі.

Сёння ж, калі мы зноў жывём надзеяй, хай часцей гучаць для нас радкі, падобныя гэтым:

Сноп апошні залатога жыта
Застаецца ў памяці палос...
Гэтак і цябе не скосіць лес —
Мною ты не можаш быць забыта...

*Валянціна Куляшова*

# *МАЯ БЕСЯДЗЬ*

## БЫВАЙ...

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Ці помніш першае нясмелае прызнанне?..
Над намі жаўранкам звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой і мой нямы адчай.

Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых сосен,
Пайшла, маўклівая, пад хваль жытнёвых шум,
Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум.

Пайшла за ціхія, далёкія прасторы
Світальнай зоркай ты, што гасне ў сіняве.
Душы пакрыўджанай гарачыя дакоры
Слязой халоднаю застылі на траве.

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманны,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць і плача май.

Бывай, абуджаная ў сэрцы, дарагая.
Твой светлы вобраз панясу я па жыцці.
На ўсходзе дня майго заранка дагарае,
Каб позна вечарам на захадзе ўзысці.
1928 г.

## ДАРОГІ

### I

Калі адзін сяджу ў сваім пакоі,
Калі стучыцца дождж паціху ў вокны,
Здаецца мне, туды, ў далёкі свет,
Пакінуты у розныя часы
І ў розныя часы прачуты мною,
Перанашуся я...
Разгортваю старонкі
Шляхоў пад небам сінім, па якіх
Ішлі, ішлі і след кідалі ногі;
І жоўтыя пяскі і шум бярозны —
Мне гэта ўсё знаёма да драбніц,
Да кожнае маленькае засечкі,
Сякерай невядомаю на дрэве
Калісьці зробленай...
На хвалях успамінаў,
Здаецца, падхапіў мяне палёт —
Ад болю лёгкага, ад песень сэрца млее,
А там, унізе, моцнымі рукамі
На гэтай вышыні мяне трымаюць
Усе мае семнаццаць год жыцця.

### II

Успамінаецца мой ціхі край забыты,
Дзе рос, дзе першы раз рукой нясмелай
Усё, што ў юным накіпела сэрцы,
Усе радасці дзіцячае пары,
Усё горкае ў таемны сшытак вынес...
І лёгка мне было, і плакаў я,
Таму што ўсё смяялася навокал,
Таму што ў радасці не чуеш горкіх слёз.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І помніцца мне першае каханне;
З тых пор ніколі болей не кахаў

Так шчыра і так лёгка і так сумна,
Як я кахаў яе — адну дзяўчыну,
Якую людзі клікалі Алесяй
(Знаць прозвішча нікому не цікава),
З прыгожымі задумнымі вачыма,
З якою я праходзіў курс навук
У нашай небагатай сямігодцы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ты да мяне прыехала, таварыш,
Блукалі мы з табой па тых мясцінах,
Дзе жыў я першыя свае гады...
Ў жытах з табой зрывалі каласы.
Ў лес ідучы, мы іх вязалі разам.
Запальвалі пасля агонь вялікі
І ў стройных соснах смажылі пражмо.
І ў травах лежачы (за край знікала сонца),
Пра будучнасць мы марылі з табой,
І думкаю былі ўсхвалёваны адной,
І радасцю былі ўсхвалёваны адной,
І песняю былі ўсхвалёваны адной...

## III

І два гады нечуў я шуму сосен,
Радзімыя мясціны, два гады
Я не хадзіў, не падзяляў я з вамі
Высокага ляснога суму дрэў!..
І хмары шызыя прайшлі над краем гэтым,
Не закрануўшы галавы маёй.
Дажджы лілі, на лісце кроплі палі,
Берасцяная клікала труба,
І статкі йшлі на пыльныя дарогі,
На неба напаўзалі вечары...
...Часы суніц чырвоных, спелых
Адкукавалі ўдаль зязюлям '
Адпелі поўным голасам дзіцяці
І канулі, як канула юнацтва.
І адышлі, як сталасць адыходзіць,
Ад кошыкаў, ад стомы, ад вятроў...

Ад кошыкаў,
У іх мы носім плён,
Ад стомы,—
                    што і дзе пасля,
І ад вятроў — і ўсходніх і заходніх,
Што хмары гоняць, што гартаюць кнігу
З'яднаных зор, маланак, перуноў...
Часы суніц чырвоных, спелых
Адкукавалі ўдаль зязюляй...
І перуны грымелі, і лісты
Асвечваліся зарывам маланак.
Рабінавыя ночы, вы прайшлі
Пад знакам восені, шумлівых бур,
Прайшлі, калі я не сачыў за небам.
Тады рабіны плакалі...
                                        Далёка
Ад месца, дзе жыву я зараз...
Я знаю, седзячы ў сваім пакоі,
Што там, дзе возера ляжыць каля акна,
Дзе нізка дым ад коміна і дзе,—
Там радасць мусіць жыць і будзе жыць заўсёды,
Пад ранкамі, пад вечарамі неба,
З суніцамі чырвонымі і спелымі,
З юнацкімі гарачымі ўспамінамі...

1930 г.

* * *

Як дзень адыходзіць, прыходзіць нябыт
Начных заспакоеных сноў,
Ізноў я выходжу глядзець на блакіт,
На зоры далёкія зноў.

Як нам таямнічы іх шлях разгадаць?
Яны за арбітай зямлі
Праз дальнія далі, праз сінюю гладзь
Плывуць, як плывуць караблі.

Плывуць, і шляхоў іх праменная ніць

Загадкава мару кране:
І там у каго-небудзь сэрца гарыць,
Як сэрца гарыць у мяне!

Магчыма, і ён за пачаткамі схем
Сядзіць і не лічыць гадзін
Над безліччу гэткіх, як мы, тэарэм,
Над планам складаных машын.

Прымі прывітанне, бясконцы сусвет
Далёкіх Цэнтаўраў і Львоў,
Далёкі таварыш, далёкі паэт
З няходжаных Млечных Шляхоў.

А я на зямлі — малады астраном —
З нязнаным размовы вяду,
Наш вецер трывожыць траву за акном
Наш вецер трывожыць ваду.

Далёкі таварыш і казак і сноў,
І песень абуджаных госць,
У жылах тваіх неспакойная кроў,
Няўрымслівая маладосць!

Мы творчаю прагай разбурым мяжу,
Працуй над складанасцю схем,
І я калі-небудзь табе раскажу
Урыўкі пачатых паэм.

Тады мы ў прасторы абжытых планет
Да іх жыхароў і жылля —
Ад нашых хацін адагалём свой прывет
«Увага!..
Гаворыць...
Зямля!»

1930 г.

## МАЛАДОСЦЬ

Я за трактарам калісьці бес,
Кінуўшы ў агонь вярцёл і сала;
Ты да ціхіх саламяных стрэх
З гулам пад'язджала.

Я ўпрыгожваў з дзеўчынай сваёй
Перад святам арку дзеразою;
Ззяла ты вясёлкавай дугой
Над калгаснай аркай, над страхою.

На таку ўмалот свой залаты
Вымяралі мы паўнюткім мехам;
Адгукалася па хатах ты
Пераможным рэхам.

Я цябе, жаданую, чакаў,
Сустракаў без крыўды, без трывогі,
Жоўценькім пясочкам пасыпаў
У прысадах летнія дарогі.

Па дарогах тых, па сцежках тых,
Па якіх ішла сяброў сям'я ўся,
Нёс цябе між даляў дарагіх
І натхнёна плакаў і смяяўся.

Шлю падзяку вёснам і сябрам,
Жытнім копам на шырокім полі...
Маладосць! — я ўсё табе аддам,
Не сыду з дарог тваіх ніколі.
1938 г.

## ВОБЛАКА

Уткнуўшы ў бераг вудзільню,
Я вуджу раніцою.
А воблака? Плыве яно
І небам і вадою.

Нарэшце клюнула разок —
І рыбка немалая! —
З пяром гусіным паплавок
Пад воблака нырае.
Стаіў дыханне. Цішыня...

Убок рукой умелай
Я падсякаю галаўня,
Цягну з хмарынкі белай.
Вада ў кругах,

Вада ў кругах
І неба ў ёй не тое...
А воблака? Яно ў руках
Трапечацца жывое.
1937—1939 гг.

## ЕЛЬНІК

У кожнага з нас
Ножык —
Адменнага ляза,
У кожнага з нас
Кошык —
Крынічная лаза.

Па ельніку мы кружым,
Ці ёсць баравікі?
Мы іх у печцы сушым
І ніжам на шнуркі.

Нясём удвух у свята
Да крамніка здаваць;
Насушана багата —
Рублёў на дваццаць пяць.

Рублі — дарослым.
Дробязь
Кладзём сабе ў кішэнь;
Сялом — усе так робяць! —

Красуем цэлы дзень.
Чаго захочам —
Купім.
Здаволены сабой.
Імчым між пнёў, між купін.

Куды? — у ельнік свой.
На мох пасеўшы ў засень,
У ельнічку густым
Цыгаркай
«Сценька Разін»,
Як сталыя, дымім.

Над намі звісла вецце,
Пад намі —
Мураўі,
У неба дым віецца —
Два тонкіх ручаі.

За дымам думкі следам
Плывуць —
Мая, твая...
Ты марыш быць паэтам,
Быць трактарыстам — я.

Над ельнікам імглістым
Плыве за годам год.
Стаў друг мой трактарыстам,
А я? —
Наадварот.

Праз вёсны, леты, зімы
На роднай цаліне
Я чую гул любімы...
— Працуй там за мяне.

Паўз ельнік ён праедзе,
Па дружбаку ўздыхне...
Верш трапіцца ў газеце:
— Пішы там за мяне.

Мы вершы з ім напішам,
Зямлю дагледзім з ім,
Адным дымком падышам
І ельнікам адным.
Люты 1939 г.

## КАРУСЕЛЬ

Бальшаком, на край зямлі і неба,
Я ўсю ночку цёмную ішоў,
Даганяў і абганяў, дзе трэба,
З лубкамі і сітамі дзядзькоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ёсць на свеце роднае мястэчка,
Там штогод бываюць кірмашы;
Міма школы меленькая рэчка
Без мяне а дна плыве ў цішы.
Мне дакор яе далёкі, звонкі
У забытым чуецца трысці.
Заўтра кірмашовы дзень.
У жонкі
На дзень адпрасіўся:

— Адпусці.
У сяброў па школе даўні звычай —
На кірмаш сысціся,
Пагуляць...
І на каруселі маляўнічай
Разам адкружыць хвілінак пяць.

Кожны мае дружбака такога,
Захавана ў сэрцы да якога
Прыязні даўнейшай цеплыня.
Кірмашовы дзень,
Гарачыня.

Вось у кірмашовы б дзень выходны
З ім ці з ёй зайсці ў куток выгодны

(Ёсць такія на зямлі куткі) —
Раз у сем гадоў павіць вянкі.

Пачуццё былое да дзяўчынкі
Нёс і я.
І тут яе сустрэў.
Між густых аглобляў, як між дрэў,
Я іду на аганёк касынкі.

А дзяўчына лузганцы кусае
І таксама некага шукае,
І ў вачах блукае неспакой,
І крычу я радасна:
— Пастой!

Мы адны з ёй. З нашых — больш нікога.
Той жа рып гармоняў, бубнаў гром.
Тая ж з кірмаша пад гай дарога.
— Што ж, пайшлі?
— Пайшлі...
І мы ідзём.

Сем гадоў не бачыліся — раз,
Замуж выйшла,
Добра ладзіш з мужам;
Дзе ж ты, карусель? За ўсё адкружым,
Як усё кружылася за нас.

Добры дзень, знаёмыя мясціны,
Карусель,
Крылатая душа!..
Гай шумлівы, гоман кірмаша,
Печанага хлеба водар кмінны.
Люты 1939 г.

## НА СОТАЙ ВЯРСЦЕ

Ля поплава лазню
Таплю ад паўдня;
Ля поплава злазіць

Дзяўчынка з каня.

На вольхах даўгі
Калыхаецца цень.
Прысела. Шляхі
Затамілі за дзень.

Сто вёрст адскакала
Пякельных, як вар,
Сто вёрст загарала —
Нябёсы без хмар.

— Дазволіш,— смяецца,—
Папарыцца мне?..
Ты ж баншчык, здаецца?
Адказваю:
— Не.

Я так — летуценнік,
У бацькі ў гасцях,
Бярозавы венік
Трымаю ў руках.

Пяю табе славу,
Духмяны лісток,
Ты жаркую паву
Прыбавіў здалёк.

Яна маладая
І я — малады.
Размова такая:
— Адкуль вы?
Куды?..

Кароткая стрэча
На сотай вярсце.
З маланкай пад вечар
Хмарынка расце,

Спяшае наехаць,
Нахлынуць на нас;

Развітвацца — нехаць,—
А трэба, а час.

З трывогай на хмарку
Глядзім, а маглі б
Ісці з ёй да парку —
Да школьных да лігі.

Конь пасвіўся б сыта
У лузе, а мы б
Пад самае жыта
Пабегчы маглі б.

Пасеўшы ў зацішша,
Вязалі пражмо б,
А сонца ўсё ніжай
І ніжай ішло б.

У хвалі прымала б
Яго збажына...
Куды ж паскакала
Так рана адна?

Касынкай-зарой
З жытніх бліснула хваль.
Як сэрца за ёй
Парываецда ўдаль!

Эх, коні-стаеннікі,
Пыл за сялом...
Духмяныя венікі,
Чэрвеньскі гром!

Люты 1939 г.

## ШЭРШНІ

Мы хадзілі некалі сюды
Насыпаць у кайстры жалуды.
Потым ты сядзела пад дуплом
Гаспадыняй,
Я — гаспадаром.
Жалудоў дзве кайстры —
Твой пасаг...
Гралі шэршні-майстры
На басах.
Пад равеснікам суровых
Продкаў
Чай пілі мы з жалудовых
Сподкаў.
А цяпер? Мінуўся гульняў час,
Сподкі замалыя ўжо для нас,
А дупло для нас зацесны дом:
Цёмна ў ім,
Не свеціць ён агнём.
Мы з табою хітрымі былі,
Раскідалі попел па зямлі,
Пахавалі сподачкі ў траве,
Хто цяпер у доме тым жыве?
Мусіць, шэршні там звілі гняздо
І гудуць, гудуць. Я знаю хто.
То гудзе мой сум. Ён сёння злосны,
Ён ляціць.
(Заходзіць сонца ў сосны.)
Злосны ён ад нашых стрэч, ад згадак.
Вечарэе.
Полем крочыць статак.
Сум ляціць. А па вачах яму
Б'е трава высокая, касая;
ЁН бадаецца, кароў кусае.
Як і мне, і ім маркотна:
- Му...

Ліпень 1939 г.

**БЮРО ДАВЕДАК**

Выпускнік вясковай сямігодкі
Падышоў пад школьны ганак. Сходкі
На спякоце летняй млеюць, спяць,
Узыходзіць ён:
Ледзь-ледзь рыпяць.

Ён вучыўся тут гадоў з сямі,
Потым свет пабачыў не ў лятунках,
Тросся ў пасажырскім па чыгунках —
Адвыкаў ад школьнае сям'і.

Не адвык.
Цяпер рашае гэтак:
Ад дажджу зайдуся, ад расы,
Кінуся ва ўсе бюро даведак,
Пазнаходжу хлопцаў адрасы.

З невядомае для нас прычыны
Не з хлапцоў пачаў ён, а з дзяўчыны
Пошукі вандроўныя свае
(А для гэтага прычын стае).

Вопратка яго з дажджу дыміцца —
Ён яшчэ пад сонцам не прасох;
Шлях размыты,
На траве пясок...
Тут прайшла нядаўна навальніца.

Кій нясе.
У бакавой кішэні
Залатое вечнае пяро.
Хмар апошніх адплываюць цені.
На краю сяла стаіць бюро.

Ён бяжыць з гары,
Мінае гаці...
Там жыве тае дзяўчыны маці,
У яе даведку можна ўзяць.
А яна? Паду мае, што зяць.

Цяжка дыша, адчыняе дзверы,
У руках пяро з лістком паперы —
Вось і скончыў пошукі свае...
Вось і маці.
Ён пазнаў яе.

Маці зяця кліча да стала,
Шчасця міскай поўнаю частуе,
Згадвае пра дочку дарагую,
Што ў гасцях нядоўга пабыла.

Як гасціла тут і як даўно,
І куды паехала — патроху
Маці ўсё раскажа.
У акно
Госць глядзіць на доўгую дарогу.

А назаўтра
Затапіла печ...
А яму дамоў збірацца трэба,
Толькі шкода (вось якая рэч!)
І хацінкі гэтае і неба.

А чаму — не знае сам як след.
Ён не муж дзяўчыны, не каханак.
А яна яму, як светлы ранак,
Як юнацкі непаўторны свет.

Маці за руку гасця ўзяла,
Колькі слоў сказала напаследак.
Ад рас ёсць!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дыміць бюро даведак
Пад гарою, на краю сяла.
Ліпень 1939 г.

## МЛЫН

З дзеўчынай развітваўся юнак,
Аддаваў яе шляхам, далінам.
— Лепш бы млынам стаць...—
Падумаў так
І зрабіўся на тым месцы млынам.
Людзі жыта носяць дзень у дзень,
А драўляны млын слухмяна меле.
Замест сэрца — б'юцца жорны ў целе,
А замест крыві —
Вады струмень...
Кажа нам паданне пра яго,
Што не можа ён з тых чараў выйсці,
Як не парамеле усяго,
Што яму належала калісьці.
Як належала яму не шмат,
Дык спадзе з яго палон драўляны,
Прыйдзе зноў ён вольны да дзяўчат,
Ні ў адну яшчэ не закаханы.
А як шмат?.. Але гадаць не след,
Бо адзін ён ведае пра тое,
Што яму належаў цэлы свет,
Як хадзіў з дзяўчынай у жытное.
1939 г.

## ХАТКА

У дружбакоў маіх згарэла хата,
Ім новую будуе талака.
У лесе, дзе імшарышчаў багата,
Я моху наскубу для іх кутка.

Цясляр ці з пілкай ходзіць, ці з сякерай,
Ці высякае вугал, ці акно.
Я не цясляр, хаджу з цяслярскай меркай,
На вушакі пілую бервяно.

Старанна печкуры кладуць цаглiны,
Загнетак выведуць, правесяць шнур.

Я паднясу ім і вады, і гліны,
І печку пахвалю, хоць не пячкур.

Пад новым дахам за сталы паселі
Будаўнікі, калгасныя майстры.
За ўсіх прысутных п'ю на наваселлі,
За нашу дружбу даўнюю, сябры!

Мы абняліся ўтрох, сыходзім з ганку,
Мінаем з песняй вокны — вочы хат,
Нам разам будзе
Менш чым шэсцьдзесят,
Нас кліча адвячорак на гулянку.

На ціхай сенажаці за сялом
У свежым сене нам ляжаць не колка;
Пра хатні клопат наша перапёлка
Пяе таму, хто едзе бальшаком.

Спявае мне.
Есць і ў мяне хацінка,
Дагэтуль не абжытая нікім.
Калі мая нясмелая дзяўчынка
У хатку зойдзе з клуначкам сваім?

Далёка недзе,
Вёрст за дзвесце, можа,
Ёй птушка вечаровая пяе
І сэрца тым жа клопатам трывожа,
Як вам і мне, таварышы мае!

У вашай хаце не сціхае гоман,
Там людзі ўсе, нібы адна сям'я.
Дыміць у небе першым дымам комін...
У вас такая ж хатка,
Як мая.

Паўз хату вашу ў поплаў ходзяць цені,
Ім трэба, мусіць, слухаць салаўя.
Ад вокнаў электрычнасць на бярвенні...
У вас такая ж хатка,

Як мая.

Заходзь жа ў хату, родная дзяўчынка,
Мой клопат тут, мой журавінны мох!
На нас,
Як пераступіш ты парог,
Вясёлым вокам гляне журавінка.
1939 г.

## МАГІЛЕЎСКАЯ ХМАРКА

У вобласць Арлоўскую хмарка плыла,
Пачаўшы свой шлях з Магілёўскай.
У дзень нараджэння хмарынка была
Бялюткаю парай дняпроўскай.

Расла яна хутка і ў першы палёт
Збіралася ўвечары дбала
І лёгкую пару з азёраў, балот
Да шляху свайго далучала.

Нямала яна для тутэйшых людзей
Зрабіла карыснай работы,
Напрыклад, пад Крычавам стомленых ясней
Схавала ў свой цень ад спякоты.
У вобласць Арлоўскую хмарка плыла,
Спрабуючы першыя сілы,
Уласным дыханнем у рух прывяла
Ужо ветраковыя крылы.
Нясмела трывожачы цішыню,
Над дахам вось гэтым, над домам,
Напэўна, ў жыцці сваім упершыню
З вясёлым праехала громам.

І людзі ўсміхаюцца хмарцы сваёй,
І ўдзячны услед ёй крычу я:
— Расці, магілёўская хмарка,
З зямлёй
Трымаючы сувязь жывую!
1940 г.

**РАНАК**

Выходджу я ў разведку —
Рашучы заўтра бой.
Ты, ранак,
Будзь за сведку,
Услед ідзі за мной.
З табой у згодзе поўнай
Жылі мы з першых дзён.
У барацьбе няроўнай
Я трапіў у палон.

І рукі мне звязалі,
І ў плечы б'е прыклад.
«Вядзі! —
Мне загадалі.—
Паказвай шлях назад...»

Ты, ранак мой вялікі,
У час маіх няўдач
Пад ногі кідай пікі,
Дарогі перайнач.

Дзе рэчку помніў розум,
Там возера кладзі,
Дзе корч —
З карча бярозу
На месцы тым радзі.

Дупло зрабі з засечкі,
Хай птушка ў гэты дзень
Туды свае яечкі
Блакітныя кладзе.

У родную краіну
Дарогі перайнач.
А я? А я загіну.
А ты?
А ты не плач.
1940 г.

## ВУЛІЦА МАСКОЎСКАЯ

Я жыву на вуліцы Маскоўскай...
Пад вясновым громам
І дажджом,
Адлюстраваны ў панелі коўзкай,
Там стаіць шматпавярховы дом.
Пакланіўшыся вясне і маю,
Кліч зязюлі ўчуўшы з-за ракі,
Кожны год
У вёску ад'язджаю
Падышаць, чым дышуць землякі.
Нехта з іх, за гутаркай сяброўскай,
У мяне спытае: «Дзе жывеш?..»
Адкажу:
«На вуліцы Маскоўскай...»
(На той самай, пра якую верш.)
І, пачуўшы вуліцу такую,
Ён ласкава гладзіць вус сівы
І ўяўляе, мусіць,
Што жыву я
Не дзе недалёка ад Масквы.
Землякі вітаюцца з пашанай,
Ну а я?
Лаўлю сабе ляшча
І хаджу, хаджу дарогай знанай,
І слыву,
Слыву за масквіча.
У дуду з цікавасцю маскоўскай
Звонка па-дзіцячаму свішчу
Ці, махаючы сталёвай коскай,
Луг я рэжу...
Лацьве масквічу!
Думаю пасля,
Адчуўшы стому,
Што і тут, пад дахам з сінявы,
Я жыхар і вуліцы, і дому,
Ад якога... блізка да Масквы.
1940 г.

* * *

Плыла, цалавалася хмара з зямлёй,
Аж жнеі сярпы пакідалі,
Бо ўгледзелі ўжо, як збягаюць па ёй
Маланкі
На жытнія далі.

Таму, што нясе яна мёд для пчалы
І робіць дарогу лягчэйшай,
Усе рэкі прыцягваць яе пачалі,
І хмара плыве да шырэйшай.

Сябе яна хоча ў тым люстры пазнаць,
Прыціхла,
На цыпачкі стала,
Глядзіць з вышыні ў пацямнеўшую гладзь,
Глядзіць,
Толькі плошчы ёй мала.

Зноў хмара злуецца, зноў, мусіць, з тугі
Кідае свае бліскавіцы,
Рассунуць хацела б яна берагі,
Хацела б
Краямі ўмясціцца.

І не ўпершыню з непакоем былым
Удаль адплывае без згадкі.
А следам за ёй,
Як за лесам сваім,
Спяшаюцца воблакаў статкі.

Глядзяцца — адбітыя ў завадзяў
З нябёс у люстраную плошчу,
Красу сваю бачаць, блакіт свой.
Але
Я воблакам тым не зайздрошчу.

Хачу неспакойнаю хмарай грымець,
Маланкамі ўвесь апавіты,
Каб цяжка адразу было зразумець

Ці вокам акінуць, які ты.

Спакою не ведаць ні ноччу, ні днём
І не прыставаць у знямозе,
Вялікай любові дажджом
І агнём
Зямлю цалаваць па дарозе.
1940 г.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТАСС

Калі сівым зраблюся дзедам,
Усімі паважаны госць,
У вёску родную прыеду,
У ельнік,
Што за вёскай ёсць.

Убачу радасныя змены,
Што сябра мой — таксама дзед,
У бакоўцы захавалі сцены
Сляды знаёмых нам газет.

У раённай выцвіўшай газеце
Знайду
«Паведамленне ТАСС»
І ўспомню ўсё, чым жыў на свеце,
І ўсё,
          што хвалявала нас.

Захочацца з юнацкай далі
Яшчэ раз навіну пачуць,
А там,
Як класікі пісалі,
Навек забыцца і заснуць.
1941 г.

## МАЯ БЕСЯДЗЬ

Кажуць, што рэкі птушкамі створаны,—
Такімі малымі на першы пагляд,—
Капалі і ў дзюбах адносілі ў бор яны
Мяшочкі з зямлёй
І ляцелі назад.
А каня гуляла ды мыла іх здзекамі,
І птушкі наслалі ёй вечны праклён,
Таму і лятае яна над рэкамі
І просіць піць
Аж да сённяшніх дзён.
Канаючы ўлетку штодня на спякоце,
Той рэдкаю кропляй яна існуе,
Што хмарка, дажджом прашумеўшы
ў лістоце,

З нябёсаў часамі пашле для яе.
Я ўпарты, не кіну пачатае справы,
Каменне крышу,
Разграбаю пяскі,
Пад кпіны аматараў лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі.
З надзеяй гляджу на крыніцу спатканую,
Хачу, каб яна разлілася ракой...
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю,
Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.
Бо прагай да працы ахоплены часта я,
І сэрца абпалена смагай радка,
Бо жыць не магу,
Як каня няшчасная,
Кропляй дажджу з лесавога лістка.
1940—1946 гг.

# *ПАСВЕДЧАННЕ*

## КРЫЛЫ

Я пакідаў маленства край,
Дзе жыў жыццём вясёлым,
Прыйшла і мне чарга бывай
Сказаць лясам і долам.

Глядзелі зоры на мяне
Здалёк, як на другога,
Нібы за жорава мяне
Лічылі маладога.

Глядзелі з вокнаў аганькі
Мне ўслед з трывогай шчырай,
Нібы ў далёкі і цяжкі
Я падымаўся вырай.

Зямля шаптала мне — ляці,
Спяшайся, жораў ранні,
Цябе чакаюць у жыцці
Усе выпрабаванні.

Яны стаяць за радам рад:
З крыві, агню, з жалеза.
Ляці!
Няма шляхоў назад
Да салаўёў і базаў.

Адчуў я прагу вышыні,
Зямля дала мне сілы,
Мяне ўзнялі юнацтва дні —
Майго адлёту крылы.

Свіст кулі чуў я на вайне,
Штык не здымаў з вінтоўкі.
Там, нібы з жорава, з мяне
Ляцела пер'е толькі.

Дзе ні праехаць, ні прайсці —
Я поўз, я лез, упарты.
Я не шкадую! Дзесяці
Не бітых біты варты.

Каб нават я забіты лёг
На дно сырой магілы,
Скарыцца б і тады не змог,
Свае не склаў бы крылы.

Я б зажадаў яшчэ зазнаць
Адно выпрабаванне —
З магілы ўстаць, хоць цяжка ўстаць,
Каб зноў убачыць ранне.

Адмыў бы я імглу з вачэй
У ручаі самохаць,
Зямлю атрос бы, каб людзей
Зямлёю не палохаць.

Рвануўся б з месца, каб набраць
Паветра ў грудзі й жылы.
...Няхай ляцяць, ляцяць, ляцяць
Майго юнацтва крылы!
1945 г.

## ДОМ

Некалі дом красаваўся
На месцы на гэтым.
Пасля бамбёжак стаяць ён застаўся
Шкілетам.
Міма яго прамчаліся з громам
Падзеі.
Зноўку назвацца ён домам
Не траціць надзеі.
Колькі ягоных сяброў
Уздымаецца ў славе,
Дойдзе чарга да ягоных муроў
Неўзабаве.

Плотам драўляным яго на світанні
Абнеслі,
На рыштаванні
Пачуліся першыя песні.
Хай яшчэ вокны ягоныя
Небам зашклёны,
А ўжо здаецца,
Што выгляд змяніўся ягоны.
Гэткім зрабіўся ён, што нават хмарка
І тая
Стала над домам
І далей плысці не жадае.
Стала над ім нерухома,
А людзям здаецца,
Што гэта з коміна, з дома
Дым першы віецца.
1946 г.

## КОЛАС

*Коласу — вырасціць жменю зярнят.*
*Максім Танк*

Шуміць авёс, звініць ячмень,
І верыш ты ахвотна,
Што каласы цалюткі дзень
Красуюць бесклапотна.

Ты працай дзень распачынаў,
Пацеў пад сонцам летам,
А коласу як быццам спраў
Няма. Няпраўда гэта.

Ты, з працы ідучы, прыкмець
Ягоную работу,—
Вусамі ён варушыць ледзь»,
Ён мокры ўвесь ад поту.

Не проста ён глядзіць увысь
На светлыя аблокі,

А знізу ўверх, а зверху ўніз
Свае ганяе сокі.

Ён з глебы гоніць кропляў шмат,
Іх грэе на праменні,
Бо трэба вырасціць зярнят
Яму не меней жмені.

Ён ловіць сонечны прамень,
Нябеснай рад вадзе ён,
Так напрацуецца за дзень,
Што ночку ўсю пацее.

Ні днём, ні ноччу ад турбот
Спакою ён не мае.
А раніцою з твару пот
Ён сонцам выцірае.
1946 г.

## ЧМЕЛЬ

Тут гул і гарматы,
Рваліся снарады,
Дрэвы на кавалкі трушчылі, ламалі;
Тут свісцелі кулі,
А цяпер зязюлі
У маўклівым лесе зноў закукавалі.

Чмель расправіў крылы лёгкія, шкляныя,
Паляцеў на кветкі ў закуткі лясныя,
Гудзе таямніча,
Тыя кветкі ліча,
У траве памятай ліча кветкі тыя.
Колькі іх смяротным спалена пажарам,
Колькі палягло іх пад цяжкім ударам,
Ведаць ён жадае,
Весткі ён збірае,
Каб расказваць сонцу, каб расказваць хмарам.

Хай змываюць хмары чыстымі дажджамі

След вайны нядаўняй, што прайшла лясамі,
Хай жа тое сонца, што ўстае з усходу,
Дасць зацвіўшым кветкам ясную пагоду,
Каб з тых самых кветак
Ён сабраў для дзетак
Мёду залатога,
Хлеба маладога.
1946 г.

## СЛАНЕЧНІК

Сланечнік нам у твары дыхаў цветам,
Мы прыкмячалі летняю парой,
Што ён штодня за сонцам водзіць следам
Сваёй агністай, жаркай галавой.

Што першым ён прыход яго вітае,
І апаўдні стаіць з ім твар у твар,
І першым долу галаву схіляе,
Як коціцца за лес агністы шар.

Ён так стамляўся, наш сланечнік мілы,
Так шчыра сустракаў ён ночы цень,
Як быццам два крутыя небасхілы
Ён разам з сонцам абышоў за дзень.

У сінь нябёсаў просіцца нямала
Сланечнікаў. І верыць я гатоў,
Што гэта сонца так параскідала
Па ўсёй зямлі малых сваіх братоў.
1946 г.

## ВЯСЕЛЛЕ

Шчасця ўсе па дарозе вам зычылі,
Пад дугою звінелі званкі,
Млынары, па даўнейшаму звычаю,
Прыпынялі знарок ветракі.

Каб вяселле вясёла каціласся
Па зямлі, покуль воку відно,
Каб жыццё, як вятрак, не круцілася,
Каб на радасць было вам яно.

Сціх і вецер, у крылах лапочучы,
Пасыпаючы цвеценню пуць,
Разам з жытнімі хвалямі хочучы
У шчаслівыя твары зірнуць.

Нат на момант зямля прыпынілася
І на ўласнай застыла асі,
Каб запомніць: і як вам любілася,
І як лёгка вас коні вязлі.

Усё найлепшыя фарбы знаходзіла,
Перайначвалася на вачах.
Як раней толькі сонца ўзыходзіла,
Заліваючы промнямі шлях.
1946 г.

## КАМЕНКА

Жыў дзед мой, ходзяць чуткі,
Каля дняпроўскай плыні,
У Каменцы бялюткай,
На мілай Украіне.

Любіў ён вішань лісце,
І стэп любіў, і хвалі;
Яго паны калісьці
На Беларусь прадалі.

Мой бацька нарадзіўся
Ужо на Беларусі,
Там палюбіў ён пушчы
І лозы ў родным лузе.

Вось з Беларусі еду
Я па дняпроўскай плыні,

Пра Каменку пытаю —
Іх многа на Украіне.

Мне любы стэп шырокі
І вод ар сенажаці,
Як быццам тут радзіла
Мяне калісьці маці.

Мне любы край вось гэты
І той, адкуль я еду,
Я горача люблю іх
Любоўю бацькі, дзеда.

Але не менш люблю я
Край,
Што завём адзіным,
Даўно сябе лічу я
Яго грамадзянінам.

Запала яго неба
У вочы мне глыбока:
Ад Брэста ехаць трэба
Аж да Уладзівастока.

Нікому не дазволіць
Прадаць, ні заняволіць
Ні ўнука, ані сына
Край любы,
Край адзіны.

Люблю мой край за тое,
Што ў ім часы другія,
Што згінула былое
І Каменкі былыя.
1946 г.

## ЛІСТЫ

Вы, лісты мае! Колькі вас, колькі
Паабапал траншэй і канаў?

Вас варожыя збілі асколкі,
А не вецер з галін пазрываў.

Вы калісьці з галінамі тымі
Да нябёс дасягалі не раз.
Што ж цяпер парабляеце з імі?
Хто мне, хто мне адкажа за вас?
Мне адказвае ціха з кювета
Ваш абуджаны восеньскі звон,
Што ўжо трэцяе бабіна лета
Вы адвечны вартуеце сон...

Сон тых слёз, што ў лістах пахаваны,
Што скаціліся з матчыных шчок,
Сон крыві, што з салдацкае раны
Пралілася на вас, на пясок.
Гэты сон не парушыць нікому.
Калі ж вораг памкнецца, то ўсе
Вы з траншэй і кюветаў, як з дому,
Хмарай вылеціце на шасэ.

І пакоціцеся ўперагонкі,
Як кацілі раней вы, лісты,
Пачапляўшыся за трохтонкі,
За лафетаў стальныя шчыты.
Свой наказ вам нашэпчуць бярозы —
Не спыняцца ні днём, ні ўначы,
На сабе несучы тыя слёзы,
Тую кроў на сабе несучы.

Сыдзе вораг ад жаху са шляху,
Калі дзьмухнеце буры люцей
Гнеўна ў твар вы яму за знявагу
Разам з грозным агнём батарэй.

1946 г.

**НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА**

Хлопчык з варожай блакады
		быў вырвацца рады.
Бег ён, ад маці адбіўся,
		стаміўся, спыніўся.
Ён апынуўся адзін
		між калматых ялін.
Пасля смяротнай трывогі
		не йдуць яго ногі.
Хлопчык прылёг на сумёт
		пад яловае вецце.
А ў гэты час Новы год
		пачынаўся на свеце.
Чым хлапчуку
		навагодняе свята не свята?
Снег на яловым суку,
		як бліскучая вата,
Срэбныя зоры вісяць
		і не падаюць з ёлак —
Ніткай, відаць,
		прывязаны да хвойных іголак.
Замець, нібы канфеці,
		закружылася ў голлі,
Так Новы год у жыцці
		не страчаў ён ніколі.
Месяц над ім захістаўся,
		як быццам з кардону,—
Цацкай малому ён здаўся
		у час яго скону.
Так і заснуў і не ўстаў
		хлопчык той і не ўстане,
Снежны сумёт не растаў
		і зімой не растане.
Бо то не казка зімовая —
		праўда суровая,
А калі нават і казка,
		дык іншая, новая.
Казка Айчыннай вайны
		і лясное палянкі,
Не каралевіч заснуў там,

а сын партызанкі.
Сын партызанкі!
Хоць замеццю пад яліною
Быў ты засыпаны —
смерць не ўладар над табою.
Песняй спілую
я ў лесе тую
яліну —
Гоман зялёны,
скарб незлічоны
на плечы ўскіну
І панясу да людзей
па жывых пяцігодках,
А ўсё далей і вышэй
па гадах, як па ўсходках.
Так з году ў год,
ад вяршыні да новай вяршыні,
Пад Новы год карагод
упрыгожваць яліне.
Быць ёй і ў тым дарагім
і высокім палацы,
Створаным майстрамі
камуністычнае працы...
Сціхнуць у вецці былыя
вятры і завеі,
І загарацца людскія,
як сонца, надзеі.
Там у хвіліну жалобы,
ў хвіліну маўчання
Людзі згадаюць,
як хлопчык замёрз на паляне.
Быль аб малым
што ні год будзе жыць
у народзе —
Памяць аб ім
у святочным кружыць
карагодзе.

1947 г.

**ЗЯМЛЯ**

Зор вам ніяк не злічыць, астраномы,
Вабіць даўно вас сусвет незнаёмы.

Колькі вы ў марах ракет
Збудавалі,
Колькі планет
Вы на іх абляталі?

Тысячагоднія вашы намеры
Спраўдзяцца некалі не на паперы.

Вас у абдымкі касмічнага пылу
Кіне матор на ўсю моц, на ўсю сілу.

Ён, несучыся наперад нястомна,
Будзе вучыць вас, як жыць эканомна:

Дасць вам на суткі паветра з балону,
Каб вашы сэрцы не ведалі скону,

Дасць і вады з механічнае флягі
Столькі якраз, каб не ўмерлі ад смагі.

Дасць вам аднойчы, адкінуўшы шторы,
Глянуць з ракеты імклівай на зоры.

Так вам убачыць здалёк давядзецца
Зорку, якая Зямлёю завецца.

Хоць не адрозніць вам праз тэлескопы
Там ані Азіі, ані Еўропы,

Толькі вам радасна будзе, вядома,
Знаць, што Зямля вам з маленства знаёма,

Знаць, што жывуць і кіруюць Зямлёю
Людзі адзінай працоўнай сям'ёю,

Знаць, што яны на арбітах сусветных

Слаўны жыццём без багатых і бедных,

Знаць, што здабыткі, здабытыя імі,
Здалёку вам не здаюцца малымі,—

Ярка вам свецяць здалёк, як нікому...
— Годзе,— вы крыкнеце,— час нам дадому

Здзейсніць мы здзейснілі нашу задачу,
Поўную людзям дадзім справаздачу:

Як мы ляцелі хутчэй метэора,
Сорак гадоў не глушылі матора,

Восем вялікіх планет абляцелі,
За падарожжа зусім пастарэлі.

Сорак гадоў па нябёснай пустэлі
Мы не за ўласным багаццем ляцелі:

Мы для зямлі ўсёй, нібы вадалазы,
З неба глыбінь здабывалі адказы.

Хочам цяпер мы, нябесныя госці,
Там, на зямлі, пахаваць свае косці,

Хочам паветра глынуць
Не з балону,
Хочам на край свой зірнуць
Па-былому,

Чуць, як хістаюцца
Хвойныя нетры,
Як там купаюцца
Дрэвы ў паветры,

Чуць, як калоціцца неба ад грому.
Годзе,— вы крыкнеце,— час нам дадому!

Будзе прыемнай назад вам дарога —
Быццам салдатам з паходу цяжкога.

Здасца зямля вам, ад смагі зялёным,
Флягай з вадою, балонам з азонам.

Здасца яна вам, шчаслівым бясконца,
Хлебам ружовым, што выпекла сонца.
1947 г.

## ПАСВЕДЧАННЕ

Яно сабе самому дадзена,
Яно не на паперы складзена.

На светлых аркушах дарог —
Яно,
Друкована слядамі ног —
Яно.

Ішлі сляды шляхамі рознымі,
З малых рабіліся дарослымі.

Штогод, штогод, штогод
Раслі яны,
Нарэшцё і ў паход
Пайшлі яны.

Шляхі раскручваліся новыя,
Нібы рулоны папяровыя.

Усё, што знойдзена, што страчана,
Усё на тых шляхах адзначана,

Усё слядамі друкавалася,
Аж покуль тут бяда не сталася.

Сляды загінулі, згубіліся,
Як пад зямлю дзе праваліліся.

Іх шлях у цемені губляецца,
На тым пасведчанне канчаецца.

А дачытаць яго захочаце,
Пад засень дрэў з дарогі збочыце.

Там, сведчачы сляды праўдзівыя,
Ляжыць пліта — пячаць маўклівая.

На ёй дзве даты ёсць суровыя,
Халодныя, абавязковыя.

Пад ёй сляды навечна згінулі,
А памяць на шляхах пакінулі.

На тых шляхах, дзе сэрца вынута —
Агеньчыкам на ростань кінута,

Каб асвятляў ён сцежкі розныя,
Каб грэў ён душы падарожныя,

Перамагаў каб сцюжы, замеці,
Са шляху не сышоў і з памяці.

Хай, сведчачы сляды жыццёвыя,
Маўчыць пліта — пячаць суровая,—

Агеньчык свеціць, разгараецца,
Пасведчанне людзьмі чытаецца!
1947 г.

## БАЛАДА ПРА ВОКА

*(Паводле народных матываў)*

*Памяці Ю. Фучыка*

На беразе мора, у часе прыбою,
Узважвалі нелюдзі вока людское.

Ні скалы, ні горы камення цяжкога
Не пераважылі вока малога.

Дзівіліся нелюдзі зблізку, здалёку —
Ім скалы і горы відаць былі ў воку.

У воку відаць яшчэ й мора, нібыта
Было яно ў сподак маленькі наліта.

Ускінулі нелюдзі злосна на шалі
Марскія цяжкія салёныя хвалі.

Хоць вока людское, як кропля малая,
Ды з месца і мора яго не скранае.

З за хваляў бясконцых — і сініх і шэрых —
У воку далёкі віднеў яшчэ бераг.

Тут нелюдзі вырашылі між сабою,
Каб вока ды ўсёй пераважыць зямлёю.

На шалі ледзь-ледзь ускацілі рукамі
Зямлю з акіянамі, мацерыкамі.

Дзівіліся нелюдзі зблізку, здалёку:
Грамада зямлі ўсёй змясцілася ў воку.

Апроч той зямлі і зямное арбіты
Былі ў ім яшчэ і сузор'і адбіты.

Ускінулі іх, але й зор яму мала,
У воку, апроч іх, свяцілася мара.

На сэрцах у нелюдзяў стала трывожна
Ім мару ніяк пераважыць няможна.

Яны б пераважылі сонца і хмару,
А як пераважыць ім светлую мару?

Яна не вагой ім сваёй пагражала,
А тым, што святлом, як агнём, спапяляла

На вока цямшоткую хмару нагналі,

Дажджом і маланкамі мару знішчалі,

Цямрылі крывёю, палілі слязою,
Пакуль не засыпалі вока зямлёю.

Пагасла ў ім сонца, блакітнае неба,
Больш воку сузор'яў далёкіх не трэба.

Адна за адной у ім далі
Згасалі,
Пал і за палямі,
Лясы за лясамі.

Яго, не цяжкое ўжо, сумныя шалі
Вышэй і вышэй, як трупу, падымалі.

Засыпалі вока...

А мара? Што з ёю?
Яе не засыпаць сырою зямлёю.
1947 г.

## БАЛАДА АБ ЖЫВОЙ ГАЗЕЦЕ

Як абвясціла Масква
векапомным загадам
Вынікі бітвы з фашыстамі
пад Сталінградам,
З паведамленнем,
з святочнаю весткай пра гэта
Трапіла да партызан
са сталіцы газета.

Неслі яе агітатары
ў снежныя далі,
Сэрцам сваім пад кашуляй,
як сцяг, саграvalі.
Неслі праз лютую сцюжу,
праз сівер суровы,

Грэлі ім сэрцы
яе палымяныя словы.

Лесам ішла яна,
полем ішла па дарозе,
Ад паліцэйскіх штыкоў
ратавалася ў возе.
З бою выходзіла,
з чортава пекла, жывою,
Людзям жыццё яна несла,
мір несла з сабою.

Недасачылі за ёю
фашысцкія вочы,
Не захапілі пры лямпе
яе апаўночы,
Не пашматалі яе
на кавалкі рукамі...—
З днямі друкарскія літары
сцёрліся самі.

Часам зімовым
яе снегавая навала
Вырвала ў некага з рук
і з сабой паімчала.
Сцёртыя літары
снежнай завеі шрацінкі
Сцёрлі дашчэнту...
Ды рана спраўляць ёй памінкі!
Там, дзе завея
яе пахавала за плотам,
Снежнае поле
газетным лягло разваротам.
На развароце,
у выглядзе бору густога,
Сталі калонкі
артыкула перадавога.
На разварот,
як святочныя паведамленні,
З бору свайго
партызанскія выйшлі злучэнні.

Неслі яны
на бясконцую ў полі дарогу
Надрукаваную
ў сэрцах сваіх перамогу.
Не! Слоў праўдзівых
не знішчыла лютая замець —
Вусны гарачыя іх вымаўлялі
на памяць.
Іх і па сёння
з удзячнасцю свет вымаўляе,
Свет, разняволены намі,—
газета жывая.
1952 г.

## РАЗМОВА З ПАТОМКАМ

Я не заўважыў,
калі мая сталасць настала.
Ты выбачай, мой патомак,
далёкі мой брат,
Песню, якая ў юнацтве
сурова гучала,
Вуха людское не песціла,
біла ў набат.
Песня мая
не ўзышла сярод кветак, вядома,
Кветкай у доме тваім яна
не расцвіце.
Час наш імклівы,
а песня таксама не зломак,
Каб, мазалі панацёршы,
плясціся ў хвасце.
Даў я ёй боты
і лыжку запхнуў за халяву,
Каб ні на крок не пасмела
ад часу адстаць.
Я пасылаў яе
ў пекла агню не па славу,
А для таго, каб людзей
ад бяды ратаваць.

Хіба магла яна
гнацца за ўласнаю славай,
Хіба ласкавай
магла быць у тыя гады,
Калі у кожным радку яе
ранай крывавай
Родныя сёлы дыміліся і гарады.
Знай, што я сам
з абгарэўшымі тымі радкамі
Быў неаднойчы ахоплен
знішчальным агнём,
Што я не толькі пісаў іх
сваімі рукамі,
Сам бараніў іх ад смерці
салдацкім штыком.
Сам бараніў іх,
але калі б мне загадалі
З песняй памерці,
ратуючы родны прастор —
Зоры Крамлёўскія,
Крымскія сінія хвалі,
Горы Валдайскія,—
я без вагання б памёр.
Вось чаму сёння,
у мірны наш дзень, пасля боя,
Рад я за песню,
што выстаяла ў барацьбе,
Але найбольш, мой патомак,
я рад за другое —
Рад, што жыццё
здабылі мы сабе і табе.
Песня мая
не красуняю-кветкай з паляны,
Песня мая пехацінцам
увойдзе ў твой дом,
Ты ёй даруй
і глыбокія шрамы і раны,
Знай, што і ім ты
сваім абавязан жыццём.
1952 г.

## МАЕ СЭРЦА Ў БАРЫ

Кожны мае свой бор,
родны бор на зямлі,
Бор, дзе мары,
як гордыя сосны, раслі.

Дзе шугалі яны
ўпершыню над зямлёй
Пры начлежным агні
на паляне лясной,

Дзе будзіла зязюля іх
рана, ледзь свет,
Дзе ў далёкі, за рэхам,
плылі яны свет.

Кукаванне ў бары
ад зары да зары,
Ад зары да зары
мае сэрца ў бары.

Не паспець мне,
не ўгнацца сягоння за ім,
Нешта дзіўнае робіцца
з сэрцам маім.

Ці яно кукавання
не чула даўно?
Ці слядоў маладосці
шукае яно?

Толькі як іх знайсці?
Пастарэлі сляды,
Ды і сам я даўно
не юнак малады.

Не паробіш нічога,
мінуўся той час,
Лішніх дзён у запасе
не меў ён для нас.

Час ляцеў, як віхор,
і па гэтым бары
Бур жалезных сляды
пакідаў на кары.

Родным соснам, з якімі
тут некалі рос,
Я не скаргу прынёс
на агульны наш лес.

Я — салдат свайго часу.
З ягоных дарог
Я без метак суровых
вярнуцца не мог.

Не бяда, што не толькі
на соснах сляды,
Не бяда, не за тым
я вярнуўся сюды.

Я вярнуўся затым,
каб засведчыць усім
Вернасць марам сваім,
як жыццё, мала дым.

Вернасць марам, якія,
закутыя ў бронь,
Неслі юную праўду
сваю праз агонь;

Вернасць марам, што там,
дзе канчаецца бор,
Караблямі плывуць
у жытнёвы прастор.

Я вярнуўся ў свой бор,
што ад бур не палёг,
Каб набрацца ў ім сілы
для новых дарог.

Каб шугала далей
мая палкая кроў
Тым жа буйным агнём
маіх першых кастроў.

Каб па ўсіх акіянах
наперад плылі
Мар маіх караблі,
мар маіх караблі.

Думы, мары мае!..
Ганаруся я тым,
Што навек заўладалі
вы сэрцам маім,

Што мяне, як і ўсіх
неспакойных людзей,
Вы ўзялі ў падарожжа
вялікіх надзей,

Што ў дарозе няспыннай
з юнацкай пары
Мне ваш голас чуваць,
як сягоння ў бары.
1954 г.

## НА ПАСАДЗЕ ЦЯЖКОЙ

На пасадзе цяжкой
Я працую, рабоце аддany,
Не для славы сваёй,
Не для срэбра і не для пашаны.

Легкадумная слава —
Туман летуцення пустога —
Зранку днюе ў мяне,
А пад вечар начуе ў другога.

Срэбра ззяе раскошай,
І сыта яно і адзета,

Толькі бедна натхненнем —
Адзіным багаццем паэта.

Я не супраць пашаны,
Працую, рабоце аддаНы,
На пасадзе цяжкой,
І не трэба мне большай пашаны.
1956 г.

# *НА ПОЛІ БОЮ*

## МЛЫНАР

Моўчкі сумны млынар развітаўся з сям'ёй,—
З жонкай, з сынам малодшым, чацвёртым,
Згоды ў іх папытаўшы, у хаце пустой
Сам застаўся з намерам найцвёрдым.
Ён з маленства да гэтых мясцін прывыкаў,
Палюбіў і балоты, і далі.
Хлеб, жывёлу сваю і маёмасць раздаў
Ён часцям, што на ўсход адступалі.
Уваходзіў у хату ён гол, як сакол,
Нават хата здалася чужою,
Апусціў кулакі, быццам камні, на стол,
Доўга думаў над доляй сваёю.
Век малоў ён муку, з году ў год, з году ў год,
Век быў шчырым і ціхім і белым,
Да яго ў агарод,
Як у родны чарот,
Качкі дзікія леталі смела.
Ды няма цяпер мірнага шчасця таго,
Нават качкі з трысця паляцелі.
Ён застаўся адзін.
Увайшоў да яго
Ціха ў хату прыяцель Савелі.
Не для мірнай прыемнай размовы адны
Тут сустрэліся блізкія людзі,—
Тут чакаць чужакоў застаюцца яны,
Часу мала ім, нельга марудзіць.
І таварыш таварышу клятву даваў
Над ствалом партызанскай бярданкі.
Ды Савелі ўначы за сялом сустракаў
Хлебам-соллю фашысцкія танкі.
Ён прывёў уначы, як пагаслі агні,
Іх пад дом старшыні сельсавета.
Назаўсёды і дом, і дабро старшыні
Аддаваў яму вораг за гэта.
Раніцою ўставаў ён ад шчасця п'яны:
Саўка — стараста.

Новае цуда!
Камуніста прадаўшы, адразу ў чыны
За ноч выбіўся, вылез іуда.
Як пакінулі чорныя госці сяло,
У якім пагулялі нямала,
Выйшаў з жыта млынар, што яго берагло,
Ад варожага вока хавала.
Сэрца білася ў грудзях, як жорны ў млыне.
Падышоў к сельсавету.
Быў ранак.
Стрэльбай грукнуў у дзверы:
«Выходзь да мяне,
Гаспадар самазваны, на ганак!»
Выйшаў з дому на кліч млынара гаспадар,
Стаў, хістаючыся, ля паркана.
Плюнуў дымам млынар
І агнём яму ў твар,
Верны клятве, пайшоў к партызанам.
1941 г.

## БАЛАДА АБ ЧАТЫРОХ ЗАЛОЖНІКАХ

Іх вядуць па жытняй сцяжынцы.
Чатырох.
Пад канвоем.
З дому.
Чатырнаццаць — старэйшай дзяўчынцы,
Тры гады хлапчуку малому.
Разам з імі ў падвал халодны
Гоняць цётку — сястру Міная,
А Мінай — гэта бацька іх родны,
Бацька родны,
Мсціўца народны.
Піша вораг аб ім у газетах,
Аб чырвонай
Брыгадзе ягонай,
Па усіх
Былых сельсаветах
Клеюць новы

Загад суровы.
Са слупоў, са сцен, аканіцаў
Пагражаюць Мінаю загадам:
Ён павінен скарыцца,
З'явіцца,
Здацца ў рукі фашысцкім уладам.
І вісіць той загад друкаваны
На Мінаевай хаце і клеці;
А не з'явіцца — расстраляны
Будуць заўтра заложнікі —
Дзеці...
У чаканні смяротнага часу
У падвале дзеці Міная.
З імі цётка іх родная разам,
Ёй таксама расстрэл пагражае.
— А чаму нас вартуюць салдаты? —
Знаць маленькаму хлопчыку трэба.—
А чаму не пускаюць з-за кратаў,
За якімі і сонца, і неба?
А ці скора нас вызваліць татка?
— Скора,— цётка гаворыць малому,
Татка прыйдзе і ўсім нам, дзіцятка,
Волю дасць, і мы пойдзем дадому...
— А чаму не прыходзіць ён?
Сыну
Цяжка ўсё растлумачыць адразу.
— Спі, засні,— суцяшае жанчына
У чаканні смяротнага часу.
Цётка дзецям, уклаўшы малога,
Кажа праўду пра лес іх суровы.
Не павінен ведаць нічога
Толькі меншы —
сын трохгадовы.
—- Вы нічога яму не кажыце,—
Навучае
Дзяцей Міная.
Сын у сне гаворыць аб жыце,
Па якому
Пойдзе дадому.
У астрожнай
Трывожнай

Цішы
Сняцца краты меншаму сыну:
— Тут і мокрыя сцены,
І мышы...
Татка, татка... забыў нас... пакінуў.
— Спі, засні,— суцяшае кабета,—
Спі, сынок, не твая гэта справа.
Спі, наш татка не прыйдзе,
На гэта
Ён не мае бацькоўскага права.
Ноч праходзіць,
Сонца ўзыходзіць,
Заспявалі жаўранкі ў полі.
Іх выводзяць салдаты
За краты.
Хлопчык рад і сонцу, і вол і.
Іх салдат
Да сцяны прыстаўляе.
Цэліць кат
У льняныя галовы,
Пачынае
З сына Міная.
Стрэл.
Упаў хлапчук трохгадовы...
Кат ізноў пісталет узнімае...
На сцяне — заложнікаў цені...
Вось і ўсё.
Перад бацькам Мінаем
Станьце, ўсе бацькі, на калені!
*Чэрвень 1942 г.*

**НАД БРАЦКАЙ МАГІЛАЙ**

Ёсць пад Старую Русаю
                    руская веска Лажыны.
Там, нібы ў Беларусі,
                    і вербы растуць, і рабіны.
Там жаўцеюць
Прыгожыя
Краскі

За вёскай у лузе,
Там ржавеюць
Варожыя
Каскі,
Нібы ў Беларусі.
Там магіла ёсць брацкая ў лузе
за вёскай Лажыны,
Там хлапцы беларускія
чэсна галовы зложылі.
Мы без слёз іх хаваем,
Памятаем
Пра свой абавязак,
Нашы слёзы саромяцца
мужных вінтовак і касак.
Мы не плачам, хоць знаем,
не проста салдацкія косці
Засыпаем мы жвірам халодным,
а большае штосьці...
Засыпаем мы твары
з вачамі і вуснамі тымі,
На якіх пацалункі
дзяцей і жанок не астылі.
Жвірам сыплем на рукі,
якія дзяцей тых насілі,
Жвірам сыплем на ногі,
якія паўсвету схадзілі.
Ногі просяцца ўстаць,
яны стомы ў дарозе не чулі,
Ды ўвагналі ў магілу
Іх сілу
Варожыя кулі.
Рукі хочуць яшчэ
да грудзей прытуліць сваіх сірат,
Ды з варожае ласкі паганай
дол цесны ім вырыт.
Хоць прымае іх гэта зямля,
як сыноў сваіх, шчыра,
Але просяць іх вочы
хоць жменьку палескага жвіра.
Толькі дзе яго ўзяць?
Як яны Беларусь пакідалі,

У дарогу з сабою
Мяшэчкаў з зямлёю
Не бралі.
Што ім жменька зямлі той?
Ты ўся ім патрэбна, радзіма,
А ў дарожным мяшочку
ўмясціць цябе ўсю немагчыма.
Паспрабуй у дарогу забраць
тыя пожні, пал і і крыніцы,
Тыя пушчы, што могуць
хіба толькі ў сэрцы ўмясціцца.
Беларусь мая родная,
як жа я рвуся яшчэ раз
Пеша ўсю цябе змераць,
увесь і чабор твой і верас!..
Сэрца просіць шляхоў,
Што цяжкім маім ботам пад сілу;
Наглытацца хачу туманоў,
Твайго ветру і пылу;
Наглытацца хачу за сябе і за тых,
Што не ўстануць з нябыту;
Вочы просяць нябёсаў тваіх,
Ім твайго не хапае блакіту.
Мы сяброў засыпаем зямлёй —
Ленінградцы, татары, узбекі,
Мы клянёмся варожай крывёй
Напаіць беларускія рэкі.
Мы салют аддаём,
памятаючы свой абавязак,
І не плачам, бо слёзы
суровых саромяцца касак.
1965 г.

## ЛІСТ З ПАЛОНУ

«Дарагі!
Не хаваю тугі:
Невясёлы мой лёс, невясёлы...
Пакідаю я родныя сёлы,
Па рэйках вязуць мяне колы

У Нямеччыну,
Нібы ў Турэччыну...
Не адна я, з дзяўчатамі, ўсіх нас вязуць у няволю.

Пакідаюць дзяўчаты
Бацькоўскія хаты
І плачуць уволю.
Я пішу і не плачу, я стала скупою на слёзы.
Толькі кінуць хачу свае косы
Цягніку пад калёсы,
Але марныя гэта намеры,—
Не пускаюць за дзверы.
Дарагі!..
Ліст даўгі
Я пішу на звычайнай паперы,
Не крывёю пішу, бо застыла
І ў сэрцы, і ў жылах,
А алоўка апошнім агрызкам,—
Чытай яго блізкім.
Год, як выйшаў ты з дому,
І год не пісаў ты нікому,
І мне пошта твая палявая яшчэ невядома.

А куды я пішу.
Можа, свет я смяшу,
Хай мой вораг смяецца,—
Я пішу куды-небудзь мой ліст, як у песні пяецца.
Я пашлю яго ў неба, няхай ён вандруе з вятрамі,
Можа, хмара табе яго выплесне разам з дажджамі.
Дарагі!..
Мы мінаем Дняпра берагі
І дняпроўскія хвалі.
Як нам шкода ракі,
На якую вянкі
Мы заўчора кідалі;
І плылі васількі,
І танулі вянкі,
І дзяўчаты сядзелі,
А мой сіні вянок плыў удаль
Паміж хваль,
Покуль вочы глядзелі...

Мне здалося: стаіш ты
У новай
Кашулі вайсковай,
У зялёнай кашулі,
І кулі цябе не кранулі.
Можа, нават кранулі праклятыя, ды не забілі,—
Быццам зноў мы з табою ідзём, як калісьці хадзілі,
Быццам сон усё тое,
Што скончаны нашы гулянкі,
Што дарогі ў жытное
Затапталі варожыя танкі.
Быццам замуж я выйшла, ты — мой муж,
а я — твая жонка,
Узяліся за рукі, смяёмся вясёла і звонка.
Але што я пішу, дарагую мне трачу паперу,
Я, ты ж знаеш, гаданням не веру, не веру, не веру.
Любы мой!..
Развіталася сонца з зямлёй.
Пацямнелі дубровы.
З-за дубоў узыходзіць мой страшны,
мой месяц мядовы.
Васількі за акном у расе,— плачуць сінія вочы,
І няхай сабе плачуць, не бачаць мой сорам дзявочы.
Давядзецца мне спаць, ды не так, як яны мне хацелі,
У чужынца на правай руцэ, ды ў магільнай пасцелі.
Я рабыня, рабыня,
Я чорная, чорная, чорная,
Любы мой, не з табой,
А з праклятай бядой
Заручоная...
Я пішу, я прашу:
ты прыйдзі, ты адпомсці, мой мілы,
Не прашу за сябе,—
за зямлю, што нас лёгка насіла.
Я ўжо буду не тая,
А след тваіх ботаў убачу —
Пацалую яго і, як баба старая,
Заплачу...
Родны мой!..
Час і мне развітацца з табой.
Шлях суровы, суровы...

Ці ён дойдзе,
Ці знойдзе
цябе, ліст звычайны мой, ліст папяровы.
Як не знойдзе, чытай па дарозе ад Оршы, ад Брэста
Ліст другі,
Ліст даўгі, што на шпалах пісала нявеста.
І калі не яна, не сама, то падругі пісалі, няйначай,
Паліваючы кожную шпалу і рэйку слязою гарачай.
Ліст ад сэрца ўсяго
Паланёная склада дзяўчына,
Ты чытай і адказ на яго
На штыку данясі да Берліна...»
*Жнівень 1942 г.*

## ВІЦЕБСКАЯ МАХОРКА

Здан горад Віцебск. З весткай горкай
Ішлі мы ўздоўж яго Дзвіны.
Здан Віцебск.
Мы яго махорку
Яшчэ курылі да вайны.
І, адступіўшы, на прывале
Усе курылі, як адзін,
Развітваючыся, дышалі
Мы дымам родных нам мясцін.
Дымок цягнуўся к соснам любым
І плыў да хмарак, і адтуль
Пустым дамам, астыўшым трубам
Таксама гаварыў: «Пакуль».
На фронт махорку прысылалі
Другія гарады пасля,
Чаргой міналі
Дні і далі:
У сход, заход, вада, зямля.
І вось назад ідзём мы ў славе.
Нас паляць подыхі зімы.
Жаданы горад!
Неўзабаве
У родны горад прыйдзем мы.
Ніводнага жывога дома,
Скрозь груды попелу й цаглін.

Табачнай фабрыкі, вядома,
Не знойдзем мы сярод руін.
За фабрыкай у самым цвеце
Быў сад —
Няма яго, аднак.
Па-гаспадарску ўсё прыкмецім,
Усё прыкмецім, што і як.
Наперад мы, на захад рушым
І ўсё, што вораг знішчыў, знёс,
Усё вярнуць назад прымусім,
Усё,
Нават дым ад папярос.
1942 г.

## МАЦІ
## (Народная балада)

На бітву крывавую сына праводзіўшы з хаты,
На шчасце і ўдачу пасеяла маці зярняты.
Калі дачакаецца маці з тых зерняў усходу,
Сын прыйдзе з паходу,
Са славаю прыйдзе з паходу.
Дарэмна ўздыхала,
Чакала
І шчасця, і долі,—
Упалі зярняты
На камень шчарбаты
У полі.
Дарэмна здалёку
Паўнюткія вёдры цягала,
Той камень у спёку
Вадой і слязьмі палівала.

Да кроплі іх выпіў задымлены
Камень пякельны:
Два леты кіпелі на ім яны,
Як на патэльні.
Ля каменя ўпала
Цярплівая маці ў знямозе,
У роспачы скардзіцца стала

Знаёмай дарозе:
«Пачуй мае словы,
Улашчы свой камень суровы,
За гэта вярбою
Гатова я стаць над табою.
Твайго пешахода
Я ў засень ад спёкі б хавала,
У час непагоды
Ад бур і дажджоў засланяла;
Старымі рукамі
Твой дол падмятала б штодня я.
Улашчы свой камень,
Дарога мая палявая».
Сказала дарога ёй:
«Скардзішся, маці,
Дарма ты,
Не ўзыдуць зярняты,
Бо ўпалі на камень шчарбаты.
Не першая ты
Каля камня заходзішся з жалю,
Не раз на ім сеялі, але ні разу не жалі.
На нашыя нівы
Яго закацілі чужынцы;
Чужы і маўклівы,
Даўно ён ляжыць пры гасцінцы.
З-за Буга яго
Закацілі і кінулі ў полі,
Каб сына свайго
Не даждалася маці ніколі.
Не ўзыдуць зярняты
Ні ўвосень на ім, ні вясною,
Пакуль ён не стане зямлёю,
Закляты табою».

З дарогі ўставала
І каменю маці казала:
«Вады табе мала
І матчыных слёз табе мала,
Цяпер я крывёю
Сваёю
Цябе праклінаю:

Ты станеш зямлёю,
А каменем стану сама я».
І тройчы такою
Кляцьбою
Той камень пракляла.

Стаў камень зямлёю,
Сама ж яна каменем стала.
На камні былым пры дарозе
Узыходзяць зярняты.
Вяртаецца сын па дарозе
З паходу дахаты.
1943 г.

## КАМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ

Цвёрда трымаўся юнак на дапросе,
Тоячы словы і думкі свае.
Вораг-жандар дакурыў папяросу
І камсамольскі білет аддае.

— Вось і білет твой,— сказаў ён ласкава,
І ад яго на вачах у людзей
Ты адцурайся; выгодная справа:
Жыць застанешся,— жыццё даражэй.

Што ў ім карыснага? Кніжка, не болей.
Кніжку спалі — і размовам канец!
— Не, не спалю! — адказаў камсамолец,—
Хай лепей сэрца мне спаліць свінец!

— Ты не згаджаешся? Вельмі шкадую.
Кінь свой білет у палонку тады.
— Не, я не кіну ў ваду ледзяную,
Сам лепш зайдуся ад лютай вады.

— Добра, хай будзе па-твойму.— На гэтым
Доўгі і нудны спыніўся дапрос.
І юнака з камсамольскім білетам
Босага гоняць на люты мароз.

Там ён, абліты вадой ледзяною,
К сэрцу рукою білет прыціскаў,
Быццам білет пад сцюдзёнай вадою
Сэрцу юнацкаму стыць не даваў.

Так і стаяў, смеючыся над катам,
Доўга па целу сцякала вада;
Так і застаўся стаяць каля хаты,
Быццам з чысцюткага літы ільда.

Так і стаіць, як жывы, перад намі,
Так і стаіць, прыціскае білет,
І не развітваецца з сябрамі,
І прастаіць яшчэ тысячы лет.

Ды не карой ледзяною пакрыты,
Ды не абліты вадой ледзяной,—
Выліты з бронзы і сонцам абліты,
Будзе ён вечна стаяць над зямлёй.
*1965 г.*

## БЫЛЬ АБ ЦЫМБАЛАХ І ЦЫМБАЛІСЦЕ

Нарадзілася разам з вайной
І пайшла па народзе
Быль аб тым, як у вёсцы адной
Жыў музыка з цымбаламі ў згодзе.

Ды ў вайну застагналі бары,
Пушчы, рэкі, лугі заліўныя.
Не звіняць на зары
Струны медныя,
Струны стальныя.

Цымбаліст за вайною
Пайшоў і павесіў цымбалы
На сцяне пад страхою,
Каб людзі не сумавалі.

Даганяць свае песні на ўсход
Ён пайшоў, іх чужынцы прагналі,
Жыць не мог ён, сцвярджае народ,
Без тых песень, што ў сэрца запалі.

А краіну сваю, без якой
Жыць не мог, край вялікі,
Захапіў у дарогу з сабой,—
Умясціў ён у сэрцы музыкі.

Умясціў незлічоныя дрэвы,
Птушыныя спевы,
Хаты ўсе і парогі,
І срэбныя месяца рогі.

Як у хаты рабункі чыніць
Панаедуць чужыя салдаты,
Сэрца ўраз зашчыміць, зашчыміць,
Бо ўмясціла ўсе хаты.

Як задушаць пятлёй
Дзядзьку там на бярозе пахілай,
Сэрца ўраз абліецца крывёй,
Бо і дрэвы ўмясціла.

А ў той час,
Як яно абліецца крывёю,
На радзіме цымбалы ў адказ
Зазвіняць пад страхою.

Моўчкі слухаюць іх мужыкі,
Рукі зброю намацваюць самі.
Пагражаюць штурмавікі
Паіграць на цымбалах штыкамі.

Ды цымбалы гучаць каля хат,
Па сялянскіх дварах, па дубровах,
Ёсць на Міншчыне, Піншчыне шмат
Пушчаў, хат, што схаваць іх гатовы.

Гэта ўсё пад гамонку дубоў
Расказалі нам людзі бывалыя.
Хутка прыйдзе дамоў
Цымбаліст
За сваімі цымбаламі.

Ён ідзе. Толькі знойдзе іх дзе?
Хат на Піншчыне, Міншчыне многа.
Сэрца крокам падлік вядзе —
Сэрца знае дарогу.

А цымбалы? І іх не стрымаць,
У адказ загудуць, зазвіняць,
Крокі чуючы тыя,
Струны медныя,
Струны стальныя!
1942—1943 гг.

## ПАД ВОСЕНЬСКІМ НЕБАМ

Спазніліся мы,
Хоць і вельмі застаць іх хацелі,
У вырай яны, баючыся зімы,
Адляцелі.

Пад імі мільгае і гаць,
І азёры,
І ўзгоркі,
І ім не відаць
Ані нашы шынелі, ні зоркі.

Каб нашыя зоркі заўважыў
Важак жураўліны,
Напэўна б, разважыў,
Што гэта блішчаць журавіны.

А гусі?
Адкуль ім
Адрозніць за хмаркамі тымі
Шынелі ад купін,

Нядаўна пакінутых імі?

Каб ніжай былі яны
І ў туманах маскіроўкі
Разгледзець маглі яны
Зоркі, шынелі, вінтоўкі,—

Адрокся б ад высяў,
Ад цёплага выраю жораў,
Сюды б з сінявы сеў
На шкло магілёўскіх азёраў.

Каб зверху пазнаць
Нас маглі пералётныя гусі,
Зіму зімаваць
Засталіся б яны ў Беларусі.
1943 г.

## ГАЛУБКІ

Не сустрэліся ні разу мы з табою за вайну,
А твае лісты з маімі стрэчу мел і не адну.
Кожны раз на паўдарозе сустракаюцца яны:
На вайну твой ліст імкнецца, мой спяшаецца
з вайны.
Праз дажджы ляцяць, праз буры,
Быццам тыя галубкі,
Не залежацца на пошце
Нецярплівыя радкі.
Толькі кінь лісток у скрыню,
Ён сваёй дарозе рад,
Дойдзе, знойдзе, не загіне,
Жыў бы толькі адрасат.
Так да нас лісты прывыклі, хоць без адраса пусці.
Усё роўна ліст, як голуб,— не саб'еш яго з пуці.
Так ім любы пуцявіны,
Што да нас з табой вядуць,
Быццам зерні за навіны
З нашых рук яны клююць.
1944 г.

## БЯРОЗКА

Стаіць яна ў зрэбнай кашулі
Адна на пагосце.
Варожыя кулі
Пакінулі след на бяросце.
Стралялі чужынцы, ды цудам бярозка ўцалела.
Стаіць яна, нібы дзяўчына на месцы расстрэла.

Не плач жа, бярозка, не л і свае слёзы,
Красу ня,
Над люстрам ракі запляці свае косы,
Красуня.
Цябе не застрэлілі і не пагналі ў няволю.
Расці ж ты на радасць і рэчцы, і людзям, і полю!
1965 г.

## АДКАЗ

Да цябе шляхоў не знаю, да мяне — не знаеш ты,
Лепей нас дарогу знаюць нашы частыя лісты.
Як на фронце адсвяткую перамогі нашай дзень,
Твой лісток не дачытаю, пакладу сабе ў кішэнь.

На машыну скочу тую,
На якой прывезлі ліст,
Разам з ім тады пачую
Колаў стук і ветру свіст.
Я паеду тым жа шляхам,
Па якім ішлі лісты.
Пад сваім далёкім дахам
На адказ чакацьмеш ты.

Я ў акно тваё, дзяўчына, пастукуся ў ранні час,
Ты падумаеш, дзяўчына, што прыйшоў на ліст адказ.
А як глянеш, то адразу
Здагадаешся без слоў,
Што замест майго адказу
Я, нарэшце, сам прыйшоў.
1944 г.

## БАЛАДА
## АБ ЗНОЙДЗЕНАЙ ПАДКОВЕ

Стук дзятла і зязюлі крык
Сустрэў вясёла ранне.
У гэты час знайшоў ляснік
Падкову на паляне.

Хто тут згубіў яе? Вакол
Ні хутароў няма, ні сёл
На сорак кіламетраў
Сярод спрадвечных нетраў.

Дарогі ў гэты кут лясны
Нікому невядомы.
Іх знае ён, яго сыны,
Але ж няма іх дома.

Чацвёрты год, як родны кут
Іх галасоў не чуе,
Чацвёрты год, як вораг тут
На іх зямлі лютуе.

Чый свежы след ад капыта
У іхняй пушчы згінуў?
Чый добры конь каля куста
Іх бацьку шчасце кінуў?

Магчыма, што не конь, а лес
Праехаў праз дуброву?
Магчыма, месячык з нябёс
Згубіў сваю падкову?

Не дакраніся да яе,
Ляснік, а першай справай
Жаданні ёй скажы свае —
Жаданні стануць явай.

Не стаў ляснік падковы браць,
Пайшоў ляснік дадому,
Усё ён можа пажадаць

Цяпер сабе самому.

Зямлі? Не хочацца яму.
Багацця? Што багацце.
Палацаў? Можна аднаму
Жыць і ў сялянскай хаце.

Унь вокны смела ў лес глядзяць,
Хіба мілей палацы?
Унь косы пад страхой вісяць —
Чацвёрты год без працы.

Чацвёрты год грыміць вайна,
Аж чутны ў небе гукі.
Чацвёрты год як касільна
Сыны не бралі ў рукі.

Падумаў бацька, што з вайны
Прыйсці б сыны павінны,
Павінны ў луг пайсці яны
Хаця б на паўгадзіны.

Сказаць жадання не паспеў,—
Пачуўся гул з-за хаты,
Штыкі заблісکалі між дрэў,
Загрукалі гарматы.

І абвяшчае генерал —
У ім пазнаў ён сына —
Байцам дывізіі прывал
Не больш на паўгадзіны.

Затарахцела сінява —
Яшчэ адна прыгода,
Ля самай хаты сеў У-2,—
Ляснік пазнаў пілота.

Сын сыну ціскае руку,
Аб справах дакладае,
А бацька, стоячы ўбаку,
Усмешку ў вус хавае.

Няхай пагутараць сыны
Пра справы, пра заданне,
Аднак не стрэліся б яны,
Каб не яго жаданне.

Сыны гавораць аб касьбе,
Пра завадзі і плёсы,
Не верыць бацька сам сабе,
Хутчэй нясе ім косы.

Скідае кіцель сын-пілот,
На ім — героя зорка,
Павесіў кіцель сын-пілот
На дубе, што на ўзгорку.

За крокам крок,
Мігціць здалёк
Ім тая зорка з дуба.
Трава ў расе,
Вясёлы ўсе,
Ім змалку праца люба.

Ім свеціць зорка перамог,
Ім ззяе сонца з неба,
Яны працуюць шчыра ўтрох,
Як быццам так і трэба.

Сыны й не думаюць аб тым,
А бацька ім — ні слова,
Што не касіць бы сёння ім,
Каб не яго падкова.

У лузе скошана трава,
Вісяць на дубе косы,
Над дубам тарахціць У-2,
Знікаючы ў нябёсы.

Жаданы скончыўся прывал,
Сыноў чакаюць справы,
Павёў суровы генерал

Людзей на бой крывавы.

Ён сцежак, што бягуць між дрэў,
Не зблытае ніколі.
А бацька? Бацька шчасця меў
У гэты дзень даволі.

Калі апошні коннік знік
З ягонае дубровы,
Вярнуўся да куста ляснік,
Ды не знайшоў падковы...

Яе кавалі кавалі,
Разведчыкі згубілі,
А сёння зноў яе знайшлі,
Да капыта прыбілі...

Аб тым не ведаць лесніку,
Ён, здзіўлены, не знае,
Што іскры ўжо на бальшаку
Падкова высякае.

Я на ж не ведае аб тым,
Удаль ляціць імкліва,
Што праз яе ў кутку глухім
Ляснік убачыў дзіва.

Яна павезла шчасце ў свет,
У гарады, у сёлы,
І сцелецца за ёю ўслед
Дубровы шум вясёлы.

Шумі, шумі, дуброва,
Звіні, звіні, падкова!

1945 г.

## АЛЁНКА

На старым скрыжаванні шляхоў,
Сярод жытніх прастораў пад гаем,
Сустракаюць чырвоных байцоў
Бабы песняй, дзядзькі караваем.

Дзеці з дрэў прыдарожных даўно
На гарматы глядзяць, на трохтонкі;
А чаму сярод іх не чутно,
Не відно сінявокай Алёнкі?

Дзе ж яна? Сёння весела ўсім.
Тут у полі гармонік іграе,
І забыліся дзеці зусім,
Што Алёнка ў сяле памірае.

Колькі жыць ёй, не варта пытаць
У залётнай зязюлі пра гэта:
Перастала зязюля куваць
У лясах да наступнага лета.

Хлебам-соллю вітаць не прыйшла
Пераможцаў Алёнчына хата.
Сумна ўдаль паглядае з сяла,
У баку ад агульнага свята.

З невясёлае хаты тае
Сілай летась Алёнку забралі,
Бралі кроў для салдат у яе
У ваенным фашысцкім шпіталі.

А калі занядужала там,
На збавенне надзея слабая,
Аддаваў яе вораг бацькам,
І Алёнка цяпер памірае.

Вось спыніўся ў цяньку каля дрэў
Волат-танк на старым скрыжаванні
Люк падняўшы, танкіст паглядзеў

На людзей, што ў святочным убранні

Ён азнаў і бярозы, і нас,
Мы ж яго не адразу пазналі.
У сяле ён лячыўся ў той час,
Калі нашы на ўсход адступалі.

Як танкіста змянілі гады!
Быў ён босы ў той час, без шынелі.
Меў ён выгляд чарнявы тады,
А цяпер валасы пасівелі.

Людзі сціхлі, замоўк гарманіст,
Ды, відаць, між натоўпу людскога
Не знайшоў, каго трэба, танкіст,
Люк закрыў, не сказаўшы нічога.

Танк рвануў, пылам след замяло,
У паклоне згіналася жыта
Перад ім па дарозе ў сяло,—
Ты не ўсімі, Алёнка, забыта!

Гэта ж дзядзька той самы, каго
Ты ў няшчасці былым даглядала,
Клала ў ранец паходны яго
Хлеб і сала, кал і выпраўляла.

Хоць ляжаць на ягоным шляху
Караваяў святочныя горы,
Не забыў ён той хлеб і страху,
Што яго не пакінулі ў горы.

Што з пасцелі сваёй не ўстаеш,
Можа, сілы не маеш устаці?
Што гасця свайго не пазнаеш
Ці не можаш пазнаці?

Што ляжыш галавою на кут,
А нагамі к парогу?
Хто збіраў цябе тут
У такую дарогу?

Уставай жа з пасцелі сваёй
Пасля чорнае ночы,
Глянь на сонейка, покуль зямлёй
Не засыпалі вочы!

Каб устаць твае ногі маглі,
Гай за вокнамі б вырас,
Для цябе на зялёным галлі
Закувалі б зязюлі другі раз.

Каб расплюшчыла вочы свае,
Луг за вокнамі б вырас,
Кветкі ўсе для цябе аднае
Зацвілі б сярод лета другі раз.

Каб вярнулася ты да жыцця,
Новы б свет за акном тваім вырас,
Валасы б у танкіста-гасця
Пачарнелі б другі раз.

Каб смяротных не знала пакут,
Госць не так развітаўся б з табою,
Не даваў бы з гарматы салют,
Развітальны салют за сцяною.

Гучна стрэламі цішу рвучы,
Ён імчаўся, грымела дарога;
Ён ляцеў, за сабой несучы
Горкі пыл скрыжавання старога.

Ён на ворага мчаў, ад таго
Вербы гнуліся,
Сосны стагналі.
Ён на захадзе знік.
Без яго
Мы Алёнку сваю пахавалі.

1945 г.

## НА ПОЛІ БОЮ

Калі, ідучы, завітаеш
На поле бою старое,
Па надпісу адшукаеш
На ім ты магілу героя.

Каб новай набрацца сілы —
Стаміла цябе дарога,—
Прыляж ля яго магілы,
Нібы жывы ля жывога.

Прылёгшы, ты ўбачыш неба,
І ў травяным закутку
Скруці з газеты, як трэба,
Любімую ім самакрутку.

Бо з часу, як лёг ён пры шляху,
А ўсе праімчаліся міма,
Не чуў ён так блізка паху
Тытунёвага дыма.

І не здзіўляйся вельмі,
Не думай, што гэта здаецца,
Кал і ў глухім падзямеллі
Ягонае
Сэрца
Заб'ецца.

І не здзіўляйся бясконца,
Калі ён адтуль спытае,
Якое на небе сонца
І сінява якая.

Бо ён і раней таксама
Любіў задаваць пытанні,
Курыць любіў самакруткі,
Выслухваць апавяданні.

Хаця ён і быў пахаваны
Пад музыку, песні, вершы,

Але назваць яго можна
Хутчэй жывым, чым памершым.

Перад палком выклікаюць
Яго і цяпер на паверцы,
Калі трапечуцца сцягі
І салдацкія сэрцы.

І кожны раз называюць
Пры гэтым і поле бою,
Дзе лёг ён на сталь кулямёта,
Сяброў засланіўшы сабою.
1946 г.

# *НА ПАЎМІЛЬЯРДНЫМ КІЛАМЕТРЫ*

## АБ ЛЮБВІ

Да нябёс уздымае зямля
Каласы сваіх ніў,
Каб сагрэла іх сонца,
Каб вецер іх там апыліў.

Я не знаю, калі
Палюбілася сонцу зямля,
А зямлі палюбілася сонца,—
Не ведаю я...

Толькі знаю — не меней
Налічвае год іх любоў,
Чымся сонца праменняў,
Зямля — залатых каласоў.

Маладая зямля,
Як нявеста, а сонца — жаніх.
Лета — час іх абдымкаў,
А восень — час ростані іх.

Час чаканняў — зіма,
А вясна — час чаканых сустрэч,
Час шчаслівай любві:
Слёзы — прэч, крыўды — прэч,
хмары — прэч.
1950 г.

## АБ РЭЎНАСЦІ

Як увосень знікае
Маркотнае сонца за свет,
То зямля сваё сонца
Раўнуе да іншых планет.

Сонца дзе прападае
Так доўга? Знікае куды?
Як дазволіць магло,
Каб зямлю закавалі ільды?

Май прыходзіць пасля —
Крыўд пазбыцца не можа зямля:
Цёмнай хусткаю хмар
Ад святла закрывае свой твар.

Сонца хмары зганяе,
Зямля наганяе іх зноў —
За махры сваю хустку
Трывае рукамі дубоў.

Але сонцу вясноваму
З неба ўсё чыста відно —
Пасылае на тыя дубы
Бліскавіцы яно.

За ударам удар,
Дуб за дубам ляціць на раллю.
Для жыцця, для любві
Сонца зноў адмыкае зямлю.
1950 г.

## ТЫ І Я

Я сустрэўся з табой маладою,
як быў маладым.
Ты была маёй любай зямлёю,
я— морам тваім.

Ты імкнулася ў далён прастораў
бясконцых марскіх,
Я ж — да сэрца твайго,
дзесь схаванага ў нетрах лясных.

Ды па хвалях бурлівых марскіх

ты не знала дарог,
Цераз пушчы прабіцца
да сэрца твайго я не мог.

Адчаго не была ты ў юнацтве
імклівай ракой?
Я б аддаў табе ўсе свае хвалі,
каб зліцца з табой.

Адчаго я не полымем быў,
калі быў юнаком?
Я б прайшоў праз усе твае пушчы
кіпучым агнём.

Дні юнацтва, як хуткія ветразі,
зніклі з вачэй.
Не, не тыя ўжо хвалі
і мора, штогод, то цішэй.

Што ні год, то цішэй...
і ярчэй у ім з цягам гадоў
Выступаюць абрысы
жаданых даўно берагоў.

Зноў — зямля ты, я — мора,
і час разлучыць нас не змог:
Я на вольным прасторы,
шчаслівы, ля ног тваіх лёг.

Вечна я ў тваёй памяці,
вечна ты ў сэрцы маім,
І ляжу прад табою
я светлым люстэркам тваім.
1965 г.

**ВЯНОК**

Там, дзе сінее Свіцязь,
сто зім назад, сто лет,
Ці, можа, больш,—

дзяўчыну
кахаў юнак-паэт.

Кахаў, але дзяўчына
заручана з другім
І будзе павянчана
з багатым,
а не з ім.
Яна ў вянчальным плацці
сустрэцца з ім прыйшла.
Яму на развітанне
яна вянок спляла.

Вянок той з простых кветак
ён браў, сказаўшы ёй:
— На ўсё жыццё, Марыля,
я з гэтай хвілі твой.

У гэты час, Марыля,
я дам табе зарок,
Што для цябе таксама
спляту я свой вянок...

Пабраўшыся за рукі,
стаялі так яны,
Пакуль не зазваніла
іх ростань у званы.

— Бывай!..— яна сказала.
Чакаў яе касцёл.
Яго ж туга чакала
маўклівая, як дол.

На звон касцёльны бегчы
ёй не хапала сіл,
А ён упаў, няшчасны,
з яе вянком у пыл.

А як устаў з дарогі,
то быў чарней ад хмар —
На лес падобны быў ён,

якім прайшоў пажар.

З тых дзён любві на свеце
ён не шукаў сабе,
Аддаў ён сваё сэрца
і песні барацьбе.

Памёр ён на чужыне…
А перад смерцю ён
Згадаў сваю Марылю —
любоў юнацкіх дзён:

— Марыля! З дзён разлукі
цябе не бачыў я,
Ты ад мяне далёка,
каханая мая.

Але ў жыцці са мною
заўсёды ты была.
Я плыў бурлівым морам,
і ты са мной плыла.

І вось я паміраю
на старане чужой,
З табой я размаўляю,—
ты і цяпер са мной.

Дзе б я ні быў, заўсёды
я помніў свой зарок:
Калісьці абяцаны
я сплёў табе вянок.

Я плёў яго ў выгнанні,
нявянучы, жывы,
З найлепшых кветак родных
і роднае травы.

Я рваў іх з свайго сэрца,
а не з лугоў і ніў,
Я іх слязою чыстай,
нібы расой, абмыў.

Я поясам абвіў іх,
сатканым з тумаnoў,
Ды светлай доўгай стужкай
мной пройдзеных шляхоў.

Вянок мой — гэта радасць
і боль душы маёй,
Вянок — мой спеў,
што кліча з нядоляю на бой.

Здалёк паслаў апошні
Марылі ён прывет...
Нямала з той часіны
мінула зім і лет.

Але не забывае
народ аб ёй, аб ім,
Іх памяццю вянчае,
нібы вянком сваім.

Вянчае не ў касцёле,
не перад алтаром,
А ў лесе на начлезе,
а ў полі за рулём.

Там, дзе сінее Свіцязь,
сярод палёў, лясоў,
Жыве паэта імя,
жыве яго любоў.
1950 г.

## МАЕ ПАСВЕДЧАННЕ

Дадзена яно сабе самому
Ў тым, што нарадзіўся ў год вайны.
Нянек не было ў мяне, вядома,
Песень не спявалі мне яны.

Думала вайна, як кананадай

Лепей ёй мяне закалыхаць;
Клапацілася, як лепш блакадай
Рукі мне і ногі спелянаць.

Шмат вайной людзей закалыхана,
Многа спіць іх у зямлі сырой.
Выйшаў я на бой смяротны рана
З нянькаю няпрошанай людской.

Колькі раз мне на гарах, на сопках
Засцілала свет вайны імгла?
Колькі раз паставіць куля кропку
Пад маім пасведчаннем магла?

Зведаў я ўсе бітвы на планеце,
Кожны дзень ішоў з агню ў агонь.
Трыццаць сем гадоў жыву на свеце
Болей чым трынаццаць тысяч дзён.

З баявою выкладкай салдата
Праз эпоху бур праходжу я.
Колькі год мяне чакае хата,
Мой бацькоўскі кут, мая сям'я?

Забяжыш, бацькоў абдымеш, жонку
І дзяцей прытуліш да грудзей,
Ды ізноў — калонам наўздагонку —
У бой за мір і шчасце для людзей.

У суровы век жыву сурова,
Жыць інакш не здолеў бы зусім.
Сведчаннем таму вось гэта слова,
Што пранёс я праз агонь і дым.

Сведчаць гэта ўсё
лясы і гаці,
Сведчыць гэта ўсё
Зямля сама —
Круглы шар, падобны да пячаці,
На якім жыву я не дарма.
1951 г.

## ПРА ВОСЕНЬ

Замаўкаюць птушыныя звонкія спевы,
Калі восень прыходзіць у край наш лясны
І, як свечкі, вакол ярка ўспыхваюць дрэвы
На праводзінах лета, на памінках вясны.

Там, дзе восень ідзе, лес шумлівы радзее,
Вецер гоніць хмарыны з-за цёмных ялін.
Грозны чуючы сівер, лісты, як надзеі,
Аблятаюць на дол з пачарнелых галін.

Я, ўлюбёны ў жыццё, не скаруся пагрозе
На праводзінах тых, на памінках старых.
Выйду з лесу і стану ў зімы на парозе
Дрэвам я, што лістоў не губляе сваіх.

Я трымаў іх з вясны, да вясны датрымаю,
Не развею па свеце, не кіну ў бяду,
Дружным пошумам іх новы май прывітаю
І з адзінаю просьбай на дол упаду:

— Адгукніся, вясна, мне зязюляй з-за рэчкі
Дай яшчэ раз прыпасці да любай зямлі
І каштанаў сваіх незгасальныя свечкі
Над маёй адшумеўшай вясной запалі!
1956 г.

* * *

Калі вясною закукуе
Зязюля ў лесе раніцой,
Ты прыгадай вясну другую,
Бары на Міншчыне маёй.

Згадай усё, што сэрцу міла,
Што сэрцу дорага было.
Забудзь, што ўсё адгаманіла,
Адкукавала, адышло.

Згадай усё, што нам жадала
Ку-ку! — ў зычлівым гушчары.
Забудзь, што ў хованкі гуляла
Жаданне з намі да зары.

Забудзь, што рэху не вярнуцца
Ні да цябе, ні да мяне.
Забудзь!.. Хай сэрцы адгукнуцца
Ад но другому па вясне.
1959—1973 гг.

* * *

Чалавек юбілейнага ўзросту,
Прамоў віншавальных
Раптам блазнам зрабіўся
І сам перайначыў свой лёс.

Хто казаў,
                што пайшоў ён
У госці да казачнай пальмы,
Хто казаў,
        што на пошукі
Вечназялёных бяроз.

Чалавека паважнага
Грэшная муха ўкусіла,
А ці джалам пяту апякла
Працаўніца-пчала,
А ці збег ад дрымоты сваёй,
Адтаго, што асіна
У зацішным балоце
Па ім сумаваць пачала.

Падхапілі яго маладыя,
Як свет,
        парыванні,
Знік з вачэй,
                як у лесе,
Ад спраў адарваны былых.

Нечакана з'явіўся
Адказам жывым на пытанні —
Асмуглелы,
                              усмешлівы,
Незразумелы для ўсіх.

Перад ім,
               як вярнуўся,
Не твары мільгалі, а спіны,
Адварочваўся кожны,
Хто ведаў яго, хто не знаў.
Ён жа ловячы смешкі
І чуючы крыўдныя кпіны,
Не зважаў на тых жаб
І, як бусел, іх моўчкі глытаў.

Уздыхаў дамасед па ягоных
Загубленых летах,
Уздыхаў ён і сам,
                              ды не так
Па вандроўных шляхах,
Як па тых седунах,
Што стыдаюцца выраяў гэтых,
Што па дуплах трухлявых
Сядзяць на гнілых баўтунах.
Хай вядома ім ісцін
Агульнавядомых бясспрэчнасць,
Ён таксама іх знаў,
Але ў сэрцы абуджаным нёс
Ён і вечназялёную
Пальмаў нявечнасць
І трывалую вечнасць
Нявечназялёных бяроз.

Так, зазнаў ён не з кніг
Палымяную повесць жаданняў,
Сумняванняў, трывог,
І хоць назвы яшчэ ім няма,
Хоць адвык ад чарніл,
Але ўжо ён крывёю шуканняў
Піша знак запаветны на дрэве —

Натхнення імя.
Хутка знойдуцца назвы
Жаданням,
трывогам,
сумненням,
Шумны вывадак свой
Ён ахвотна аддасць друкарам,
Баўтуны — седунам, а спакой —
Дамаседам сумленным,
Песням — знак запаветны,
А сэрца ўсё тым жа шляхам.
1960 г.

## ДА ПАЭЗІІ

Я — вязень твой, а ты — мая турма,
Асуджан я любоўю пажыццёва.
Зняволенне мае датэрмінова
Ты скараціць спяшаешся дарма.

Дарэмна, заняволіўшы другога,
Ты варту памяншаеш мне ўдвая —
Не мае сэнсу гэта засцярога
І гэтая прадбачлівасць твая.

Я не збягу, пазбаўлены нагляду,
Не перастану ланцугом грымець,
Што дзень хадзіць на шпацыр па раскладу,
Галадаваць і ў карцэры калець.

Не можаш ты мяне пазбавіць мовы,
Змяніць мой лес уладаю сваёй,
Не ты мяне абрала — вязень твой
Абраў цябе на тэрмін пажыццёвы.
1960 г.

## ЭЛЕГІЯ

Жыццё маё — цяжкі з гадамі бой,

І чым далей, то ўсё даўжэй прывалы,
Буксуюць вершы, быццам самазвалы,
Ды знаю я: надыдзе момант той,

Калі не хвоі снамі баравымі
Атуляць мой дарожны неспакой,
А схіляцца зларадна нада мной
Мае гады з барадамі даўгімі.

Чаго прыйшлі, за цудамі якімі?
Якога мне яны жадаюць сну?
Яшчэ я ўстану, падапруся кіем,
Старэчыя бароды расхіну.

За ўсе гады вазьму з гадоў даніну,
З дарогай разлічуся рэштай дзён,
Астатнія, як костку, смерці кіну
За той парог, дзе векавечны сон.
1961 г.

* * *

Ужо даўно абрус зімовы
Сатлеў пад цёмнай яліной.
А лес маўчыць — яму, без мовы,
Як называць вясну вясной?

Ды вось, як першае прызнанне
Вясны маўклівым гушчаром,
Залётнай госці кукаванне
Завітвае ў дрымотны дом.

Гучней, гучней, пад небам сінім,
Пры заклапочанай вадзе,
Ажыўшым ясеням, асінам
Яно бясконцы лік вядзе.

Прыціхла непралазь лясная,
Як быццам чуе ўпершыню
Той гук, што пушчу вымярае

У шырыню і ў даўжыню.

Свет абуджае кукаванне,
На поўнач гонячы зіму.
І, парушаючы маўчанне,
Я адгукаюся яму.
1961 г.

* * *

Чужой любві я не зайздрошчу,
Тут са сваёю нелады:
Я ў сэрцы ёй даю жылплошчу,
Ды ў ім утульна не заўжды.

Няўжо мой дар не пажаданы
І не прызнаны, сапраўды?
Тады бывай, бывай тады!
Любоў — не райскія сады,
Любоў — не дом падараваны,
Любоў — бяздомнік, прапісаны
У верным сэрцы назаўжды.
1961 г.

* * *

Спакойнага шчасця
не зычу нікому:
Навошта грымотам
маланка без грому,
Навошта ручай
без пякучае смагі,
Халодная ўвага
не вартая ўвагі,
Жаданні, што прагныя
крылы згарнулі,
Зязюля без лесу
і лес без зязюлі?
1961 г.

* * *

Нібы здраду салдат,
я сваё пахаваў бы каханне,
Быў бы толькі загад
і акоп для яго пахавання.

Быў бы толькі дазвол,
быў бы стол, каб наладзіць памінкі,
Адшукаў бы я дол
пад лясной плашч-палаткай асінкі.

Самы цвёрды дзірван
ускапаў бы лапаткай сапёрнай,
Каб пазбавіцца ран —
цёмных дум аб нявернасці чорнай,

Каб не чуць сваіх ран,
каб зямлёй заглушыць іх гарэнне.
Ды маўчыць капітан,
камандзір мой адзіны — сумленне.

Быццам думае так:
не для помсты даваў ты прысягу,
А даваў для атак,
для суровай адданасці сцягу.

Нам, што рваліся ў бой,
што прыносілі войнам ахвяру,
Нам ляжачых з табой
дабіваць і хаваць не да твару.

Хіба верна кахаць
можна змусіць нявернасць і здраду?
Хіба можна хаваць
без загаду нявернасць салдату?
І без гэтага ёй
будзе вернасць твая далакопам,
Час — рыдлёўкай цяжкой,
скамянелае сэрца — акопам.
1961 г.

**ПЕРАД ПАДАРОЖЖАМ**

Агонь начлежны смаліць вецце,
Скубе мурог падбіты конь,
А я апошняга трохлецця
Дзень кожны кідаю ў агонь.

Я быў шуканнем ашуканы,
Дарогай у палон узят.
Не я — мой конь непаслухмяны,
Непадкаваны вінават.
Лясы б маіх блуканняў высеч,
Распяцца б на крыжы хваін
За сотні дзён, за сотні тысяч
На вецер пушчаных хвілін.

Адзін здабытак мой — пакуты,
Што сівізной ляглі на скронь.
Не лёд душы, а боль пякучы
Я ў прагны кідаю агонь.

Палю я рэшту дзён мізэрных,
Але не за цяжкія іх
Шуканні вернасці ў няверных,
Святой любові ў несвятых.

І не за тое іх палю я,
Што абпаліўся жорстка сам,
Што больш за марай не палюю,
Гадоў на марнасць не аддам —

Палю з рашучасцю суровай,
Каб сталь з іх выплавіць да дня,
Загартаванаю падковай
Надзейна падкаваць каня.

Палае горан мой у соснах,
Куецца ў ім дарожны дух
Для горных круч, для хваль высозных,
Для самых грозных завірух.
1961 г.

* * *

Я пісаў бы, як раней, пра зоры,
Залятаў бы мараю на Марс,
Каб не чуў усё жыццё дакоры:
А Зямля? А рух працоўных мае?

Сёння Месяц працаю абжыты,
А ў паэтаў з Космасам — саюз,
Марс, не парушаючы арбіты,
Сам кіруе да сузор'я Муз.

І яны захоплена вітаюць
Новага паклонніка свайго,
Шматгалосым хорам услаўляюць
Штучных спадарожнікаў яго.

Толькі я не склаў ніводнай оды
Збудаванням, што на ім відны,—
Вечным спадарожнікам вайны
Змрочны Марс здаваўся мне заўсёды.

На чале крывавую пячаць
Смерцю высек часу ход суровы —
Прывітанняў з чалавечай мовы
Там няма каму перакладаць.
1961 г.

## ПРА МАРС

Не жывуць на Марсе марсіяне,
Працай рук не жывяць дол глухі,
Марс даўно іх у сваім кургане
Пахаваў за нейкія грахі.

Час усмерціў іх ці даканалі
Сваркі, не пазбытыя ў свой час?
Як маршчыны на чале, каналы
З запытаннем звернуты да нас:

«Адкажы нам, астраном-аматар,
Растлумач, вучоны чалавек,
Для каго, шырэйшыя ад рэк,
З полюса сівога на экватар

Мы ваду ганяем з веку ў век?
Ты за намі назіраў увосень
Праз трубу падзорную ўначы —
Торы пылу над планетай носяць
Радыеактыўныя смярчы...
Толькі нас чамусьці смерць не косіць

Што ім адказаць на запытанне?
Можа, сапраўды іх існаванне
Больш патрэбна для планет другіх,

Можа, гэта ў час процістаяння
Неўміручай працай рук сваіх
Нас засцерагаюць марсіяне
Ад бяды, што не мінула іх?
1961 г.

## ПРА ВЕЧНАЕ ПЯРО

Мне вечную ручку з пяром залатым
Прыслалі з усходняй краіны,
Каб мір бараніла служэннем сваім
Яна да апошняй хвіліны.

Пяро навастрыў я, саджуся за стол,
За зброю такую не сорам,
А толькі ўжо чую: капаецца дол
Яшчэ не напісаным творам.
Нянавісць з рыдлёўкаю, зайздрасць з дубцом,
Варожасць з крывою сякерай
Застылі ў маўчанні над вечным пяром,
Што думку злучае з паперай.

Чакаюць, каб час загадаў ім хаваць,
Пяском засыпаць бессардэчным

Надзённыя вершы, якія пісаць
Пяром я адважыўся вечным.

Хто ўздумаў прыслаць далаконную знаць,
З якой знакамітай дзяржавы?
Што так непакоіць, хацеў бы я знаць,
Майстроў далікатнае справы?

Чаму іх намерам, чарнейшым ад хмар,
Да лося пяро мае ў знакі?
Яно мне — японскіх таварышаў дар
У памяць ахвяр Нагасакі.

Пішу я, нянавісці злоснай назло,
На гібель варожасці лютай,
Каб іх нелюдское злачынства было
Апошняй людскою пакутай.

Злачынцаў ліхіх — далакопаў старых
Я сам адспяваю спачатку,
І хай тады вечнасць на песнях маіх
Нявечнасці ставіць пячатку.
1961 г.

## АПОШНЯЯ КНІГА

Ад кнігі апошняй сваёй, для якой
Асеннія скібы ўздымаю,
Я, цудаздабытчык краіны лясной,
Дзівос веснавых не чакаю.

Мой Чэрвень пачаўся размовай гармат,
Мой Жнівень закончыўся ёю.
Да новых барвовых Кастрычніцкіх дат
Мой Верасень крочыць раллёю.

Як памяць аб мёртвых трывожыць жывых
Яшчэ не пазбытымі снамі,
Так згадкай жывой аб трывогах былых
Мяне непакояць часамі

Агні прыдарожныя, вогнішчаў дым,
Адлётныя крыкі над пожняй.
«Тады адкажы нам,— пытаюць,— зачым
Назваў сваю кнігу апошняй?

Няйначай, рашыў, што даўно на вякі
Ты права надзейнае маеш
І ўжо ў дамавіну сваю, як цвікі,
Глухія радкі забіваеш?

Сябры паважаныя, як вы маглі
Задаць мне такое пытанне?..
Апошнімі ўсе мае кнігі былі
У часе свайго напісання.
1961 г.

## НА ПАЎМІЛЬЯРДНЫМ КІЛАМЕТРЫ

Жыццё маё на хуткасць гуку
Памнож і множанне правер.
Вось ты і адкажы, навука,
Адкуль вяртаецца цяпер

Лясной вяшчунні кукаванне,
Што, абудзіўшы першы сон,
Калісь пазвала ў вандраванне
Мяне на многа тысяч дзён?

Зайшоўшы ў векавыя нетры,
Стаю, зачараваны ім,
На паўмільярдным кіламетры,
Паміж наступным і былым.

Пакліч — былое адгукнецца
Жалейкаю за хваіной;
Скраніся — і важкой хадой
Наступнае ў паход кранецца.

Пяройдзе шлях у новы шлях,

Расстанне — ў новае спатканне,
Напеў жалейкі — ў труб гучанне,
Выток жыцця — ў жыцця працяг.
1961 г.

* * *

Завея лісцяў у сняжынак пух
Перацвітае пад маім наглядам,—
Як быццам я камандую парадам,
Спатканнем дзвюх варожых завірух,
Змаганнем снегападу з лістападам.

Як быццам я ўладар дарог і рэк,
Рэгуліроўшчык каруселі гэтай,
Як быццам не праносіў над планетай
Мяне лістком, сняжынкаю, ракетай
Праз атмасферны ціск суровы век.

Быў пылам я ў імклівым карагодзе
Гадоў, трухой і зернем на таку,
Хацеў бы век, які ўжо на зыходзе,
Забраць мяне з сабой, а я руку
Гарачую працягваю прыродзе —
З дваццатага ў трыццатае стагоддзе.
1963 г.

* * *

Падлетак я — ад пят і да валос,
Таварышка мая — лясная сцежка.

Аднойчы з ёй нас разлучыла ўсмешка
Сяброўкі новай, што паслаў мне лес.
Я не чакаў раптоўнага з'яўлення
Трывог жаданых, прадчуваных мук,—
Упаў да ног дзяўчынкі кошык з рук,
Рассыпаўшы суніцы ад здзіўлення.

Разгублены, я шкадаваў не іх,
Не сцежку, што вілася за сасною,—
Шкада, што адыходзіў разам з ёю
Час бесклапотных пошукаў лясных.
З парой турбот наладзіўшы спатканне,
Сцяжынка знікла ў ельніку густым.

З усмешкаю над кошыкам пустым
Схілілася жывое прадчуванне.
1963 г.

* * *

Ужо з другім заручана дзяўчынка,
А я — юнак — хаджу халасцяком.

Вярнулася ў мой апусцелы дом
Дзіцячых мар таварышка — сцяжынка.
Я расказаў ён пра сваю бяду,
Зарок даваў ёй, што з мяне даволі
Дзявочых стужак і што я ніколі
З яе пясчанай стужкі не сыду.
Я прысягаў ёй, а яна маўчала,
Наперад бег я, а яна назад.

Тым дням, адкуль яна пачатак брала,
Прыйшоў канец у рэчышчы прысад,
Дзе, як ручай, сцяжынка палявая
Пералілася хвалямі пяску
У сталасці шырокую раку —
Гасцінец-шлях... А ён куды ўпадае?
1963 г.

* * *

Мы славу параўноўваем з віном,
А забыццё глухое — з палыном.

Пакуль не лёг твой цень, твой дзень кароткі

З табою ў ложак вечнасці — тру ну,
П'ючы шумлівай славы хмель салодкі,
Не забывай пра горыч палыну.
1963 г.

* * *

Калі заслужаная слава
Сваіх гасцей склікае ў дом,
Яна дае сумленню права
Пабегчы ў краму за вiном.
А незаслужаная слава
На покуці з гасцямі п'е,
Само сумленне мае права
Віном пагрэбаваць яе.
1963 г.

* * *

Калі каханне абвянчае
Жаданай згодай маладых,
Свайго сумлення не хавае
Яно ад позіркаў чужых.
А звяжа шлюбам маладая
Сябе з нялюбым і старым,
Свайго сумлення не схавае
Яна за прозвішчам чужым.
1963 г.

* * *

Людское сумленне за грошы
Купілі — прыстойны тавар.
Цяпер яно беднасці можа
З пагардаю глянуць у твар,
Зрабіцца паважным, вяльможным,
Пашану і славу набыць...
Адно яно толькі не можа —
Сумленнем някупленым быць.
1963 г.

* * *

На абшарпаную халупу
Стопавярховы небаскроб
Глядзіць праз вокны, як праз лупу,
За хмарай хмурыць змрочны лоб.

Жабрачку з панам, з ботам лапаць
Звялі на вуліцы адной.
Яму — дзвярыма гучна ляпаць,
Старцоўскай торбай трэсці — ёй.

Ён — дабрабыту ўвасабленне,
Ён —- незлічоная казна.
Стаіць насупраць, як сумленне,
З рукой прасцёртаю яна.

Яму той лес не перайначыць,
Лягчэй сумленне падмануць —
Заплюшчыць вокны і не бачыць,
Закутаць дзверы і не чуць.
1963 г.

* * *

Лес адпалаў і чорным стаў ад страты —
Агонь з галін абсыпаўся ўначы.
Завея гоніць лісцяў абручы
Па гулкіх уладаннях аўтастрады,
Туды, дзе халады і снегапады.
Аддаўшы лета бабінага жар
Кюветам, а нябёсам — павуціны,
Бярозы голыя чакаюць хмар,
Гатовыя зарыцца ў іх пярыны
Ад бессаромных сцюж і зыркіх фар.
Дзён залатых, раскіданых па свеце,
Не шкода мне — з дарог не падбяру.
І я гатоў, як дрэў трывалых веццe,
Пераступіць яшчэ ў адну пару
Свайго жыцця, пакінуўшы ў кювеце
Прыгожую ману аб вечным леце.
1963 г.

## ПРА АСІНЫ

Развесіўшы з самай зары на вятры
Сушыць павучыныя сеці,
Аблытала бабіна лета бары
Маной аб нягаснучым леце.

Аблытала дот, што зарос бур'яном,
Бліндаж, што не вытрымаў буры,
Асіны, што лісцяў гарачым агнём
Закрылі агонь амбразуры.

Асіны, асіны! Між цёмных ялін
З нізін прабіваюцца ўгору
Іх яркія вогнішчы!.. Хто на ўспамін
Пакінуў іх змрочнаму бору?

Хто іх запаліў тут? Бязлітасны шквал
Пякельнае артпадрыхтоўкі?
А можа,пяхоты апошні прывал,
Каманд пахавальных рыдлёўкі?

«Хіба ўжо,— трывожыцца полымя іх,—
Не кружыцца смерць над дамамі,
Братэрства і згода пакуты жывых
З калючых дратоў паздымалі?..»

Глытаючы вецер акопны і пыл,
Суровымі сведкамі часу,
Яны — нібы ўдовы на варце магіл —
Застылі ў чаканні адказу.

Як камень халодны нямых курганоў,
Гняце іх цяжкое чаканне.
І полымем вечным жалобных кастроў
Над светам палае пытанне.

1965 г.

## ЗІМА ЎЦЯКАЕ НАЧАМІ

Светлых дзён баючыся,—
Мутнымі ручаямі,
На пачарнелай крызе,
Зіма ўцякае начамі.

Ёй на шляхах світальных
Не ваяваць з туманамі,—
Ад іх абдымкаў знішчальных
Зіма ўцякае начамі.

Цёмных завей заслонай
Ёй не звісаць над палямі,—
Ад першай руні зялёнай
Зіма ўцякае начамі.

Ужо ёй здрадзілі хмары
І праліліся дажджамі,—
Ад перуновай кары
Зіма ўцякае начамі.

Кожнай вясною гэтак,—
З сэрца — цяжкімі снамі,
Нечай крывёй — з планеты,—
Зіма ўцякае начамі.

1966 г.

* * *

Я з юнацкіх дзён лічуся вязнем,
Бо зарок з мяне зямля ўзяла —
Я за лес яе прыкуты ўласным
Ланцугом паку ты да стала.

Я на ўсё жыццё абраў дарогу,
На якой калючак больш, чым руж.
Сэрца — як набат, што б'е трывогу
За мільёны падгарматных душ.

А калі ў смяротным грозным гуле
Упаду я, кінуты на дол
Ранняю хваробай альбо куляй,
І асірачу пісьмовы стол,—

Аб такім не пашкадую лёсе,
Бо, юнацкі помнячы зарок,
Паўтарыў бы зноў, каб давялося,
Я жыццё сваё — за крокам крок.
1967 г.

## 7 ЛІСТАПАДА 1966 ГОДА

Упершыню Кастрычніцкае свята
Я сустракаю тут,
Дзе для мяне бальнічная палата
Горш, чым астрожны кут.
Адгэтуль выйсце мне закратавала
Хвароба — мой жандар,
Знясіленае цела прыкавала
Да ложка, як да нар.
Зняволення расклад для вязня строгі —
Не варухнуцца мне,
Дранцвеюць ногі, цёплы пыл дарогі
Іх грэе толькі ў сне.
Ды пагарджае ўладай неадступных,
Скаваўшых цела страт,
Душа — былых гадоў, гадоў наступных
Няўпынны дэманстрант.
Яе да месца прыкаваць не здольны
Пакуты ланцугі,
Яна ляціць, ляціць, як вецер вольны,
Да вас, да вас, сцягі!
Яна — той самай буры парыванне,
Што ў свет вы несяцё.
На вол і — вы, я тут вяду змаганне
Са смерцю, за жыццё.
1967 г.

* * *

Пасля хваробы доўгай і цяжкой
Сябе я адчуваю як на фронце —
Не ў медсанбаце, не ў трафейнай роце,
А пехацінцам на перадавой.

Там дзень як век, світанне як вітанне,
Апроч атак, няма там іншых дат.
А баявое выканаў заданне —
Лічы, вярнуўся з вечнасці, салдат.

Мяне знішчаюць там агонь і сцюжа,
Хістае ледзьве чутны зямляў здрыг,
І снайперская куля крывадушша
На мушку сэрца ловіць кожны міг.

Аб іншым я цяпер не мару шчасці,
Кал і з імглы калючы бачу дрот:
Лаз для сяброў зрабіць у ім і ўпасці
Грудзямі на варожы кулямёт.
1967 г.

* * *

Сноп апошні залатога жыта
Застаецца ў памяці палос...
Гэтак і цябе не скосіць лёс —
Мною ты не можаш быць забыта.

Нават і тады, кал і б імгла
Вочы мне засыпала зямлёю,
Калі б я забыты быў табою,
Мною б ты забыта не была.
1967 г.

## ПРА БОЛЬ

Дзе пачалося болю ўтаймаванне,
Ніхто з жывых не ведае, на жаль.
Час, — лекар болю, а яго шпіталь —

Без краю, без пачатку памяшканне.

Не ведае ніхто, дзе недарод
Пачаў перадавацца полем полю,
Дзе, кленучы сваю цяжкую долю,
Пачаў людзей трывожыць з роду ў род

Спакой, што выбухае раптам боем,
Бой, што нясе адвечны супакой,
Дзіцяці боль, што парадзіхі болем
Народжаны, каб стаць пасля зямлёй.

Час — лекар болю, боль — жывая рана,
Дзіця, не ўтаймаванае нічым:
Ні вечнай калыханкай акіяна,
Ні вечнасці надвор'ем штармавым.
1967 г.

* * *

Пашанцавала тройчы мне,
Я тройчы, выпрастаўшы рукі,
Ляжаў не ў ложку, а ў труне...
Я знаю, што такое мукі.

Пад сэрца ледзь улоўны стук
За хвіляй хвілю адзначала
Хвароба крыжыкамі мук —
І страшным могільнікам стала.
А я, між яваю і сном
Час перабыўшы, ставіў коску —
Цярпліва, як за косткай костку,
Нябыту кідаў дзень за днём.
Адбыўшы восень і зіму,
Я ўстаў, вясны пачуўшы гукі.
Яны гучней чуваць таму,
Хто знае, што такое мукі.

Не горка мне было ў труне
Ляжаць відовішчам маркотным,

А горка, кал і свет засне
У хатнім ложку сном смяротным.
Навокал сонца я лячу
Зямлі кругазваротным шляхам,
Лячу, бо я яшчэ хачу
Быць самаго сябе працягам.
Яшчэ адзін, другі віток
Рабі па правілах навукі,
Зямля — жыцця майго выток...
Я зведаў, што такое мукі.

Я нарадзіўся зноў на свет...
Як свет пасля цяжкой хваробы —
Кійком, абмацваючы тропы,
Пішу трывожны запавет.
Пішу: я ўстаў не для таго,
Каб дыхаць пыльным тлом магільным,
А каб, мінаючы яго,
Сачыць за смерцю вокам пільным.
Пішу: я, сведка ўсіх падзей,
Сірочых слёз, вайны, разлукі,
Жадаю шчасця для людзей...
Я знаю, што такое мукі.

1967 г.

* * *

Глыбокі лістапад
у Белавежы.
Шуміць лістота
пушчы векавой,
Пытаецца шчымліва,
быццам вершы
За ўсё жыццё
напісаныя мной:
— Скажы,
хіба нас не паліла смага,
Не абдаваў
дажджоў лагодны душ?
Няўжо навек
нас замяце няўвага

Сляпых завей,
        бесчалавечных душ?
Няўжо шыпамі вострымі
        падкова
Праб'е далоні нам?..
        Хіба памром,
Гвалтоўнай смерці
        трапіўшы пад кола?
Няўжо мы станем
        снегам, пылам, тлом?
А я маўчу.
        А я маўчу, як дрэва
Асенняе,
        згубіўшае свой дах.
Вакол мяне —
        направа і налева —
Лісты, лісты, лісты
        заслалі шлях.
Пакуль яшчэ
        не замялі іх сцюжы,
Пакуль ляжаць
        духмянаю капой,
Хачу я, нібы ў вір,
        заткнуўшы вушы,
У скаргу іх
        зарыцца з галавой. 1968 г.

## САСНА І БЯРОЗА

Трымаюць Зямлю без падважнікаў тых,
Без мудрага троса
Жывымі рукамі карэнняў сваіх
Сасна і бяроза.

Ад дыму да пары ў пякельных катлах
Судна, паравоза
Прайшлі яны поруч гарачы свой шлях —
Сасна і бяроза.

Лягла на іх плечы цяжарам вайны

Акопная проза:
Служыла салдатам сасна — для труны,
Для крыжа — бяроза.

Знікала з тузоў, гандляваўшых крывёй,
Пыхлівая поза,
Калі перад імі ўставалі з пятлёй
Сасна і бяроза.

Ад явы крывавай не вынайшлі лек...
І ўзнікла пагроза,
Што могуць пад крыжам
закончыць свой век
Сасна і бяроза.

Ужо на насенне, якое ў раллі,
Паглядваюць коса
Аратыя смерці, каб больш не раслі
Сасна і бяроза.

Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза...
А што, як Зямлю нашу выпусцяць з рук
Сасна і бяроза?

1968 г.

* * *

Даўно закончыліся спрэчкі
Зімовай цемры і святла,
Даўно ўжо ў ручаі і рэчкі
Вясна зляжалы бруд змяла.

А лес пад шаты не запросіць
Гасцей, бо для ягоных крон
Яшчэ не скончылася восень,
Зімы не адасніўся сон.

Ну як яму пралескам верыць,
Што расцвілі на ўскраі дзесь,

Калі прапахлы снегам верас
За дзень не выхадзіць увесь?

І будзе спаць ён, недарэка,
Пакуль яго дрымотны плот
Не пералезе з трэскам рэха
Цярплівасць страціўшых грымот.
1968 г.

* * *

Не сустракацца
мне больш ніколі
З маім маленствам
у чыстым полі,
З маім юнацтвам
у лесе цёмным,
З маім ваенным
жыццём бяздомным.
Па ціхіх вулках,
па трактах гулкіх
Прайшлі маленства,
юнацтва леты
І,
перакуленыя ў рачулках,
Сплылі з вадою
на край планеты.
Яны ўжо —
кропля святла ў сусвеце.
А я, не вечны
і нецярплівы,
Чакаць не згодны,
што нехта, недзе
Праявіць некалі
іх негатывы.
Мне б хуткасць думкі,
бляск уяўлення,
Каб мог я словам
дагнаць праменне
І нечаканым
спыніць экранам

Гады былыя
          на вокамгненне.
Я б галавою
          прыпаў ссівелай
Тады б да ног іх,
          ад шчасця плакаў
У чыстым полі
          паперы белай,
У цёмным лесе
          чарнільных знакаў. 1969 г.

## НАД СПАЛЕНАЙ ВЁСКАЙ

Над спаленай вёскай,
          адзетай жалобным гранітам,
Званы адзываюцца
          рэхам вайны незабытым.

Хай вечны агонь,
          што запалены ў памяць Хатыні,
Як рунь і як неба,
          палае — зялёны і сіні,
Няхай яго полымя
          жытам спякотным і спелым
Схіляецца ў ногі
          Хатыні дварам скамянелым,
Парогу халоднаму,
          прызбе маўклівай пры хаце,
Хай гора, заснуўшае ў камні,
          прачнецца ў набаце.
1970 г.

## ПАД ГАРОЮ
## (З народнай песні)

*Піліпу Пестраку*

Пад гарою, дзе бур'ян,
Паміраў казак ад ран:
— Скажы, маці, хто мяне
Будзе ў цёмным бур'яне
Даглядаць і абымаць,

Боль ад сэрца адымаць?

Адказаў сівы арол:
— Абымацьме цябе дол,
Буду я, арол сівы,
Пасярод глухой травы
Даглядаць і вартаваць,
Боль ад сэрца адымаць,
Твае раны выпіваць,
Твае вочкі выбіраць,
Цалаваці твае губкі,
Выбіваці твае зубкі.

1970 г.

## БАЛАДА

Можа, брамкі позні рып
Патрывожыў слых?
Можа, гэта рэчкі ўсхліп
Даляцеў і сціх?

А калі не брамкі рып,
Можа быць, тапор
Абуджае неруш рыб,
Патаемнасць нор?

Што за гук, што кожны год
Непакоіць сны,
Перайшоўшы цераз брод
Лета і вясны?

Гэта ноччу, каля тых
Лугавых ракіт,
Драч майструе для малых,
Дробных дзетак плыт.

Хоча ён сваіх сыноў
Хвалям перадаць,—
І рыпіць, рыпіць з лугоў
Нецярпліва снасць.

1970 г.

# *СНАПЫ*

* * *

Ёсць у паэта свой аблог цалінны,
Некрануты прастор для баразён,
Дзе ён працуе з першае хвіліны
І да апошніх вечаровых дзён;

Ёсць думак прагавітае насенне,
У жменю назбіранае з дарог,
Што спелага чакае ўвасабленне,
Заліўшы хваляй жытняю аблог;

Ёсць сэрца маладое, без якога —
Без палкага, жывога пачуцця
Няма ў яго нічога: ні аблога,
Ні пленных дум, ні самаго жыцця;

І ёсць адказнасць перад строгім вершам,
Перад яго пачаткам і канцом —
Каб баразну, радком пачаўшы першым,
У сноп звязаць шаснаццатым радком.

1962 г.

* * *

Усім бcaptureзнам, раўчукам, кюветам
Вясна свае патокі аддае
Рукою шчодрай. Ды не след у гэтым
Паэзіі браць прыклад ад яе.

Не тысячамі рэчышч свет шырокі
Здзіўляць ёй трэба часам веснавым,
А ўсе свае шумлівыя патокі
Збіраць ашчадна ў рэчышчы адным.

Даць адпачыць прыродзе раскаванай,

Угаманіцца мутным ручаям,
Ракою стаўшы чыстай і люстранай,
Аддаць сябе дубровам і палям.

Каб шчодрай быць не толькі ў дзень вясновы,
А каб жывіць і ўлетку сенажаць,
А каб і ў спёкі час паіць дубровы
І ў час зімовы пра паводкі дбаць.
1962 г.

* * *

Ад шчасця сэрца скача, як дзіця,
Ад бед яно, як млын, шуміць начамі,
Варочае цяжкімі камянямі,
Падлічваючы горычы жыцця.

Ды сэрцу быць гадзіннікам не гожа:
Спынілася — і ўжо не завяду,
Яно секунды адбіваць не зможа,
Калі падкосіць смерць маю хаду.

Яго ў рамонт, як здарыцца патрэба,
Я не аддам дасведчаным майстрам
І, як стары гадзіннік, не пра дам
У дні нястач і бед за лусту хлеба.

Затое з ім далей у свой паход
Я крок у крок датуль ісці гатовы,
Пакуль не скончыцца яго жыццёвы,
На ўвесь мой шлях разлічаны, завод.
1962 г.

* * *

Гадзіннік мой — не сонца, што ў зеніце,
Гадзіннік мой — не сэрца, што ў грудзях.
Сваім дакладным часам на арбіце
Сама зямля мой вымярае шлях.

Начы і дні адбіўшы чаргаванне,
На месцы не стаяць мацерыкі —
Па іх жывым і сонечным экране
Бягуць дарог і рэчак ручнікі.

Дыван вясны перацвітае ў лета,
Завея лісцяў — у сняжынак пух;
Я не хачу, каб некалі ўсё гэта,
Хаця б на момант, свой спыніла рух.

Хай сэрца стане, сонца ў хмарах згіне,
А ты, Зямля, няспынным крокам кроч,
Не дай на той мне ўпасці палавіне,
Дзе дня не будзе, будзе толькі ноч.
1962 г.

* * *

За годам год ляцяць дзесяцігоддзі,
Як дождж, як пыл, як снег на галаву,
На той зямлі, дзе змалку я жыву,
Дзе аддаю, з календ аром у згодзе,

Свой час сяўбе гарачай і жніву.
Стаіць ужо, з цапамі і мятлою,
Час малацьбы каля маіх дзвярэй...
І, што ні дзень, да той пары бліжэй,

Калі зямля, як сказана не мною,
Мяне ў свой змрочны прыме маўзалей,
Дзе прагных дрэў старукае карэнне
Абмацвае сляпое сутарэнне,

Шукаючы вады сваім ствалам.
Там буду я, і плён мой будзе там,
Кал і неператворыцца ў насенне,
А пойдзе на спажыву ветракам.
1962 г.

* * *

Нябёсы — акіян, я знаў даўно —
Блакітны, неабсяжны, першародны,
А ўсё, што зорам на зямлі відно,
Ні больш ні менш як свет яго падводны.

Тут — водарасці пушчы векавой,
Бялявых хмар, вятроў бясконцых плыні,
Спрадвечных гор застыўшыя вяршыні,
Усё яго — да хваль, што пад а мной,

Дзе акіян разлёгся Атлантычны...
Тут свет другі: і глыбіня, і мель,
І ёсць прастор, не меншы за касмічны,
Для хваль салёных ростам з карабель.

Я — трэці свет, я кропелька малая
Тых светаў двух — звычайны чалавек,
Што неба і зямлю ў сабе змяшчае
І ў свет адзін злучае іх навек.
1962 г.

* * *

Шторм акіянскі стрэў на трэці дзень я,
Пакінуўшы чужыя берагі
Амерыкі Паўночнай.
для натхнення
Сцягам патрэбен вецер, мне — сцягі.
Але не тыя, што на літасць сцюжам
Здаюцца, сустракаючы зіму...

Ні перад злом, ні перад крывадушшам
Сцяг белы я ніколі не ўзніму.
Ні перад хваль пагрозным хваляваннем,
Ні перад смерцю, ні перад каханнем,
Калі мяне не мужным мараком
Яно захоча бачыць, а рабом.

Няхай злуюцца хвалі. Выклік смелы
Я пасылаю сам насустрач ім —
Свайго жыцця чырвоны сцяг. А белы —
Я пакідаю ворагам маім.
1962 г.

* * *

Сышлося неба з акіянам блізка:
На горы хваль кладзецца хмар туман.
Мне хораша! Не грозны акіян
Мяне гайдае, а вякоў калыска.

Я слухаю — ужо не чалавек —
З маўклівым, невыразным захапленнем
Да болю блізкі шум водазмяшчэннем
У міліярды міліярдаў рэк.

Я адчуваю, як насустрач сушам
Нясуць мяне ўспаміны, а не сны,
І там мяне перадаюць яны
Другім шляхам, другім вятрам і сцюжам.

Дзіця вады, паўзу я ў глыб лясоў,
Развітваюся з берагам пясчаным,
Каб чалавекам, з глыбіні вякоў,
Устаць і зноў сустрэцца з акіянам.
1962

* * *

Стаю і з пачуццём неўтаймаваным
Гляджу на след блакітны за кармой,
Як быццам я плыву не акіянам,
А Бесяддзю — жаданаю ракой.

Плыву па ёй! Як хлопчыку маломў,
Паслаў мне лес блакітную раку —
Праз цёмны акіян яна дадому

Мяне вядзе, як маці, за руку.

Праз буру, ахвяруючы сабою,
Вядзе і на сабе ўжо — колькі дзён! —
Магутны карабель нясе, вагою
У восемдзесят з нечым тысяч тон.

Што для яе натоўпы хваляў шэрых
І карабля стотысячны цяжар,
Калі на даляглядзе родны бераг
Абдымкамі выглядвае з-за хмар?
1962 г.

* * *

Адвечны час з нябачных нам дарог
Глядзіць на нас, нібы на муравейнік:
Вось-вось, здаецца, возьме ў рукі венік
І вымеце, як смецце, за парог.

Скажы мне, час, а чый дасціпны розум
Тады сякерай грымне ў цішыні
Тваіх лясоў і, па кругах на пні,
Гады палічыць соснам і бярозам?

Тваіх стагоддзяў цёмныя сляды
Хто адаб'е на камені суровым?
Хто сцвердзіць справай і засведчыць словам,
Што ў свеце існуеш ты сапраўды?

Не ўладаром сваёй бязлюднай эры
Хадзіць ты будзеш, а сляпым старцом,
Пакуль для пушчаў, песень і сякеры
Мы новым не адродзімся жыццём.
1962 г.

* * *

Ты згасіш час, але не згіне
Наш род людскі — каманда карабля,—

Ён мачтавыя сосны не пакіне,
Пакуль ім будзе палубай зямля.

Ні сковыт сцюж, ні жах абледзянення
Не знішчыць іх, не замяце іх след —
Забраўшы ў трум памершых дрэў насенне,
Мы пад зямлёй надземны створым свет.

Зямлю з арбіты зрушыць наша сіла
У паядынку з чорным небыццём —
Мы паляцім, натхнёныя жыццём,
На пошукі нябеснага свяціла.

Яго святлом растопім вечны лёд
І разнявалім рэкі на планеце,
Зямлю засеем, сцвердзіўшы ў сусвеце
Зноў розум свой на міліярды год.

1962 г.

* * *

Сама Зямля не вечна — час даводзіць.
Хай будзе так! А хіба маладых
Планет няма? Хто людзям перашкодзіць
На схіле дзён сваіх наведаць іх?

Напэўна, там з пячораў жыхарамі
Спатканне новы лес наладзіць нам —
Не грознымі багамі дзікунам
Мы будзем, а старэйшымі братамі.

Сівых вякоў пазбыўшы час ліхі,
Пячор уласных не забыўшы мову,
Скароцім мы на добрую палову
Пакуты, што рыхтуюць ім шляхі.
Каб смерць Зямлі была для іх працягам
Жыцця без войнаў, рабства і багоў...
Жыць будзе ў жылах іхніх наша кроў —
Ты не спяшайся, час, з жалобным сцягам!

1962 г.

* * *

Сцвярджае час: заўжды жыццю на змену
Прыходзіць смерць, для ўсіх — адзін закон,
І некалі жыццёвую арэну
Пакіне род людскі на схіле дзён.

Ты клічнік ставіш, час! А я — пытальнік:
А што, калі закон парушыць той
Мой слаўны род і вынайдзе — стваральнік —
Жывы бялок, што злучыцца з вадой

І дзікаватым племем неўміручым
Расселіцца па ўсіх мацерыках?
А што, калі мы жыць яго навучым,
Свет разумець, хадзіць на дзвюх нагах,
Перададзім сякеру — з рук у рукі,
Перададзім падручнік, а затым
Усе здабыткі працы і навукі?
...Час, паспрабуй тады спрачацца з ім!
1962 г.

* * *

Калі з зямлі на белай хмары ў неба
Падымецца магутны карабель,
Мы,.людзі, будзем думаць: а ці трэба
Шукаць пілотам для Зямлі зямель?

Ці варта круг рабіць ім развітальны,
З тугой за кантынентамі сачыць,
Як быццам бачыць кадр дакументальны,
Дзе ім ужо статыстамі не быць?

Няхай, па невядомай нам прычыне,
Не вернуцца яны на касмадром,
Заснуўшы сном касмічным у кабіне
Ці недзе новы адшукаўшы дом...

Аднак зацвердзяць поспеху бясспрэчнасць

Наш век дваццаты і наступны век,
І будзе фільм Зямлі глядзець не вечнасць
Вачыма зор сваіх, а чалавек.
1962 г.

* * *

Парушыўшы законы прыцягнення,
Планетамі сярод другіх планет
Існуем мы з табой як выключэнне,
Мая любоў,— як свет і антысвет.

Ніколі мы адной не ходзім сцежкай,
Не дзелім хлеб і дзелім толькі соль,
Ты сустракаеш смутак мой усмешкай
І смуцішся, калі міне мой боль.

Адказваеш на мой сардэчны захад
Нязгодай, самай крыўднаю з нязгод.
Здаецца, павярніся я на захад,
Як тут жа ты павернешся на ўсход.

Аднак зямля б мая асірацела
І ўвесь сусвет ахутала б імгла,
Каб, выбухнуўшы раптам, адляцела
Ты ў невядомасць з хуткасцю святла.
1962 г.

* * *

Мне сніўся сон: ты адляцела у вечнасць
І зоркай там зрабілася між зор.
А я, душы і цела супярэчнасць,
Жыву — не звар'яцеў і не памёр.

Штовечар сэрца ходзіць на спатканні,
Насунуўшы на вочы капялюш.
Прызнацца хоча некаму ў каханні,
Ратуючыся ад пакутных сцюж.

Але ні косам, ні сукенцы белай
Не аддае сардэчнай цеплыні,
А ўсё глядзіць з тугой незразумелай
На зорныя халодныя агні.

І ўсё яму сустрэч таемных мала,
І не хапае для вачэй святла.
Чаму, калі зямлю ты пакідала,
Яго ў свае ўладанні не ўзяла?
1962 г.

* * *

Праз дзесяць год ты з'явішся з-за хмары,
Закончыўшы касмічны свой палёт,
А на зямлі, па вылічэнні мары,
Гадоў міне не менш як восемсот.

Не знаю я, што, прыляцеўшы з неба,
Вачыма новых дзён убачыш ты,
А толькі не шукай, шукаць не трэба,
Сярод магільных пліт маёй пліты.

Лепш завяжы любімую хусцінку,
Сатканую з праменняў і нябёс,
І хай нясе цябе, сваю дзяўчынку,
На лёгкіх крыльцах неўміручы лес.

Нясе на месца тое, дзе спатканне
У нас з табой апошняе было —
Там будзе спачываць мае каханне,
Што без кахання век свой пражыло.
1962 г.

* * *

Я ў лузе кветкі не сарваў ніводнай,
Ніводнай зоркі з неба не схапіў
І, па жаданні прымаўкі народнай,

Ні разу іх каханню не дарыў.

Хай цешаць вока кветкі на палянцы,
Каб мы з табой гулялі сярод іх,—
Яны змарнеюць у гранёнай шклянцы,
Як мы без сонца сярод сцен нямых.

Да зор далёка: шляхам ехаць конным —
Не век, не два, а сто вякоў міне,—
Каб іх здабыць, на караблі фатонным
Ужо ляцець не давядзецца мне.

Не вытрымае сэрца падарожжа —
Заглухне бездакорны мой матор,
Што пыл глытаў, вычыхваў
бездарожжа...
Прымі яго без кветак і без зор!
1962 г.

* * *

Не старадаўні бард, але ўсё роўна
Якогась барда праўнук альбо ўнук,
Я доляю сваёю з ім не роўны:
Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук,
А ўсю Зямлю, з арэнай — Млечным Шляхам.
Качу яе, подобную на мяч,
Ахопленую вадародным жахам,
Як хворую, загортваю ў кумач,
Сачу, каб не скрануў яе з арбіты
Заакіянскі ядавіты грыб.

Галактыкі, як сведкі і арбітры,
Дарма з трыбун высокіх і сядзіб
Глядзяць на паядынак мой вячысты,
Як на даўно для іх знаёмы жарт.
Мяч круглы, як гавораць футбалісты,—
Яшчэ пабачым мы, чаго ён варт!
1962 г.

* * *

Таварыш соснам, караедам вораг,
Мой верш, як дзяцел, зранку на нагах —
Укручваецца ў неба па ствалах,
Аб дрэвах непакоячыся хворых.

За дзень не раз іх выслухае ён,
Абстукае з макушкі да карэння —
Пад доглядам яго расце бярвенне,
Падпоры шахтам гулкія, як звон.

Аб людзях дбае, каб у падвалінах
Іх новых хат не завялася гніль,
А хто падлічыць, колькі соцень міль
Пратупаў ён птушыных па лясінах?

А колькі тысяч маладых хваін
Адратаваў ён у бары сасновым?
А колькі вандраваць яму, каб словам
Боль загаіць людскі, хаця б адзін?

1962 г.

* * *

Маёй рукой насаджанай бярозе
Гадоў якіх праз сорак, сорак пяць
Не пры глухой дарозе красаваць,
А ў будучага веку на парозе.

Каля яе патомак малады,
Старым гасцінцам едучы здалёку,
Прыпыніцца, перачакае спёку,
З ракі матору прынясе вады.

Не ўспомніць ён тады ні пра дамоўку
Забытую маю, ні пра мяне,
Але ў цяньку згадаць не праміне
З удзячнасцю пра рукі і рыдлёўку,

Што гэта дрэва не вятрам на здзек
Тут насадзілі, не для ўцехі ўласнай —
Пераняслі яго, для долі яснай,
Не з лесу ў поле —
з веку ў новы век.
1962 г.

* * *

Я гіну ад бяздзейнасці не месяц,
Не два, не тры. Як быццам хто закляў!
Я сам сябе гатоў хутчэй павесіць,
Чым існаваць для непатрэбных спраў.

Запал прапаў — я сэрцам разумею,
Яго мне не пазычаць лекары.
Я вар'яцею, трацячы надзею,
І не чакаю лепшае пары.

Яна сама прыходзіць, як здароўе.
З крыніц сваіх і жыватворчых рэк
Прыносіць мне шаснаццаціраткоўе,
Шаснаццаць кропель цудадзейных лек:

Шаснаццаць сцежак на лістку паперы,
Я к спраў працяг, якія я люблю,
Шаснаццаць крокаў, каб ісці наперад,
Шаснаццаць рук, каб абдымаць зямлю.
*1962 г.*

* * *

Мне кожны год, нібы жыццём другім,
Жыць у дваццаты век наш давялося...
Я — акіяна жытняга калоссе:
Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
Яшчэ да дна не вычарпаным, лесе,

Не золатаздабытчык і не бос —
Дваццатым векам вызвалены атам,
Жылплошчу пазычаю я ў нябёс,
Каб быць для іх таварышам і братам.
Але і гэта не апошні лёс,
Які мне векам суджаны дваццатым.

Ператварацца буду зноў і зноў
З ідэі ў плоць, з жыцця ў жыццё другое...
Жыву, і пачуццё ў мяне такое,
Як быццам мне не пяцьдзесят гадоў,
А пяць стагоддзяў — самае малое.
1962 г.

* * *

Не злуйся, акіян, кал і патраплю
Я з рук тваіх нарэшце на зямлю,
Што не табе, сыходзячы на трапу,
Сваё «бывай!» пашлю, а караблю.

Ты не лаві мой позірк развітальны,
Расчулены, дарэмных слёз не лі —
Яшчэ не хутка шторм дзесяцібальны
Мяне насіць пакіне па зямлі.

Яшчэ не хутка пругкаю хадою
Стамлюся вымяраць я свет жывы
Тваіх глыбінь, схаваных пад вадою,
Тваіх далін працяг берагавы.

Са схаваў патаемных, як з ракушкі,
Не выпушчу я хваляў штармавых,
Каб слухалі іх нівы, кветкі, птушкі,
Прыпаўшы вухам да грудзей маіх.
1963 г.

* * *

Палын не трэба ні млынам, ні зводкам.
Нядолі дар, ён быў адвечным сродкам
Гаротных жней, якія ад грудзей
Гаркотаю адваджвалі дзяцей,—
Каб стаць хутчэй маглі яны на ногі,
Каб адкрывалі, з дапамогай рук,
Хат курадымных бітыя парогі...

Я з ім жыццё прайшоў — былы хлапчук —
Ад першых крокаў пад бацькоўскай лавай
Да баявых сцягоў, што мы са славай,
Не падаючы, неслі праз вайну,—
За гэта ўсё мы ўдзячны палыну!

Палын — і клопат матчын, і дарога,
І слёзы, і ўспамін сіроцкіх меж,
І горыч малака таго, якога
Ніякай смагай з вуснаў не сатрэш.
1963 г.

* * *

Я хаце абавязаны прапіскаю —
Калыскаю, падвешанай пад столь.
Я маці абавязан кожнай рыскаю,
Драўлянай лыжкаю, глінянай міскаю —
Усім, чым працы абавязан стол.

Я — матчын спеў, я — матчыны трывогі,
Я — матчын гнеў, які ўставаў на ногі,
Гнаў смерць на Захад — у нару з нары —
Тратылаваю пугай перамогі.
Дыміліся сямі франтоў дарогі
За мной, як дынамітныя шнуры.
Пазбавіўшы ад грознага відовішча
Свет, не дазволю я, каб дым і пыл
Зямлю ператварылі ў бамбасховішча,
Мільярд прапісак — у маўклівы прысак,
Мільярд калысак — у мільярд магіл.
1963 г.

* * *

Я музу параўнаў бы з роднай маці,
Ды слоў для параўнання не стае.
Адна ёсць маці, што як сонца ў хаце.
Хто можа быць радней нам за яе?

Я б музу параўнаў са сцежкай першай,
Што песню абвяла вакол сяла,
Кал і б мяне, з маёю песняй пешай,
Дарогам сцежка не перадала.

Калі б дарогі гэту эстафету
З рук палявых не аддалі шляхам,
Шляхі — чыгунцы, а чыгунка — свету.
Якое музе параўнанне дам?

Яна не маці, не дарога ў свеце,
А доля, з вечнай прагаю ў вачах.
Сцяжынкі ўслед за ёй бягуць, як дзеці,
Насустрач ёй ляціць за шляхам шлях.
1963 г.

* * *

Салдатаў веку, што па грозных цэлях
Вядуць агонь з траншэй перадавых,
Ужо не забіваюць на дуэлях
Забойцы каранованыя іх.

Аб паядынку не папераджае
Іх, як калісьці, секундант маны,
Ланцуг — яго вялікасць — іх знішчае,
Душу ад цела вее бог вайны.

Хваробай вокамгненнаю — інфарктам
Расстрэльваюць кароткае жыццё,
І незлічоных страт агульным актам
Спяшаюцца спісаць у небыццё.

Але, сярод ахвяраў незлічоных
Не спісаныя памяццю жывых,
Яны агонь вядуць па цэлях чорных
З магіл сваіх! З траншэй перадавых!
1963 г.

* * *

Сябры, каго вайна скасіла кулямі,
Дыханне ваша чую за спіной.
Зноў грозна, разварушанымі вуллямі,
Гудуць франты... Не ціхне вечны бой.

Зноў прыпадае з жалем Бесядзь родная
Да каранёў дуброў, да ног сяліб —
Хвалюецца, што нечысць вадародная
Даверлівых яе атруціць рыб.

Дубы глядзяцца ў глыб ракі, і кволыя
Спяшаюцца да завадзяў сады,
Каб стрэсці з плеч напалмавае полымя,
Што прагне перакінуцца сюды.

Вам цяжка дыхаць, вы ў адчаі просіце
Зямлю, каб адпусціла вас назад
На вольны свет. Я знаю, вы зайздросціце
Жывым. А гм хіба лягчэй нашмат?
1964 г.

* * *

Бег цень мой на гору, каціўся з кручаў,
Ніяк не мог угнацца я за ім,
Калі ён ранак дня майго раскручваў
На палатне дарогі суравым.

А ў поўдзень мой спякотны, незваротны
Ужо кароткім крокам мераў цень
Шляхоў шыракатканыя палотны,

Жадаючы нібы прадоўжыць дзень.

Парой вячэрняй з хуткасцю абознай
Ён цягнецца так доўга ад таго,
Што не жадае на вярсце апошняй
Гаспадара пакінуць аднаго.

Маё сяброўства — цень мой пажыццёвы,
З якім прайшоў праз дым, агонь, ваду,
Якому не здраджаў, які гатовы
Са мною ўпасці там, дзе я ўпаду.

1964 г.

# *МАНАЛОГ*

*Памяці паэтаў*
*З. Астапенкі і Ю. Таўбіна*

* * *

Калі ідзе, я ўдакладняць не стану
Таго, што больш не выклікае прэк,
Бесчалавечнасць выпаліла рану
На часе тым, што адышоў навек.

А забыццё, каб сцерці з нешматслоўнай
Зямлі бесчалавечную віну,
Схавала месца смерці безназоўнай
Пад дываном, сатканым з дзірвану.

І хоць дзірван, што рану ўкрыў старанна,
Стаў палыном на мёртвай глебе той,
Не зарасла зямлі жывая рана,
А зарасла зямля яе травой.

Дзе б я ні быў, дзе б мне ні давялося
Убачыць дол сівы ад палыну,
Пякуча сэрца сціснецца, і лёс я
Загінуўшых без весткі памяну.

* * *

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасць вам?
Дзе дзверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсці? Якіх пытацца брам?

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

Няма куды сваю жалобу ўскласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэтым шчасці
У маладосці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я — ваша памяць, вы — мае сумленне,
Я — дрэўка, вы — трывалы сцяг на ім.

*Устоіць той, хто варт,*
*На старт, сябры, на старт!*
Юлі Таўбін

* * *

Быў кожны з вас адважных стартаў варты,
Шкада, што фініш быў не вартым вас.
Па-рознаму адлегласць паміж стартам
І фінішам нам адмярае час.

Адным, хто доўга жыў, зрабіўшы мала,—
Кароткім падарожжам за труной;
Другім, хто шмат зрабіў, пражыўшы мала,—
Адлегласцю ў бяссмерце даўжынёй.

Нядоўгім быў ваш век, як век падзёнак,
Мае сябры!.. Суровы сівер змёў
Са старту вас. Вы — кнігі без старонак,
Лісты без дрэў, дарогі без слядоў.

Нялёгка мне працягам быць тых самых
Нязходжаных шляхоў, быць вартым тых
Спраў абарваных, кніг недапісаных,
Якім не ўзняцца з фінішаў сваіх.

* * *

Не бачыўся я ўсё жыццё амаль
З сябрамі незабыўнымі маімі.

Зноў выклікае на размову з імі
Навекі разлучыўшая нас даль.

Каня свайго сядлаю і ў дарогу,
Цяжэйшую з усіх былых дарог,
Кіруюся адзін,— як маналог
На пошукі жывога дыялогу.

Але ці след спяшацца мне, калі
Цень падаўжэў, конь пакалечыў ногі
І там, куды я еду, дыялогі
Спяць вечным сном, набраўшы ў рот зямлі?

Не прыпыняйся, не жахайся, слова!..
Хай адвячорак доўгім ценем лёг —
Магчыма немагчымая размова
Датуль, пакуль магчымы маналог.

* * *

Як мне сябрам паклон адважыць нізкі,
Дзе адшукаць іх захавання дол?
Ляглі маўклівым сведчаннем на стол
Адзіныя іх помнікі — дзве кніжкі.

Друкарняю адціснуты як след
На вокладках два прозвішчы і даты
Іх нараджэння новага на свет.
Два томікі, як два чырвоных святы!

Смяротнага спаборніцтва з пяром
Не вытрымаў ні штык, ні сталь рыдлёўкі,
І не змагла імгла нямой дамоўкі
Верш задушыць халодным забыццём.

Два томікі — два помнікі. З партрэтаў
Глядзяць сябры. Мы дружбе служым зноў...
Інакшых служб не трэба для паэтаў —
Ні ладану, ні жаласных прамоў.

* * *

Глядзіце без дакору і пагарды
Вы на мяне з экранаў вашых кніг,
Як кінастужак спыненыя кадры,
Гатовыя крануцца кожны міг.

На старце вы. Ад быстрае пагоні
Мне не ўцячы, а вам не перагнаць
Мае маршчыны і сівыя скроні,
Якім рукой да фінішу падаць.

Для тых, хто вас не бачыў, вы — партрэты
Адстартаваўшых год. А для мяне —
Вы назаўжды майго юнацтва леты,
Што не падставяць скроняў сівізне.

Для іншых вы — ахвяры радавыя
Крутых гадоў, бязлітасных судоў.
А для мяне — вы маршалы, якія
Камандавалі б арміямі слоў.

* * *

Так, мы — сябры па сэрцу і па зброі,
Вядомы арсенал байцоўскі наш:
Чарніла і чарніліца, пяро і
Хімічны альбо просты карандаш.
Мне нечым перад вамі ганарыцца,
Сябры!.. Адны ў нас пушчы і палі,
Засмаглымі радкамі з іх крыніц мы
Адзін і той жа халадок пілі.
Мне на жыццёвых шалях перавагі
Лёс не адважыў. Толькі ў тым яна,
Што доўгі шлях маёй няўтольнай смагі
Не абарвала ранняя труна,
Што я далей друкую крок, нібыта
Па бітым шкле — па муках, па вайне...
А ўсё, што мною знойдзена, набыта,
Належыць дружбе нашай, а не мне.

* * *

Адзіным дрэвам дружбы мы раслі.
З трох два сукі сякера смерці ссекла.
Не трапілі яны ні ў рай, ні ў пекла,
Працяг іх існавання — на зямлі.

Дагэтуль іх, нібы руку — бязрукі,
Нагу — бязногі, адчувае ствол,
Жывая верхавіна помніць мукі,
Рукой гвалтоўнай кінутых на дол.

Асуджаныя лёсам на знішчэнне,
Яны не падуладны сілам зла:
Карэнні ў дрэва ёсць, апроч ствала,
Апроч карэнняў прагных, ёсць насенне.

Праходзячы кругазваротны шлях,
Яно і іх вяртае ў схоў глыбокі,
Адкуль для новых дрэў карэнне сокі
Бярэ, зямлю трымаючы ў руках.

* * *

Адзін памёр ад тыфусу брушнога
За кратамі, сярод муроў сырых.
Без стужак, без вянкоў, без некралога,
З кляймом абвінавачання цяжкога,

Згубіўся ён сярод магіл глухіх.
Другі на фронт з таежнага барака
Шчасліва ўцёк. За валам агнявым
Яго салдацкі штык вяла атака,

Там ён на смерць пад прозвішчам сваім
Хадзіў і пахаваны разам з ім.
Хай згублены сляды іх захавання,
Не страчаны іх сувязі з зямлёй.

Яна для іх — не вечны супакой,

А месца пасмяротнага спаткання,
Прызначанага ў памяці маёй.
Пакуль жыву, яны жывуць са мной.

* * *

Яны ў мае наведваліся сны,
Праходзілі дарогамі былога
Адлегласць ад калыскі да труны.
Яны ў мяне на ўсё жыццё адны,
А ў іх, апроч майго радка скупога,
На ўсёй зямлі не знойдзеш больш нікога.

Як без мяне ім быць, а мне без іх?
А дна ў нас засталася на траіх
Мая дамоўка. Не хачу, каб з ёю
Засыпалі халоднаю зямлёю
Жывую памяць аб сябрах маіх.

Пакрыўджаную выракам суровым,
Яе не зацярушыць змрок сляпы,
Пакуль над захаваннем палыновым
Да іх, жывых, з непахаваным словам
Звяртацца будзе мой радок скупы.

* * *

Датуль мне ў снах з'яўляліся яны,
Пакуль не сталі вершамі маімі.
Час надышоў мне развітацца з імі —
Нібы застолле, апусцелі сны.

Згубіліся абліччы, змоўклі словы,
Зноў я адзін. У розныя бакі
Краіны той, дзе вечныя іх сховы,
Раз'ехаліся моўчкі дружбакі.

Няўжо даволі з іх той сціплай меры —
Трох метраў непрытульнае зямлі?

Той памяці, шматка тае паперы,
З якой яны радкамі прараслі?

А можа, гэта — самазахаванне,
Катораму без сноў такіх лягчэй?
А можа — абавязку выкананне?
Дазвол сумлення — рухацца далей?

* * *

Хваробу, што здароўе падкасіла,
Нібы быка, за рогі мы бяром,
Пакуль жыве ў нядужым целе сіла
З уладай таямнічай над пяром.

Лепш цяжка жыць,
          чым быць бадзёрым трупам —
Гарэць агнём, якога ўжо няма ш,
Былой уладай пахавальны марш
Забараняць іграць крытычным трубам.

Лепш вечны сон, чым гэткай явы сны.
Хай на парозе небыцця такога
Мяне ў калыску з труннае сасны
Кладуць жывога так, як нежывога.

Нашто мне зрок, навошта гучны крок,
Хвілін імклівасць, цішыні хвіліны,
Турботы дня, апошнія навіны,
Крывёй не перагнаныя ў радок?

* * *

Мой маналог, як палымяны конь,
Пачуўшы подых бур, стрыжэ вушамі,
Спяшаецца, паразмаўляўшы з вамі,
Ад вечнага агню ў жыцця агонь.

Між намі лес правёў размежаванне:

Вы — скрыжаванне рук, я — крокаў рух.
Аднак саюз мужчынскі — не каханне,
Дзе трэці лішні пакідае двух.

Наш брацкі вузел не парве, я знаю,
Ні адгрымеўшы, ні наступны бой.
Я, ваша памяць, вас не пакідаю,
Бяру з сабой, як клятву, як набой.

Злучыліся: з дарогамі дарога,
З лістамі дрэва, са слязою пыл,
І ў сэрцы тым, дзе ўсёй зямлі трывога,
У тры разы прыбавілася сіл.

1964—1965 гг.

# *ХУТКАСЦЬ*

## Адзіны серп на сённяшнім жніве

Заглух той дом, што быў маім гняздом,
Што ў свет пусціў і радасць і бяду маю.
Не вечна ўсё пад месяца сярпом,
Хоць ён не зжаў нікога,— так я думаю,
Сялом і полем ідучы з кійком.

Мой след, што пяцьдзесят гадоў назад
Знаёмы быў з вясёлай сцежкай школьнаю,
Пакрыла забыццё травой няўмольнаю.
Ды смешна прагай папракаць няўтольнаю
Зялёную траву, якой я рад.

Электрастанцыя над рэчкай сіняю,
Магутнасцю на сорак кілават,
Не свеціць больш, хоць ёй гадоў няшмат.
Ніхто, апроч высакавольтнай лініі,
У змрочнасці яе не вінават.

Камбайн, жніва гарачага ўладар,
Давёў сярпы да стану непрыгоднасці.
Не вечна ўсё. Конь, хоць не страціў годнасці,
Але і ён ва ўладзе неабходнасці
Таго, што сеў на трактар гаспадар.

Старэючы, і я сачу з трывогаю
За часам, што мяне перажыве.
Тут месяц ні пры чым. Няхай плыве
Ягоны серп над палявой дарогаю —
Адзіны серп на сённяшнім жніве!
1973 г.

## *Слова пра вала*

Хоць я працую ноччу, днём

І адвячоркам зорным,
Ды не магу сябе валом
Назваць, тым болей — чорным.

А вось адвыкнуць ад стала
Пяро, папера, слова —
То я падобным на вала
Раблюся паступова.

Спачатку я здзіўляю ўсіх
Тым, што з паперай белай
Даўно не размаўляю ўслых
На мове зразумелай.

Пасля, на нейкай там вярсце,
Змрачнець я пачынаю —
Тугой, што ўсё расце, расце,
Як шэрсцю, абрастаю.

Пасля ў ярме ўжо шыю гну,
Ад пашы адвыкаю,
Як чорны вол, цягну трупу
Суцэльнага адчаю.

За мной ідуць — за радам рад
Ахутаныя горам
Гады мае, і ўжо назад
Ім азірнуцца сорам...

А як працую за сталом
Я днём і часам зорным,
То не магу сябе валом
Назваць, тым болей — чорным.

### ***Пра славу***

Здавалася мне слава явай блізкай
Тады, калі схілялася ў цішы
Паэзія, як маці над калыскай,

Над сненнем недасведчанай душы.

Каб рос хлапчук, не дбаючы аб цудзе,
Каб не лічылі людзі сысунком,
Яна до болю матчыныя грудзі
Пякучым націрала палыном.

Пасля, малыя выверыўшы крокі
На бітым шкле і на жарстве дарог,
Рукою паказала свет шырокі
І босага пусціла за парог.

З тых дзён, калі падносяць кубак славы,
Я лішняе спакусы не глыну,
Бо ўсё яшчэ мне помніцца гаркавы
На смаглых вуснах прысмак палыну.

## ***Пастух***

Нехта крывіцца, быццам не рады,
Што я вершаў даўно не пішу.
Мне і твораў чужых пераклады
Саграваюць работай душу.

Калі думкі не ладзяць з радкамі,
Ці не лепш, чым гібець ад тугі,
Чым зайздросціць другім і лакцямі
Іх расштурхваць,—
                    пайсці ў пастухі?

Як належыць, у зрэбную кайстру
Хлеба чорны акраец кладу,
Лясну пугай, даверанай майстру,
І ганю на папас чараду.

Днём хаджу па лугах ды па стромах,
Што акрэслены плошчай стала,
Ноччу, пэўна, хадзіў бы, каб стома,
Разам з кайстрай, дазволіць магла.

І з надзеяй, яшчэ невыразнай,
Прыхаванай у сэрцы маім,
Дагаджаю я музай уласнай
Строгім музам, вядомым усім.

Рады я, калі думка чужая,
Стаўшы словам жывым пад пяром,
Раптам думку маю абуджае,
Што, забытая, спіць пад кустом.

Я тады падбіваю рахункі
Дням і тыдням, пачуўшы здалёк,
Як на голас абуджанай думкі
Адгукаецца першы радок.

І, шчаслівы, не верачы цуду,
Строгім музам кажу я тады:
Большай платы не браў і не буду
Браць з дагледжанай мной чарады.

Дзякуй, лес мой, і луг мой зялёны,
І агонь, што на ім не патух.
Дзякуй! Скончыўся тэрмін сезонны.
Спаганяй свае гарды, пастух!

## ***Парада сабе самому***

Нясу, як ранец за спіной, здалёку я
Аж шэсць дзесяткаў спакаваных зім.
Важкая гэта ноша альбо лёгкая,
Хто знае? Справа не ў гадах зусім.
І плённы дзень заважыць пяцігодкаю,
І пяць гадоў бясплённых — марным днём.

Не падсумоўвай паквартальнай зводкаю
Таго, што вымяраецца радком.

* * *

Не з горшых той сусед, якога
Спрадвеку трунаром завуць.
Твой конь прапаў — што тут такога?
Але яму прыемна чуць.

Ляжыш ты ў ложку, нездаровы,
Ён рад наведаць твой катух.
Чакае ўжо, калі гатовы
Ты будзеш для яго паслуг.

А як не ўстанеш, то змайструе
Табе па мерцы ён труну,
Прамову скажа хоць якую,
А як папросяць — не адну,—
Аб бессардэчнасці той страты,
Што час прадухіліць не змог,
Аб даўгавечнасці той хаты,
Што з дошак збіў не ён, а бог.

Пасля прыляжа, смерці лёкай,
З рыдлёўкай разам на траву...
«Ну вось — і гэты ўжо далёка,
А я працую. Я жыву!»

* * *

Зайздрошчу я мастам, не іх канструктарам,
Дарогам, па якіх да нашых дзён
Імчаць саставы з посвістам і грукатам,
Не помнячы праслаўленых імён.

Хачу, каб так і слова —
не жалезнае,
Знаёмае з пакутай і слязьмі,—
Ад славы і імёнаў незалежнае,
Трымала сувязь з часам і людзьмі.

Хачу, каб слёзы, што ў душы радзіліся,

Жыццём сваім асобным зажылі,
Каб так, як дождж па шкле,
яны каціліся
І па шчацэ, і па шляхах зямлі.

Хачу, каб не прылізаным і чысценькім
Быў сэрца боль, каб пёк ён і смылеў,
Каб не прыкрыт быў грэх прыстойным лісцікам,
Смех — гулкім рэхам быў, абвалам — гнеў.

А аўтар хто? Дзе рос? Як празываецца?
Есць весткі, альбо там яны ляжаць,
Дзе ўжо нічога ўслых не вымаўляецца?
Знаць важна, але можна і не знаць.

Вы мне даруйце сёння, суддзі строгія,
Што мой і смех і гнеў не быў такім
І што, на жаль, пад імі,
як і многія,
Я прозвішчам падпісваўся сваім.
1973 г.

## *Слова невядомага салдата*

Ты кожнаму слову, патомак,
Што я гавару табе, вер.
Спачатку,
салдат невядомы,
Ляжаў я не тут, дзе цяпер.
Забіты я быў пад Масквою,
І там, не пазнаны нікім,
Засыпаны роднай зямлёю
Быў з імем забытым маім.
Па воінскаму абавязку
На могілку каска лягла.
Ах, вечны грудок мой ды каска,
Пясчаны грудок ды імгла!
Не проста салдату падняцца
З апошніх пазіцый сваіх...

А толькі са мной не згаджацца
Ёсць права такое ў жывых.

Сягонняшні схоў мой не знае
Нябыту ў глухім бур'яне,
І той, хто ў сталіцы бывае,
Цяпер не мінае мяне.
Праходзіць сівая жанчына,
Што недзе далёка жыве,
І ціха, як роднага сына,
Мяне да сябе пазаве.
Лютуе на вуліцы сцюжа,
А нехта — адкуль жа мне знаць!
Прыпыніцца, іменем мужа
Пакліча з-пад каменя ўстаць.
Я рос сіратою, прызнацца,
Ніжонкі не меў, ні малых...

А толькі са мной не згаджацца
Ёсць права такое ў жывых.

Вякі праляцяць за вякамі,
Пазбыўшы вайну назаўжды,
І, можа, гранёны мой камень
Грудку пазайздросціць тады,—
Калі ўжо ні сына, ні мужа
Ніхто не пакліча ў бядзе
І памяці колкая ружа
На зорку яго не ўпадзе;
Калі з безназоўных пазіцый
Скрозь каскі праб'ецца імгла,
А лес ёй насення пазычыць,
А сонца — агню і святла.
Я мог бы сасной ці вярбою
Шумець паміж дрэў дарагіх...

Але не згаджацца са мною
Есць права такое ў жывых.

1973 г.

## ЗАПІСНАЯ КНІЖКА

*Кайсыну Куліеву*

**1**

Галоўнае ўжо сказана. Што можна
Да сказанага некалі дадаць?
Я кніжку запісную асцярожна
Кладу на стол. Гартаць ці не гартаць?

Тут запісы хвіліны непаўторнай,
Сабраныя пад вокладкі страхой.
Я давяраў іх памяці маторнай
І зрокавай, не верачы другой.

Ты, кніжка запісная,— дом, дзе свішча
Скразняк гадоў, віхор няспелых дум,
Кладоўка для зярнят і папялішча
Пачуццяў марных, пушчаных на глум.

Ты — клінапіс з неразгаданай вяззю,
На турмы не падобная турма,
Дзе вобразам маім, забытым вязням,
Прызначанага тэрміну няма.

Наглядчык строгі іх пазбавіў руху,
Фантазія ім хлеба не дае.
Як рэактыўны лайнер хуткасць гуку,
Час абганяе запісы мае.

Заслона хмар над імі ходзіць нізка,
Спускаецца імгла, нібы на дол,
На іх страху... Ах, запісная кніжка,
Навошта я кладу цябе на стол!

**2**

Маім радкам ты некалі была
Затокаю сярод лясоў зялёных:
Нямала лодак, і мастоў пантонных,
І караблёў ты мору аддала.

Цяпер з табой мы не дамо ім рады.

Як і раней, іх глушыць часу гул.
Як і раней, цікуюць іх піраты,
Тарпеды, што падобны на акул.

З гадоў мінулых да гадоў наступных
Яны прабіцца прагнуць на прастор.
Бацькоў сваіх суровых, але рупных
Так пакідаюць дзеці з даўніх пор.

Што ім да нас?.. Хоць гэта мы з табою
Іх выпраўлялі. Гэта наш гарыць
Агонь у топках іхніх, а з прабоін,
З цяжкіх прабоін наша кроў цурчыць.

Нядоўга слава балявала з намі,
Калі трубіла ім у гучны рог,
Затое пахаванкі груганамі
Ляцелі і ляцяць на наш парог.

А тыя, хто ўцалеў,— што іх чакае?
Яны вінтамі за бядой бяду
Перагрaбуць?.. Ах, кніжка запісная,
Я сёння зноў цябе на стол кладу!

**3**

Стань студняю бяздоннай на дарозе!
Перада мною мірная зямля...
Я словы напаю пры дапамозе
Драўлянага вядра і жураўля.

Хай цьмяны вобраз, што зіхціць намёкам
На дарагі для сэрца самацвет,
Дыхне паветрам і па лузе мокрым
Ідзе і пакідае дымны след.

Няўтульна спаць байцам вайны Айчыннай
Пад трыццацігадовым дзірваном —
Сагрэй іх канюшынавай аўчынай
І затулі бярозавыМ крылом.

Я даў зарок не пашыраць смяротнасць,

У ліку тым —
і на свае радкі,—
Хай кліча іх не слава,
а спякотнасць
Град, дзе ад смагі млеюць агуркі.

Для мёртвай глебы, што звініць, як камень,
Для губ, што гінуць без вады глытка,
Гатоў цябе я вычарпаць рукамі
Ад верхняга да ніжняга вянка.

Ты мне патрэбна,
як вада жывая
Гадамі абцяжаранай вярбе...
Але другім (ах, кніжка запісная!)
Я аддаваў і аддаю цябе!

**4**

За спёкай — лівень,
за бядой — бяда...
Стань сонцам над палеглай збажыною!
Ты падымі яе
і пяцярнёю
Падай у шасцярню малацьбіта.

Ён вымярае час па іншай мерцы,
Не па начным гадзінніку свяціл —
Па зорцы пяцікутнай, сцёршы з дзверцы
Рабочае кабіны
жніўны пыл.
І загаворыць зорка польнай працы
З далёкай зоркай той, якую ў бой
Нёс бацька, дзед яго, а можа, прадзед,
Па цаліне, тады яшчэ пустой.

Вагой крыві тут вымяралі страты
З адвечнай марай аб вазе зярнят.
Іх бой — твой бой,
хоць жне не аўтамат,
А косяць і малоцяць не гарматы.

Цяжкі наш хлеб. Ад лёсу не прасі ты
Лягчэйшага. Лягчэйшага — няма.
Бязмежны стэп прасеяўшы праз сіта
Душы, ты хлебам можаш стаць сама.

Хай хмары ходзяць нізка, вечар блізка,
А восень лісце гоніць з гаю ў гай,
Як пахне хлеб!..
Ах, запісная кніжка,
Кладу цябе на стол, як каравай!

**5**

Магчыма, ты жадаеш быць ракетай,
Бязважкай стаць?..
Я знаю,караблю
Не церпіцца з касмічнай кропкі гэтай
Зірнуць староннім вокам на зямлю.

Але навошта нам ляцець з табою
На пошукі бязважкасці, калі
Мы перад непрытульнасцю зямною
Сваю бязважкасць чуем на Зямлі.
О, колькі бед —
галодных, босых, голых —
Па свеце ходзіць! Як пакінуць іх?
Яны яшчэ не адляцелі з кола
Нямых і неабжытых гнёзд маіх.
Я не жадаю ім галечы чорнай,
Я так скажу, калі настане час:
«Ляціце, дзеці памяці маторнай
І зрокавай! Я адпускаю вас.
Я хлебам вас сустрэў каля парога
І не кішэннай дробяззю манет
Правёў за свой парог. Каля другога —
Я ўжо не гаспадар. Ляціце ў свет!»
Ляціце ў свет!..
Ах, кніжка запісная,
Пакуль жыву, жыві і ты са мной.
Чым будзеш заўтра — сам яшчэ не знаю...
Адно прашу: будзь кніжкай запісной!
1973 г.

**Хуткасць**

Ёсць хуткасць гуку, ёсць — звышгукавая,
Ёсць хуткасць зор, прыкметная для ўсіх.
Яшчэ ёсць хуткасць думкі, хуткасць тая,
Што, як святло, стагоддзе абганяе,
З тысячагоддзем размаўляе ўслых.
О, таямніца кніг, скажы, з якіх
Людскіх глыбінь ты цуды здабывала?

Твой зачынальнік слоў не знаў і мала
Свет разумеў, не меў матык і сох,
Маўчаў, як сом, пакуль бяда не ўзяла
За шчэлепы яго і на пясок
Не кінула, пакуль сярод начы,
Яго душы нямой, сканаць гатовай,
Не загадала: — Дыхай, плач, крычы,
Нябыт цяжкі пазбудзь не рыб'яй мовай.

Свет будзе пець, смяяцца, слёзы ліць
Датуль, пакуль на свеце людзям жыць.
Сабрат мой па пяру, на суд іх смела
Вынось усё, што ў сэрцы набалела.
Слёз не стрымаеш — плач, але не тою,
Пад пачуццё падробленай, слязою,
А той, што смех вяртае з небыцця.

Смяяцца хочаш — смейся, як дзіця.
Перад сабой і светам будзь праўдзівы.
Прымай, як дар, жыццём пасланы дзень,
І, можа, кніга гэта век імклівы
Дагоніць і абгоніць,
як прамень,
1974 г.

## МОЙ НОВЫ ГОД

### 1

Як не зайздросціць тым, хто нараджаецца
Пад Новы год? Для іх пячэ пірог
Сама Зямля. Чарговы свой парог,

Каб іх вітаць,— пераступіць спяшаецца.

Яна ім першым адчыняе весніцы,
І, каб магла, спыніла б час для іх.
А толькі ён і кружыцца, і свеціцца,
І запрашае ў карагод другіх.

Няспынным рухам каляндарны век яго
Узгоднены з Зямлі календаром.
І кожны новы дзень яе
для некага
У дом прыходзіць навагоднім днём.

Хай гэты дзень не значыцца ў даведніку
Для тэлеграм, але ён дораг нам.
Ён дораг нам, як чорны хлеб галетніку,
Што не са свят вядзе адлік гадам.

І я не ў крыўдзе, што пачаўся з лютага
Мой новы год, якому шэсцъдзесят.
Хто ты, мой год? Завеі лютай брат
Ці ручая, сакавіком раскутага?

**2**

Хто ты? Абраннік лесу выпадковага?
Ці, можа, ты — пад лічбай шэсцьдзесят,
Ад пакалення нашага вайсковага
На пік стагоддзя кінуты дэсант?

Ты кручамі і берагамі стромкімі
Дайшоў да ўнукаў і да іх сяліб.
Ты продкам іхнім быць, яны — патомкамі
Тваімі быць маглі б. Але, маглі б...

Нам не аспрэчыць права іх законнага,
Мой год! Хіба не лічацца яны
Нашчадкамі злучэння незлічонага,
Якое не вярнулася з вайны?

Наступным дням, па абавязку ўзводнага,
Ты аддаеш байцоў, якіх хаваў.

А я гатоў засведчыць, што ніводнага
Ты забыццю сляпому не аддаў.

Ім ваяваць датуль, пакуль іх ворага
Не ўсмерціў мір. Ты людзям кажаш так:
Над словам, што было не дагаворана
Пад кулямі, не стаўце смерці знак.

**3**

Мой год, нам трэба даражыць хвілінамі.
Для нас гадзіна — тэрмін немалы.
Ужо не абрусамі, а ўспамінамі
Сталы засланы. Доўгія сталы.

Склікай гасцей. Стаў крэслы і віно,
Па звычаю, для ўсіх абавязковаму:
Па правы бок — свайму сяброўству новаму,
Па левы — тым, каго няма даўно.

Хай госці, пагудзець з табой гатовыя,
Пакуль не парадзеў застолля круг,
П'юць першую — за ручаі вясновыя,
Другую — за маўчанне завірух.

Няхай усе, тваім жытлом сагрэтыя,
З табою ў ім сустрэнуць сонца ўсход.
Ты знаеш сам: узнагарода гэтая —
Найбольшая з усіх узнагарод.

Яшчэ лічы сваёй узнагародаю —
Што ты жывеш, хоць і хрыпіш грудзьмі.
Дай справу ім, хай дыхаюць работаю:
Не можаш камень — трэску падымі...

**4**

Не можаш трэску — кроч паціху сцежкамі
Да ўнукаў ты — туды, дзе снег, дзе сад.
Апошні раз цябе аблепіць снежкамі
Твой, войнам не навучаны, дэсант.

Перад табой маленства пройдзе нанава...

А перад тым, як знікнуць назусім,
Сябе самога, год мой, з рэшткаў савана
Зімовага ты вылепі малым.

З прыкмет вайны, далёкай для дзяцей,
Снегавіку пакінь адну — вугольчыкі
Замест вачэй. Няхай, як ты даўней,
Вакол яго павесяляцца хлопчыкі.

Хай не атруціць светлыя іх сны
Пахмуры век, не зробіць іх калекамі...
Ты памаўчы. Ты быў такім жа некалі
Рухавым і шчаслівым, як яны.

Заплача снежны дзед... Яны ж, сардэчныя,
Не будуць знаць, што гэта па табе
Лье слёзы снег твой, чорныя, не вечныя,
Убачыўшы пупышку на вярбе.

**5**

Лепш падаць і. ўставаць з нялёгкай ношаю,
Чым злёгку папіхаць яе рукой.
Мой год! Цяжар, які вала падкошвае,
Ты датрымаў. Не ўпаў, не стаў зямлёй.

Ты адыходзіш, год мой! Ношу важкую
Ты скінуў з плеч. На верхавіны дрэў
Зірнуў, як быццам навіну ім важную
Хацеў сказаць.
Хацеў, ды не паспеў.

Зямля, якая кружыцца і свеціцца,
Цябе ў сваю захутала пургу.
Даруй мне,
я спыняцца не магу.
Чарговы год мне адчыняе весніцы...

Што ты не мог сказаць
раскутай моваю —
Травою, рунню, гучным ручаём —
Ён дагаворыць за мяжой умоўнаю,

Адкуль мы лік наступным дням вядзём.

Звіняць пад сонцам ручаі, гатовыя
Твае трывогі несці па жыцці,
Каб з імі век агорац наш і ў новае
Тысячагоддзе рэкамі плысці.
1974 г.

# *КРЫЎДА*

## *ЧАСТКА ПЕРШАЯ*

### НА ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ

**I**

І коні ржалі, і людзі крычалі,
І вылі ваўкі ў лесе,
Імчаліся першыя эскадроны
У першае вогнішча вайны,
Дзе порахам боек запахла паветра.

Рыжыя дрэвы званілі ключамі,
Лісты свае слалі ўздагон экспрэсу;
І на вяршыні шырокай кроны
Косткі сукоў былі відны,
Хіліліся падатна яны пад ветрам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Салаўі адпелі, зязюлі адкувалі,
Адкрычаў сіваграк і ўдод,
Надыходзіла восень, за восень сумнейшая.

А на фронце ішлі работы:
Афіцэры пілі гарэлку,
Казакі курэй кралі,
Сапёры нацягвалі калючы дрот,
А пяхота анучкі сушыць вешала,
Пяхота правіла мокрыя боты
І стомленыя ногі каля вогнішча грэла...
А калі загамоніць шырокі дуб,
Перадумае салдат многа доўгіх дум:
Развітаўся салдат з жонкаю маладой,
І не бачыць салдату яе ніколі,
Засталася яна за рэчкаю Донам,
Будуць слёзы яе падаць на плёс,
Будзе яна плакаць, многа будзе,
А салдату не бачыць дарог дамоў;

Сумуе па салдату конь яго,
Бо не жыць салдату на свеце доўга,
Не хадзіць яму полем палос,
Бо ніхто салдата ад смерці не разбудзіць.

І няма салдату ад яе збавення.
Ці мала за салдата лілі слёзы...
Маці старая — жыццё падкошана,
Слёзы яе горкія, як сок з вербы...
Цягаў бы ты, салдат, сасновае бярвенне;
Сек бы ты, салдат, на балоце лозы;
Вязаў бы ты, салдат, белыя кошыкі;
Не хадзіў бы ты, салдат, бараніць сербаў;
Не кідаў бы ты сваёй хаты ганак,—
Хаваўся ў лесе дужы і цэлы,
Кахала б цябе твая жонка Ганна,
Цешыла б цябе мала дым целам...

Калі загамоніць шырокі дуб
І закалоціцца верхавінне,
Перадумае салдат многа доўгіх дум,
Перад кім і ў чым ён вінен.

Здавалася яму,—
восень звоніць ключамі,
І хвоя ў вочы лезе;
А тым часам
коні ржалі, людзі крычалі
І вылі ваўкі ў лесе.

**2**

Тое, што выюць ваўкі ў лесе,
Тое, што хвоя ў вочы лезе,
Тое, што восень звоніць ключамі,
Такое —
бывае часта...
Але не бывае звычайным такое,
Калі пачынаюць шалець коні
І доўга маўчаць па акопах салдаты,
Калі пачынаюць гаварыць гарматы,
Калі пачынаюць спяваць кулі

На цэлым Усходнім паўкуллі.
Калі —...
          калі —...
                    калі —...
Спрачаюцца імператары і каралі
За ўладу на добрай чужой зямлі,
За нафту ў Персіі, за вольныя воды,
За нечапаныя ў зямлі пароды,
За ўсё, на што вочы буржуя сквапны,—
За нафту, за вугаль, за вапну...—
Тады ім ідзе на карысць выпадак,
Тады пачынае сваю працу асадка,
Тады пачынаюць хлусіць газеты,
Прадажныя вершы пісаць паэты,—
Бо маюць праз гэта газеты грошы,
Бо плацяць паэтам ганарар добры...

А тым часам высыхаюць на травах росы,
Сохнуць нівы і дождж капае дробны...
І чакае зямля дужага чалавека.
А дужыя, дзе яны?
                    Пастраляны...
І прыходзіць зямлю ўрабляць калека
З сляпымі вачыма, абсечаным станам,
І на целе яго маладым відны
Свежыя раны вайны.

Але зноў пачынаюць хлусіць газеты
І прадажныя вершы пісаць паэты...
Усё на карысць —
                    фельетоны, харэі...
І пачынаюць архірэі...
І поп на дарогах з царкоўным кадзілам
Стогне, галаву ўзняўшы дагары.
Ён будзе прарокам дажджу і боек,
І сам ён... святога стану.
Ён словы свае не прадасць танна,
Бо ў словах яго жыве дзіва,
І скончыць казанне ён, як дагарыць
Дзень на палях і на рэчках альбо як
На захадзе рыжай пакрыецца вохрай дзень

І прыйдзе да дому галодны статак...

Тады падпаследак ён грозна стане
Наклікаць на аўстрыйцаў і немцаў смерць,
І словы на іх будуць бурай грымець:
«Изыдите вы, воины во Христе...»

Тады падпаўзуць да яго калекі,
Раскажуць яму, як раслі яны, дужыя,
Як мелі і рукі, і ногі, і сілу,
І вочы, што газамі зараз атручаны,
Каханак, што плачуць па іх маладосці...
І будуць таму ў яго прасіць лекі,
Каб больш яны сліўнямі не жылі,
Каб бачылі жыты, дарогі, сіні,
Гулялі вяселлі і ладзілі заручыны,
Каб хлеба і радасці было ў іх досыць.

І ён ім на гэта не скажа нічога,
Хаця яны ў ногі яму палягуць
І будзе хвароба іх цела корчыць...
І пойдзе ад іх ён, як злодзей, моўчкі,
І пойдзе ад іх, хоць яны не заразныя...
У галоднага сабакі — зубоў скрогат,
У галоднага чалавека — сабачы лямант,
У бязногага чалавека — ваўчыныя вочы,
У бязвокага чалавека — жабрачыя вокі;
У такіх людзей думкі ў вузе л завязаны,
Такі чалавек свой вузе л не развяжа,
Бо ў шчырасць пакрыўджанага не заверыш,
І будзе ён лекаў сабе пытацца...
Пакрыўдзіш яго,— ён затоіць горыч
І крыўду сваю будзе доўга помніць.
Як выйсця не знойдзе, тады развяжыць,
Хадзіць будзе зверам, глядзець будзе зверам,
Калоціць яго доўгай хворасці трасца,
А будзе ён мкнуцца і мкнуцца за гора,
За раны свае і за крыўду помсціць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тое, што выюць ваўкі ў лесе,

Тое, што хвоя ў вочы лезе,
Тое, што восень звоніць ключамі,
Такое —
          бывае часта;
А тое, якому гарматы сведкай,
Такое —
          бывае рэдка.

**3**

Лясы пры вялікіх дарогах гарэлі,
Спадалі ў лесе з лясковак паданкі,
У попеле гарачым яны пякліся...
І шэптам полымя поўніўся сполах
Шырокіх вачэй звяроў:

Зубры і ваўкі ад агню звярэлі
І беглі з лясоў за лістоў лістападамі...
І плакалі ветры па рыжым лісе,
Што рана ў пякучым полымі
Спапяліў маладую кроў.

Жыло ў гэтым лесе звяроў багата,
Хадзілі яны па звярыных сцежках,
Дзе стаялі высокія, дужыя сосны.
Пчол даглядалі маладыя медзвядзёнкі
І крыўдзілі дзікіх пчол адвеку...

У кожнага звера была свая хата,
Песціла сонца звярыных дзетак,
Снавалі павукі празрыстыя кроены,
Над возерам чыстым гулялі падзёнкі
Жыццё іх было ад раніцы да вечара.

Стаялі салдаты, дзівіліся доўга:
Чаго гэта лес так гарыць буйна,
Па чыёй гэта вол і рушыліся ясені,
Попел гарачы лавілі азёры,
Прарэзліва крычалі дзікія качкі;

Чаму закідана вуголлем дарога
І неба зрабілася шэрым, брудным?

Выляталі з лясоў языкі ясныя
І лізалі цьмяныя зоры,
Што ад часу гарэлі і гаслі...

І, можа, ім згадкай, а можа, адказам
Загрымелі гарматы, кулямёты засакаталі,
І дзіўны туман папоўз насустрач
(Паволі паўзе ён, а вецер засвішча —
Туман закалоціцца і падымецца вышай).

І гэты туман называлі газам.
Ад яго салдаты на траве спатыкалі смерць.
Ад яго былі вочы азёр атручаны,
Праз яго на палях і ў лясах пусцела,
У салдата гарэла цела.

**4**

Вось ён і дзе, маленькі салдат,
Той, які верыць у заступніка-бога...
Смерць у вачах глытае даль,
Ветры з-пад ног вырываюць дарогу...
Вось ён і дзе...
　　　　　　　Сцежкі гараць...
(Кожны чалавек смерці не жадае.)
З-пад хмар прыляцеў і лопнуў снарад...
У вачах маланкамі цемень сляпая...

Цемень...
　　　Цемень...
　　　　　　　　　Сонца дзе?
Сонца няма...
　　　　　　　Сонца ў крыві?!
Маці!
Маці!
Прынясі свой светлы дзень
Ад лясоў блакітных і чыстых крыніц.
Маці!
　　　Напаследак сыну
Прынясі вады і кудзеры пагладзь...
Будзе рад тваім вачам ён сінім:
Чыстая вачэй тваіх суцішыць гладзь.

...Але маці не пачуе,
                                        не пачуе...
З груганамі цела яго заначуе...
Тое, што выюць ваўкі ў лесе,
Тое, што хвоя ў вочы лезе,
Тое, што восень звоніць ключамі,
Такое —
          бывае часта;
А тое, якому гарматы сведкай,
Такое —
          бывае рэдка...

## *ЧАСТКА ДРУГАЯ*

### ДЗЕСЯЦЬ

**1**

Жыццё іх сумнейшае за лістапад,—
Бязногія, бязрукія, сляпыя,
Ляжалі яны ў лазарэтах і больніцах,
Кульгалі яны па дарогах знаёмых
І цела кіямі сваё падпіралі...
Ляжалі яны на шляхах і вылі пад
Ветрам, пад снегам,
          пад дымам,
          пад пылам.
Ляжалі яны пад канём конніка;
І кожны з іх быў, як апошні зломак,
За ўсё сваё гора, за ўсе свае раны.
Дзе іх збавенне, дзе іхняя радасць,
Ніхто не парадзіў ім, не сказаў...
І хто іх дарог дзяды пажнець,
І хто іх дарог асцё скосіць,
Якія багі дапамогуць ці мошчы?
Хадзілі яны аж да Кіцежа-града,
Стапталі дарогу ў святую Казань,
Хадзілі яны к стараверам у Кержанец,
Паказвалі ўсім свае хворыя косткі,

Расказвалі ўсім пра свае вочы…
Дзе іх збавенне, дзе іхняя радасць,
Ніхто не парадзіў ім, не сказаў…
Хадзіла іх разам дзесяць чалавек —
Дзевяць чалавек — кульгавых калек,
У дзесятага вочы атручаны газам…
Сумавалі разам, весяліліся разам…
Глядзелі разам на сонца заход,
Як рэкі сівым туманам крыюцца,
Як дзікія качкі ляцяць над балотам
І пачынае свой паход
Вецер —
Асіны на бок крывяццца,
І дым ад комінаў кладзецца пад плотам.

…І шмат чаго яшчэ бачылі,
І сталі сябрамі яны…
Шляхі іх кіямі адзначаны,
Што ўзяты яшчэ з вайны.

Доўга хадзілі яны,
Сачылі яны доўга,
Доўга яны слухалі,
Да зямлі прыклаўшы вуха:
Штогод ад вясны да вясны,
Штогод ад восені да восені
Цямнелі ад выбухаў просіні,
Зарывам палала дарога.
І не змаўкалі гарматы —
Чуўся іх гул глухі,
Мерлі на фронце салдаты
Ці йшлі чыкільгаць на шляхі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

…І чулі балоты прэсныя,
І чулі ўсе птахі лясоў,
І чулі азёры і долы,
На вёсках бабулі старыя,
І чулі ўсе травы дзікія
Салдацкую сумную песню,
Паходную песню шляхоў —

І песню салдацкае долі,
І песню салдацкае крыўды,
І песню салдацкай радзімы.

**2**

Праходзілі дні і тыдні,
Яны працавалі ў пушчы,
І жыў на азёрах пошчак...
І рантам над далямі тымі,
Дзе ўсцяж драцяныя пусткі,
Газаў палотны вецер палошча,—
І грукат гарматны сціх,
І конніцы тупат сціх.

Усю працу сваю пакідалі,
Пайшлі на шляхі глядзець,
Каб слухаць шляхі уважліва,
І дзесяць а дно пачулі,
Пачулі такое тады:

Як рыбу з азёр рыбакі ўзнялі
Сцюдзёную, як лядзень,
І чулі, як ціха трава жыве,
Як ціха азёраў дно начуе
І доўга грымяць гарады.

Прыйшоў да іх гэты роскат,
Прыснілася доля шляхоў;
Гарачае сонца вандровак
Паклікала ў новы наход.

Пастукала ў іхнія вокны,
І ім закарцела пайсці
Туды, дзе ад ліўню намоклі
Пяскі і суглінкі пуцін.

**3**

Спакой свой пакінуўшы ў лесе,
На боль забываючы свой,
Ідуць яны цэлы ўжо месяц
І крыўду нясуць за спіной.

І дзевяць з адзінай марай
Сягоння жывуць на зямлі:
Адпомсціць усім генералам,
Што дзень іх крывёй залілі...

І тыдзень ідуць яны пяты,
І пяты на тыдзень дзень...
Былі яны калісь салдаты
І гора не зналі ў хадзе.

Дзесятаму дрэнна і сумна,
Ўсё сніць ён жніво і снапы,
І думае іншыя думы
Дзесяты іх сябра сляпы...

І тыдзень ідуць яны шосты,
І шосты на тыдзень дзень...
Схіляюцца руні на ростані,
І вецер паклоны кладзе.

Ідуць ім насустрач сталкі —
Дзесятаму сняцца сярпы,
І кажа тады астатнім
Дзесяты іх сябра сляпы:

— Я з вамі іду, небарака,
Вачэй жа ў мяне няма,
Які я вам, хлопцы, ваяка,
Цяпер ваяваць не нам...

Сляпым толькі марыць пра жыта,
І лес іх майго не міне,
Мне век застаецца пра.жыць так,
І вы прабачайце мяне.

І дзевяць сказалі:
— Пусцім!
І дзевяць сказалі:
— Ідзі!
Глядзі там нашую пушчу

І хату нашу глядзі!

Адказваў дзесяты астатнім:
— Цяпер ваяваць не нам...
Заплакаў бы я на расстанне,—
Вачэй у мяне няма.
Відаць, не спаткацца нам болей...—
І кію сказаў:
— Вядзі!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І мацаў ён кіем выбоіны,
І слухаў паход дзевяці...
Ідуць яны тыдзень сёмы,
І сёмы на тыдзень дзень...
Не знаюць ні болю, ні стомы,
Няма ім прыпынку нідзе.

А вораг маўчыць іх закляты,
Дзе стан яго, сіла яго?..
Хадзіла іх дзевяць салдатаў
Без песень,
імя
і сцягоў.

**4**

...З нагой ці з рукой кароткай
Не знойдзеш ратунку і лек...
Ішло пакалечаных продкаў
Бяздомнае племя калек.

Дзе гарматы гул громаў сцелюць
І мёртвыя сняць навіну,—
Уздымалася дужае цела
Вайною ісці на вайну...

Сяляне палацы палілі,
І ўсюды руіны ляглі,—
Дзе Бога калекі малілі,
Дзе Бога калекі клялі...

Гаворак было пра іх столькі...
Казалі яшчэ пра калек:
Яны раскідалі лістоўкі
Ля плыні вялікіх рэк.

Вяла іх і доўга і многа
Іх юная вера ў прасцяг...
Яны неслі крыўду на Бога
І новыя песні пра сцяг.

**5**

Не ведаю, не згадаю,
Пад шэпты якіх лістоў
На ўлонні нашага краю
Пралілі яны сваю кроў.

Ці лета было, ці восень,
Ці як рэкі рас л і ў шырыню,
Сціснулі цела іх смерці восці,
І, можа, дуб лісцём страсянуў.

І, можа, тады, калі сонца заходзіць,
Цела іх груганы дзяўблі...
Усялякае бывае ў паходзе,
А яны ў паходзе былі.

Ці лета было, ці восень,
Ці як рэкі раслі ў шырыню,
Сціснулі цела іх смерці восці,
І, можа, дуб лісцём страсянуў.

І могілак іх красаванне
Стаптана нагамі тады...
Шуміць яно сёння аўсамі
Пра іх баявыя гады...

Іх людзі часамі успомняць,
Як поле стрыгуць сярпы...
Ды доўгую гэту аповесць
Раскажа дзесяты, сляпы.
*1930—1931 гг.*

# ХЛАПЦЫ АПОШНЯЙ ВАЙНЫ

**1**

Зноў сэрца маё сілай поўніцца,
Грудзі зайшліся ў жаданым клёкаце;
Нехта знаёмы, знаёмы здалёк ідзе:
Ці дожджыку кропля над заваддзю сіняй,
Ці звонкае вяселле на высокім покуце...
Ці шабельная ў мыльнай пене конніца
З людскімі галовамі на покаце...
Ці звон чмяліны над канюшынай.

Гэта вайна ў дзверы грукоча,
З Захаду сцягамі чужымі калыша,
Лясамі дыша, лясы агнём ліжа...
Міма рачнога, азёрнага плёса
Ідзе вайна, азіраецца скоса,
Трымаецца за сэрца сваё —
Папялішча...
Сваю смерць чуе, паміраць не хоча.

На бот генеральскі навёўшы глянец,
З цяжарам страшэнным ідзе — з юнацкай марай,
Паклаўшы яе, як у торбу, у ранец,
Па дарогах цягнучы невядомых.
Акопы ўяўляй — родным домам,
Дым — вечаровай хмарай,
Гарматы — вясновым громам,
Газы ўслаўляй, як туман лугавы.
Як белае воблака,
Пах калакалушы...
На прыемную гулянку выйшлі вы,
Юнацкія душы.

І плечы хлапцоў-юнакоў струджаны,
І гасне ў вачах кавалачак сінявы.
На звонкія заручыны
Едзеце сёння вы!..
І ў хаце і на выгане
пачастуюць вас,

І выганяць, і выганяць —
У добры час!..
І ногі пераб'юць (не калы, дык танкі),
І на пахмелле не дадуць ні кроплі.

Бачу: кульгаеце,
                    павярнуўшы аглоблі,
З тых заручын, з тае гулянкі.
А ў берагоў пытаюцца рэкі:
— Ці гэта хлопцы ідуць?
— Калекі.

Як вам давесці, што вас ашукалі
Пад дахам траншэй і ваенных пал атак?
Як вы заробіце нядужымі рукамі
На самае малае,
На пах аладак?
Вы пайшлі з родных хатак,
Ад тых,
Хто вас называў дзяцьмі,
Пайшлі ў свет з вачэй сваіх матак
Апошнімі людскімі слязьмі.
З парахавога далёкага дыму
Я вас па сумных вачах пазнаю:
Вас прыгналі страляць
У маю радзіму —
У будучыню сваю.

Укрываліся мы не адным дахам,
Нас паілі рэкі не адны,
Калыхалі калыскі не адны...
Я з маленства іду шляхам
Жыцця,
          а не вайны.

Я чуў,
          каля рэк Беларусі
Ловячы ўзмах вільготных крыл,
Як адным выраем звязалі гусі
І Дняпро, і Ніл.
Я слаў з важаком іх, з іх племем дужым,

Насустрач смерчам пясчаным, бурам,
Блізкую песню і неграм, і індусам,
І нават —
далёкім, далёкім бурам.
Хто вы, ваякі,
З Тэмзы, ці Сены,
Ці адтуль, дзе плюскоча Райн?
З косамі лепш да мяне ішлі б;
Ёсць у мяне лугавое сена,
І зернем звініць камбайн,
І мёдам вее ад ліп.
З вамі на стане лугі пакашу,
Адпачываць з вам! буду ў цяні,
Дарогі ўсе пакажу
Вашае будучыні.
Павешу гамак між сукоў палявых,
Дзе вецер калісьці
Гойдаў калыскі
І зрэбныя торбы продкаў,
Закалышу, як дзяцей сваіх,
Вас,
маіх аднагодкаў.
Мірна, нібы на пчаліны ўзятак,
Дождж прашуміць над сукамі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як мне давесці, што вас ашукалі
Пад дахам траншэй
І ваенных палатак?
І ўся зброя мабілізована,
І ўсе шынелі,
І ўся хлусня.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяжка ўздыхае з лясоў вайна,
Нехта на мове чужой кліча каня.

**2**

Туды, дзе стаіліся па зямлянках
Ашуканых матак ашуканыя дзеці,
Ў зялёных танках

Мы з будучыні едзем.

На голых, спаленых дзялянках
Хвоі хістаюць задымленым веццем.
Едзем... едзем...

Ад руняў рускіх,
Ад бароў беларускіх,
З гор грузінскіх,
З каляін украінскіх.
Едзем.
На тонкіх руках каляін,
Асветленая сіняй фарай,
Ляжыць найвышэйшая з мачт-хваін,
Што ўпала першай ахвярай.
Я кажу табе,
Чужынца салдат,
Хоць, можа, страляў ты ў яе па загаду,
Але з гэтых дат,
з гэтых дат
Я лірычную адкідаю спагаду.
Я знаю, цябе ашукалі,
Салдат,
Ды хвоі ўжо скошаны:
Во яны... во яны...
Мы лічым іх з гэтых маўклівых дат,
Як лічаць забітых воіны.
Табе хлусілі,
Што ў нас не стае
Жалеза,
Каб біць жалеза,
Ты нават не знаеш, што бой настае,
Ад якога лес зямлі зал ежа.
Табе манілі,
але нікому
Не лягчэй ад тае маны:
Зямля зайшлася ад дыму,
Ад грому,
Сярод белага дня туманы, туманы.
Глядзі,
зразае вайна, як пілой,

Усё, што жыло, што расло,
Што сеялі...
Паэт! Ці не сорам пісаць было
Пра сотыя вёрсты, пра каруселі?
Пісаў, прызнаюся,
Пісаў спакойна,
Хоць ехала ў танках, сядзела ў сядле
Ці, кажучы йнакш,
Набліжалася конна
Вайна ў тыя дні да нас... але
Хацеў я,
          патрэба пяром вяла,
Уцехі ласкавай хацеў, як дзеці,
Для ўсіх,
          для сябе праменняў святла,
Што з будучыні свеціць.

**3**

Зямля,
Не турбуйся, аб лесе нашым
І думаў думы, і сніў я сны...
Што, калі перамогуць,
Скажам,
                    яны?
Стане зямля зусім маленькай,
Між іншых зорак прыкметнай ледзь,
Спачатку старой,
А там і старэнькай...
А сонца?
          Яму не вечна гарэць.
Яно ўжо жоўтае.
                    Чулі даўно мы,
Яно зямлю саграває даўно,
Ведаюць нават дзень астраномы,
Калі не будзе цёплым яно.
Не будуць шумець, зелянець лясы
Пад сонца святлом барвовым, суровым.
Хто ў часе халоднай, смяротнай красы
Уславіць зямлю бессмяротным словам?
У жылах кроў ледзянее,
Пурга мяце,

Замерзла да дна ў акіянах вада,
Бескарысна пра гібель пісаць на пергаменце,
Позна думаць аб цёплых планетах,
Шкада!..

Праз сённяшні дым углядаюся з жахам —
І тое далёкае
                    сонца відно:
Быццам міма плыве апошнім шляхам
Чужое,
          барвовае... вось яно!
Яно на зямлю ўжо гатова забыцца,
Дарэмна свяціла
З вайны да вайны.
А людзі? Яшчэ не пакінулі біцца,
Калоцца, рэзацца... вось яны.

Не,
          сонца яшчэ не ў стадыі позняй —
За дымам вайны здалося такім:
Мы прыйшлі сюды,
Каб зрабіць апошняй
І цябе, вайна, і тлум твой, і дым.
Апошнюю брацкую магілу вырыем
І зажывём без хлусні,
Без золата...

А некалі сонца астыне?
Шумлівым выраем
Паляцім з зямлі...
                    як птушкі сёлета.

Праляцім міма сонца і яго пакінем,
І не абпаліць імклівых крыл
Яно,
          што ўкрыла глыбокім інеем
Родныя звёзды —
                    Дняпро і Ніл.
Маладая планета будзе намі абжыта.
Зноў пачуем знаёмы,
Першабытны гром;

Як аб цёплую хвалю, аб ласкавае жыта
Будзе зноў наша ластаўка біць крылом.

Зноў,
уначы, каля сіняга мора,
Быццам каля Чорнага мора, сядзім;
Чыстая камедыя,
Горкая гумора —
З плачам, зямля, на неба глядзім.
Тут мы чытаем тваіх пісьменнікаў,
Вучым дзяцей
Па кнігах тваіх...
А як там табе без бяроз,
Без венікаў,
Без упэўненых крокаў людскіх?
Па табе, па ласкавай радзіме, плачам,
Па сваіх стогадовых,
Неслухмяных дзядах;
На халодных каменнях дыханием гарачым
Засталіся яны саграваць твой шлях.
З нам і разам ляцець да жыцця не хацелі яны.
Не пакінуць цябе
Абавязкам лічылі святым —
На каменнях сядзець,
Засынаць пад мяцелямі...
Слава ім, слава ўнукам... і слава тым,
У каго ў імя мары гэтай і прагі,
І ў імя да жыцця невымоўнай любві
Сёння
крывёй набракаюць боты і крагі,
І сумленныя рукі ў чалавечай крыві.

**4**

Снарадамі кінуты ў неба хвалі рачныя,
Арэшнік, крывёю заліты,
Сціх...
Не патрэбны нікому спагады лірычныя,
Ашчэрыла жэрлы вайна
Без літасці...
Колькі працы яна, колькі сілы смяротнай
выплёўвае,

Колькі кінута ў твар нам і ў сэрцы
Чалавека-гадзін:
Па шаснаццаць у суткі, па шаснаццаць з паловаю
Чалавек працаваў...
а людзей — мільён не адзін.
Скарыстай на карысць і на радасць
Механіку гэту —
Усе сем'і галодныя хлебам азалаціш;
А паэт захацеў бы наведаць другую планету,
Свет не ў жарт адказаў бы паэту:
— Ляці! Заляціш!
Дзесяць едзе танкістаў... і ўсе мы ў сяброўстве
верным
Тых, хто войнамі шчасце скаваў,
Даканаем...
Пераробім у трактар свой танк баявы... і каня ім,
Ім, прасторам жытнёвым,
На працу вернем.
Нас дзесяць.
Мы ў танкавым едзем злучэнні,
Ад гарачых турбот пад каскамі пот.
Перад намі снуюць і злуюцца цені
Ад крылляў, ад вежаў,
ад жэрлаў варожых істот.
Цені ўсюды: на пнях, на вадзе і на дыме,
Мы ўразаем у іх нашы танкі дамы,
Самі сабе
Здаемся не тымі,
А якія, напраўду, мы?
Ці мы сябры? Ці з сяла аднаго?
Нас вайна пазнаёміла,
З розных паселішчаў...
З тых дарог, з-пад тых стрэх,
Застрахованых ад нягод,
Дзе ўначы па вірах мірны месяц пасе ляшчоў.
Нам усё яшчэ пахне не смерцю, а цёплым
снапоўем,
Быццам мы ў хвалях жыта ўсе дні калясім,
Калясім...
Мы нядаўна знаёмыя, а захочам і ўспомнім
Піянерскае вогнішча,

блізкае ўсім.
На прывале жартуючы, як заспяваем «Картошку»,
Зноў загрукае дзяцел, адгукнецца жаўна,
Бліснуць вочы суровыя па-дзіцячаму трошкі,
Здасца нам,
што сябруем здаўна...
Што сябруем даўно,
што ў маленстве ішлі паплавамі,
Закідаючы ногі высока ад зябкай расы:
Калыхаліся дружна ўгары
Вуды з лескамі і паплаўкамі,
Пад азёрнаю раскай у нерат плылі карасі;
Што гулялі ў чырвоных і ногі ў баях натамілі,
Як драўлянымі стрэльбамі
Вызвалялі ад белых сяло...
Людзі мірна аралі тады,
Печы мірна дымілі,
Але рэха вайны грамадзянскай у пушчах жыло.
Яна радасць прынесла,
зямлю аддала яна вёскам,
Слава добрай вайне,
Падтрымаем яе хоць калі!..
Мы был і яе рэхам, яе адгалоскам,
Мы пад сведкамі бітваў лясных,
Пад дубамі,
Ішлі...
Выразалі нажамі з іх цела
Астыўшыя кулі;
А цяпер мы не дзеці, дзяцей нават маем сваіх,
І для іх нашы маткі
Няйначай старыя бабулі,
Непрыкметна і мы дажывём да дзядоў сівых.
Толькі гульні мінулыя з памяці цяжка сцерці,
І драўляныя стрэльбы
Ніяк не даюць спакою.
У імя жыцця не баімся смерці
І смяротнага прагнем бою.

**5**

Цемень, цемень і смерць навакол-навокал,
Нам не страшна цябе пакідаць,

Зямля,
Але хочацца хоць бы адным вокам,
Хоць бы раз зірнуць,—
Што будзе пасля?

Паміраў наш таварыш. Хацелася дужа яму
Бачыць заўтрашні дзень... І ён так гаварыў нам,
Айчына:
«Хто з вас жыць застанецца, аддаю свае вочы
таму —
На будучыню глядзі
І маімі вачыма...»
Паміраў наш таварыш,
Між танкавых трапіўшы кол,
Афіцэрскія боты згубілі свой глянец;
Варожымі трупамі ўслаў наш таварыш дол.
Аж страшна глянуць.
Ён памёр у высокіх асоках,
Расхінуўшы траву,
Наша ўспомніў жыццё
І лічыў, як аглушаных рыб па затоках,
Ён чужынцаў, ці шмат іх лягло ў трысцё?
На дарозе да шчасця,
Як ніколі,
Завозна:
Вось паходная кухня на адным калясе,
Ёй спяшацца не трэба,
Карміць адступіўшых позна...
Кожны з нас кроплю шчасця ўсё ўперад і ўперад
вязе.
Цяжка везці яго, цела чуе ўжо стому,
Колькі танкаў каштуе яно,
Чалавечых ахвяр;
Мы вязём яго людзям і нават
Салдату тому,
Што таварышу нашаму стрэліў з гарматы у твар.
Сёння цябе мы застрэлім, салдат неразумны,
Але шчасця дзяцей тваіх смерцю тваёй не
заплямім,
Да зямлі прыпадзеш ні вясёлы, ні сумны,
Не патрэбны ні танкам,

Ні нізкім аэрапланам.
Сэрцы нашы суровай любоўю адзначаны,
Мы ўзнялі яе чыстай з бруду, з крыві
І нясём праз вайну, і не можам іначай мы.
І застрэлім цябе... у імя любві.
Дзеці, што ім?
Яны зразумеюць самі...
І, гуляючы некалі ў сённяшні бой —
Будуць з намі
І не будуць з табой.
З жал ем успомняць, што бацька б'ецца,
Няхай сабе ў гульнях,
Але супроць іх,
Тройчы яшчэ давядзецца
Табе паміраць ад дзяцей сваіх.
Страшней, чым нам, паміраць табе ў полі,
Жыў на свеце ты мала і жыць яшчэ доўга гатоў;
Знаем, салдат,
                    непрыемна даволі
Гінуць у дваццаць пяць гадоў.
Будучыні аніяк не зазнаеш,
А мы ў ёй з маленства жылі,
Салдат...
Мы аднагодкі,
                    але тут паміраеш
Ты ў дваццаць пяць,
А мы ў пяцьдзесят.
А век чалавечы, папраўдзе, не вечны,
Спакойна засну на дзён сваіх схіле,
Пражыўшы паўвека,
Лягу знявечаны
На грудзі таварышу ў брацкай магіле...
Калі паміраць давядзецца з часам,
Шчыльнымі ляжам у ёй радамі,
Бо нам яшчэ трэба
І мокнуць разам,
І між кветак шумець
                    блакітнымі братамі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Памірае таварыш другі.

Праз смяротную стому
Сочыць ён ціхім вокам,
Як танкі імчацца міма,
І шэпча ён некаму з нас,
а можа, нікому:
«Жыць застанешся... глядзі і маімі вачыма».
Гул, калатніна... і трэці, і пяты, і восьмы
Танкі падбіты за лесам, за садам,
У іх паміраюць таварышы нашы... і вось мы
Удвух засталіся —
Дзевяты з дзесятым.
Але гульні мінулыя памяць не хоча сцерці,
І драўляныя стрэльбы
Не даюць спакою.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..

У імя жыцця не баімся смерці
І апошняга
Прагнем бою.
Нас вайна пазнаёміла,
З першых дзён мы прайшлі яе разам,
Кожны з нас сёння тысячу танкаў
У бойку павёў;
На смяротныя газы
Мы тройчы адкажам газам...
Пне вораг,
Яснеюць абрысы наступных гадоў.
Як мы любім яго, новы дзень камунізма,
Што прыйдзе,
Дарагія юнацкія дні
Мы дарэшты яму аддалі,
Мы атруцім пушчы,
Каб ворагі слеплі ў іпрыце,
Ручаі і крыніцы, каб смерць з іх салдаты пілі.
Кроплю зелля б такога для крупаўскіх
Прагных вантробаў,
Хай бы сам папаенчыў, як енчыць атручаны
звер,
Раздзірае зямлю,
Да лясных прыпадаючы тропаў...
Але сам не такі, ён сабраў і прыгнаў

Да акопаў
Ашуканых салдат... і страляем у іх мы цяпер.
Што ж? Няхай паспытаюць
З нянавісці літыя кулі,
Трэба так іх вучыць, каб усё зразумелі
без слоў,
Каб ва ўласным разгроме чаканую радасць адчулі,
Каб штыкі павярнулі
Супроць афіцэрскіх штыкоў!

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Ляцяць дадому з вайны знішчальнікі —
Першае, другое,
Трэцяе звяно...
Стаўце на стол закіпеўшыя чайнікі
І зашыпеўшае віно.
Пойдуць яны да ракі пад вечар,
Будуць пад сіняй ныраць вадой,
На цёплай зямлі ляжаць,
Як на печы,
І толькі ў снах яшчэ бачыць бой.

Пачнецца людзям жыццё праўдзівае,
І будуць яны пра вайну ўспамінаць,
Як пра нешта далёкае
І пра дзіўнае,
Якому зямлі больш не замінаць.
І застанецца вайна тая ў казках,—
Як дзесяць хлапцоў ішлі ў яе дым
У вопратках сініх,
У цёмных касках
І як у жывых застаўся адзін.
Чым новыя вёсны сустрэў ён
І леты,
Як сонца свяціла яму з сінявы?
І што ён убачыў тады?
Пра гэта
Раскажа дзесяты, жывы.

*1940 г.*

## *СЦЯГ БРЫГАДЫ*

**1**

Як ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны,
Родны Мінск я пакінуў, нямецкай бамбёжкаю гнаны.
Міма дрэў, міма дрэў
Усю ноч я ішоў, — за спіною
Родны горад гарэў,
І не ведала сэрца спакою.
Я здарожыўся, сеў каля хатак,
Чакаючы сонейка,
У блакнот свой заношу пачатак
Вандроўнага дзённіка,
Дзень учорашні, вечар,
Ноч і сённяшні досвітак шэры,
Усе ростані і сустрэчы
Пішу на паперы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Што сказалі мне рэчы,**
**Калі я выходзіў з кватэры?**

Рэчы хатнія ўсе
Аглядаў я з маўклівай тугою,
Бо прасілі мяне па чарзе,
Каб забраў іх з сабою.
А ні лыжкі, ні міскі
Застацца ў кватэры не хочуць,
Не згаджаюцца кніжкі,
Каб вораг паліў іх на плошчы.
Конь майстэрскай работы,
З кардону на колах драўляных,
Мне сказаў: —На каго ты
Пакідаеш нас, занядбаных?
Забяры, гаспадар, бо я тут
Усё роўна загіну...
Хіба я не вазіў з кута ў кут,
З кута ў кут твайго сына?
Як вайна пачалася, ты быў, гаспадар, на раёне
І адтуль да сям'і ў родны горад прыехаў ты сёння.

Гаспадыня ж учора
З малымі пайшла да вакзала,
А мяне яна з гора
На поезд з сабою не ўзяла.
Не хацеў адпусціць мяне сын,
Пакідаючы хату,
Не згаджаўся, каб жыў я адзін,
Каб я жыў без дагляду.
«Мы паедзем да бацькі ў раён,
Бацька новага купіць, другога», —
Гаспадыня сказала.
І ён
Развітаўся са мной ля парога.
Не купляй, гаспадар, яму новага, пойдзем мы разам
Па дарозе да сына з табою, а стомішся часам,
Хоць і цяжка, цябе
Падвязу я ад шчырай спагады,
Верна сыну служыў і табе
Дагадзіць буду рады...—
Лялька гэтак сказала:
— І я не пайшла да вакзала...
Цягам доўгіх начэй,
Не закрыўшы вачэй,
Хіба мала
Я дачкі тваёй сон пільнавала,
Калі яна спала?..
Гаспадар, ты падай мне руку
І не стой на парозе,
І вядзі, як дачку,
У натоўпе людскім па дарозе.
Дзецям ногі баляць, іх дарога цяжкая стамляе,
Я ж слухмяна пайду за табою, бо я нежывая.
Дзеці просяць то есці, то піць,
Пыл сухі ім раты забівае,
Я ж не буду прасіць,
Бо я лялька, бо я нежывая.
Самалёты ляцяць адусюль,
Дзецям смерць пагражае,
Не баюся я куль,
Не баюся, бо я ж нежывая...
Адпачыць па дарозе захочаш,

Адыйдземся ў пушчу,
Буду сон твой ахоўваць ахвоча,
Вачэй не заплюшчу. —

Усе рэчы агледзеў патроху,
І ўзяў я ў дарогу
Толькі лыжку,
Па праву
Запіхнуўшы яе за халяву,
Хоць яна мне і муліцца,
Ды неабходна ў паходзе...

**Чым сустрэла мяне мая вуліца,**
**Як я выходзіў?**

Мы жылі з ёй у згодзе, былі з ёй амаль што сябрамі,
Шырыню, даўжыню яе ўласнымі змерыў нагамі.
Крокі ўчуўшы мае, адгукалася рэхам знаёма,
Запрашаючы ў восьмы пад'езд камунальнага дома.

Я глядзеў, як акно
Мне прыемным агеньчыкам свеціць,
І было мне відно,
Як лажыліся спаць мае дзеці.
А цяпер яна стала
Вузейшай, даўжэйшай на многа,
Як у часе абвала
У горнай цясніне дарога.
Не кватэр аганькі
Мірна ў вокнах гарэць, як калісьці,
А агню языкі
Ліжуць ліпы салодкае лісце.
І пазнаць я не мог
Роднай вуліцы, ліп і каштанаў;
Рэха тысячы ног
Аглушыла мяне нечакана,
Падхапіла мяне, маё гора,
Жаданні, трывогі
І нанесла за горад
Па бітаму шклу мае ногі.
Як у час навальніцы

Ад дрэва лісток адарваны,
Пакідаў я сталіцу,
Пажарам бязлітасным гнаны.
Прывыкаць да паходаў я
Пачынаю, —
Іх будзе нямала.
Доўга вуліца родная
Шлях мне ўначы асвятляла.
І пры гэтым святле
Я запісваю з болем у сэрцы
Час дакладны, але,
Час яе незабыўнае смерці.
Людзям тым прысвячаю радкі,
Невядомым імёнам,
Што на бруку ляжаць без рукі,
Без жыцця над каштанам і клёнам,

Я хачу, каб вякі
Чорных асаў спалілі праклёнам,
Каб спалілі забойцу таго,
Яго сына і ўнука,
Хто з-пад крылля свайго
Бомбу першую кінуў на брук наш.
Хай загіне ўвесь род
І таго, хто апошнюю кіне,
Хай загіне ўвесь род, увесь зброд,
У пакутах загіне!

Ад імя жыхароў.
Наша вуліца Нова-Маскоўская,
Гавару, што з усімі пайшоў
У Чырвонае войска я.
Хоць і сцёрта ты. бачу,
Ды памяць твая не сатрэцца,
Бо грукоча твой попел гарачы
Усім нам у сэрца.
Я табе абяцаю і попелам родным клянуся,
Што з дарогі ўначы не саб'юся,
Вярнуся, вярнуся!..

**2**

Родны Мінск я пакінуў,
Пажарам і бомбамі гнаны.
Хто сказаў, што мой горад загінуў,
Што ён зруйнаваны?

Я не веру ні зарыву ўночы,
Ні воблакам дыму,
Бо чаму, як заплюшчу я вочы,
Стаіць прад вачыма

Мінск жывы, не нябожчык, —
І звоняць трамваі на плошчах,
Трупаў там я не бачу,
Не чую дзіцячага плачу?..

Што мяне палявыя дарогі
Вядуць, — я не веру,
Што па іх мае босыя ногі
Ідуць, — я не веру.

Я не веру нагам і дарогам
Бясконцым, бясконцым,
Што вядуць нас і полем, і логам
Пад чэрвеньскім сонцам.

Я не веру, што гэта мінчане,
Што гэта мінчанам
Малако прапануюць сяляне
І ў хатах частуюць іх чаем.

З самалётаў не зводжу вачэй
І не веру, — няўжо самалёты? —
Проста з неба ляцяць на дзяцей,
Сеюць смерць кулямёты.

Хіба можна паверыць, калі
Сэрца рвецца на часці?
Хіба дзеці, што полем ішлі,
Рэгулярныя часці?..

Што мяне ад раз'юшаных куль
Засланяе бяроза старая, —
Я не веру.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вайсковы патруль
Дакументы мае правярае.

З жыта выйшаў патрульны:—Адкуль?
У мяне ён пытае, —
З Мінска?
— З Мінска... застацца
І мне давялося без дома.
— А куды?
— Прызывацца.
— У гэта мястэчка?
— Вядома.
— А чаму табе, браце,
У Мінскім ваенкамаце
Не прызвацца было?..
— Разбамбілі. —
Мяне прапусцілі.
Мне акопы відны,
Бліндажы па чатыры накаты.
Я спяшаюся.
Вось і яны —
Местачковыя хаты.
Апусцелі двары,
Вокны насцеж, закрэслены шыбы,
З хат глядзяць жыхары.
Да дарог прывыкаючы нібы.
Шмат людзей на дарозе.
Глядзяць местачкоўцы ў трывозе.
Хата. Хата.
Яшчэ адна хата.
Ганак ваенкамата.

— Ваша прозвішча?
— Рыбка.
— Завуць як?
— Завуся Алесем я.

Не ўпраўляўся я — шыбка
Запісваў таварыш...
— Прафесія?

Стаў я іншым, суровым,
Стаў новым ад ног да пілоткі,
Чалавекам вайсковым, —
Былой не пазнаеш паходкі.

Я з усіх сваіх рэчаў былых
Асабістых, адзіных,
Для паходаў узяў баявых
Лыжку, боты, гадзіннік.

Лыжка трэба байцу на вайне
Для баршчу і для кашы,
Боты ўсюды спатрэбяцца мне —
І ў баях і на маршы.

А гадзіннік? Шчаслівы яго
Кіне так, без увагі,
Бо заўсёды ад шчасця свайго
Ён п'яны, як ад брагі.

Я ж гадзіннік з сабой захапіў,
Час па ім
Назіраю,
Бо шчаслівўцам ніколі не быў,
Быць такім
Не жадаю.

Не хачу сабе долі такой
У часы, калі гора
Разлілося слязьмі і крывёй
Скрозь ад мора да мора.

Я прайду з табой многа дарог,
Мой гадзіннік, мой браце,
І я ўбачу часы перамог
На тваім цыферблаце!

Нам гарматы ўжо чутны.
І рэха іх ловіць гушчар.
Мы ідзем.
Выклікае Зарудны —
Палкавы камісар.

У той дзень ён паставіў мяне
Ля брыгаднага сцягу,
Каб ахоўваў той сцяг
На вайне
Я, не знаючы страху.

**3**

Фронт даўно ўжо праходзіць за намі
Далёка на ўсходзе,
Мы-ж на месцы стаім на тым самым,
Стаім ды і годзе.

Аніякай дарогі
На ўсход і на захад няма нам,
Мы ваюем адны без падмогі,
Акружаным станам.

Нам няма як паветрам ці сушай
Падмогу падкінуць,
І павінны прабіцца мы мужна
Ці мужна загінуць.

Асядлала брыгада шашу
І засела ў мястэчку...
Хоць хацеў-бы я, не апішу
Бой за ўзгорак, за рэчку.

Не апішаш, бо слоў будзе мала
Для гэткага бою, —
Як бамбіць налятала
Па сем самалётаў на хвою;

Як радзелі рады, роты нашы, палкі і атрады;
Як не стала начштаба, а з ім камандзіра брыгады;

Як салют над магілай
Над іхняй далі мы магутны;
Як пасля нашай сілай
Камандваў Зарудны;
Як ішлі, як касілі нас кулі,
А мы іх не чулі;
Як кальца нам прарваць не ўдалося,
Адступіць давялося.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усяго не апішаш, бо слоў
Для ўсяго будзе мала,
Як патронаў у нашых байцоў,
Як снарадаў не стала.

Вораг лезе і лезе, — лезе
У брані, у жалезе,
Перамогу ён чуе;
Каля сцяга стаю і гляджу я.
Чым фашыстаў стрымаць?
Людзі гінуць і гінуць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я не знаю, ці варта пісаць
У такую хвіліну?
Час прыйшоў...

**Трэба сцяг ратаваць,**
**Сцяг на глум і на здзек не пакіну.**

З дрэўка сцяг я зрываю,
На вуліцу выбягаю.
Ціха стала на вуліцы.
Ціха.
Што за ліха?
Кулямётчык забіты ляжыць
За сваім кулямётам.
Ён як быццам пытаецца: хто там
Па тратуару бяжыць?
Да яго падбягаю,
Ён чэсна стаяў, да канца:
Кулямётная лента... пустая,

Апошняй была у байца.
— Сцяг выносіш? Нясі... —
Кажа мне яго позірк упарты: —
Чэсць забітых усіх
Ты выносіш,
Мы гэтага варты. —
Я бягу. Скаланулася хата —
Гэта нашая ў садзе гармата.
Мае ногі нясуць мяне ў сад.
Не магу іх стрымаць я.
Чую стрэл: пасылае снарад
Танк нямецкі па нашай гармаце.
Кулі свішчуць. Снарад праляцеў.
Новы выбух мне чутны.
Падбягаю:
Ляжыць каля дрэў
У баку ад гарматы... Зарудны!
Ён ляжыць у крыві, нерухомы,
Пад ціхаю ліпаю.
Я крычу, як глухому,
Крычу яму, клікаю, клікаю,
Я крануў яго лёгка, —
Ускрыкнуў, варушыць рукою.
Ад яго недалёка
Наводчык засыпан зямлёю.
І яго я трывожу. Наводчык
Зямлю атрасае,
Устае, праціраючы вочы.
— Ты хто?—ён пытае.
— Свой, не бачыш?..
У пары
Лягчэйшай нам будзе дарога.
На маім шынялі камісара
Нясем палкавога.
Мы ідзем непрыкметныя —
Абступіла з бакоў канаплянне.
Доўга помніцца будзе мне гэтае
Чорнае ранне
І халодная сцежка мая.

Мы спыніліся ля ручая.

Ён праз поле бяжыць у лазе,
У кустах, у бярозах.
Што рабіць нам? Гляджу я ў тузе
На дарогі, абозы
І на войска, што едзе, ідзе
Па дарогах, і выйсця няма нам.
Поле нас не схавае ў бядзе,
Бо яно узарана...

Што-ж, прымай нас, ручай,
І вядзі па вадзе нас далёка,
І кустамі з бакоў засланяй
Ад нямецкага вока.

Камісара нясем мы, і ты
Так зрабі, каб ён выжыў,
Каб гусцейшымі сталі кусты,
Каб раслі яны вышай.

Мы нясем яго на шынялі,
Ты спрыяй нам, дзе можна,
Ты варожыя патрулі
Абмінай, абыходзь асцярожна.

Сцяг брыгады нясу я, ручай,
Што памёрла сягоння, —
Ты вядзі нас у пушчу, хавай
Ад бяды, ад пагоні.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Меле жвір і гаворку вядзе,
Не спыняе работы
Бесклапотны ручай.
Па вадзе
Ціха хлюпаюць боты.

Не відны за сцяною чаротаў,
За ранішняй парай
Дзве спіны, і дзве каскі, і ботаў
Дзве роўныя пары.
Горка ім, людзям тым!

І адзін з іх не верыць зусім,
Як не вераць дарослыя казкам,
Што яго гэта боты і каска,
Што ўцякае з мястэчка свайго
І не дасць сабе рады,
Што за пазухай у яго
Сцяг ягонай брыгады,
Што той сцяг ён з сябрамі нясе
І што мала іх, мала,
Што забіты таварышы ўсе,
Што брыгады не стала.
Хто сказаў? Ён паверыць не хоча
У словы такія,
Бо чаму, як заплюшчыць ён вочы,
Стаяць, як жывыя,
Маладыя, суровыя,
Гарадскія, вясковыя
Дзецюкі... баявая сям'я?

Чалавек гэты — я.
Так, не веру, не верыцца мне
Ні вадзе, ні чаротаў сцяне,
Ні таму, што ручай безназоўны
Да бору прывёў нас.

**Безназоўны ручай нас прывёў**
**У сасновую цішу.**

Мы выходзім з яго туманоў,
Узыходзім на ўзвышша.
Камісар у прытомнасць прыйшоў.
— Выжыў, — ціха сцвярджаю я, —
Выжыў...

Перавязваем рану яшчэ раз,
Паклаўшы на верас.
Каб пазбыўся ён смагі,
Піць даю яму з флягі.

Мы гадаць тут не будзем,
Быў рады ён нам ці не рады?

Ці пазнаў ён, што мы — гэта людзі
З ягонай брыгады?

У вачах не знайшоў я адказу,
Ён закрыў іх адразу,
Ён закрыў іх, як быццам
Зноў хацеў і заснуць, і забыцца.

У вячыстым спакоі
Шумелі і сосны, і хвоі,
Не свісцелі варожыя кулі,
Мы таксама заснулі.

**4**

Жыў ляснік са сваёй лесьнічыхай
Каля завадзі ціхай,
Каля возера ў пушчы глыбокай
Ад вёсак далёка.

З пушчы гэтай, вядома,
З лесьніковага дома,
Ёсць дарогі ў паселішчы тыя,
Дарогі лясныя.

Зараслі яны з часам імхамі,
Травою,
Грыбамі, —
Карыстаўся ляснік імі зрэдку
І ўзімку, і ўлетку.

Больш за ўсё ў кірмашовыя дні
Праязджаў ён па іх на кані,
А па справах службовых, прыватных
Па неадкладных
Карыстаўся дарогай другою —
Азёрнай вадою.

Жыў ляснік са сваёй лесьнічыхай
Каля завадзі ціхай.
Камісара да іхняга ганку
Мы прынеслі на ранку.

Для яго папытаўся вады я, —
У нас яна выйшла,
І бярозавіку гаспадыня
Падала нам увішна:
— Піце, родныя, піце,
Таварыша ў хату нясіце.—

Вострых крс восем штук
Лесніксва хавае застрэшша.
Хіба ён для сваёй пары рук
Косы тыя развешваў?

Мы траву каля возера косім
З леснікам, не пытаем...
Пяць сыноў альбо восем
Было ў лесніка — мы не знаем
І не станем пытацца ў яго,
Бо не бачым з іх ні аднаго,
Бо ці прыйдуць з вайны
Лесніковы сыны,
Мы не знаем, —
Таму не пытаем.

Бачыць нашы ляснік мазалі,
Твары нашыя ў поце,
І ён знае: на іншай былі
Увесь час мы рабоце.
Моўчкі ён за касою ідзе.
Свішчуць косы стальныя.

Працавалі мы дзе
І займалі пасады якія?..
Ад яго мы пытанняў такіх
Не пачуем,
Знае ён: на пасадах былых
Мы цяпер не працуем.

Нас азёрныя вабілі далі,
Зязюлі ўвесь час кукавалі,
Быццам дрэвы лічылі, лічылі,
Камісара лячылі.

З камісарам у нас
Пры сустрэчах маўклівая змова:
Аб брыгадзе ўвесь час
Між сабой не гаворым ні слова.

Так змаўкае сям'я
Аб памершым ці сыне, ці браце,
Дарагое імя
Доўга не вымаўляецца ў хаце.

А навошта трывожыць ім боль, —
Родны іх пахаваны, —
Сыпаць горкую соль
Успамінаў на свежыя раны?

Гонім прэч мы ўспамін,
Нежаданы ўспамін, не чаканы,
Прэч, бо ў нас не адзін,
Не адзін чалавек пахаваны...

Толькі лішніх трывог
Не пазбылася наша сям'я ўся, —
Утрымацца Зарудны не мог
І пра сцяг запытаўся:
Сцяг я вынес ці не?
— Так, я вынес... яго берагу я.
— Пакажы.
Што рабіць было мне?
Паказаў яму сцяг... І шкадую.

Перад ім разгарнулі мы сцяг,
Яркі, горды, і ў горы
Патрымаў ён яго на руках, —
Хоць слабы быў і хворы,
І заплакаць гатоў, ды ад слёз
Утрымаўся, прыўзняўся з пасцелі
І сказаў мне ледзь чутна:
— Вынось
Сцяг брыгады... —
Мы моўчкі сядзелі.
Ссунуў чорныя бровы,

Суровыя бліснулі вочы:
— Я на вецер, — адрэзаў ён, — словы
Кідаць не ахвочы...
У дарогу збірайцеся, строгі
Аддаю вам загад. —

Усю хату падняў ён на ногі;
Гаспадыня з шуфляд
Дастае нам дарожныя рэчы,
Нібыта матуля.

Прымяраю, ці ўзлезе на плечы
Ватоўка, кашуля.
Мусіць, сына гарнітур рабочы
Дае мне старая...
А куды мы ідзем сярод ночы,
Яна не пытае.
А чые гэта рэчы, чые,
Гаспадыня Праскоўя?
Хто насіў? Не спытаўся ў яе,
Не спытаў пра сыноў я.

Я спіною да лямпы стаю
Зноў у штацкім адзенні,
На падлозе я не пазнаю
Свайго ўласнага ценю.
Дакументы былыя схаваны
У адзежы вясковай.
Сцяг брыгады зашыты старанна
У ватоўцы.
Ісці мы гатовы.

Чутны стогны Заруднага,
Яго кідае ў холад і ў жар.
«Як пакінеце тут яго? —
Ціха звініць самавар. —
Гэта вашыя зборы
Яго даканалі зусім»...
Раніцой яшчэ горай
Заруднаму стала.
Сядзім

Моўчкі мы за сталом.
Гаспадыня частуе нас чаем.
Дзень ужо за акном.
Ворчык рвецца пайсці.
— Пачакаем...

Дні міналі, мінулі.
Адкукавалі зязюлі.
Мы ў смаляныя лодкі сядалі,
Нас клікалі далі.
Сэрца вабіла возера
Даллю ружовай і сіняй.
Вечар быў.
Перавозілі
Нас гаспадар з гаспадыняй.
Праплывалі лясы, паплавы —
Берагоў панарама.
Камісар палкавы
З намі ехаў таксама.
Мы яго пачакалі.
Ён гэтаму рады.
Мы ў згодзе.
Вось і лодкі прысталі.
На бераг усе мы выходзім.
У суровай цішы
Абняла па чарзе нас Праскоўя:
— Праважаю вас, таварышы,
Нібы родных сыноў я...
— Кінь ты плакаць, старая, —
Няёмка, відаць, лесніку,
А ў самога скупая
Выбягае сляза на шчаку.
Развіталіся з намі.
Пайшлі.
Селі ў лодкі пустыя.
Праз кусты і палі
Сцежкі нас павялі
Палявыя.

**5**

Месяц сцежку ў дубняк

Залівае халодным праменнем;
Не магу аніяк
Я з уласным асвойтацца ценем.
Недаверліва сам на сябе
Паглядаю я збоку.
Адвыкаць мне патрэбна цяпер
Ад вайсковага кроку.
Крокі полем і лесам
Друкую я пад псеўданімам.
Быў я Рыбкай Алесем,
А стаў—Палыном Нікадзімам.
Так, цяпер я—Палын,
А таварыш мой — Ворчык Мікіта,
А Зарудны — Смірноў. Не адзін
Я іду каля жыта.

Пакасілі яго кулямёты,
Усе пакасілі,
А тупыя фашысцкія боты
Яго малацілі.

Танкі гусеніц жорнамі
Жыта пасля памалолі,
Коні потныя, чорныя
Хлеб замясілі на полі.

Кроў была ім дражджамі,
Палілі агнём і жалезам,
І ляжыць камянямі
Хлеб з пякарань фашысцкіх за лесам,

На дарозе ляжыць каравай,
Як на белым абрусе,
Хлеб дармовы, бяры і кусай,—
Можа з гора і ўкусіш.

Трох нас полем ішло,
Гурт рашучы, хаця невялікі.
Уваходзім мы смела ў сяло,
Чуем гоман і крыкі,
З вокнаў шлях залівае святло,

Чутны гукі музыкі.
Дакументы ў кішэні ляжаць,
Не баімся нічога,
Сведчыць подпіс і сведчыць пячаць,
Што ідзем мы з астрога,
А захочуць арыштаваць, —
Немалыя мы, дзякуй богу...
Мы распытваем каля ганку
Аб вяселлі сялянку:
Ладзіць гэта вяселле Мядзведзкі —
Прыслугач нямецкі.
Ён судзіўся калісь за падпал
Птушкаводчае фермы.
Стаў ён старастам, хату прыдбаў
І балюе цяпер ён...
За Мядзведзкага замуж ідзе
Пад пагрозай дзяўчына,
Бо бацькі яе ў лютай бядзе,
Сын — бядзе той прычына.
Камуніст ён.
Мядзведзкі бацькам
Пагражае даносам.
Замуж мусіць пайсці іх дачка
Пад смяротнай пагрозай.
Б'ецца з ворагам сын-комуніст —
Што ў чырвоным войску.

На вяселлі іграць гарманіст
Не згадзіўся, і вёска
Аб'явіла таксама байкот —
Пуста ў хаце,
Ад бацькоў адвярнуўся народ,
Ад сватоў і ад сваццяў.
— Мы, — гаворыць кабета, — стаім
і глядзім, бо цікава
Нам даведацца, чым
Гэта скончыцца справа. —

Мы заходзім у хату. Гасцей
Мы вітаем з парога.
Сам Мядзведзкі ідзе да дзвярэй.

— Што за людзі?
— З астрога.
— Калі ласка, — крычыць нам, — сюды,
Да стала запрашае, —
За здароўе, — крычыць, — маладых. —
Чаркі нам налівае.
— Будзем піць па парадку
За здароўе нявесты тваёй,
За здароўе спачатку...
— Маладой!..
— Маладой!..

Мы на твар маладое глядзім:
Не відно ні крывінкі,
Быццам тут не вяселле зусім,
А памінкі...

Тут па струнах скрыпач
Водзіць светлым смычком пад прымусам,
Не «Лявоніха» сцелецца — плач
Над вясельным абрусам.

Гэта што за музыка такі,
Што за скрыпка такая?
Для гасцей на вяселлі дачкі
Родны бацька іграе.

Што-ж, музыка, твой смык
Ходзіць сёння няўдала і вяла?
Ці іграць ты, музыка, адвык,
А ці выпіў ты мала?

Ці хаваеш дачку —
Ад галошанняў струны аглохлі,
Ці на светлым смычку
твае слёзы яшчэ не засохлі?

Кінь ты, браце,
Пілікаць у хаце
Нямецкага зяця,
Павядзі смычком басавіта,—

Скача Ворчык Мікіта!
Ён скідае ватоўку, зірні,
Скача, як на вяселлі,
Скача так, як у лепшыя дні
Па ўсіх вёсках умелі.
Скача, можа, за сотню ног,
Плешча гулка ў далоні.
Людзі з ганка ідуць .на парог —
Шкода, што без гармоні!
І дзяўчаты становяцца ў кут,
Падпяваючы шчыра,
Нібы ўсе яны тут
На вяселлі свайго брыгадзіра.
Нібы ботаў фашысцкіх сяло
Аніколі не чула,
Быццам сонца ўзышло,
Ноч мінула, мінула...
Кліча ранак і жней і сярпы
На прастор свой бясконцы
Жаць прастор залаты —
Жыта колеру сонца.
Зноў вясёла звіняць ручаі;
Глушыць радасным крыкам
Перапёлка лугі і гаі,
Ці ты чуеш, музыка?

Рад Мядзведзкі,
Хоць п'яны,
Але ўсхваляваны —
Весялосці паўнюткая хата,
Мы ва ўсім вінаваты.
— Так і быць!—абяцае ён нам
Паліцэйскіх пасады.
— Па рукам? — ён крычыць,
— Па рукам.
— Рады службе?—пытаецца.
— Рады.
І выходзіць на хату ён:
— П'ю
Я за жонку сваю!
А другую чарку

За сваю гаспадарку,
За гасцей застолле,
За ўласнае поле,
Каб грэчка цвіла,
Каб рэчка цякла,
Каб жыта над ёю
Вілося трубою... —

І сціскае ён кулакі,
І малоціць у грудзі:
— Салаўкі, — ён крычыць, — Салаўкі
Мяне вывелі ў людзі!.
Ферму я падпаліў? Падпаліў.
Прызнаюся вам, людзі.
Пеўні тыя, што з дымам пусціў,
Мяне вывелі ў людзі! —

І выходзіць на хату Смірноў,
Наш таварыш Зарудны:
— Ты, — гаворыць, — не ў людзі пайшоў,
А ў Іуды...
Табе ўродзіць зямля камяні,
А не жыта — у жніўныя дні.
П'ю я чарку за маладую
І не шкадую,
П'ю другую чарку ізноў я
За яе здароўе,
За здароўе бацькоў,
За іх сына, што ў войска пайшоў,
П'ю і трэцюю чарку
За кулю для твайго карку! —
Грымнуў стрэл па Іудзе,
Якога і мы не чакалі.
Не Зарудны страляў.
Што за людзі
З натоўпу стралялі?
Што за людзі? Мы з хаты выходзім,
Не бачым нікога.
Мы спяшаемся. Неба на ўсходзе
Ружавее. Дарога
Выйшла з вёскі. Хапіўся Мікіта:

На вяселлі ватоўка забыта.
— Добра, — кажа ён, — што нічога
У ватоўцы маёй не зашыта. —
Мы ідзем. Пачынаецца жыта.

**6**

Нас прывыклі перадаваць,
Пад дзятлоў перастукі,
Паплавы з топкай гаць на гаць
І дубам з рук у рукі.

Я спіною да сонца стаю,
Дзень канчаецца ясны.
Я таксама прывык: пазнаю
Цень даўгі, цень уласны.

Не адзін я, прывыклі мы ўсе
Па вадзе хадзіць, на расе,
Да даўгіх і кароткіх ценяў
І да розных здарэнняў.

**Так мы трапілі да Лізаветы —**
**Вясёлай кабеты.**

Сярод поля стаіць, у баку
Ад бальшаку,
Лізавеціна хата.
Уваходзім.
Гасцям яна рада.
Лізавета ўсміхаецца міла.
Да стала запрасіла:
— Калі ласка!
Мы пілі і елі,
Пасцяліла ўсім нам пасцелі:
Спіць у хаце Смірноў — на пярыне,
Сплю я ў пуні — на канюшыне,
А Мікіта Ворчык — у клеці.
Колькі клопатаў Лізавеце!
Па драбінах на сена лезу,
Трапіў нібы на дачу.
Узыходзіць месяц з-за лесу, —

Я праз шчыліну бачу.
Спаць уклаўся,
Ватоўкай накрыты.
Сцяг брыгады ў яе зашыты.
Я яго берагу, хаваю...
Засынаю...
Ці пачуў, ці здалося мне:
Зарыпелі вароты.
Ці пачуў, ці здалося ў сне,
Што шуміць канюшына?
Хто тут?..
Прачынаюся:— Хто гэта?
— Гэта...
Ты не спіш? Гэта я, Лізавета.
Я і ў хаце была — не спіцца,
Я і ў клець зайшла —не ляжыцца,
І сюды я прыйшла — удавіца,
Дазволь прымасціцца.
— Калі ласка, — кажу Лізавеце.
— А чаго вам бадзяцца па свеце?
Лізавета ў мяне пытае, —
Ты зірні, раскоша якая:
Я жыву асобна,
Аднаасобна,
Ці не люба, не міла?
Луг сама пакасіла.
Ці працую я мала?
Сёння жыта дажала.
Заставайся ў мяне, — гаворыць, —
Будзе люба нам жыць і ў горы,
Будуць ціха свяціць нам зоры,
Залатыя месяца рожкі...
Ні вайны табе, ні бамбёжкі.
Застанешся?
— Пайду.
— Да Урала
Дакацілася немцаў навала.
Ты падумай...
— Што ты сказала?
— Немцы ўжо дайшлі да Урала, —
Так іх радыё перадавала.

Шлях далёкі, ці хопіць сілы
Папялішчы лічыць, магілы
Па дарозе, а іх нямала?
Ну?..
— Пайду.
Лізавета ўстала.
— Душна тут, — сказала, — не спіцца,
Зноў у клець спаць пайшла ўдавіца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Знік у ранішнім пыле,
Што ветрам з іржышчаў узняты,
У хмарах на небасхіле
Дымок лізавецінай хаты.
Сцежкі — тонкія змеі
Знікаюць у жытнія далі.

**На дажынках прыгонныя жнеі**
**Нам песню спявалі.**

Сялянская хата
Стаяла над светлай ракою.
І жыў там араты
З Агатай сваёй і дачкою.
Яны дажылі да нядолі
І чорнага гора:
Па роднаму полю
Варожыя ходзяць мінёры.
Зямля там намарна ўзарана,
І жыта ўрадзіла,
Бо немцамі ў ёй закапана
Нячыстая сіла.

— Жаць жыта не трэба, —
Жняю папярэдзіў араты.
Дачушку без хлеба
Не можа пакінуць Агата.

На поле з сярпом раніцою
Пайшла яна ўпотай
І там занялася сваёю

Работай да поту.

Прачнуўся араты:
Багата
Пажатага жыта.
Ляжыць яго жонка Агата
На полі забіта.

Аднеслі жанчыну
На могілкі з роднае хаты,
Дачушку пакінуць
Без хлеба не можа араты.

Устала дачушка:
Пажата
Усё жыта за домам.
Ляжыць на снапах яе тата,
Як сноп, нерухома.

На полі малая
Стаіць і разводзіць рукамі,
Стаіць і не знае,
А што ёй рабіць са снапамі?

Капу, як магла,
З іх зложыла, ўздыхнула глыбока,
Пайшла да сяла,
Што за рэчкаю недалёка.

Дае яна з гора
Суседзям капу залатую.
— За гэта, — гаворыць, —
Зрабіце мне ласку такую:

Зрубіце сасну
І труну майму бацьку змайстрыце,
А ў тую трупу
Разам з ім і мяне палажыце.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Знік у ранішнім пыле,

Што ветрам з іржышчаў узняты,
У хмарах на небасхіле
Дымок лізавецінай хаты.
Мы ідзем і далінам
Пачутую песню спяваем.
А ці доўга ісці нам? —
Мы гэтага самі не знаем.
Гаварыць мы аб гэтым не хочам,
Таму заспявалі
І ідзем, куды вочы
Глядзяць, у жытнёвыя далі.
— І куды, і куды мы ідзем? —
Крыкнуў Ворчык ад злосці,
У якую магілу нясем
Непатрэбныя косці?
Можа войска няма,
Можа праўду удава мне казала,
Што карычневая чума
Дапаўзла да Урала.
Можа марна ідзем праз чуму —
Не патрэбны нікому?
Што маўчыце?
Крычу я каму,
Мо сабе самаму?
Ці на вецер крычу,
А ці хмару заву на параду я?
Я на ўласныя вушы хачу
Слухаць радыё.
Чуеце, радыё!?

**7**

Тут хлапцы і дзяўчаты
Гавораць употай з Масквою.
Лес. Закінуты провад антэны
Высока на хвою.
І вартуюць вавёркі
Шалаш і прыёмнік старанна.
Праз лясы, праз узгоркі
Да нас даляцеў нечакана
З-пад крэмлёўскае зоркі
Голас дыктара Левітана.

Ля прыёмніка мы трэці дзень,
З ім расстацца павінны;
Перад ім я саджуся на пень,
Каб паслухаць навіны.

Да яго мае рукі
Прывыклі, нібы да штурвала.
Спаць кладземся пад гукі
Інтэрнацыянала.

Б'е гадзіннік. Прыгадваю я,
Што мы ў лесе, не дома.
Дзе вандруе мая сям'я,
Жонка, дзеці мае?
Невядома.
Ці ўцяклі ад навалы яны,
Ад ваеннай навалы?
Зводкі слухаем мы дзень пры дні,
Зводкі радуюць мала.
Чуем: горад пакінуты наш,
Стане крыўдна і горка.
Выйдзеш моўчкі адзін, за шалаш:
Што ты скажаш, вавёрка?..
Хіба я не прайшоў
Край з маленства мне любы.
І не бачыў я жлобінскі роў —
Закапаныя трупы?..
Там дзяцей, там бацькоў і жанок
Закапалі жывымі.
Доўга жоўты пясок
Варушыўся над імі.
Можа ён і цяпер
Там варушыцца?
Чуеш, вавёрка,
Я пытаю ў цябе,
Хіба гэта не горка?
Хіба слухаць фашысцкія трубы,
Лязгат гусеніц не абрыдла,—
І як гаўкае ў радыёрупар
Праклятае быдла?

Хіба слухаць чужацкія маршы
І песні не горка?
Ці па любай зямлі, ці па Марсе
Ідзем мы, вавёрка?
— Што сядзім, камісар палкавы?
Крыкнуў Ворчык, — даволі!
Будзем гэтак сядзець, то Масквы
Не пабачым ніколі. —
Мы пайшлі.

**Зноў лясы, паплавы,**
**Сцежкі росныя ў полі.**

Толькі дзіўна, чаму
Не спяшаецца Ворчык Мікіта:
То захочацца раптам яму
Адпачыць каля жыта,
То на камень ён сядзе пры лесе
У новай турбоце
І рукой у халяву палезе—
Рэжа цвік яму ў боце.
То пясчынку кляне,
Што яму зацярушыла вока.
Не яна зацярушыла, не —
Дом, які недалёка, —
Дом бацькоў застаецца ўбаку
На поўночным усходзе.
Мы на ростанях у ляску,
Праз якія праходзіць
Дарога ў раён,
Дзе жыве яго жонка.
Садзімся,
А ён
Адышоўся ў старонку:
Дарогі, трывогі,
Хвіліны, гадзіны...
Чапляюцца ногі
За хварасціны.
На гразкую гаць
Не звяртае увагі,
Хацеў-бы прыстаць —

Не хапае адвагі.

**Мы здагадваемся, чаму**
**Занудзіўся Мікіта.**

Ноч халодная сёння, — таму
Мы адной з ім ватоўкай накрыты.
Ад мяне адвярнуўся спіной,
Спіць Мікіта. І я засынаю.
Ноч.
Шумела над ім, нада мной
Доўга хвоя старая.

**Я прачнуўся паўночнай парой.—**
**Зуб на зуб не трапляе.**

Ворчык знік. І агонь пад сасной
Гасне, намі забыты.
Не знаходжу ватоўкі сваёй —
Знёс Мікіта.
Што з ватоўкай? Дзе Ворчык?
Дзе сцяг?
Што здарылася? Не разумею.
Ахапіў мяне холад і жах,
Сэрца раптам нямее.
Што рабіць мне? Сказаць мне каму
Пабудзіў я Смірнова.
— Сцяг! —кажу я яму.
— Сцяг! —адно толькі слова.
Доўга з ім
У начныя крычалі мы далі.
Лес застаўся глухім.
Лес маўчаў.
Мы дарэмна гукалі.
Не адказвала гаць,
Не адказваў Мікіта,
Нямала
Ён прайшоў... Да яго ўжо, відаць,
Рэха не далятала.
Мы сядзім ля агню, ля сасны.
Колькі пройдзена шляху?

Сцяг быў з намі.
Цяпер мы адны...
Засталіся без сцягу.
Часта марылі мы між сабой,
Калі сцяг гэты неслі,
Што пад ім яшчэ пойдзем у бой
І спяваць будзем песні.
Сцяг мы вынесем, думаў Смірноў,
І даб'емся загаду,
Каб загінуўшую наноў
Аднавілі брыгаду.
А цяпер? Горкі дым
Вочы нам выядае шчэ горай.
Што сядзім? Што маўчым?
Нас, як громам, ударыла гора.
Не знаходзіцца слоў
У маўчанні пакутным.

Ён успомніў, што ён не Смірноў,
А Зарудны...
Не, не выеў яшчэ сінявы
Горкі дым, загарэліся вочы,
Ён успомніў, што ён палкавы
Камісар наш,
Што Ворчык — наводчык.
Не для радасці і весялосці
Мы ідзем да Мікіты ў госці.

**8**

Знёс ватоўку маю чаму?
Не дадзім сабе рады.
А навошта яму
Сцяг брыгады?

Можа ён, пачынаючы шлях
Да бацькоўскага дома,
Захапіў і ватоўку і сцяг
У дарогу свядома?

Можа ён на ўсход панясе
Сцяг брыгады?

А як вынесе, будуць усе
Сцяганосцу рады.

Немалую мецъ будзе там
Ён павагу
І за тое, што выйшаў сам,
І за вынас сцягу.
Пра яго нічога благога
Мы не скажам тады,
Хоць і крыўдна,
Але нічога, —
Нейк-жа сцерпім,
Такой бяды...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Лічыць час у сухой траве,
Нібы конік, гадзіннік.
Зноў прывал.
Плыве ў сіняве
Павуцінне...

Можа ўцёк ён дахаты,
Развітваючыся з вайною,
Захацеў араты
Цішыні і спакою? —

Жыць пайшоў да сярпоў і да кос,
Як жыве Лізавета?
Але сцяг наш, пытаемся, знёс
Для якое мэты?

Можа пойдзе ён з ім на паклон
Да нямецкае ўлады,
Прадаваць будзе ворагу ён
Сцяг брыгады?

— Вам, — ён скажа, — прынёс я яго
З пекла бою.
А за гэта прашу аднаго —
Цішыні і спакою. —

Не закончыў гадзіннік свае

Нам адлічваць хвіліны,
Камісар палкавы ўстае:
Мы ісці павінны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мы багата прайшлі зямлі,
Гоняў, пушч багата,
Мы да вёскі ўначы прыйшлі,
Пастукалі ў хату.
Мы стаім пад акном.
Да шкла
Чалавек прыпадае...
Гэта ён!
У бацькоўскі дом
Дзверы нам адчыняе.

...Тут стаялі месяц назад
На кватэры
Паны-афіцэры,
Па маліну хадзілі ў сад,
Абтрасалі бэры.
А адзін з іх упадабаў
Яго жонку Марыну,
Ён да шлюбу яе схіляў
Да салдацкага,
На гадзіну.
Не скарылася пану яна,
Шлюбу не адбылося,
Удавілася рана яна
Пад акном на бярозе.
Ёй з бярозаю шлюб, з пятлёй,
Хоць халодны,
Ды больш выгодны.
Вось запіска. Сваёй рукой
Жонка піша:
«Адпомсці, родны!..
Не хачу нявольніцай жыць,
Лепш загіну...»

Ён расказвае, голас дрыжыць.
Мы маўчым.

Запаліў лучыну
І пры цьмяным яе святле
Да стала запрасіў нас сесці, —
Можа есці мы хочам?..

Але
Не хацелі мы есці.
Мо стаміліся мы? Хацеў
Ён паслаць нам пасцелі.
Чуўся пеўняў далёкі спеў
На сяле.
Мы спаць не хацелі.
Ён спытаўся: — Чаго-ж прыйшлі?
Вас не голад прывёў, не стома...
— Мы, — кажу я, — сюды прыйшлі
За ватоўкай, вядома...
Ты, здаецца, забраў яе? —
Ён пайшоў у бакоўку
І выносіць і аддае
Мне маю ватоўку:
— Холад быў... вы-ж маглі адной,
Камісаравай, акрывацца...
А ці след з драбязы такой
На мяне злавацца?
— Сцяг, — кажу я,—ў ватоўцы маёй.
— Сцяг? — збялеў ён,
З твару змяніўся, —
Сцяг брыгады зашыты ў ёй...
Я... зусім забыўся...
Лізавета сказала мне,
Нібы немец дайшоў да Урала, —
Ціха ён гаварыў, як у сне, —
Я падумаў:
Усё прапала...
Думка мне ўвесь час, як ішлі,
Не давала спакою...
Я зусім разгубіўся, калі
Слухаў радыё лясное.
Там і вырашыў уначы
Я пад дахам зялёным,
Што з палону нам не ўцячы,

Што сваіх не дагонім.
Мне абрыдла сонца, жыццё,
Засталася надзея—
Можа з жонкай знайду забыццё
У бядзе я ? —
Я не думаў больш ні аб чым...
З вамі не развітаўся.
Сцяг? Аб ім я забыў зусім...
Я спяшаўся... спяшаўся.
Як я бег дамоў
Да бацькоў,
Як лічыў я хвіліны...
Не знайшоў забыцця, не знайшоў
Сваёй жонкі Марыны,
Стаў не люб мне і родны парог,
І куты роднай хаты...
Сцяг? Хіба яго ўспомніць я мог.
Ачуняць ад страты?..—

Гэта праўда. На сцяг зусім
Ён забыўся.
Чаго яшчэ болей?
Не прыйшлі-б мы, ён-бы аб ім
І не ўспомніў ніколі.
Ён забыў, разумеем без слоў,
Кроў сяброў,
Іх адвагу,
Чэсць забітых байцоў,
Што кляліся гэтаму сцягу.
І сказаў камісар:
— Пайшлі!
Бацька ўстаў, прачнулася мац
За парог нас бацькі правялі.
Што маглі мы сказаць ім?
Хай не знаюць яны ў бядзе
Аб злачынстве сына.
Няхай думаюць, што ідзе
Помсціць ён за іх,
За Марыну...
І за родны дом, і за сад,
І за бэры, і за маліну,

Хай жадаюць звароту назад
І жадаюць ордэна сыну.
Ён нічога ім не сказаў,
Пакідаючы хату,
А праз двор праходзіў — узяў
Пад павеццю лапату.

Ён магілу капае сам,
Сам сабе, на лясной паляне,
Мы чакаем.
Здаецца нам
Вельмі доўгім чаканне.
Пішам мы смяротны прысуд
Ад імя брыгады.
Ён і сам не чакае тут
Аніякай спагады.
Сам сабе ён капае дол
На світанні...
Нам здаецца: не лес вакол
Тут стаіць у суровым маўчанні
А байцы з батальёнаў і рот...
Мы іх бачым перад сабою,
На іх тварах і кроў, і пот,
І зямля — пасля бою.
Асудзіць патрабуюць яны
Чалавека без веры,
Уцякаўшага ад вайны,
Да вышэйшае меры...

**9**

Доўгі след палявых каляін
Вывеў нас да родных мясцін,
Да мясцін, дзе з маленства я рос,
Да сяброў
Дубоў,
Да сяброўак бяроз.
Тут навузнік вісеў на сасне,—
А чаго
Яго
Не відно больш мне?
Дуб стагодні стаяў на лугу,—

А чаму
Яму
Добры дзень сказаць не магу?
Я пазнаць не магу аніяк
Стрэчнай вёскі... Дзе школа? Вятрак?
Дзе знаёмыя хаты?.. Адны
Сярод поля тырчаць каміны.

Лета баб'яга цёплыя дні.
Дзённік свой пішу я на пні.
Я пішу. Не знаходжу слоў,
Сэрца б'ецца, рвецца дамоў,
Рвецца глянуць на сына, дачку,—
Дом бацькоў застаецца ўбаку.
Мне адгэтуль мястэчка відно,
Недалёка ад нас яно,
Калі пойдзеш полем, напрост,—
Да мястэчка дванаццаць вёрст,
А як пойдзеш шляхам,—
Дванаццаць з гакам...

Лёгка бегчы да родных сёл,
Цяжка сесці за родны стол.
У мяне спытае дачка:
— Тата, ты прынёс малака? —
А ад сына пачую я:
— Ты прывёў мне з Мінска каня?—
На пяньковай
Вяроўцы дамоў
Ні каровы я,
Ні каня
Не прывёў.
Ні гасцінца я для дзяцей
Не прынёс, як прыносіў даўней.
Я ад кожнага вока "прынёс
Родным дзецям па жмені слёз.

Толькі слёз ніхто з іх не просіць,
Ім і матчыных досыць.
Госця плачам сустрэнуць у хаце,
Бо няма чым

Яго частаваці.
Скажуць дзеці:
— Пі, бацька шчыры,
Жмені нашых слёз — іх чатыры.

Не, не гэтак прыйду я ў дом,
З новай каскай прыйду, са штыком.
Не нікчэмным, слабым жабраком,
А як бацька прыйду я ў дом,
Сонна ў дом
Прынясу на штыку,
Малаком
Напаю дачку,
Пасаджу свайго сына я
На жывога,
На баявога
Каня.

Будзе час дзіцячых уцех,
Будзе смех,— я прывёз ім смех,
Будуць слёзы,—
І іх я прывёз,—
Каску поўную радасных слёз.
..Бачыць я не магу, не хачу
Местачковую каланчу
І знаёмыя мне палі,
І знаёмыя стрэхі...
— Пайшлі.
Лістамі, дубровы,
Мой след замятайце!..

**Бывайце здаровы,**
**Звароту чакайце!..**

Тут ніхто мяне не пазнае.
Я гляджуся ў крыніцы свае.
— Гэта хто?—пытаюць яны.
Я гляджуся ў ручай лясны,
І ў здзіўленні
Ручай звініць:
— Хто ў адзенні

Драным стаіць?
— Ваш я, свой,
Я прыйшоў сюды... —
Ад рачной,
Ад азёрнай вады
Чую ўсюды адказ адзін:
— Ты не Рыбка... Палын
З барадой
Даўгой...

Хоць я з барадою
І ў гэткім адзенні,
А толькі былое
Не ўмёрла сумленне,
Хоць пальцы грубымі
І сталі,— не ўмёрла,
Душыць буду імі
Варожае горла.
Лістамі, дубровы,
Мой след замятайце!

Бывайце здаровы,
Звароту чакайце!
У шумлівай завеі лістоў,
Да лясное палянкі,
Па карэннях дубоў
Нам насустрач грукочуць фурманкі.
Лісцяў роем стракатым
Іх след замятаюць мяцелі.
— Гэй, куды вы?
— Дахаты...
— Ад немца ўцячы не паспелі.
І тлумачыць народ:
— Мы ўцякалі на ўсход...
— Нас чужацкія кулі
Назад вярнулі.—

Шмат каго пазнаю:
З бліжніх вёсак,
Знаёмыя твары...
Хтось пытае пра вёску сваю:

— Ці не бачыў, таварыш? —
І ніхто мяне не пазнае,
Я зарос барадою.
Можа едуць тут дзеці мае,
Можа стрэнуся тут я з сям'ёю?
Едуць сем'і, а вецер
Іх след замятае і свішча,
Едуць маткі і дзеці,
Вяртаюцца на папялішчы.

Мы з Зарудным ляжым за дубамі
Ізноў на паляне.
Мы чакаем,
Бо перад намі
Дарог скрыжаванне.
Нам чакаць болей недзе—
Фашысцкае войска едзе
Па дарогах на гулкіх машынах,
У шынелях мышыных.
Нам відаць:
Дзве фурманкі
Спыніліся каля дубровы,
Іх сагналі з дарогі танкі,
Крык чужы, крык вайсковы.
Людзі коней сваіх распрагаюць,
Агонь раскладаюць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хлопчык босы бяжыць да дубровы
Па дровы,
Хлопчык светлагаловы,
Пяцігадовы...
Свецяць сінія вочы здалёк.
Я паклікаў яго:
— Васілёк! —

Ён стаіць у здзіўленні
Перада мною:
Што за дзядзька ў адзенні
Абшарпаным, з даўгой барадою?
Залатая

Нас засыпае
Пурга
Лісцяў шумам і звонам.
— Жыў у Мінску ты, хлопчык?
— Ага.
— Дзе-ж твой бацька?
— У войску чырвоным.
— Як выходзіў з мінскае хаты,
Там пакінуў каня ты...
Ты катаўся на тым кані
З кута ў кут заўсёды,
Конь згарэў, Васілёк, у агні...
— Мне каня не шкода
І не трэба...
— Чаго-ж табе трэба?
— Кавалачак хлеба.
Хлеб? Зарудны яго нясе
У мяшэчку дарожным:
Поўбуханкі, НЗ,
На дваіх, на ўсё падарожжа.
Хлеб з мяшэчка дастаў я:
— Бяры!..
Гэта хлеб для цябе і сястры,
Еш яго на здароўе. —
І бліжэй падышоў ён,
І глядзіць на чужых людзей,—
Яны добрыя, хоць і чужыя,
І не верыць, і самі з вачэй
Не скупыя, як боб, буйныя
Слёзы сыплюцца... пацяклі,
Пакаціліся самі
Па сухой траве, па зямлі
І па сэрцы маім
Таксама.
Я аддаў яму хлеб
І вось
Стаў за дуб шумлівы
І гляджу, як бяжыць да калёс
Хлопчык з хлебам.
Шчаслівы...
Поўны радасці, поўны прыгод,

Ён бяжыць да фурманкі,
Быццам. хопіць на цэлы год
Ім тае поўбуханкі.
Мне здаваўся даўгім яго шлях,
Босы, бег ён праз ямы,
Па халоднай зямлі, па лістах
І па сэрцы маім
Таксама.

Ці дарога мяне змагла,
Што глядзець я не змог,
Не знаю,
Толькі вочы заслала імгла...
І пайшлі мы, і след замяла
У дуброве мяцель залатая.

**10**

Вылез месяца срэбны рог,
Асвяціў балота з-за хмары.
Мы паўзем.
Нашых сэрцаў удары
Чуюць купіны, мёрзлы мох.
Праклінаем першы лядок,
Што хрусціць пад лакцямі.
Перад намі сена стажок,
Вартавы перад намі.
Вораг дрэмле...
Паўзем смялей.
Нам яго абмінуць няможна.
Падпаўзлі. Задушылі.
Далей
Папаўзлі асцярожна.
Мы — на волі.
Блуканням канец.
Перад намі — чырвоны баец.
Дарагая зямля.
Радзіма!
Слова вымавіць немагчыма.

Моўчкі я цалую лядок,
Журавіны, парошу...

Я не проста свой дзённік пішу,
А прысуд выношу,
Каб над ворагам здзейсніць пасля,
Бо чакае ратунку
Заняволеная зямля,
Нашых прагнучы пацалункаў.
Адрываўся ад спраў,
Слёзы, кроў, дым і попел пажараў
Не ў радкі я старанна збіраў,
А ў магутную хмару.
Дышуць полымнай сілай радкі.
Судны дзень набліжаецца.
З хмары
Хутка грозных маланак штыкі
Па варожых галовах ударацъ.
Няхай слёзы з вачэй — ручаём,
З сэрца — кроў, а з варожае хаты
Льецца полымя ноччу і днём
У часы расплаты!..

Сёння свята. Па радыё
Я лаўлю Маскву.
Я чакаю...
Сёмы дзень лістапада
Я ў бліндажы сустракаю.
Звон курантаў я чую зноў —
Подых часу
Святочны, свежы...
Я гадзіннік уласны завёў
Па гадзінніку Спаскай вежы.
Я прайшоў з табой многа дарог,
Мой гадзіннік, мой браце,
І я ўбачу часы перамог
На тваім цыферблаце!

***ЭПІЛОГ***

Больш чым год мінуў з тае даты,—
І са снягам былым да сяла,
Франтавыя прысады
Абудзіўшы,

Брыгада ішла.
Шчокі вецер снежаньскі ліжа.
Заінелі вушанкі,
Маскхалаты і лыжы,
І санкі, і танкі.
Іх палкоўнік Зарудны вёў —
Камандзір брыгады.
Белай парай дыханне байцоў
Саграваіа прысады.
Іх сяло сустракала
У зімовай красе.
Хто сказаў, што брыгады не стала,
Што забіты таварышы ўсе?
Хто паверыць захоча
У словы такія?
Бачыць кожны
На ўласныя вочы:
Вось яны — дарагія,
Маладыя, суровыя,
Гарадскія, вясковыя,—
Да акопаў белаю хмарай
Набліжаюцца дзецюкі;
Хутка,
Хутка па ворагу ўдараць
Гартаваныя іх штыкі.
Верасень—кастрычнік

*1942 г*

## ПРЫГОДЫ ЦЫМБАЛ

Сярод сясцёр вясёлых
Яна ў бары расла,
Вышэйшаю між ёлак,
Гучнейшаю была.

Ударыў дзед абухам
І елка загула,—
Зачараваны слухаў,
Прыпаўшы да ствала.

Між небам і зямлёю
Апошні раз яна
Звінела пад пілою,
Як пад смычком струна.

«Не плачце! — прашумела,
Як падала ў траву,—
Я буду пець,
Як пела,
Я вас перажыву.»

Бліснуў лысінай пень,
Елка вырвала з ценяў свой цень,
На паляне лясной
Кладучы яго побач з сабой.

Елка больш не звінела, а пень астываў ад пілы,
Нібы ў кропельках поту, у кроплях празрыстай смалы.
Сосны, елкі ў той час
Галасілі ад сэрца ўсяго:
«На каго ты пакінула нас,
На каго?
Павязуць цябе з лесу на колах,
На рыжым кані,
Прывязуць цябе з лесу, паколюць,
Згарыш на агні.
Будуць людзі на голлі
Яловым кілбасы капціць!

Разам з намі ніколі
Табе ўжо, сястрыца, не жыць.
Не дастаць галавою
Табе да блакітных нябёс...»
Пад галошанне тое
З лесу выехаў воз.

Едзе елка ў жытное,
І шлях яе новы пралёг
Да сяла,
На якое
Раней паглядала здалёк.

Паглядала, хацела
Праз жыта прайсці да сяла,
Толькі з месца не ўмела
Скрануцца яна,— не магла.

Хіба елка прасторы
Зазнае якія ў жыцці,
Калі елцы ад бору
Да вёскі ніяк не дайсці?
А цяпер?
Хоць рукою
І жыта грабі, і авёс.

Хай сабе галавою
Не ёй даставаць да нябёс.
Плакаць елка не стане,
Хто знае, што суджана ёй?
Можа быць, і дастане
Яшчэ да нябёс галавой.
Можа суджана плыць ёй
Па моры ад роднай зямлі?
Можа суджана
Мачтаю быць ёй
На тым караблі?
На марскім даляглядзе
Найпершай з вады выныраць,
Жыць з нябёсамі ў ладзе
І нават да зор даставаць.

Едзе елка па полю,
Над полем гудуць правады.

Адгадай яе долю,
Па што яна едзе?
Куды ?

Мо стаяць яна будзе на лініі
Уся ў правадах,
Тэлеграмы бацькоўскія, сыннія
Несці ў прасцяг?
Мо службісткаю шчырай
На лініі будзе стаяць,
Будуць ластаўкі ў вырай
З яе правадоў адлятаць?
Можа звонам і гудам
Людзей яна будзе здзіўляць,
Каб аж рупіла людзям
На тых правадах паіграць?

Вось і хата.
Старыя
Унук ёй вароты адпёр.

Праз вароты,
праз тыя,
Уз'ехала елка на двор.
Там з кары яе шэрай
Зрабілі навузнік для пчол.
Пад цяслярскай сякерай
Пападала голле на дол.
Пакуль мяса пры лузе
Капціў над тым голлем сусед,
На высокай сталюзе
На дошкі пілiў яе дзед.

Шкода елкі!
Нідзе ёй
Цяпер ужо мачтай не быць,
Мыса Добрай Надзеі
Не бачыць, па моры не плыць,

Не спрачацца ёй з ветрам
І ўжо не згінацца пад ім,
І не дыхаць паветрам
Вільготным, салёным,
Марскім.
Дошкі сонечным ранкам
У зацені майстра сушыў,
Як паспелі,
          рубанкам,
                    фуганкам
Скабліў і скабліў,
Покуль не засвяціліся так, як унука далонь,
Калі ён перад лямпай
                    глядзіць праз далонь на агонь.
Дошкі склеіў старанна, для доўгай,
                                        кароткай струны
Месца вызначыў, і пачалі называцца яны
З той хвіліны іначай,
Бо елкай назваць іх не мог
Той, хто струны пабачыў,
Ступіўшы на дзедаў парог.
Як на хрэсьбіны, ў хату суседзі ішлі і ішлі,
І на струны глядзелі, і елкай назваць не маглі.
Гэтак елка памерла,
Хай будзе ёй вечны спакой!
Дакраніся-ж, музыка,
                    да струн бессмяротных рукой!
Дзед ударыў, і ўраз праімчаўся па струнах віхор.
І не елка адна зазвінела пад ветрам, а бор.
Самі ў круг,
Як пры цудзе,
Пусціліся ногі ва ўсіх.

Так на хрэсьбінах людзі
Назвалі цымбаламі іх.
Быццам рэха па хаце
Ішло ад сцяны да сцяны:
— Не цымбалы, багацце...
— Багацце!
— Няма ім цаны!
З хаты ў хату імкліва

Разнеслася слава сама.
— Не цымбалы, а дзіва...
А дзіва!
Цаны ім няма!

З часу хрэсьбін нямала
І зімаў і летаў прайшло,
Не адно і цымбалы
Аб'ехалі з дзедам сяло.
Як-жа дзеда не стала,
Іх голас не змоўк на зямлі,
Бо адразу цымбалы
Да ўнука іграць перайшлі.

**1**

Неба просіні
Выцвілі.
Чуецца ў далях зіма.
Вось і восені
Дні адляцелі.
Музыкі няма.
Ён у хаце цымбалы
Замкнуў
І пайшоў у паход.
І яго абагнала
Вайна
　　　　па дарозе на ўсход.
Адшумеўшай дубровай
Ішоў ён,
　　　　на ўсход несучы
Не ад хаты вясковай —
Ад песень ключы.
А з усходу насустрач кабета
З малымі ішла,

У дуброве у гэтай
І стрэча і ростань была.
І яе і дзяцей абагнала
Таксама вайна.
На дарозе лясной упала
І не устала

Яна.
Угаварвала сына
Жанчына:
— Не плач, Васілёк,
Буду жыць, не памру,
А ты слухай сястру,
Мой сынок...
— Вам спяшацца,
Дачушка, трэба,—
Угаварвала маці дачку,—
Ні адзежы няма ў вас, ні хлеба,
Ні пасцелі у цёплым кутку.
Я здарожылася, дачушка,
Адпачну
І вас даганю...
— Ты вязі іх,
Верная служка,—
Гаварыла рагатаму каню.
Маці іх упрасіла.
Яны і паехалі ўтрох.

Затрымала іх і спыніла
Скрыжаванне дарог.
Першы раз яны стрэліся з горам
Такім у жыцці:
Ехаць ім па каторай?
Па каторай ісці?
Іх чатыры дарогі на свеце,
І кожнай канца не відаць.
І вярнуліся дзеці
У маці дарогі спытаць.
Маці спіць — не падняцца —
Стамілася, сіл нестае.
Селі побач,
Баяцца
Дарогі спытацца ў яе.
Потым плачам і крыкам
Будзілі,—
Не чула зусім.

Вышаў з лесу музыка

На выручку ім.

Перад маткаю іх на калені
З павагаю стаў
І люстэрка з кішэні,
Як неба кавалак, дастаў.

І яго з хваляваннем
Да матчыных вуснаў паднёс,
І яны не сагрэлі дыханнем
Халодных нябёс.

— Крэпка спіць ваша маці! —
Сказаў ён,—
Няхай адпачне,
А дарогу адсюль паказаці
Не цяжка і мне.

Вывеў іх на дарогу,
Аддаў ім ад хаты ключы,
Навучаючы строга
Ад хаты ключы
Берагчы.

— Там,— казаў ён,—даволі
Дабра я замкнуў пад замок:
І цыбулі,
І солі...
— І хлеба? — спытаў Васілёк.

— Ёсць і хлеб,
Ёсць і дровы...
— І сена?—спытала дачка.
— Ёсць і корм для каровы
І міскі для малака.—
Навучаў, выпраўляючы
Іх да прысад,
Да бяроз.

Конь, рагамі матляючы,
Іх па прысадах павёз.

Бег, спяшаўся рагаты,
Вясёла рыкаючы:
— Му!..
Мусіць, чуў, што ад хаты
Ключы даручылі яму.

Разам з тымі ключамі,
Як з пашы, спяшаўся дамоў.

А музыка сваімі шляхамі
Ішоў і ішоў,
Ён кустамі,
Карчамі
Да маці вярнуўся ізноў.

Дол капаў ёй глыбокі,
Маўчала яна,
Як раней.

Дол капаў ён глыбокі, шырокі,
Правёўшы дзяцей.
Хай з іх кожны ўяўляе
І верыць няхай у бядзе,
Што іх маці жывая,
На кліч іх
З дубровы прыйдзе.
Ратаваць іх ад гора
Прыйдзе яна,
Скінуўшы сон.
Не, не скора, не скора
З цымбаламі стрэнецца ён!
Рукі просяць вінтоўкі,
Адвыклі ад струнаў сваіх.
Час ісці яму!
Толькі
Шкада яму пушчаў старых.
Адарваць ад дубровы
Не можа ён сэрца свайго,
З кожным дрэвам гатовы
Радзіме пакінуць яго.
Ды чужынцам дазволіць

Не можа ён
Сэрца таптаць,
Разам з сэрцам на волю
Хацеў-бы радзіму забраць.
І ўмясціў ён у сэрцы
Усё ад зямлі да нябёс,
Пушчы, рэкі, ад смерці
У сэрцы схаваўшы,
Панёс.
Покуль кроў не астыне,
І хата яго,
І сяло
Будзе жыць з ім, не згіне,
Куды-б яго ні занясло.
Хай сабе за марамі,
А будуць цымбалы відаць,
Не дастане рукамі,
Дык сэрца дастане іграць.

Умясціў ён і зоры,
І срэбнага месяца рог,
І палі,
І азёры,
І стужкі бясконцых дарог,
Што сыходзяцца разам
Ці зноў разлучаюць людзей.
На адной з іх тым часам
Мы бачым дзяцей.
Свеціць месяц над светам,
А іх на сабе,
Па чарзе,
З тым-жа самым імпэтам
Рагатая служка вязе.

Што ім сівер суровы,
Калі ў іх наперадзе дом?
Там і дровы,
І корм для каровы,
І дзве міскі з парным малаком.

Сон зняло

Як рукою,
Што ім самыя лепшыя сны,
Калі з кожнай вярстою
Да хлеба ўсё бліжай яны?

Што ім вецер у полі,
Пустэча халоднай начы,
Калі з імі ад шчасця і долі,
Ад долі і шчасця
Ключы?

**2**

З гучным клопатам вецер
Вароты адпёр і запёр.
На кані сваім дзеці
Уз'ехалі ціха на двор.
Злезлі дзеці,
Паволі
Хлапчук падышоў да замка.
Ключ ад шчасця і долі
Застыў у руках хлапчука.
Што рабіць?
Можа стацца,
Што з іх пасмяецца прабой,
Загадае вяртацца
Назад ім,
Да маці сваёй.
Што, калі не прызнае
Ні хата дзяцей,
Ні замок?
...Ключ рашуча рукою
Крутнуў у замку Васілёк...

Дзіва сталася з імі,
За рукі іх шчасце ўзяло,
Нібы з дзецьмі сваімі
У хату ледзь чутна ўвайшло.

Покуль сенам карову
У пуньцы карміла сястра,
Брат жаданыя дровы

У хату прынёс са двара.

Покуль міскі адмыла
Дзяўчынка ад пылу ўсяго,
Спрытна печ растапілі
Хлапечыя рукі яго.

Покуль разам у хаце
Вячэралі ён і яна,
З рукава свайго шчасце
Пусціла за печ цвыркуна.

Спяць на цёплай дзярузе
На печы яны,
А цвыркун,
Быццам конікі ў лузе,
Іграе на тысячах струн.
Не пускае напасці
Да іх падыйсці ні на крок,
Дзеці спалі.

А шчасце
На іх паглядала здалёк.
У куток яно села
І думала думы свае,
На шчаслівых глядзела
І думала:
«Дзеці мае!
Вы пад'елі, заснулі,
І я вам спакою хачу,
Я пад вашы кашулі
Завею з трубы не пушчу.
Хай-жа вам сенажаці
Прысняцца,
Снапы на таку...»

...Дзеці снілі, што маці
Сядзела ўсю ноч у кутку...
Хто гадзіннік заводзіў?
Не знаюць.
Не помняць яны.

Хутка ходзікі ходзяць,
Калёсікі збоку відны.
Можа самі сабою
Скрануліся з месца?
А мо'
Падштурхнула рукою
Іх маятнік шчасце само?
З той няпэўнай хвіліны
Яны не прысталі ні раз.
За гадзінай гадзіну
Шчаслівы адлічвалі час.

Неяк летам салдаты
З раёна
Прымчалі ў сяло.
Сціхлі ходзікі.

У хату
Няшчасце прыйшло.

Шмат салдат на дарозе
Ля чорнай машыны відно.
Шмат на хатнім парозе
Няшчасцяў стаіць,
Не адно...

Ува ўсіх на павязках
У іх павукі, павукі,
Рогі, рогі на касках,
На стрэльбах,
На стрэльбах штыкі.

— Дзе карова?
— На пасце.
— Дзе матка?
Маўчалі яны.

— Дзе? — пытала няшчасце.
— У дуброве, —
Сказалі яны.

— У дуброве? — перапытала,—
У дзядзькі Кузьмы?
— Я не знаю,— сястра адказала,
Не ведаем мы.

Раззлавалася,
Стала
Няшчасце зялёным зусім.
— Партызан!—закрычала,—
Ваш матка,
Мы знаем аб тым.

На пагрозу цымбалы
Азваліся громам глухім.
Загрымелі ў адказ,
Загрымелі, як гром,
Са сцяны.
Можа вораг штыком
Дакрануўся басовай струны?

Крык і плач чалавечы
Сарваўся з пагрозай са струн.
Не, не гэтак за печчу
Іграць пачынае цвыркун.
Насцярожыліся вінтоўкі,
Ашчэрыліся штыкі.
Хто адважыўся толькі
Згражаць ім?
Музыка які?

Самі гралі цымбалы,
Няшчасцем прыведзены ў рух,
З гучных струн заляжалы
І пыл атрасалі і пух.

Падымаліся каскі
Ад страху у тых слухачоў,
Камянелі,
Як маскі,
Іх твары
І стыла іх кроў.

З хаты вынес,
Аб шулу
Ударыў цымбалы салдат.
І ад звону, ад гулу
Прачнулася поле і сад.
І цымбалы ігралі,
Ніхто супыніць іх не мог.

Кінуў вораг цымбалы,
Яны пакаціліся ў лог.
Пад гарою
Травою
Укрыла іх маці-зямля.
Прышчамілі струною
Яны лугавога чмяля.
Больш не зойдуцца ў звоне,
Залёгшы ў мяккую пасцель,
Глуха ў іхнім палоне
На струнах іграў толькі чмель.

Хто ж іх з болем і крыкам
Нядаўна на часткі ірваў?
Можа сэрцам музыка
Здалёку да струн даставаў?
З хат абуджаных,
Самі,
Не просячы доўга чакаць,
Выбягалі з сярпамі
Жанчыны малых ратаваць.

Хто з касой, хто з дубінаю
Іх выратоўваць ішоў.
Баранілася доўга машына
Ад кос, ад сярпоў.
Потым прэч уцякла,
Знікла стралой.

Беглі дзеці
Цымбалы
Шукаць пад гарой.

Там высокай травою
Укрыла іх маці-зямля.

Выпускалі на волю
Яны лугавога чмяля.
Рады быў ён бясконца
І крыллі сушыў на струне,

Зноў убачыў ён сонца,
На свет паглядаў,
Як у сне.
Зноў успомніў пра кветкі,
А ўбачыўшы іх,
Са струны
Паляцеў на палеткі,
На волю.
Вось так і яны.

Там дзяцей ад напасці
За збожжам схавалі палі.
Там малыя на пасце
Рагатую служку знайшлі.
Дзеці, служка, цымбалы,
А следам за імі і мы
Смела павандравалі
У пошуках
Дзядзькі Кузьмы.

**3**

На бясконцай дарозе аратага
Стрэлі яны.
Скарадзіў ён на служцы рагатай
У тры бараны.
Зразумелаю мовай
І дзецям і дзядзьку таму
Між сабою каровы
Віталіся першыя:
— Му!..

— Як жывецца, нябога?
— Як бачыш, цягну

Барану.
— Цяжка, мусіць?
— Нічога,
Навучана ўжо за вайну.

Размаўлялі яны між сабою,
Ішлі на папар.
А ў нянек пад сасною
Прысеў з хлапчуком гаспадар.

Пад сасною
Цымбалы.
Вісіць аўтамат на суку.

Быццам сталаму сталы
Тлумачыў Кузьма Васільку;

— Аўтамат нагатове —
У рукі бяры,
Пацаляй:
Ён пільнуе каровы,
Каб з поля не звёў паліцай.
Хто-ж,— пытаўся ў здзіўленні
Паслаў вас адных да мяне?
Можа з Бродаў пляменнік
Ці жонка пляменніка?

— Не.

— Хто-ж такія? Адкуль вы?
Усю перабраў я радню.
Пачакай, можа чулі
Яшчэ вы
Сяло Гарадню,—
Ехаць трэба нямала,
Былі, можа, ў той старане?
Мо адтуль вас паслала
Кума Аляксееўна?

— Не.

— Шкода, брат,— і рукамі
Разводзіў Кузьма пад сасной, —
Разумееце самі,
Хоць я і Кузьма,
Ды не той.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зноў на служцы рагатай
Вярнуліся дзеці ў сяло
Да музыкавай хаты,
Ды хаты тае не было.
Пуста ўсё.
З папялішча
Відзён ім лясны далягляд.
Часам вецер засвішча,
Ускруціць і попел і чад,
Вырве, кіне ў прасторы
З-пад попелу іскраў мяцель.
Ціха скардзіўся зорам
Над студняю журавель.
Ён, прыкметны здалёку,
Штораніцы больш не рыпіць.
Не згінаецца,
                    нават у спёку,
З калодзежа піць.
Анямеў ён над зрубам
І глянуць баіцца туды:
Там дзіцячыя трупы,—
Яму не напіцца
Вады.
Сеў хлапчук за цымбалы,
Адразу зайгралі яны
І рукам загадалі,
Якой дакранацца струны,
Самі гралі, не самі,
Ніхто не заўважыў таго,
Гралі,
          як пад рукамі
Былога музыкі свайго.

На знаёмыя гукі

Выходзілі з ямак,
З травы
Разам з дзедам унукі,
Усе, хто застаўся жывы.
Сустракаліся позна
Кум з кумам, са сватам сват
Сваякі ўсё
                    па слёзах,
Суседзі
          па попелу хат.
Хоць збіраліся рэдка,
Ды тут на хаўтуры сяла
Красамоўная сведка
Іх шчасця былога прыйшла
У каго на вяселлі
Цымбалы калісь не былі?

З кім не пелі,
З кім не елі,
На вяселлі не пілі?
Хто не быў у маладосці
Жаніхом ?
Хто не пеў ад весялосці
За сталом?
Балявалі, дзякуй богу,
Сярод лета і зімы.

— Пакажыце нам дарогу
Да дзядзькі
Да Кузьмы...
— Мы пакажам
І раскажам,—
Адказвалі дзяды,—
З вамі разам
Паедзем туды.

Зарыпелі калёсы,
Нагружаныя дабром.
— Да Кузьмы! —
Стогалосае
Рэха гуло над сялом.

Ад'язджалі яны грамадою
З абжытых мясцін.

Журавель пад гарою
Застаўся адзін
Між руін.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ціха дрэмлюць сасоннікі,
Сонца сыходзіць з паўдня.
Прыдарожныя конікі
Апанавалі каня.
Скачуць смела на цень,
Што лягла на траву, на кусты:
— Добры дзень!
— Добры дзень!
— Добры дзень!
— Мы таксама такія, як ты!
Звонка, горача, тлумна
Вітаецца іхні табун.

— Дрэнны дзень,— адзываецца сумна
З калёсаў цвыркун,—
Не сціхае пагоня
За мною ні ноччу, ні днём,
З родных сёл яна сёння
Мяне выганяе агнём.
Дым яе і агонь яе
                    У запечча залез.
Уцякаю я, конікі,
                    Ад пагоні у лес.

**4**

А паперадзе ўсіх
Граў хлапчук на цымбалах сваіх;
Людзі з сёл,
Што наўкол,
Далучаліся моўчкі да іх.

Людзі ехалі, йшлі,

Іх да лесу цымбалы вялі.
У бары,
Гушчары
Затрымалі людзей патрулі.

— Вы адкуль?
— Мы адтуль.
— Мы з-пад куль.
— З пагарэлішчаў мы.

— Да каго?
— Да яго.
— Мы да дзядзькі свайго.
— Да Кузьмы.

Адышоўшыся ўбок,
У здзіўленні лічыў Васілёк,
Колькі ў лес і сялян і сялянак,
І фурманак
Прывёў ён здалёк.

Як праехалі па чарзе
Людзі ўсе, коні ўсе,
Сеў хлапчук пры дарозе лясной,
Сеў з сястрой
На сухой
Дзеразе.
Кажа так да сястры:
— Колькі сёння людзей у бары
Гэта-ж мы
Прывялі іх з табой да Кузьмы.

Захапляецца брат:
Прывядзем мы не гэтулькі,
Шмат!
Ёсць і музыка ў нас,
Дык пайшлі ў добры час
Ад сяла да сяла?..

І пайшоў.
І дзяўчынка пайшла,

І рагатая служка за імі
Шляхамі лясными
Паспець не магла.
А ў бары пад сасной
На світанні дымяцца катлы.
На паляне лясной
Пах лясное зямлі
І смалы.
Пад нагамі ў расе
Мураўі, мураўі,
Мураўі...

Тут прыезджыя ўсе
Прыпыніліся, як у раі.

— Дзе-ж хлапчук,
Дзе-ж цымбалы? —
Пытаецца дзядзька Кузьма.
Іх шукалі, гукалі,
Гукалі, шукалі.
Няма.

Аб цымбалах шумліва
Народ уздыхае лясны:
— Не цымбалы,
А дзіва!
— А дзіва!
— Няма ім цаны!

І пайшло, і пайшло,
                                        і пайшло
З лесу ў лес,
Ад сяла ды ў сяло.

Абганяе музыкаў саміх
Пра цымбалы пра іхнія слых.

Гоні толькі мінулі
Адны,
А ўжо ўчулі
Яны

Пра цымбалы свае,
Што няма іх цымбалам цаны.

Спаць ляглі пад вярбою,
Павесілі іх на вярбе,
А назаўтра такое
Пачулі яны пра сябе:
Быццам каты аблаву
На іх уначы павялі,
Ды цымбалы расправу
Над імі чыніць
Не далі.
Як малых акружалі,
Крануліся струн каласы,
Струны самі зайгралі,
Палі абудзіўшы,
Лясы.

Тупат конскі ў прасторах
Пачуўся
Бліжэй і бліжэй...

І спалохаўся вораг,
І ўцёк,
Не крануўшы дзяцей,
І забыў пра намеры,
Грымотнае ўчуўшы
Ура.

— Я не чула. Не веру.
Няпраўда! — казала сястра.

Ёй адказваў з дакорам
І вераю хлопчык:
— Маўчы...
Як не сорам табе, як не сорам,
Ты-ж спала ўначы.
Ты-б не стала
Спрачацца дарма,
Каб не спала
І чула сама,

Як над сонным і намі
З сябрамі
Схіліўся Кузьма.
Пажадаў нам удачы.
Пайшоў.
Занялася зара.
— Ты не чуў, ты не бачыў,
Не веру,— казала сястра.

А праз некалькі дзён
І такое пачуў Васілёк,
Што іграе на струнах не ён,
А музыка здалёк.

Поўны месяц свяціў ім з нябёс,
Хлопчык музыку нёс
І хаваў ад сястры,
І сушыў на вятры
Вочы, поўныя крыўды і слёз.

Як заснула сястра,
Як пагасла зара,
Дарагія цымбалы хлапчук
Асцярожна павесіў на сук
На вярбе:
— Вы сыграйце самі сабе!
Вас ні ветрык, ні колас,
Ні птушка крылом не кране,
Вы падайце свой голас,
Сыграйце адны,
Без мяне!..
Позні час,
Хай з імглы
Сваім сэрцам да вас
Дакранецца музыка былы.

Сведкай быў яму месяц,
Што узняўся вышэй верхавін,
Як маўчалі цымбалы
І дзесяць,
І дваццаць,

І сорак хвілін.

Не шумелі у палях каласы,
Не гайсалі вятры,
І маўчалі да самай зары
Струн галасы.
Мусіць, іхні музыка здалёк
Загадаў ім маўчаць назнарок,
Каб ніякай трывогі не чуў
І спакойна заснуў
Васілёк.

**5**

На дарозе глухой
Палявой
Ён убачыў з сястрой
Кімсьці кінуты воз.
Нехта рэчы на возе тым вёз,
Не давёз.

Шэпча жыта наўкола:
«Не йдзі, не глядзі, Васілёк!»

Воз асеў на дарогу,
А кола
Адкацілася ўбок.
Справа, злева дарогу
Хлапчук аглядае з сястрой:
Пуста,
Страшна,
Нікога,
Як у казцы якой.
Конь глядзіць на іх коса,
Пытаецца:
— Дзе гаспадар?
Кінуў сонейка з воза
Пад ногі ім самавар.
Васілёк нерухома
Застыў каля сонца таго:
— Наш!
— Музыкаў, вядома.

— Пазнаў я адразу яго!
— Вось блакітная стужка!
— Вось боты старыя мае!
А рагатая служка
Пазнала даёнкі свае.
— Вось музыкава світа,
Кашулі!..—
Выкрыквае брат.

Вораг выглянуў з жыта,
Навёў на дзяцей аўтамат.
— Я, — гаворыць,— дабро ваша
З хаты забраў.
Ваша матка ў дуброве,
Я ведаю вас.
Я — Густаў,
Мне пажытак вось гэты:
Міскі, лыжкі, нажы,
Лізавета
Кабета
Папродае на кірмашы.
Я за гэта кабету
Удаву Лізавету
Люблю.
Вас, за усе вашы справы,
Вось тут ля канавы
Застралю.

І ахвяры свае
У канаву павёў,
Як у роў,
Каб не ўбачыў з яе
Васілёк васількоў.
І загадвае ім
Легчы тварам да пыльнай травы,
Каб не ўбачылі вочы зусім
І нябёс сінявы;
І загадвае ўстаць:
— Абяцаю
Пакінуць таго
У жывых,

Хто мне гайку ў траве адшукае
З калёсаў маіх.
Без яе тут поўлета
З дабром прастаю я
Адзін.
Я даю вам на гэта
Не больш як пятнаццаць хвілін.

І гадзіннік дастаў і на пыльнай
Усеўся зямлі,
І за стрэлкаю пільна
Сачыў ён.

— Знайшлі?
— Не знайшлі.
Шчасце выпала брату:
Знайшоў
Ды ў кішэні схаваў,
Бо не хочацца брату,
Каб вораг сястру расстраляў...
Час мінае.
Пытае
Іх вораг:
— Знайшлі?
— Не знайшлі.

— Калі справа такая,—
Гаворыць ім вораг, —
Пайшлі.

Брат з сястрою
Цымбалы нясе,
Калі згінуць яны пад зямлёю,
Дык разам усе.

Вось пад жытам зялёным
Крануліся струн каласы,
І пасыпаліся са звонам
Кроплі дробнай расы.
Дакрануліся струны тым часам
Да каменя ледзь,

Звонкім кроплям уторачы басам,
Пачаў ён грымець.

Кінуў вокам з гары
На палі, сенажаці хлапчук.
Там ужо касары
Учулі коласа, каменя гук.

Брат па струнах і ўдарыў,
Яшчэ й галавою патрос,
І ўзняліся пад хмару
З трывогаю тысячы кос.
Загула сенажаць,
Загрымела дарога і гаць.
Позна, позна Густаў
Уцякаць і хавацца пачаў.
Ні дарогі, ні гаці
Яго не прапусцяць нідзе.
Гэта маці
Дзяцей ратаваці
З дубровы ідзе!
Крочыць сцежкамі ўсімі,
У руках яе тысячы кос,
Грозна косамі тымі
Яна дастае да нябёс.
Не схаваецца вораг
За жытам, за лесам густым,
Ззяюць косы ў прасторах
І сочаць усюды за ім.

Беглі дзеці.
Мінулі
І пяты й дзесяты загон.
І не чулі, як кулі
Густаў
Пасылаў
Наўздагон.
Вёрст прабеглі нямала
І беглі-б,
Не чуючы ног,
Каб рагатая служка не ўпала

Уміраць на мурог.
Не піла яна і не ела,
Храпела, храпела
І сплёўвала кроў з языка.

— Ты сыграй ёй,— прасіла нясмела
Сястра Васілька.—
Я на раны ёй,— кажа,—
Садзіцца не дам авадням,
Можа музыка наша
І ёй дапаможа, як нам... —
І рагатая служка пачула
Ціхі звон ручайка,
І шчасліва ўздыхнула,
Добрым вокам зірнула
На хлапчука.
Ёй пара залатая здалася,
Маці,
Бацька яе на папасе,
Ён скубе мураву,
Прыгажун,
Быццам гукі са струн.
Потым цела здранцвела,
А сонца кудысь паплыло,
І на кветках пагасла святло,
І ў вачах пацямнела.

Засыпалі яе не зямлёю,
Альховым лісцём
І любімай травою,
І сенам яе,
І трысцём.

**6**

Засыналі ад стомы
Малыя ўначы ля бяроз.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Чалавек невядомы
Іх музыку ўкраў
І панёс.

Вось цымбалы на допыт прынеслі,
Змушалі не раз
Адрачыся ад песні,—
Ні слова
Цымбалы ў адказ.
— Вы іграеце самі,
Сыграйце-ж хоць раз
І для нас!..—
Білі іх кулакамі
Па струнах,—
Ні гуку ў адказ.
Струны рваць спрабавалі
З цымбалаў,
Як жылы з людзей,
І штыкамі ігралі,—
Маўчалі яны, як раней.
Ні агонь, ні астрог
Знішчыць тыя цымбалы не мог,
Іх рашылі павесіць
На месяц,
Пятлёю за рог.

Д'яблы большае кары
Прыдумаць бы ім не маглі,
Як закінуць за хмары,
Навек адарваць ад зямлі.
Іх калыша вятрыска
За хмарай,
Чужынцам на смех.

Але месячык нізка
Спусціўся па небу
Да стрэх.
Дакрануліся струны саломы,
Салома звініць.

Чалавек невядомы,
Што ўкраў іх,
Ад страху дрыжыць.
Ён іх нёс, каб павесіць,
Прымусіць маўчаць назусім,

А цымбалы, а месяц
Вісяць
І іграюць над ім.

Скача ён на кані ўжо,
І конь прытаміўся зусім,
А цымбалы ўсё ніжай
І ніжай
Звісаюць над ім.
З конскіх рэбраў і жылаў
Яздок высякае агонь,
І з апошняе сілы
У вір з ім кідаецца конь.

А цымбалы тым часам
Плывуць,
Пераможна звіняць,
Толькі з месяцам разам
Іх могуць ад стрэх адарваць.
Хто падумаў-бы толькі,
Убачыўшы іх над зямлёй,
Што ад простае ёлкі
Паходжанне музыкі той?
І нябёсы нам сведкай,
Што, нават у лепшыя дні,
Маці іх не гадала аб гэткай
Для іх вышыні.
Не прыйшло ёй і ў марах,
У часе ляснога жыцця,
Што купаць будзе ў хмарах
Сам месяц яе дзіця.

Зноў лясы, зноў узгоркі
Іх слухаюць ноччу, а ўдзень,
Як халодныя зоркі
Пагасіць гарачы прамень,
У прасторы марскія
Іх месяц нябачны нясе,
У прасторы,
Якія
Смяротныя бачаць не ўсе.

Акіянам нясе іх
Над хваляй вільготнаю ён,
Мысу Добрай Надзеі
Яны адбіваюць паклон.
Гэтак звоняць у высі,
Што й самі для добрых людзей,
Што жывуць на тым мысе,
Здаюцца
Надзеяй з надзей.
Хто вандровак не прагне,
Пабачыць зямлі не ахвоч?
Ім-жа нудна, іх цягне
Да роднага неба штоноч.
Хто не прагне па небе
Лятаць, каля зорак бліжэй?
Ім-жа нудна, ім лепей
Упасці дадолу хутчэй.
Рос тым часам над полем
Іх месяц,
Нібы каравай,
І ўсё болей і болей
Пятлю іх пасоўваў на край.
Як-жа ён над загонам
Да поўнага хлеба дарос,
То цымбалы са звонам
І паляцелі з нябёс.

Там,
Адкуль іх укралі,
Пад ціхай бярозай ляглі.
Каты ўсюды шукалі.

Пыталі.
Нідзе не знайшлі.

З ліхтарамі сваімі
Пад мох залязалі,
Пад корч.

Поўны месяц над імі
Смяяўся на небе ўсю ноч.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дзеці спалі.
Цымбалы
Віселі над імі да дня.

Каля іх затрымала
Удава Лізавета каня.
Напакованы рэчамі
Поўны вазок,
Поўны воз.
Іх на хутар увечары
Вораг кабеце прывёз.

Увесь час баязліва,
Маўкліва
Азіраўся Густаў.
Дзе ў дарозе сем дзён прападаў
Ён тлумачыць не стаў.
Ёй распытваць Густава
Не вельмі цікава
Было.
На зары яна ўстала
І паімчала
На кірмаш у сяло.
Мёдам пахлі ёй грэчкі
І туманамі трава.
Два паромы, дзве рэчкі
Да сонца мінула ўдава.
Ёй заззялі з бярозы
У промнях
Цымбалы здалёк,
Каля іх на дарозе
Спыніўся кабецін вазок.

Туманы іх ды лісце
Уквецілі яркай расой,
А якімі здаліся
Прыгожымі,
Браце ты мой!
Кожны купіць іх смела,
Хапаць будзе ў іншага з рук.

Развітаўся з цымбаламі белы
Бярозавы сук.
Коса
Глянула з воза
Кабета на сонных дзяцей.
— Будзь здарова,
Бяроза,
А мы паімчалі далей!

**7**

Кірмашовыя крыкі,
Гудзе і звініць сінява.
Рэчы з хаты музыкі
На продаж прывезла ўдава
Месца аблюбавала
Пад вольнай вярбой
У цяньку,
Як у краме, расклала
Маёмасць усю на вазку.
Крыкі новыя ўчулі
Прысутныя на кірмашы:
— Міскі!
— Лыжкі!
— Кашулі!
— Відэльцы, талеркі,
Нажы!
Чутны звонкія словы
У хатах на самым краю:
— Самавар яшчэ новы,
За поўцаны прадаю! —
Прымаўляла, крычала,
Глядзеў, прыцаняўся народ
Предавала за сала,
За грошы, за яйкі,
За мёд.

У мяхі яе торбамі
Сыпалася мука
За кашулі
З узорамі,

За васількі
З ручніка.

Да поўдня яна гэтак
Усю драбязу прадала.
А цымбалы?
А іх напаследак
Яна берагла.
Грошай мецьме нямала,
Бо ім немалая цана.

Асцярожна дастала
Цымбалы з-пад сена яна.
— Хто іх купіць? — пытае,—
Цаны ім не знаю сама. —
Хто ні гляне, не знае
Цаны ім...
— Цаны ім няма!
Выйшла к сонейку з імі,
Трымаючы горда ў руках.
Раптам сталі старымі
Цымбалы ў яе на вачах.
Больш старымі, чым світа
На жабрачысе старой.
Дзе агні-аксаміты,
Што ззялі на сонцы красой?

Лізавета ад злосці
Сама пастарэла на год.
І былой весялосці
У крыках не чуе народ.
Так да вечара з возам
Стаяла,
Адказы адны:
— Мы не купім.
— Не можам.
— Няма ім,—гавораць,— цаны.
Дзень мінае няўдалы,
Садзіцца ўжо сонца за сад.
Па дарозе цымбалы
Вязе Лізавета назад.

Едзе з імі лясамі,
Дзе ямкі ды ўхабы адны.
Вось саскочылі самі
З вазка на дарогу яны.
Пакаціліся самі
Цымбалы з высокай гары,
Загулі галасамі
І зніклі ў глыбокім бары.
На'т не кінула вокам
Услед ім кабета з каня.

Змоўклі струны далёка,
Каля заімшэлага пня.
Колісь елка на возе
Пакінула пень гэты,
Бор,
Ёй вясёла жылося,
Зазнала вандровак прастор.
Свет аблёталі цэлы
Са звонам цымбалы яе
І пад пень заімшэлы
Вярнуліся ў нетры свае.
Аб нікчэмным іх лесе
Заплакалі елкі ўгары:
— Гляньце,—
Што засталося
Ад нашай вясёлай сястры!
Тут ніхто яе долі
Ужо не палепшыць, відаць.
Тут цымбалы ніколі
Не знойдзе ніхто,
Каб іграць.
Струны з медзі і сталі
Зямля апляце дзеразой.
Шмат яны вандравалі.
Хай будзе ім вечны спакой!

———

Сонца разам з зямлёю
Не мільм было Васільку.
Не знайшоў раніцою

Цымбалы свае на суку.
Ды яму па сакрэту
Сказалі, на след навялі.
Удаву Лізавету
Шукалі малыя.
Знайшлі.
Стрэла іх яна міла,
Паснедалі дзеці ў яе,
Толькі выгляд зрабіла,
Што іх яна
Не пазнае.
А цымбалы? Ей-богу,
Яна іх знайшла ля сяла,
Нават тую дарогу
Яна-б паказаць ім магла.
— Хіба бачыце,— кажа,—
У гэтым вы злосны намер,
Вашы,— кажа,— дык — вашы,
Аддам іх,
Але не цяпер.
Я цымбалы суседу
Пазычыла, хутка вярну,
Я за імі паеду
Праз тыдзень, як жыта дажну.
Памажыце мне, дзеці,
Уборкі настала пара.

З лёгкім сэрцам кабеце
Даверылася сястра.
Падмятае ёй хату,
На пашу ганяе гусей,
Каб магла яна брату
Прывезці цымбалы хутчэй.
Даглядае каровы
І жыта высокае жне
Цэлы дзень ля дубровы
З кабетаю нараўне.
Брат снапы ім адвозіць,
Глытаючы вецер і пыл
На нялюбай дарозе,
І свет яму белы не міл.

Жыта ў полі пажата
І тыдзень другі настае,
І не церпіцца брату:
— Аддайце
Цымбалы мае!
А ўдава вінавата:
— Прапалі цымбалы твае.
Я маніла,
Цымбалы згубіла,
Ці верыш, ці не,
Хоць заяву
Самому Густаву
Пішы на мяне.—
Брат адказвае:
— Пані,
Я лепей Кузьме напішу,
Ён з вас, пані, дастане
З цымбаламі разам душу.
Ён пра ўсе вашы справы,
Пра гандаль дазнаецца ваш,
Чый вы,
З ласкі Густава,
Нажытак вязлі на кірмаш.
— Вон!—крычыць Лізавета,
Я ў хаце шпіёніць не дам,
Вон, Густаву пра гэта
Скажу я,
А вось ён і сам.

Сам у хату
Па грошы ідзе, па разлікі,
Па дабро, што ўдава вінавата
За рэчы музыкі.
Яйкі, мёд, саланіну
З салдатамі разам нясе
З хаты ён у машыну.
Задаволены ўсе,
Вельмі ўдзячны жанчыне,
Яна выпраўляе гасцей.
У нямецкай машыне

Павезлі дзяцей.
Іх нічога ад смерці
Ужо ўратаваць не магло.
Тут успомнілі дзеці
Цымбалы.
Ды іх не было.

---

На лясы векавыя
Густаў
Паглядаў
Праз акно.
Расказалі малыя,
Што маці ў дуброве даўно.
Пра яе падрабязна
У дзяцей распытаў.
«Маці іхняя, ясна,
Памерла»,—
Ухмыльнуўся Густаў.
А таму ёй суровы
Тыднёвы
Ён тэрмін дае,—
Як не прыйдзе з дубровы,
То дзеці загінуць яе.

**8**

Дзень мінае, а дзеці,
А дзеці чакаюць дарма,
І другі ўжо і трэці
Мінае,
А маці няма.

Роў глухі, немінучы
Іх сёння чакае ўначы.
Дрот на вокнах калючы,
Яго не зламаць,
Не ўцячы.
Сёння змрок вечаровы
Схавае абрысы сяла.
Іх застрэляць...

З дубровы
Жанчына ішла.
Затрымаў неласкава
Яе вартавы ля дзвярэй
І прывёў да Густава.
— Хто ты?

— Маці дзяцей.
Я іх доўга шукала.
Увесь свет абышла...
Па ўсіх сёлах пытала,
Дзякуй людзям,
Знайшла...

Кату гэтая справа
Нечаканай была:
— Ты іх маці? Цікава.
Ты за імі прыйшла?
Вось тут справы якія,
Дзеці, кажаш, твае?
Так... А можа чужыя?

— Што вы, што вы?
Мае,
Цвёрда ведаю гэта.
Іх-жа бачыў народ,
Знаю ўсе іх прыкметы,
Як завуць, колькі год.

— Мне не трэба прыкметы,—
Усміхнуўся Густаў,—
А цябе я, кабета,
Адразу пазнаў...
Бо да маці падобны
Тыя дзеці, што ў нас.

І ўсміхнуўся нядобра
Яшчэ раз.

— Што-ж рабіць? Я не знаю,
Я аддаў-бы малых,

Але-ж выкуп...
— Я маю.
— Выкуп трэба за іх.
— Выкуп знойдзецца, будзе.
Грошы ў торбе, вось тут.
Іх давалі мне людзі,
Не шкадуючы...
— Гут.

Зноў стаіць і чакае
З торбаю ля варот.
І салдат выпускае
Моўчкі вязняў за дрот.
Дзеці будуць багаты —
Маці не пазнае.

Чым яны вінаваты,
Што яны не яе?
Узяла іх за рукі,
Моўчкі прэч павяла.
Не прызнаць і за краты
Кінуць іх не магла.

Голыя сенажаці
Ад сяла да сяла.
Ім на выручку маці
Не прыйсці не магла.
Іх знайшла і ў астрозе,
Дастала з-за крат,
І цяпер па дарозе
Павяла іх назад.
Што ёй роў, што ёй яма
І астрога сцяна!
Вось якая іх мама,
А гэта яна.
Хоць яна пастарэла,
Хоць і цяжка пазнаць,
Але хто-б гэтак смела
Іх пайшоў ратаваць?

— Мама, мама! —

Уголас
Пазваў Васілёк.
У адказ яму голас:
— Што, сынок?
Што, сынок? —
Маці вочы ўціірала,
А прычына адна —
Слёз сваіх не стрымала,
Значыць—гэта яна.

— Мама, помніш, ты ўпала,
У дуброве лягла,
Нас дагнаць абяцала,
Помніш?
— Я не магла.

— Я чакаў цябе, мама,
Верыў, прыйдзеш здалёк,
Я шукаў цябе, мама.
— Я таксама,
Сынок...

А бяроз верхавіны
Залаціла зара.
Прыглядалася да жанчыны
Неўзаметку сястра.
— Гэта маці не наша,—
Падумала так.
Але брату не скажа,
Нічога не скажа аднак.
Хай ён верыць, што мама
Знайшла іх, не ўмерла, жыве.
І як брат,
Гэтак сама,
Тым-жа імем жанчыну заве.
І вядзе іх жанчына
Па шляху.

Пад гарой
Іх дагнала машына.
— Матка, стой!

Там, за шклом у кабіне,
Той-жа кат іх — Густаў.
Вылязае.
Жанчыне
Падыйсці загадаў.
Да бярозы маўкліва
Ён адводзіць яе
І пытаецца кпліва:
— Дзеці, кажаш, твае?
— Так.
Глядзіць ён сурова:
— А не ўводзіш у зман?
Іх-жа матка з дубровы,
З партызан.
Вестку пэўную маю,
Што яны не твае.
Быць іх маткай не раю,
Мы шукаем яе.
Я цябе адпускаю,
Іх-жа...
— Дзеці мае.

— Праўда?
— Знаеце самі.

— Што-ж, адпусцім дзяцей,
З іх-жа маткай... з табою
Пагаворым пазней.

Развітання хвіліна —
Адпускаюць дзяцей.
Шэпча дзецям жанчына:
— Вы ўцякайце хутчэй!
Абдымае, як маці,
Іх яна ўпершыню.
— Ты нас зноў пакідаеш?
— Я вас зноў даганю.

Голыя сенажаці
Ад сяла да сяла.

Варта іхнюю маці
На размову вяла.
Толькі маці — ні слова.
Прывялі яе:
— Стой!..

Грымнуў стрэл вечаровы
У яе за спіной,
Вораг цэліў не міма,
Біў у карак агнём:
— Ты плаціла грашыма,—
Мала,
Трэба жыццём!

Пахіснулася, ўпала
Маці ў роў,
Не ўстае.
...Значыць, праўду казала,
Значыць, дзеці яе...

**9**

Васілёк са сваёю сястрою
У лесе схаваўся.

Праз сон
Ён пачуў раніцою
Далёкі ў бары перазвон.
Ружавелі аблокі.
Спакой ахапіў іх лясны.
Звон далёкі
Пачулі яны.
Глянуў брат таямніча
З хвіліны тае,
Быццам нехта іх кліча
У нетрах...

— Цымбалы мае!

І на звон той бягуць яны разам
Маўкліва, без слоў.
Гул і звон урачысты тым часам

З усіх далятае бакоў.
Сонца шле ім праз вецце
Высокі, вясёлы прамень.

Прытаміліся дзеці.
Прытаміліся.
Селі на пень.
А гушчар скрозь глыбокі —
Сосны, елкі адны.
Звон той самы, далёкі
Зноў чуюць яны.
Чутна музыка тая,
На якую ішлі,
Толькі ўжо далятае
Як-бы з-пад зямлі.
Што за гул далятае
З-пад імха, дзеразы?
Хто на струнах іграе?
Што гучаць за басы?
Што гучыць, хто іграе?
Хлопчык ведаць не мог.

Вось рукой разграбае
Дзеразу ён і мох.
І застыў нерухома
Каля пня ён таго,
Бо ляжалі, вядома,
Там цымбалы яго.

Хтось ішоў, нехта ехаў,
Штось не проста было...
Набліжалася рэха
І ў цымбалах гуло.
І хлапчук на яловы
Павесіў іх сук.
— Чую гул я вайсковы.—
Тлумачыў хлапчук, —
Хай пад веццем зялёным
Перамога гудзе...
Гэта з войскам чырвоным
Музыка ідзе!

Не забыў ён радзімы
І цымбалы свае,
Сочыць сэрцам за імі,
Да струн дастае.
Людзі праўду казалі.
Збылося! —
Тлумачыў хлапчук.

І цымбалы на струнах гайдалі
За гукам гук.

Зашумелі кусты,
Затрымцелі лісты.
Выйшаў к дзецям на звон
Воін... Ён ці не ён?
Рукі чорныя ад смалы,
Пыл на твары і пот.
Так... Музыка былы
Тут спыніў свой паход.

Сонца горача сёння пячэ,
А дарога лягла
Ад сяла да сяла
І яшчэ
Ад сяла да сяла.
Тут пазнаў ён усіх:
Сосны, елкі,
Малых,
І аддаў ён цымбалы,
Дар трывалы,
Найменшаму з іх.
— Ты іграй,—: ён казаў,—
Я сваіх не зрабіў яшчэ спраў,
Бо жыве яшчэ, дзеці,
На свеце
Наш вораг Густаў.

І пайшоў, і за ім яго цень.
І малыя
Адзін за адным.
І цымбалы пакінулі пень

Назусім.
Хтось ішоў, нехта ехаў,
Якіясь машыны гулі,
Набліжалася рэха,
Мацнела ў ствалах і галлі
Рух узняўся за лесам
І лязгат, і гром немалы.
І запахла жалезам,
І дымам ужо ад смалы.

Нібы птушак,
Навала
На крыллях панесла дзяцей,
Паімчала, пагнала
Далей, і далей,
І далей.

Ног не чуюць ад шчасця,
Хапаюцца за ствалы,
Каб не ўпасці,
Малая, малы.

Вось і ляды,
І сенажаць,
І прысады.
Прыбеглі,
Глядзяць.

Каля вёскі
Стаяць яны ўдвух.
Войска, войска,
Бясконцы рух...

Гул і крыкі
Зліліся ў адно.
А музыкі
Больш не відно.

Прыглядаюцца
Да байцоў,
Можа здарыцца

Убачыць зноў.
Ды па шляху, па полю
Ідуць, штык у штык,
Можа тысячы,
Болей,
Нецярплівых музык.
Вёрсты, вёрсты мінаюць
Па струнах дарог,
Марш паходны іграюць,
Сваіх не шкадуючы ног.

Адгулі сенажаці,
Дарогі,
Зямля адгула.
Можа гэта іх маці
На захад, на захад пайшла?
Іх знайшла-б на чужыне,
Іх вырвала-б маці з-за крат
І дамоў на машыне
З палону прывезла-б назад.
Што ёй сіла чужая
І роў,
І астрога сняна?
Вось іх маці якая,
А гэта, а гэта яна!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На калесах шчаслівы
З цымбаламі едзе хлапчук.
А са струн нецярплівы
На ўхабах зрываецца гук.

Едзе, едзе.
А збожжа
На полі пажата даўно,
А канца падарожжа
Цымбалам усё не відно.

Пеша, конна, на возе
Прывыклі
З вясны да вясны

Вандравацьпа дарозе
Ад дзеда да ўнука яны.

На вяселле, з вяселля
Вандруюць па хатах яны,
Дзе ў каго наваселле —
І там яны з песняй чутны.

І не лічацца з часам
Яны ў падарожжы такім,—
Па вяках едуць разам
З канём і музыкам сваім.
Люты—жнівень
*1944 г.*

## ЦУНАМІ
### Паэма

**1**

Гатова самаробная пірога —
Дзіця іх мар, таемны дар зямлі.
Ён і яна нарэшце адплылі
Ад кантынента люднага парога.

Яму — за трыццаць,
ёй — за дваццаць год.
Ды хіба ў гэтым рэч?..
Для раўнавагі
Яны ўзнялі два ветразі, як сцягі
Адзінства перад тварам перашкод.

Услед пірозе пазіраў сурова
Лясісты бераг з-пад густых брывей
І, стаўшы рыскай, знік адначасова
З бінокляў іх. Яны — з яго вачэй.

Які прастор!
Іх лодкі незалежнай
Цяпер ніхто не будзе ўладаром.
Наперадзе —
далечыні бязмежнай
Нязнаны край.
Былое — за бартом.

**2**

Так пачалося не падсумаванне
Дзён множаных на колькасць міль марскіх,
Не вандраванне — а выпрабаванне
Кахання, волі і адвагі іх.
Выпрабаванне — быць усюды разам,
Пакінуўшы шумлівы свет людскі,
Не шкадаваць аб ім.
На маякі
Не спадзявацца.
Не лічыцца з часам.

Аддаць пірогу прыхамаці хваль
Па прыхамаці сэрцаў закаханых,
Паласаваць не акіяна даль —
Абшары небяспек неспадзяваных.

Прыйшла, прыйшла мяцежная пара!
Прачнулася жаданне сіл нядрэмных
Прайсці самім адлегласць ад таемных
Пячорных знакаў да лемантара.

**3**

Які спакой!.. Дарэмна нейкі цынік,
Каб папярэдзіць здзейснены намер,
Прапанаваў ім Гейгера лічыльнік
Узяць з сабой.
Як смешна ім цяпер!

Ён гаварыў ім:
«Ваша падарожжа
Такое — для Зямлі не навіна.
Яна вярнуць вас нечакана можа
На той жа бераг — круглая яна.

Вам хочацца быць вольнымі, як рыба
Між акіянскіх хваль,—
смяяўся ён.—
Вы ў гэтым шчасце бачыцё, а хіба
Дасягнутае шчасце — не палон?

Няўжо не так? Няўжо вам неахвота
Прыслухацца да ісціны старой,
Што неспакой не лечыць адзінота,
Што адзіноту лечыць неспакой?

**4**

Вы не адны,— іх папярэджваў цынік,—
Няўжо не будзе вас палохаць час?
Вы на Зямлі пакінулі гадзіннік,
Але гадзіннік не пакінуў вас.

Ён свой няўмольны лік вядзе вясне

І летнім дням — па сонечных гадзінах,
Дням восені глыбокай — па маршчынах,
Зімы суровым дням — па сівізне.

Яшчэ ніхто з яго дакладных рук
Хвіліны лішняе для вандраванняў
Не атрымаў. Не толькі для спатканняў
Ён існуе, але і для разлук.

Гадзіннік той нячутнаю хадою
Час адлічае ўсім, хто на зямлі.
Каго ж вы ашукалі —
што з сабою
Гадзінніка ў дарогу не ўзялі?

**5**

Адкіньце неразумныя намерыі
Як можна жыць разцу без разьбяра,
Нявыказаным думкам — без паперы,
Паперы — без чарніла і пяра?

Хто ў людным свеце жыў ад нараджэння,
Без страт няўхільных не пакіне свет,—
Яму ад кніжак фільмаў і газет,
Як трэсцы ад агню, няма збавення.

Дум не заменіць вам пасцель з травы,
Якой вы ўсё жытло сваё заслалі.
Калі яе салонай зробяць хвалі.
Аб чым тады падумаеце вы?

Свет пад пагрозай. Гейгера лічыльнік
Я прапаную вам узяць з сабой...»
Пакінута Зямля. Забыты цынік.
Як добра ім адным!..
Які спакой!

**6**

На даляглядзе —
вечная дарога,
Бясконцых хваль расплаўленае гикло.

Яны і далеч.
Іншага нічога
Няма, не можа быць і не было.

На невядомым ім мерыдыяне,
На нейкай непрадбачанай вярсце,
Сустрэць ім давялося ў акіяне
Адкрытым —
чалавека на плыце.
Хто ён такі —
патомак іх ці продак?..
Ён за вады крынічнае глыток
Прыёмнік аддаваў — надзейны сродак,
Каб дапамогу выклікаць здалёк,
Альбо, калі таго жадаюць самі,
Стаць радыёгадзіннікам для іх,
Альбо ад пільных служб берагавых
Прыняць паведамленне аб цунамі.

**7**

Хай п'е ваду крынічную нябога!
Яны з ягоных рэчаў не ўзялі
Нічога.
Ім не трэба дапамога
Забытых імі вырабаў зямлі.

Сышліся твар у твар — яны і вечнасць,
Тут кожны быць павінен сам сабой,
Як смага — смагай, як вада — вадой.
Шукаць выратавання — недарэчнасць.

Жадаў ім шчасця ў падарожжы светлым
Плыта ўладальнік. А яны яму,
Як сябру па шаленству аднаму,—
Удачы ў вандраванні кругасветным.
На грані небасхілу і вады
Знік чалавек, свой плыт аддаўшы далям.
Хвілінным сэрцы сціснуліся жалем —
Марацкі лёс,
пазбаў яго бяды!

**8**

Пад ветразяў сваіх лагодным ценем
Яны плылі. Лілася сінява
З нябёс у лодку, дзе даўно трава,
Як на лугу, духмяным стала сенам.

Ён для яе — матрос і капітан.
Ім іншае кампаніі не трэба.
Штодня ў вачах яе ён бачыў неба,
Яна ў ягоных зрэнках — акіян.

Палярны сівер ім не здаўся змрочным.
Іх калыхаў экватар, як малых,
Дарыў адно ім сонца на дваіх —
На небе то паўднёвым, то паўночным.

Зямля зачараваная планета,—
Тут можна бесклапотным маракам
На лодцы пераехаць з лета ў лета,
З вясны ў зіму —
і лік згубіць гадам.

**9**

Так і яны.
Хто адказаць ім можа,
Хто, па якіх прыкметах адгадаць —
Прайшло паўгода,
цэлы год
ці пяць
Гадоў прайшло з пачатку падарожжа?

Што ім гады наступныя, калі
Яны, сваё пакінуўшы стагоддзе,
Па добрай волі і сумеснай згодзе,
Да часу першабытнага плылі.

Яны плылі пад хмар пагрозным ценем,
Шторм закіпаў.
Палундра, маракі!
Калі штурвал не слухае рукі,
Нялёгка кіравацца летуценнем.

На грэбнях чорных хваль зіма раве,
Завеяй слепіць лодку-недарэку...
А ветразі дванаццатага веку
Сустрэчным ветрам век дваццаты рве.

**10**

Мінулі шторм.
Выратавання святам
Мог ціхі момант стаць для іх, калі б
Не ўскінуў век, ахрышчаны Дваццатым,
На даляглядзе выбуховы грыб.
На трыццаць міль вакол, на мілі ўглыб
Смерць выпраменьваў вызвалены атам —
Навекі вокамгненне стала катам
Для шхун рыбацкіх, рыбакоў і рыб.

Назад, марак!
Ганіся ўслед за штормам,
Ратуйся ў родных сховах буры той
Ад буры гэтай, што махае чорным
Нябачным сцягам за тваёй спіной.
Назад, назад, марак, пакуль з лічынак
Рашучасці тваёй не выпаўз жах,
Які па хвалях і мацерыках
Праносіць крыж свой —
Гейгера лічыльнік!

**11**

Яны дагналі шторм. Зноў хмары цень
Ахутаў іх, як коўдрай, з галавою.
За грыву хвалі ўчэпістай рукою
Трымаліся два дні.
На трэці дзень

Утаймаваўся акіян. І хвалі,
Прыкмеціўшы бязлюдны астравок,
Як трэску, лодку іхнюю прыгналі
І выплеснулі ціха на пясок.

Яны яе на бераг усцягнулі,

Пасля перакулілі ўгору дном,
Пасцель паслалі з сена і заснулі
На ім, як дзеці, неабудным сном.

Ну вось, ну вось і здзейснены намеры,
Сам лёс пераступіць ім дапамог —
Без ветразяў, без думак, без паперы —
Забытай эры знойдзены парог.

**12**

Сон цуды з чалавекам робіць сонным.
Жанчына стала Пятніцай. А ён —
Быў мараком, прачнуўся Рабінзонам.
Як свет змяніўся за кароткі сон!

Зноў іх жыццё заведзена з пачатку.
З мінулай явы ў гэтую ўзялі
Яны сякеру, простую апратку,
Зярнят чатыры жмені — для раллі.

Яшчэ з сабою захапілі памяць,
Што можа скласці зруб — пад бокам бор,
Агонь здабыць, азначыць плотам двор —
Аседлы кут, які даўно пара мець.

Даўно пара! Пасля трывожных дзён,
Шаленства бур, злучыўшага іх лесы,
Ім неабходна засяваць палосы.
Так думала яна.
А Рабінзон?

**13**

А Рабінзон, увесь ад сонца чорны,
Вёў з незнаёмкай дзіўны дыялог:
— Як ты пасмела наш парог пячорны
Пераступіць?
— А ён і мой парог.

— Дарма прыйшла. Да спраў былых не проста
Мяне вярнуць.
— Прывыкнеш за сталом.

— Няма паперы.
— Знойдзецца бяроста.
— А карандаш?
— Абыдзешся вуглём...
Па свеце ты павандраваў нямала.
Ты сустракаўся з тысячамі шхун...
— Яны ўжо сталі тысячамі трун,
Іх знішчыў выбух, бездань пахавала.
— Ты думаеш, што можна вольна жыць
Пасля таго відовішча?
— Не знаю.
— Што ў лесе робіш?
— Памяць аднаўляю.
Каб зноў у лук яе ператварыць.

**14**

— Што можа лук — гаротнае дзіця,
Зрабіць, хаця б для самазахавання,
У час ліхі ўзаемапалявання
Ракетадромаў смерці і жыцця?
Як можаш ты забыцца ў лесе гэным
На выбух той, што ўсе лясы наскрозь
Прасвечвае, трымае пад рэнтгенам
Луг і паляну, дзе пасецца лось?

— Чаго прыйшла?
— Каб ты не знаў спакою.
— А праганю?
— З'яўляцца буду ў сне,
Зязюляй стану, ценем за спіною
Тваёй! Прагнаць не зможаш ты мяне!

Задумлівы, ён з лесу векавога
Нёс памяць, перайначаную ў лук...
Ку-ку! Ку-ку!
Ляцеў шчымлівы гук
Настойлівым працягам дыялога.

**15**

Ку-ку! Ку-ку! —
Гучыць перасцярога.

Шторм наляцеў. Каціўся вал вады
І хмар адтуль якраз, адкуль сюды
Калісьці іх прыбілася пірога.

Але цяпер ужо не ў акіяне
Згусціўся змрок, і на яго экране
За мутнаю заслонай эўкаліпт
Высвечваўся, як вадародны грыб.
Дажджу мятлой навала па лагчынах
Мяла, сляпіла зрок, глушыла слых
Разрадамі.
Як Гейгера лічыльнік,
Лавіла сэрца трэск злавесны іх.

Шторм адшумеў і адгрымеў пагрозай
І выкінуў на бераг гэты гул,
Як дзве пірогі, тушы дзвюх акул,
Прасвечаных яго смяротнай дозай.

**16**

Абсмаленая лодка — на вадзе.
Заслана сенам. Зноў над ёй узняты
Два ветразі.
Марак з лясное хаты
Сваю сяброўку верную вядзе.
Адчаліўшы ад берага, з адчаем
Яна глядзела на глухі куток.
Маўчаў марак. А ёй здаваўся раем
Бязлюдны двор, бязлюдны астравок.
— Што гоніць нас? —
Яна ў яго пытала.—
Чыя рука? Чый злосны нагавор?
— Навала тая, што страху сарвала,
Плот павалiла, загнусiла двор.
— Я плот магу падняць і двор падмесці,
Сарваную страху на кроквы ўзнесці,
Я ўсё зраблю, не пашкадую рук...

Ку-ку! Ку-ку! —
Ляцеў услед ім гук.

**17**

— Цяпер ты чуеш?
Тут няма спакою.
Ад дум цяжкіх пазбавіўся я сну.
Яна нас гоніць!
Толькі перад ёю
Я ветразяў шумлівых не згарну!
Я адшукаю месца, дзе б ні хмары,
Ні цёмныя трывогі не змаглі
Парушыць мар былых.
— А што, калі
Палонам нашым стануць нашы мары?
— Няхай палон! А хіба для насення
Пласт чарназёму — не такі ж палон,
Засек — не маўзалей? — пытаўся ён.
Яна маўчала, лежачы на сене.

Бязмежны акіян — вячысты млын,
Малоў, як мелюць жыта, самавіта
Трывогі іх. Забыты напамін
Лясной вяшчункі.
А за ім —
забыта

**18**

Усё.
І толькі ў памяці пустой
Варушыцца бясконцасць хваль кіпучых.
Злівайся зноў з сям'ёю рыб лятучых,
З хмар навальнічных дажджавой вадой.
Плыві і падначальвайся парадку
Спрадвечнасці—
пірогі без грабца —
Дзе ўжо, здаецца, і табе пачатку
Няма і не прадбачыцца канца.

Сцяблінкі жуючы, яна адчула
Не водар сена — водарасці пах
І далі той, што зноў іх праглынула,—
Чужы, салёны прысмак на губах.
Яе не цешыць болей існаванне

Бяздумнае на ўлонні хваль сівых.
А на душы —
цяжкое прадчуванне
Няўхільных змен. Няшчасцяў. Бед ліхіх.

## 19

Шэсць дзён маўчала.
На абрыдлым сене
Бед прадчуванне непакоіць сны.
На сёмы дзень, нарэшце, як збавенне —
Зямля!
Зямлю прыкмецілі яны.

Яна плыла на іх абрубкам сушы,
З дрэў і металу збітым астраўком,
Іх адзінокай лодцы голас дужы
Сігнальным пасылаючы гудком.
Зямля!..
Ваду ўзбіваючы вінтамі,
Плыў,і спяваў, і весяліўся свет,
Навінаў поўны, кніжак і газет,
Людзей, якія з палуб іх віталі.

І, зычачы бадзёрага настрою,
На памяць аб сабе знаёмы свет
Ім пакідаў за карабля кармою,
Як за гумном, зялёнай сцежкі след.

## 20

Зямля, зямля!
Глядзіць жанчына з лодкі,
Гатовая змяніць тугу на смех,
Вандровак горкі хлеб — на хлеб салодкі
Шумлівых палуб і гасцінных стрэх.

Прасцёрла рукі, позіркам трывогі
Праводзіць пенны след, што за links кармой,
Чакаючы, а можа, ім пад ногі
Лес кіне круг выратавальны свой.

І кінуў лес, зславіўшы адвітальны

Самотны крык яе вачэй нямых,
Ім з палубы не круг выратавальны —
Транзістарны прыёмнік на дваіх.

Судно знікала павай з далягляду,
Па хвалях метучы хвастом даўгім...
Грымеў транзістар.
Яблыкам разладу
Зямля ляжала паміж ёй і ім.

**21**

Навіны дня перадае прыёмнік
Яму і ёй. Ад клопатаў сваіх
Той свет, які нядаўна караблём знік
За далягляд, не пазбаўляе іх.

Калі на вусны доўгая дарога
Кладзе цяжкой маўклівасці пячаць,
Размоваю пустой перапыняць
Не варта субяседніка такога.

Ён — цішыня іх. Слухай цішыню!
Лаві трывожны міг паведамлення!
Як тым запалкам ад свайго агню,
Ім ад саміх сябе няма збавення.

На лодцы, дзе раней яна і ён
Жылі спакойна, звіў гняздо трохкутнік.
Парушаны няпісаны закон.
Хто трэці лішні?
Прэч з вачэй, пакутнік!

**22**

Была ўжо ноч. Плылі салодка гукі
З прыёмніка. Глядзеў у сіняву
Маўкліва ён, паклаўшы галаву
Цяжкую на сашчэпленыя рукі.

Не так даўно рабіў ён спробу з ёю
Пагаварыць. Ды горкая туга
Сказала вусны ёй. Цяпер тугою

Сказаны ён.
Прыйшла яе чарга
Яго суцешыць.
Як пазбыцца ліха?
Дзе слова — неабходнае яму?
Яна транзістар выключыла ціха
І кінула нячутна за карму.
Ну вось, ну вось і скончаны нягоды,
Адна і ноч і лодка на дваіх.
Забылгся яны ў абдымках згоды,
Агульнай коўдрай неба укрыла іх.

**23**

Да астраўка скалістага не хвалі
Прыгналі іх. Няўхільны рух жыцця
Сюды накіраваў: яны чакалі,
Што хутка ў іх народзіцца дзіця.
Падрыхтаваў бацькам пясчанік буры
Пячору-дом між прыбярэжных скал,
Рагаціна —
пасцель з мядзвежай шкуры,
А лес —
агонь і дровы на апал.

Калыску памяць вострая змайстрыла.
Хіба магла наперад памяць знаць,
Што суджана труной калысцы стаць,
Што першай нянькай будзе ёй магіла,
А полагам — той самы чорны сон
Людскі, якому шхун рыбацкіх мала?
— Чаму не я сырой зямлёю стала? —
Няўцешна маці плакала.—
А ён?

**24**

Перад магілкай сына, над якой
Скала ўзнялася помнікам жалобным,
Застыў марак, нібы на месцы лобным.

Маўклівым ценем за яго спіной
Стаяла незнаёмка. Для размовы

Не месца тут, дзе вечнасці парог,
Дзе толькі што закончыўся суровы
Паміж жыццём і смерцю дыялог.

Скала на дол глядзела мутным вокам.
Маўчала незнаёмка, як скала.
Пайшоў марак. Яна за ім пайшла
Нямога ценю асцярожным крокам.

Пасля нячутна правяла бацькоў
Яна да лодкі.
Іх цяпер у мора
Адгэтуль гнала не яна, а гора...
Яна —
глядзела ім услед без слоў.

**25**

Няхай не адбылося дыялога
На гэты раз.
Але і без яго
Чуў бацька ў крыках хлопчыка свайго
Крык рыбакоў, не ўстаўшых з дна марскога.

Спіць сын, руку паклаўшы на руку.
Той выбух, ад каторага ўцякалі
Бацькі, той смерці атамныя хвалі
Яго дагналі.
Тут. На астраўку.

Не гаварыў апошніх слоў над ім
Ягоны бацька, знаючы, што сына
Не ён адзін,а ўся зямля павінна
Хаваць шматлюдным зборышчам сваім.

Яшчэ ён знаў:
непахаваным людзям,
Прапаўшым ад злачыннага святла,
Магілай брацкай гэты востраў будзе,
А надмагільным помнікам — скала.

## 26

Няма шляхоў да самазахавання,
Няма дарог да светазабыцця
У час ліхі ўзаемапалявання
Сіл супрацьлеглых:
смерці і жыцця.

Адзінства гартаваць людзей павінна,
Каб раз'яднанасць не магла ў бацькоў
Бацькоўства адабраць, пазбавіць сына
На хлеб і сонца спадчынных правоў.

Ты — бацька.
Пагаджацца з цёмным сховам
Загубленага хлопчыка не след
Датуль, пакуль яго пагібель свет
Тваім апошнім не аплакаў словам.

Хай не плітой чыгуннага ліцця
Яно гучыць.
Хай ляжа, як насенне,
У грунт, з якога ўзыдзе абурэнне —
Тваё непахаванае дзіця.

## 27

Зямля — не процілегласць акіяна,
Яна — яго каменная пасцель.
Пільнуецца марак, каб нечакана
Не трапіць ім на рыф альбо на мель.

Ад хваляў не хаваючы імкнення,
Хутчэй на сушу трапіць,
трапіў ён
З пірогай адзінокай у раён
Цунамі — у палон землетрасення.
Цунамі — гнеў зямлі. Яго штуршкамі
Падхоплены, як бурай, капітан.

Мацерыку вяртаў іх акіян
На рэактыўным лайнеры цунамі...
Ён бартавыя выключыў агні,

Маторы, што да мэты даляцелі,

І кінуў іх на бераг,
як з купелі,
З пятнаццаціметровай вышыні.

**28**

Цунамі — гнеў дарослых. Людзі — дзеці.
Што значыць хвалям — іх угаманіць?
Разбілі лодку. Ветразі, як сеці
Дзіравыя, павесілі сушыць.

Расхрыстаны, адзін сядзеў над імі
Былы марак. З ім побач не відно
Нікога больш. Даўно ці не даўно
Ён так сядзіць і зрэнкамі пустымі
На свет глядзіць?
Яшчэ сваёй бяды
Ён цёмнай думкай ахапіць не можа...
Хіба ўжо скончылася падарожжа?..
Што азначаюць на пяску сляды?
Адбітак поўны жорсткага значэння:
Няўжо яна пакінула яго?..
Пакінула вось гак, без тлумачэння,
У непрытомным стане, аднаго?

**29**

Куды пайшла? Чаму яе няма?
Які ўчыніла гвалт над ёй навала?
Хто дасць адказ?
Забытае ляжала
Люстэрка перад ім. Замест пісьма.
Ён у люстэрка цъмянае яе
Сам на сябе глядзіць, як на чужога,
Староннім вокам.
Толькі рыс былога
Свайго аблічча не распазнае.
Глядзіць і, як па сонечных гадзінах,
Вядзе падлік нелічаным гадам:
Дням восені глыбокай —
па маршчынах,

Па сівіне —
зімы халодным дням.
Вятрамі пашматаная апратка —
Убор, якому тысячы гадоў...
Няўжо люстэрка цёмнае —
адгадка
Яе нерастлумачаных слядоў.

**30**

Ён сцерці намагаўся рукавом
Яскравы след, не верачы нягодзе,
Як Чаплін, што ў славутым эпізодзе
Бот палісмена засыпаў пяском.

Не мог паверыць нечаканай здрадзе
Марак, як валацуга кайданам.
Якое тлумачэнне даць слядам,
Прапаўшым на таемным даляглядзе?

А можа, палічыла нежывым
Яна яго?..
І неўзабаве дрогі
Прыедуць пахавальныя за ім
З труной заместа «хуткай дапамогі»?
Пытанне ёсць, ды на яго няма
Яе адказу.
Пошта не прыслала.
Хто дасць адказ?
Забытае ляжала
Люстэрка перад гм. Замест пісьма.

**31**

Няўжо збавенне ў бездані нямой
Яна знайшла? А можа, смерці хвалі,
Як сына іх,
цяпер яе дагналі
Вось тут — і пахавалі пад вадой?
«Хто мне адкажа: на якім я свеце? —
Сябе спытаў ён голасам глухім.—
Зачым тут сонца сушыць антысеці —

Мае былыя ветразі?

Зачым?

Якая сіла ўспененыя хвалі
Не на зямлю, а ў акіян імкне?
Сляды свой ланцужок аддрукавалі
Чаму не да мяне, а ад мяне?..»

Ён з месца ўстаў. Яго ў свае пацёмкі
Цягнула хваляў мутная імгла.
— Куды ты? Не спяшайся! Я прыйшла,—
Пачуў ён строгі голас незнаёмкі.

**32**

Ён з месца ўстаў. Хоць клікаў за сабою
Нямых слядоў балючы ланцужок,
Падаўся прэч.
У процілеглы бок,
Пакінуўшы стагоддзе за спіною.

Ку-ку! Ку-ку! — Ляцеў шчымлівы гук,
Злучаючы сабою, ЯК дарога,
Настойлівым працягам дыялога.
Пячорны лук і гэты, зорны, лук,
Што над зямлёю выгнуўся дугою,
Лук для ракет, якому цецівою,
Нацятай туга — служыць касмадром.
— Ну вось, ну вось, ты ў мой вярнуўся дом.
Пара за працу. Скончылася эра
Блуканняў адзінокае душы.
— Няма бяросты.
— Знойдзецца папера.
— Няма вугля.
— Карандашом пішы.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Над сонечным мацерыком разліта
Духмянасць ніў спякотным летнім днём.
Ён і яна ў цяньку сядзяць, дзе жыта
Шуміць зялёнай хваляй за гумном.

Як за кармою карабля. Пясчынкай
Адпачывае на руках ралля.
Ганяецца дзіця іх за пушынкай,
Падобнай на жывога матыля,
Сапраўднага, што ловіцца за крылы.
А можа, гэта не яны, а іх
Далёкія патомкі, што ў сваіх
Абліччах іх абліччы паўтарылі?
Хто б ні былі яны, а толькі зноў
Яны — жыцця людскога сувязныя,
Дзве долькі неразлучныя, якія
Вякам перадаюцца ад вякоў.

1968 г.

## *ДАЛЁКА ДА АКІЯНА*

### Уступ

Выток і рэк і шляхоў адзіны:
Ад непрыкметнае ручаіны
Паходзяць плыні
рэк паўнаводных,
Шляхі —
ад рэчышчаў
пешаходных.
І, нібы ў мора,
бягуць у горад
Шляхі-дарогі,—
адтуль, дзе вусціш,—
Рвучы напорам
маторным
горла
Каменных вуліц,
як рэкі вусце.
Жыццё —
шляхоў і рэк падабенства:
Рух падарожны
распачынае
Юнацтва наша
з крыніц маленства
І ў акіян небыцця
ўпадае.
Але не маюць
шляхі і рэкі
Зайздроснай памяці
той, што можа
Аднойчы пройдзенае навекі
Вярнуць
з далёкага
падарожжа.
Жыццём агораўшы
век суровы,
Адбедаваўшы
час навальнічны,

Людская памяць
плысці гатова
Зваротным шляхам
у край крынічны.
Край Магілёўскі!
З гармат Еўропы
Смерць засявала
твой шнур жалезам,
Ды
не змагла —
зараслі акопы,
А не дарогі,
травой і лесам.
Як у Дняпро,
у шашу Варшаўку
Цякуць рачулкі
дарог глыбінных,
Выносяць жвір
на траву-мураўку
Па дрогкіх
памяці
каляінах.
Там неабсяжнасць
нябёсаў сініх!
Там Сож і Проня,
Віхра і Бесядзь
Рукамі чулых
прытокаў сынніх
Лугі
і пушчы
і нівы песцяць.
Мне б разам з імі
вясне ўсміхацца,
Вітацца з летам,
праводзіць восень,
З зімой спрачацца
і не спяшацца
На месца тое,
куды адвозяць.
Там, дзе рыпела
мая калыска,

Мне б жыць і верыць бесперастанна,
Што да вытокаў жаданых —
блізка
І што далёка —
да акіяна.

## Экран

Лес, які пакінуты
Многа год назад,
Зноў мяне галінамі,
Шумам лісцяў рад
Прывітаць.
На сонейку
Ранішнім чуваць,
Як па ржышчу конікі
Путамі звіняць.

Сёння я — не сталасці
Неспакойны госць,
Не ўцякач ад старасці
Злой у маладосць,
Не стралок з бярданкаю,
Што ў хмызняк зайшоў,
Травяной палянкаю
Ходзіць і глушцоў
Выглядае седала...
Сёння я — паток
Вусця, што наведала
Цудам свой выток.
Верыцца не верыцца —
Разважаю ўслых:
— Колькі, колькі іх
Згінула, не вернецца
Больш да брам сваіх!..
Высушаны рэчышчы
Іхнія да дна,
Спапяліла печамі
Пушчы іх вайна,
Самі ўжо дуброваю
Сталі і траву

Жывяць трохметровую,
Спяць... А я жыву
Тут і абавязаны
Перад той травой,
Перад тымі вязамі
Памяццю жывой,
Сённяшняй, каторая
Здольна ўзняць з магіл
Попел крэматорыя,
Бухенвальда пыл.

Сёння зноў, як з выраю
Птах немалады,
На спатканне шчырае
Прыляцеў сюды
Я — з былымі справамі...
Пень — замест стала,
Небасхіл — круглявымі
Сценамі жытла
Служыць, ранак — брамаю.
Я ж служу зямлі
Службай той жа самаю —
Зерняў, што ў раллі.
Сею, сею з лубкі той
Словы, думы, сны
На кругах загубленай
Векавой сасны.
Бор, іголкай хвойнаю
Пакруці па іх! —
Мовай грамафоннаю
Запісаў былых
Адзавецца з замяці
Змрочнай небыцця
Голас вострай памяці,
Гулкі бег жыцця.
Зашумяць спатканнямі
Зноў сцяжынкі страт.
Пад напластаваннямі
Мітуслівых дат
Ажыве замецены
Сцюжамі запал.

Гэтыя адведзіны —
Рух, а не прывал,
Сненне звышфатоннае,
Што сюды прыйшло
Абагнаць зялёнае
Прошласці святло,
Кінуць пацьмянелую
Глыб яе палян
На паперу белую —
Нашых дзён экран.

Уключай гадзіннікі,
Часу рухавік!..
Хай шумяць ляшчыннікі,
Хай вядуць адлік,
Некалі аплочаным
Коштам пачуцця,
Сцежкам і абочынам
І кругам жыцця,—
Што не вызначалася
Ростам і ў густой
Мураве хавалася
Разам з галавой,—
Што імкне па аркушы
Белым, нібы снег,
Запісамі шпаркімі
Свой прадоўжыць бег
Прагны і бязбоезна
Стаць у гурт людзей
З муравой — да пояса,
З жытам — да плячэй...
Уключай лічыльнікі,
Час!.. Выводзяць хай
Нас твае ляшчыннікі
У далёкі край!

## Хата

З хаты пачынаецца
Свет, што людзям люб.

Хата ў птушкі маецца,
У крыніцы зруб,
Што ў часы далёкія
Прадзеды-дзяды
Ёй рубілі з вокнамі,
З брамкай — для вады,—
Каб цяклі струменьчыкі,
Пакідалі лог,
Як акно — агеньчыкі,
Як сляды — парог...

Хату, аб каторай я
Памяць берагу,
Я з самой гісторыяй
Параўнаць магу,
З дробнаю дзяржаваю,
Дзе няпэўны лад,
Дзе за гучнай славаю
Крочыць заняпад.

Хата будавалася
Перад той вайной
І не проста звалася
Хатай, а — карчмой.
Быў над той дзяржаваю
Гонтай крыты дах,—
З палавінай праваю —
Вокнамі на шлях,
З леваю — няяркаю...
Там карчмар не жыў,
Там мужык за чаркаю
Песняй боль глушыў.
Сенцы пасярэдзіне
З кухняй для шынка.
Горкая ўвярэдзіла
Дробнага царка:
З трона споўз законнага.
Дом пасля хаўтур
З бровара казённага
Майстар-вінакур
Адкупіў.

Кіпучаю
Хваляй заліла
Хутка рэвалюцыя
Цішыню сяла.
Горам катаваныя
Ў ход пусцілі прэнт.
Бровар зруйнаваны быў
Мужыкамі ўшчэнт.
Так на хату купчую,
З лёгкай іх рукі,
У пару кіпучую
Набылі бацькі.
Ім прадаў нядорага
Дом свой вінакур,
Што паходзіў з горада...
А зямелькі шнур,
Пляц, якім валодала
За царом карчма,
Як зямля народная,
Іхнім стаў дарма.

Майстрам двор пакінуты.
Лад былы нізрынуты,
Новы завялі
Шкрабы — бацька з маткаю,
З іншымі парадкамі,
З лазняй, садам, градкамі
На шнуры зямлі.

Новых, з новай справаю,
Дом прыняў людзей,
З палавінай праваю,
З левай,— як раней.
З правай палавінаю —
Для гаспадара,
З левай, гаспадынінай,—
Для патрэб двара.

Там гудзеў да раніцы
Матчын калаўрот —
Хатні друг настаўніцы,

Чорны ад турбот,—
Бурам падпяваючы
Тонкім галаском,
Дым лучын хістаючы
Шпулькі вецярком.
Ночкамі нядзельнымі
Маці ніткі там
З барады кудзельнае
Выскубала нам.
Грукаючы кроснамі,
Ткала да відна
Там з тых нітак вёснамі
Сцежкі з палатна.
Слала іх пад вокнамі
І са сцежак тых
Восенню сарочкі нам
Шыла, каб у іх
Зімнімі нядзелямі
З прагнасцю — праз год
Барадзе кудзельнай мы
Зноў глядзелі ў рот.

Восенню палыннаю
Доўгай ноччу, днём
Пахла там адрынаю,
Токам і гумном.

Там, устаўшы раненька,
Маці вольным днём
Малаціла пранікам
Проса з ячмянём.

Там, калі над пушчамі
Навісала золь,
Рукі яе лушчылі
Боб, гарох, фасоль.

Там стручкі, маснічыны,
Ўсе да аднае,
Нэндзай пералічаны,
Пранікам яе.

Там і ў снах з'яўлялася,
Пад выццё зімы,
Гора, што хісталася
Па кутках карчмы.

Правай палавінаю
Ведаў бацька мой.
Кут жылы — з гасцінаю.
А за ёй — пакой
Цесны, што бакоўкаю
Звалі — спалі там,
З грубкаю, з кладоўкаю
Для аконных рам.
Сцены тынкаваныя
Аж за карчмаром.
Лаўка фарбаваная,
Лямпа над сталом,
Грамафон, што Ленскага
Спевам лашчыў слых,
Прывазныя, венскія
Крэслы, шафка кніг,
Гэта ўсё — як спадчына,
Даўні скарб жытла,
Як і тыя,
матчыны,
Сцены без святла,
Дзе лучына ночкамі
Трэскала з нуды
Ад агню, над ночвамі
Поўнымі вады.

З даўніх пор заведзена
Гэтак у людзей.
Сенцы — пасярэдзіне,
З кухняй — для дзяцей.
З цёплаю ляжанкаю
Печ. Засланы стол
Поснай самабранкаю —
Агуркі, расол.
На яду скаромную

Рот не разявай:
Жытніца вядомая —
Магілёўскі край.
Лапці, світкі зрэбныя —
З нашых сёл якраз
На заробкі хлебныя
Ездзілі ў Данбас.

От бы нам адправіцца
У паход з сястрой.
Кажуць, месяц славіцца
Белаю мукой.
Праз акенца б вылезці
З кухні — ёй і мне,
Калі месяц выгляне,
Калі дом засне.
Ноччу ззяе зорамі
Неба сінява.
Месяц над прасторамі —
Не адзін, а два.
Першы, што ўздымаецца
Над зямлёю — мой,
А сястрын — купаецца
У вадзе рачной.
Нас ён, праз крынічныя
Лучкі, беражком
На блінцы пшанічныя
Павядзе ў свой дом.
Дзесяць крокаў — весніцы,
Сорак крокаў — мост.
А ад іх да месяца
Колькі будзе вёрст?
Печ — пад столлю нізкаю,
Вецер — пад страхой,
Полаг — над калыскаю,
Крыж — над галавой,
Песня калаўротная
На краю сяла...
Хата наша родная,
Ты той была!

## У галодны год

Могуць шпулькі з ніткамі
І без лямпы жыць.
Лямпа — каб над сшыткамі
Вочы не сляпіць.
Для хаціны курнае
Лямпа — лішні рот...
У краю разбураным
Газы недарод.
І вядзе радочкамі
Шпаркімі пяро
Ленін, заклапочаны
Планам Гоэлро.

Рэдка возяць з горада
Газу, мыла, соль.
На Паволжы голадна,
На Палессі голь.
Дзеці беспрытульныя
На дарогах... Як
Жыць без хаты ўтульнае?
Разважала так
Маці.— Маеш з хатаю
Хлеб і праснакі,
А з двайной зарплатаю —
Мыла два брускі.
Як з бясхлебнай думаю
Засяваць штогод
Вечнае, разумнае?..

Толькі агарод,
Сад і клець уласная,
Вырашчаны злак —
Не заняткі класныя,—
Думаў бацька так.—
Дбай парой зімоваю
Аб касьбе, жніве,
Аб муцэ з паловаю,
Аб кані ў хляве.
У часы нясытыя,

Як насыціш ты
Хаты прагавітае
Прагныя раты:
Пашчу жорна — грэчкаю,
Пчол ляткі — сытой,
А кармушкі — сечкаю,
Ночвы — лебядой?..
Дежцы дай — бо просіць жа!
Цеста і аўчын,
Для зімы і восені —
Нашчапай лучын.
А для ступы — проса сей,
Грэй дрывамі печ,
Кашаю бярозавай
Лазню забяспеч...

Бацька думаў: нечага
За скаромны суп
З раніцы да вечара
Рваць работай пуп.
Як і ўсе, агораем
Неяк год цяжкі,—
Сын з дачкой не хворыя
Есці праснакі.
Маці, нібы плісіца —
Ёй дзяцей шкада,
Калі коршак блізіцца
Хцівы да гнязда.
Чулі мы — спрачаліся
Так яны не раз,
Потым запіраліся
Ад сябе, ад нас.

А назаўтра — тая ж злосць,
Крыўдны напамін.
У бяды для сваркі ёсць
Тысячы прычын.

Маці з бацькам снедалі
З намі ў ранні час.
Быў у іх — мы ведалі —

Суд. Развод.
А ў нас?
Маці растлумачыла
Дзецям пра дзяцей:
— Будзем жыць іначай мы,
Лепей, чым раней.
Бо не распадаецца
Гурт наш, а жыве,—
Сцен сваіх трымаецца,
Хоць сям'і і дзве.
Будзе нам падвоена
Ніўка, сенажаць,
Будзе нам дазволена
Дзвюх кароў трымаць.
Малако, скалоцвіна,
З маслам папалам,
Будзе ў нас,—
даводзіла
Наша маці нам,
Сытных дзён жадаючы
З любасцю ўваччу,
Ад дзяцей чакаючы
Згоды...
— Не хачу!
Не хачу нічога я! —
У адказ дачка,—
Не хачу такога я
Масла, малака!..

Слёзы пакаціліся,
Як гарох на стол.
Не дагаварыліся:
Бацька — вочы ў дол
І занепакоены
Вылецеў на двор.
Потым за сабою ён
Ад усіх запёр
Палавіну правую.
Маці — на сваёй —
Занялася справаю
Хатняй — малацьбой.

І было ад ранейка
Чутна цэлы дзень,
Як стагнаў пад пранікам
Матчыным ячмень.

Ноч... Бацькі разведзены
Па кутках карчмы.
Кухня — пасярэдзіне,
А на кухні — мы.

Словы маці марнаю
Марай не былі,—
Сталі паўгектарнаю
Паласой зямлі.
Гэта — не пад вокнамі
Агарод і двор,—
Хата адзінокая
Выйшла на прастор,
На палі шырокія,
Дзе палетак свой
Вымярала крокамі,
Плугам, бараной...

Паласу выходзіла
Засяваць сяўня,
Сейбітаў выводзіла—
Бацька, маці, я.
Крокі тры пакінула
Для малой сястры,
Каб апошняй кінула
Зерняў жменькі тры.

З новым полем сілаю
Мераліся ўсе.
Покуль не прабілася
Рунь на паласе,
Покуль,
стаўшы ніўкаю,
Ратнікаў сцяну
Не ўзняла, паклікаўшы
Хату на вайну.

Дзве жняі, загонную
Паланіўшы рацць,
Выйшлі, каб палонныя
Каласы вязаць.
Наступала з Поўначы
Першая жняя,
А другая, звонячы
Зброяю,— з Паўдня.
У адной — здубелыя
Пальцы, як лядні,
У другой — спацелыя
Ад гарачыні.
За спіной у першае —
Туманы, імгла,
У другой — бязмежная
Паласа святла.
У адной: курлы-курлы!
Жураўліны клін,
Мэндлікі аблытаны
Сеткай павуцін.
У другой: куга-куга! —
Вечны крык жыцця,
Спёкаю пад полагам
Не засне дзіця.
Па-над колкай пожняю
Жытняй паласы
Схілены апошняю
Жменяй каласы.
Стрэліся хвілінаю
Гэтай серп з сярпом,
Просінь — з павуцінаю,
Сонца — з туманом.
Стрэліся, пазносіўшы
Жніўныя дары,
Жнеі — Лета з Восенню —
На сваім шнуры.

Лета ў рукі восені
Лейцы аддало:
Жыта перавозіла

На кані ў сяло
Гаспадыня новая...
Сустракаўся днём
Жоўты ліст з дуброваю,
Жоўты сноп — з гумном,
З сажалкамі, з рэкамі —
Лён і канапля,
Ураджай з засекамі,
З бараной — ралля,
З буйнымі зярнятамі —
Сейбіта сяўня,
Хлеб гарачы — з хатаю,
З песнямі —
сям'я.

Песні грамафонныя
У вячэрні час
Пад трубой зялёнаю
Зноў збіралі нас,
Зноў гучалі згадкаю
Зборышчаў былых,
Дзе — за самапрадкаю —
Напявала іх
Маці нам,— за пяльцамі
Альбо за шытвом,—
Гэткім, як у Вяльцавай,
Срэбным галаском.
А змаўкаў замучаны
Грамафон стары,
Запявалі гучна мы
Песню аб Дняпры
Дружнаю чацвёркаю,—
Аб плыўцах рачных
З валацужнай, горкаю
Адзінотай іх.
Як у сонца з просінню,
Як у дрэў і ніў,
Як у лета з восенню,
Так і ў песень быў —
У вясёлых, жаласных —
Свой кругазварот...

Пела, забывалася
Хата пра развод.

**Агонь**

Узляцелі дужацца
Роем у палі
З першай снежнай сцюжыцай
Лісце-матылі.
Жоўтым, устрывожаным
Пасланцам бяроз
Крылцы адмарожвае
Вецер ды мароз.
Сівер над абшарамі
Пагражае ім,
Замятае хмараю —
Венікам сівым.

Над імглой балотнаю
Зноў, як год назад,
Бой вядзе з лістотаю
Белы снегапад,
Каб правы, што страчаны,
Вырваць у яе...

У пары дзіцячае
Ёсць кругі свае.
Першы круг — пад вокнамі
Зранку вымяраць
Двор і прызбу крокамі
Шырынёю ў пядзь.
Далягляды новыя
Адкрываць штогод —
Межы палыновыя,
Лазню, агарод.
Круг другі —
абжытыя
Поле, лес і луг,
Рэчкаю абвітыя...
Школа — трэці круг.

У пары дзіцячае,
Светлае пары,
На кругах адзначаных
Ёсць свае сябры.
Мне дагэтуль помніцца
Наш буланы конь,
Легендарнай конніцы
Ветэран,—
Агонь.

Час імчаў
Абпаліла скронь.
Трох адважных імкліваю
Бурай над Агнём,
Бой махаў над грываю
Шабляй і клінком.

Сто разоў
агнём яму коннікаў
Пахаваў Агонь,—
Смерцю заарканеных
У нялюбы свет.

Трох байцоў параненых
Здаў у лазарэт.
Пад камандай сёмага
Сам зазнаў палон
Доўгага, рухомага
Лазарэта ён.

З ранай незалечанай
Скончыў паслужны
Спіс, вайной скалечаны,
Ветэран вайны.

Стаць на ногі хвораму
Бацька дапамог.
Конь, на згубу ворагу,
Рваўся ў даль дарог.

Што яму лямешная

Сталь, калі камдзіў
Перад строем спешаным
Некалі хваліў
Эскадрон іх, помніцца?..
Як дзевяты вал,
Залівала конніца
Волгу, Дон, Урал.
Што яму палеткамі
Плуг і барану
Рухаць, калі гэткую
Ўзняў ён цаліну!

Дзе пранесла Конная
Сцяг свой баявы,—
Маючы законныя
На зямлю правы,—
Засялялі шумнага
Свету ўладары
Школамі, камунамі
Панскія двары.

З арміі вярталіся
Людзі да зямлі,—
Горкімі шпітальныя
Шрамы не былі.
Сотні сёл,
паселішчаў,
Тысячы дарог
Сустракалі велічна
Тых, хто перамог,
З меткамі ўчарашняга
Шабельнага дня...
Так наведаў нашага
Мірнага каня
Госць, вайной не скошаны,
Коннік той,
з якім
Ганарыцца можа наш
Ратны конь адным
Спісам паслужным:
Тула —

Харкаў —
Крым.

Стрэча нечаканая
Для бацькоў, але
Скварка і жаданая
Чарка — на стале.
Конь глядзіць з падворышча
На байца ў акно,
Нібы хмельнай горычы
З ім не піў даўно.
Госць сядзіць, расчулены
Вернасцю свайго
Сябра, што пад кулямі
Ратаваў яго...
На каня паказвае
Бацька мой:
— Бяры!..
Дружба — рэч адказная,
Вы ж — з вайны сябры...
Конь — не для настаўніка.
— Конь, ён — конь для ўсіх.
Кажа маці, ставячы
Закусь на дваіх.

Госць бацькам адказвае:
— Дружба — рэч адказная,
Разумею сам.
Толькі абавязаны
Я каню, ён — вам.
Тут яго крывавая
Рана зажыла.
Не, не маю права я
Браць — вайна прайшла.
Зможа ў вас таварыш мой
Зарабіць на хлеб
Покуль не састарае,
Покуль не аслеп.
З бедамі ж зазнаецца,—
Лепш бы іх не меў,—
Знае хай, што маецца

Двор яму і хлеў,
З хлебам, з дапамогаю.
Вось вам адрас мой...

І далей дарогаю
Госць пайшоў сваёй.

А каню няможацца
Аднаму ў хляве,
Б'ецца ён,
трывожыцца,
Ды не па траве
З чэрвеньскімі росамі...
Пасярод двара
Тысячагалосае
Чуе ён «ура».
Ён жыццё цывільнае
Замяніць гатоў
На былое, пыльнае
Цоканне падкоў,—
З бурамі, з маланкамі,
Што ўзрушаюць кроў –
Вострымі і яркімі,
Як лязо клінкоў!

Не пад тымі вострымі
Шаблямі імчы,—
Гэй, буланы,
вёрстамі
Нашы дні лічы!..

Сонца ходзіць высака —
Сонца дагані!
Ягады на высеках
Абляпілі пні.

Недзе плача чаіца.
Чуеш, дарагі?
Вось і завяршаецца
Намі круг другі.

Ты мінай сунічныя
Лапіны — кось-кось! —
За дубровы зычныя,
Гучныя вынось.
Сціхне рэха гулкае —
Знікне лес з вачэй.
Пакідай мінулае,
Рвіся ў даль хутчэй.

Дык вынось дзіцячымі
Сцежкамі, мой друг,
З марамі гарачымі
Нас на трэці круг!

**Жалоба**

Сустракаўся з пушчамі
Снег, з вадою — лёд,
З холадам і сцюжамі —
Высакосны год,
З горкімі турботамі —
Неспакойны час,
З мукамі смяротнымі —
Розум Ільіча...
Падхапіўшы чорную
Вестку, правады
Белаю прасторую
Перастук бяды
Неслі ў даль зімовую,
Тонучы ў снягах,
Гулкіх сосен моваю
Стогнучы ў слупах.
Дзень і ноч краіне ўсёй
Боль перадаваў
Гучны бор,
што лініяй
Тэлеграфнай стаў.
Стылі, як ад холаду
Стыне ў жылах кроў,
Ад марзянкі
голыя

Ніці правадоў.

Выбіты марзянкаю
Бег жалобны жаль
Ад Масквы маланкаю
Па слупах удаль.
Нёс яго з трывогаю
Тэлеграфны бор
Доўгаю дарогаю,
І на школьны двор,
Перайшоўшы поле,
Скіраваў да нас.

Ставілі мы ў школе
П'есу ў гэты час
На ўрачыстым зборы
Вучняў і бацькоў.
З тэлеграмай скорай
Бор
у зал
зайшоў.
Ад цяжкой
ягонай,
Нежывой
хады
Падала заслона
На памост пусты.
А са стужкі
стылай,
Што ў яго руках,
Стогн прабег па жылах,
Холад —
па радах,
Як па правадах.
Стала ціха.
Чулі мы,
Як рыпяць снягі
На маскоўскіх вуліцах,
Чорных ад чаргі,
Што жалобнай стужкаю
Ленінскіх сцягоў

Там вілася ў сцюжную
Ноч сярод кастроў.
Нам перадавалася
Водгулле пакут,—
Нібы адбывалася
Ўсё не там, а тут.
Тут ён лёг, здавалася,
Галавой на кут.
Тут, хваробай змучаны,
Ён забыўся сном
За заслонай, спушчанай
Над яго жыццём.
Апусцеў наследжаны
Зал, дзе грамадой
П'еса не дагледжана...
Сцэна, а на ёй
За глухой заслонаю,
Воку не відна,
Высіцца чырвоная
Леніна труна.
Сцюжаю сібернаю
Тут, у школе, ён
Пад аховай вернаю,
Пяць начэй і дзён
Будзе разам з вучнямі.
Мы яго адсюль,
Сцежкамі не гучнымі,
Пад завеі куль,
Праз шрапнелі замеці,
Панясём далей
У нязгаснай памяці
Вечны Маўзалей.

Над жалобнай школаю
Час нястрымны цёк.
Цішыню вясковую
Абудзіў званок.
Зноў склікаў ён раніцай
Сцюдзеньскаю нас,
З сумкамі і ранцамі,
На заняткі ў клас.

Зваў на п'есу вечарам,
Тую, што была
У зале не дагледжана
Гледачом сяла.

**Адзін**

Бацька больш аб школе дбаў,
Маці — аб малых...
Не судзіць,— хто праў, не праў,
Нам сягоння іх.
За мяне і за сястру
Рассудзіў іх суд
У галодную пару
Бед, нястач, пакут.
А мінулася бяда,
З позвай узышоў
Школьны год — ганец суда —
На парог бацькоў.
Ён прынёс (як лістапад
Ветра позні свіст)
На зямлю, на двор, на сад
Выканаўчы ліст.
Дзеці выраслі, пара,—
Ён казаў бацькам,—
З непрытульнага двара
Разлятацца вам.
Загадаў асобна жыць
Суд і нам з сястрой:
З бацькам — мне належыць быць,
З маці жыць — малой.

Першы раз за шэсць гадоў
Думала сям'я,
Як дзяліць свіней, кароў,
Хату і каня.
Дзве каровы.
З іх адна —
Мне,
адна — сястры.
Абсмаліла кабана

Маці на двары.
Можна лёгка падзяліць
Тушу тапаром
На дваіх.
А як жа быць
З хатай і канём?
Не падсмаліш аганьком
Роднай хаты дах,
Не пацягнеш,— тапаром
Рассякаць,— на шлях.

На дварышчы ў нас чутно,
Як звініць званок.
Школу, гледзячы ў акно,
Бачу праз гаёк.
Засталося два гады
Мне туды хадзіць.
З хаты з'едзем.
Як тады
З навучаннем быць?
Зажурыўся выпускнік,
Абвясціў услых,
Што за пяць гадоў прывык
Да сяброў сваіх,
Што застацца хоча тут...
Вось вам і прысуд!

І лягчэй адразу ўсім
Стала на душы.
Не распаўся назусім
Гурт наш. Не кажы!.
Не застаўся родны дом
Без гаспадара,
Покуль конь і я з канём —
Жыхары двара.
Гэта хата, поле, луг
З рэчкай заадно —
Даўняй еднасці ланцуг,
Я — яго звяно.
Думаць так лягчэй бацькам.
Адкладаўся боль

Іх на два гады,
а там
Можа і на больш.
Можа ўдасца дзён былых
Адхіліць разрыў,—
Я, агульны клопат іх,
Той надзеяй быў.

Маці, бацька, я, сястра
Жытам агарод
Засявалі — паўшнура —
Для патрэб майго двара
На наступны год.
Паўшнура ж, дзе бульбяны
Меўся быць кагат,
Пакідалі да вясны
Мне з канём — для град.
У сям'ю агульную
Нашую з канём
Цётку беспрытульную
Запрасілі ў дом.
З ёю дагаворана —
Старшай быць у нас.
Дык прымай,
Тадораўна,
Сала, круп запас,
Самапрадку матчыну,
Бацькаў грамафон.
Зажывём у складчыну
З гэтых самых дзён.

Адзвінелі, згінулі,
Як званкі, дзянькі.
Першымі пакінулі
Дом і двор бацькі:
Паімчаў са станцыі
Бацьку паравоз,
Маці сам на працу я
На кані адвёз.
Час займацца справаю
Ёй... Звініць званок...

Памахала праваю
Мне рукой здалёк
Маці, выпраўляючы
Да чужых людзей,
Леваю — трымаючы
Хустку ля вачэй.

Доўгаю дарогаю
Я паражняком
Каляінай дрогкаю
Тарахчу з канём.
З ім ускрай бярэзніка
Едзем мы на ўсход,
Маем з ім —
равеснікі —
Па трынаццаць год.
Як у забабонныя
Нашыя гады
Везці скарбы тонныя
Злыбяды-бяды?
Як,—
хачу параіцца,—
Мацаваць ланцуг
Той, што рассыпаецца
На вачах, мой друг?

Шэсцьдзесят агорана
Вёрст.
Каня распрог.
Абабіў я, зморааны,
Пугай пыл дарог...
Дзе ж яна, Тадораўна?
Можа быць, пайшла
На сяло з падворышча?
Вокны —
без святла.
З клямкаю вітаюся,
Зняў з дзвярэй замок.

Як п'яны, сланяюся
Я з кута ў куток.

Блудзіць,— не канчаецца,
Па карчме мой шлях,
Рэхам адгукаецца
Па яе кутах.
Хат пустых агледзіны...
Як і ў дні нягод,
Кухня — пасярод.
Вось калі — разведзены,
Вось калі — развод.
Крок траіцца пошчакам.
Змрок...
Нібы з нябожчыкам
Тут стаіць труна,
А па шкле акна
Льюцца слёзы матчыны.
Шыбіны звіняць
Аб тых днях, што страчаны
І ў труне ляжаць.
Чую, шапку скінуўшы,
Як ад страты той
Матчын ток з адрынаю
Стогне за сцяной,
З горыччу мяцельнаю
Вые калаўрот,
Барада кудзельная
Свой скрывіла рот.
Комін растрывожаны
Слёз не пракаўтне...
Хлынуўшых, няпрошаных —
Не стрымаць і мне.

## Восем і адна

Токам і адрынаю,
Правай палавінаю,
Кухняю гаротнаю,
Скрухай калаўротнаю
На краю сяла,—
Чым ты толькі, родная
Хата, не была?
А сягоння ў змрочную

Сенцаў цішыню
Хлынулі святочныя
Гукі ўпершыню.
Не паны заехалі
З песняй,—
не ў пару,—
З музыкай, як некалі,
Ў госці к карчмару.
Не!.. Гуртка мастацкага
Тут вячэрні збор —
Скокі заліхвацкія,
Самадзейны хор.
Спеўка генеральная
Скончана... Але
Музыка цымбальная
Чутна на сяле.
На яе збягаюцца
Людзі ў дождж і золь.
Полька-Янка граецца,
Печ, падлога, столь,
Хата ходзіць ходырам,
Поўная людзей.
Скача Ганна з Хвёдарам,
З Зосяю Агей.
Не сярдуй, Тадораўна!
Кут, што змалку люб,
Сёння ператорвораны
У вясковы клуб!

Нам з канём пакінуты
Двор і шнур зямлі.
Лад былы нізрынуты,
Новы завялі
Зухі і свавольнікі
Кватаранты школьнікі,
Дома жыхары —
Дружбакі-сябры.
Іх у паўнапраўную
Долю дом прыняў,
З палавінай праваю,
Што раней займаў

Бацька. З левай — матчынай,
З кухняй — пасярод,
Дзе карміла складчына
Шумны свой народ.
Кіравала хатаю
Правай — восем нас
Хлопцаў. А дзевятая,
Старшая на клас —
Левай палавінаю.
Токам і адрынаю,
Намі верхаводзіла...
Хоць расла ў рыззі
Змалку, ды паходзіла
З вёсачкі Князі.
Не за радаслоўную,
Не за бацькаў род,
Называў Князёўнаю
За красу народ
Кватарантку нашую.
Аляксандрай, Сашаю
Клікалі яе
Школьнікі свае,
Птушкаю — Тадораўна,
Я — Алесяй зваў.

Гора, з ёй — не гора нам,
Дзён ліхіх не знаў
Родны дом, як некалі...
Я ў ім, як і ўсе,
Чысціў па чарзе
Бульбу, балазе
Не раслі няўмекамі
Мы з гадоў малых,—
І ў камах кумекалі,
І ў лушпінах тых.
І не гэтак рваліся
Гатаваць камы,
Як часцей стараліся
Быць з Князёўнай мы.
Памагаць ёй з вёдрамі,
Лыжкі, міскі мыць

Па раскладу цвёрдаму...
Лазню з ёй паліць
Мы былі не гордыя,—
Дым глытаць і горкія
Слёзы разам ліць.

Я, Кандрат, Лявон, Панас,
Сцёпка, Казік, Стась, Ігнась
І адна — яна.
Так і звалі людзі нас —
Восем і адна.
Хто працуе за сталом,
Хто — каля акна.
За асвету бой вядзём —
Восем і адна.
Сценгазету і плакат
(З невуцтвам вайна!)
Выпускаем мы да свят —
Восем і адна.
Лічаць нас яе хвастом,
Хай! — не навіна.
Мы ж і ў голаў не бяром —
Восем і адна.
Дзевяць нас — адзін гурток,
Зноў звініць струна,
Зноў пяе з адрынай ток —
Восем і адна.
Зноў іграем польку, вальс
Ледзь не да відна
Для людзей, што клічуць нас
Восем і адна.
Я, Кандрат, Лявон, Панас,
Сцёпка, Казік, Стась, Ігнась
І адна — яна.

Адсвяціў каштанамі
Парку майскі ўбор,
Адрыпеў гіганамі
Шумны школьны двор,
Адгуляў з бядовымі
Хлопцамі ў кракет.

Выпуску чарговаму
Шлях ляжыць у свет.
Для таго, хто сёлета
Скончыў сёмы клас
Адзвінеў вясёлага
Навучання час,
Адкаціўся хмарамі —
Водгуллем вясны,
Адкружыўся парамі
Ў вечар выпускны.
Чэрвеню раздольнаму
Рукі парк прасцёр.
Цягнецца ён школьнымі
Ліпамі ў прастор
Палявы, за прасліца,
Дзе ў апошні раз
З нашай сямікласніцай
Крочым мы якраз.
Чутны рып гармоніка.
Бубна ранні гром.
Узыходзіць сонейка.

Мы на ўсход ідзём
З песняй аб крынічаньцы,
Што хлапец капаў,
З жалем па дзяўчыначцы,
Што кахаў — не ўзяў.
Не сцяжынкай роснаю
З ёю мы ідзём,—
Мы яе даросламу
Лёсу аддаём.
Там, з вяселлем, з бомамі,
Як народ пяе,—
Людзі невядомыя
Забяруць яе.
Тайнага, нясмелага
Сэнсу, зразумелага
Толькі нам адным,
Поўна ў спеве тым
Нашым, што ўздыханнямі
Будзіць сенажаць...

Не! Не нам прызнаннямі
Ёй надакучаць.
Хай з нябёс бясхмарная
Свеціць ёй вясна,
Хай краса не старае,
Як з чужым яна
Хлопцам абвянчаецца...

Сярод жытніх хваль
Пракрычала чаіца.
Сціснуў сэрца жаль.
Вывелі сцяжыначкі
Нас на біты шлях...
А ў тае дзяўчыначкі
Слёзы на вачах.
Потым мы ўсміхаліся
Ёй, а нам — яна.
Так і развіталіся —
Восем і адна.

**Песня і жняя**

Ад заняткаў вольныя
Лета дні цяклі.
Сціхлі класы школьныя,
Як без пчол вуллі.
З парт і падаконнікаў
Лёгкаю рукой
Час канікул школьнікаў
Змёў — за роем рой.

Змоўк, забыты песнямі,
Дом наш — інтэрнат.
А сябры за весніцы
Рушылі да хат,
Да патэльні матчынай,
Да турбот яе,
Ад нясытай складчыны
На блінцы свае.
Чую зноў,
за кнігамі —

Прагны іх чытач —
Адзінокай кнігаўкі
Аднастайны плач.
Жыта поўніць шумамі
Пустату дарог.
Аб жніве падумаў я —
Маці на парог...
Хай з ранейшай прагаю
Я не рвуся ў бор,
Ракаў не выцягваю
З патайных пячор;
Хай праз шкло ружовае
Не гляджу на свет,
Памяццю захоўваю
Горкіх метак след,—
Ды ўсё роўна рады я
Раз у год пачуць
Матчын серп за хатаю,
Як палоску жнуць.
Жыта агароднае,
Каласоў сцяна!..
Выйшла маці родная,
Хоча знаць яна,
Колькі важыць золата
Паласы былой.
Ажаніўся сёлета
Бацька на другой.
Горкаю часінаю,
Як над дамавінаю,
Як аб нежывым,
Мы аб ім маўчым.
Ды калі над нівою
Пачало світаць,
Не змагла маўклівая
Маці больш маўчаць.
Зазвінеў над пожняю
Востры, як сярпок,
Векавым галошаннем
Матчын галасок.
Золата прыгоршчамі
Грабучы, ляцеў —

Ад часоў прыгоншчыны
Аж да нашых — спеў
Скаргаю надтруннаю.
Гнула песня стан
Служкай падбізуннаю...
Голад — той жа пан!
Голад, як не выжнеш ты
Дзецям на блінцы,
З-пад страхі іх выжыве,
Пусціць у старцы.
А як выжнеш голасам
І сярпом загон —
Зрэжа разам з коласам
Тваю сілу ён.
На зямлю спусцілася
Сіняя імгла.
Маці прытамілася,
Песня знемагла.
Працаю агораны,
Дзень пад мэндлік лёг.
Разлічыцца змораным
Жнеям дапамог
Вечар
з нівай хлебнаю
Месяца сярпом,
Промняў сцежкай срэбнаю,
Ржышча дыванам.

Ажаніўся суджаны,
Шлюб узяў з другой..
Не былі атручаны
Горкай навіной
Лета дні гарачыя,
Хлебныя крыхі.
Так і ёсць —
дзіцячыя
Пройдзены кругі,
Хоць яшчэ не мераны
Імі сёмы клас.
Перабег да тэрміну
Мне суровы час

Сцежку бесклапотную...

Я ўжо не хлапчук,
Я ўжо, маці родная,
Пасылаю ў друк
Вершы, што не злоснымі
Ад цяжкіх нягод
Сталі, а —
дарослымі
У трынаццаць год.
Перад самастойнымі
Днямі ў маладосць
Я не абяззброены —
Гарт, прызванне ёсць.
Змрок іх не аблытае,
Не сагне бяда.
Маці, не заві ты іх
Да свайго гнязда.
Тут яны,— дзе рады ім
Сцены,— сцен сваіх
Не пакрыўдзяць здрадаю...
Не заві ты іх!

Скарб, што зваўся нівою —
За снапком снапок —
Пранікаў спажываю
Лёг на матчын ток.
Высушыўшы спорнае
Жыта на радне,
Хлеб змалоўшы жорнамі
На ручным млыне,
Назаўсёды выракла
Маці свой прысуд
Дзён былых апірышчу...

Больш ніколі тут
Не трымаць ёй пальцамі
Шпулек, пяльцаў, спіц,
Не таптаць шурпатымі
Пятамі масніц,
Не хадзіць прыгоннаю

Служкай па шнуры,
Жонкай незаконнаю
Па сваім двары.
Маці развіталася,
Як жняя з жняёй,
З песняй —
што засталася
Назаўжды са мной.

**Прызванне**

Смерць —
лязо імгненнае,
Свет —
яе пракос.
Хіба людзі — тленныя
Каласы для кос,
Прах, трава магільная,
Крыўдны пустацвет?
Можа, былкай пыльнаю
Я пакіну свет?
Можа быць, з пагорка я
Некалі ўзмахну,
Як рукою, горкаю
Веткай палыну?
Можа, над загонамі,
Год праз дваццаць мне
Конь, як клён, зялёнаю
Грываю махне?
Хіба сэрцы блізкія
Навакол мяне —
Бліскаўкі бязлікія
Вокамгнення?..
Не!
Крыжам не закрэслены
Голас пачуцця,
Што прабіўся песнямі
З цемры да жыцця.
Не кранула хцівае
Забыццё і тых
Зерняў,

стаўшых ніваю
Казак, баек, кніг.
Тла закон нізрынуты.
Небыццю з касой
Дзёрзкі выклік кінуты
На зацяты бой.
Чыстаю папераю
Павяла душа,
Як раллёю белаю,
Плуг карандаша.

Што махаеш грываю,
Што вушмі стрыжэш,
Конь мой?..
Гэта ніваю
Ходзіць з ветрам верш,—
Басаногі росіцца,
Мокне ў жыце тым,
У бяссмерцце просіцца.

Конь мой, разам з ім
Руш сцяжынкай новаю,
Скалані нябыт!
Выіскры падковаю
Бліскавіцы з пліт!
Смерць не скрышыць жорнамі
Легендарны шлях —
Рытмамі прасторнымі,
Днямі непаўторнымі
Жыць яму ў вяках.
Конь!
Ляці дэпешаю
У наступны дзень.

Верш — прызванне першае,
Доўгае, як цень.
Раніцай суровою,
З пачуццём жывым,
Бег раллёю новаю
Я за ім, за ім,
Словы раскідаючы,

Поўны свежых сіл,
З прагнасцю глытаючы
Вецер, снег і пыл.
А цяпер няроўнаю
Крочыць цалiной
З лубкай, зерняў поўнаю,
Верш за мной, за мной,
Доўгім па разорыне
Ценем снуючы,—
Высеяць прыскорвае
Зерне да начы,
Покуль не схаваецца
За зямлю прамень,
З ноччу не зазнаецца
Сейбіт, з цемрай — цень.

Можа, іх не ніваю
Стрэне ранак той,
А надтруннай кнігаю
Згорнутай — плітой,
Хай!.. Я дню лямешнаму,
Выкладцы байца,
Як прызванню першаму,
Коннаму і пешаму,
Верны да канца.

## Скарб

Год мінуў. Адлётная
Надышла пара
Для мяне — самотнае
Хаты жыхара.
Памагчы ці здолею
Родным сценам я,
Як студэнцкай доляю
Зробіцца мая
Доля нетрывалая?..
Мае на зямлі
Хата месца сталае,
Пляц, што ёй далі,
Радаслоўе гордае,

Свой драўляны век,
Прызначэнне цвёрдае,
Як і чалавек.
Жыхары дарослыя
З дому ў свет сышлі.
Сцены — рэч не простая.
Як жа быць, калі
Лёс іх засяроджаны
У маіх руках?
Бокам устрывожаным
Конь глядзіць на шлях.
Пэўна, непакоіцца,
Запытаннем скут:
Забяру з сабою іх
Ці пакіну тут?
Мне не лёгка вырашыць
Долю іх. Шкада!
Хата — не для выраю,
Хата — для гнязда.
Конь, які гісторыі
Адгрымеўшай варт —
Не для аўдыторыі
І студэнцкіх парт.

Сэрца поўна горычы.
Ходзяць пакупцы
Па двары, гаворачы
Гучна аб канцы
Хронікі сямейнае;
Кажуць, што ў каня
Зубы безнадзейныя,
Лік вядуць штодня,
Колькі з дрэўца кожнага
Важыць яблык кош;
Выгана мурожнага
Знаюць сабекошт,
Адзічэлай грушыны,
Шчыліны лятка,
Рам, што, пэўна, пушчаны
Будуць з малатка;
На чужой маёмасці

Сходзяцца ў цане,
Куплю нерухомасці
Прапануюць.
Не!..
Скарб мой — не тавар яшчэ,
Двор не аўкцыён:
Гандляваць таварышам
Не дазволіць ён,
Хатаю і пуняю,
Шыбінай акна.
Хіба тут камунаю
Восем і адна
Не жылі?..
Не купіцца
Свет, што я любіў.
Скарб — у лузе купіна,
Неагляднасць ніў,
Лес з густымі шатамі,
На прыпёку пень,
Баразна аратага,
Хмар вандроўны цень,
Швачкаю-машынаю
Пройдзены пракос —
Сценамі, раслінаю,
Зерняў пупавінаю,
Левай палавінаю,
Правай палавінаю
Я да іх прырос.
Купленай рухомасцю
Не бываць ім.
Не!
Што рабіць з маёмасцю? —
Маці піша мне.
Ліст ад'езд прыскорвае
Мой — да парт і кніг.
Ты прымі, Тадораўна,
Ад бацькоў маіх,
Дарам шчырай спадчыны
Нерухомасць сцен
І пасад, прызначаны
Воляй новых змен,

Двор, з адкрытай брамаю,
Малалецтва дні
З прызбаю той самаю,
З дбаннем аб кані.
З ім ары за пунькаю
Шнур, касі лужок...

Пехатой, чыгункаю
Прылятаць здалёк
На пабыўку шчырую
Буду я сюды,
Як вясною з выраю
Бусел малады
На мясціны матчыны...
Жыць тут буду, каб
Вартаваць не страчаны
Дзён мінулых скарб,
Спеў, з гнязда не спораны
Пад страхой трымай
Месца мне, Тадораўна!
А цяпер —
бывай!..
Хаты непарушнае
Вырашаны лёс,
Лазні, груш над крушняю
Хамута, калёс
І каня, што з рэчамі
Клопат мой вязуць
На жалезны, рэйкамі
Вылажаны пуць.

Чуў я раз, за сёламі,
Цягніка лясны
Шум,— як быццам коламі
Лопаў млын рачны.
Шум дужэў і, мелячы
Збожжа, громам з хмар,
Вадаспада веліччу
Мне дыхнуў у твар,
Рухам калыхаючы
Вецце верхавін,

Ліўнем заціхаючы
На лістах асін.

Я даверыў лёс яму
Сёння свой. У свет
Выдаў, як даросламу,
Мне касір білет.
Волата жалезнага
Прагучаў гудок,
Вынырнуў з-за лесу ён
І прыцішыў крок,
І, хадой не зմораны,
Стаў на пяць мінут.
Конь мой і Тадораўна
Анямелі тут.
Да сядла вагоннага
Праштурхаўся я,
Скочыў спрытным коннікам
На каня з каня.
Загрымелі дужыя
Млын і вадаспад,
З месца ўперад рушыўшы.
А зямля назад,
Жоўтая, зялёная,
Паплыла.
З акна
Пазіраў бяссонным я
Зрокам дзікуна,
Як маё мінулае,
Цягніка хутчэй —
Вокамгненнай куляю
Гінула з вачэй,
Як хаваў ягоную
Пару, дым і пыл
За сваёй заслонаю
Смужны небасхіл.
Я ляцеў прасторамі,
Да якіх не звык.

Конь мой! —ператвораны
Дождж у рухавік,

Па чыгунцы пушчаны
Вадаспад і млын,
Здзіўленымі пушчамі
Мчыш ты не адзін.
Конь! Стальнымі рэйкамі
Дзень і ноч грымі.
Пранасі над рэкамі
І мяне з людзьмі.
Туманы на верасе...
Рысь, кар'ер, галоп...
Шлях, які наперадзе,—
Той жа Перакоп.
Адкажы ўстрывожаны,
Конь жалезны наш,
Хто, чаргою скошаны,
Упадзе ў Сіваш?
Колькі душ крывавая
Бездань паглыне
Разам з гучнай славаю?..
Што ты зычыш мне?
Над сям'ёй шумліваю
Восеньскіх бяроз
Рассцілаўся грываю
Дымнай паравоз
З зоркай пяцікутнаю...
Ён імчаў, як час,
На пытанні чутыя
Несучы адказ.

**Гарадок**

Згортваць сшытак рана,
Змерай далеч вокам.
Не!..
Да акіяна
Нам яшчэ далёка.

Сцелецца пад ногі
Маладосці скрутак
Ніткаю дарогі,
Строгай зменай сутак.

З першага світання
Смага вусны паліць,
Гоніць парыванне,
Непакоіць
памяць.

Працы пугай ярасць
Хвошча ўвачавідкі,
Не шкадуе старасць
Маладое ніткі.

Болей чым пятнаццаць
Тысяч сутак круглых
Коціцца юнацтва
Па гарачых вуглях.

Доўгая дарога
Не занатавана.
Не!.. Яшчэ далёка
Нам да акіяна.

Спіць пад ззяннем месяца,
Лёгшы ўздоўж ракі,
Месца, што не месціцца
Назвай у радкі.
Мсціславам,
Амсціславам,
Як не назавеш —
Словы ўсё не сціслыя,
Не даюцца ў верш.
Ну, якраз — каўказскія
Пчолы, што ў вуллі
Наскія, парнаскія,
Лазу не знайшлі,
А дарма!..
Дасведчаны
Бард адчуў бы пах,
Водар старасветчыны
Ў іх на хабатках.
А каб сам са змрочнае

Выбраўся імглы,
Зноў з гары Дзявочае
Глянуў на валы,
На будынак з вежамі
Гулкі, як набат,—
Захлынуўся б вершамі,
Як паветрам, бард.
Услаўляў бы ратныя
Справы, меў калі
Горад не заштатнае
Месца на зямлі.
Вышкі меў нядрэмныя,
Злой смалы груды,
Гонар і таемныя
Пад зямлёй хады,—
Праз якія вёснамі
Князь выходзіў сам
На сустрэчу з соснамі,
На паказ барам.

Нас жа не падземнымі
Вывадзіў кварталамі
Гарадок з нядрэмнымі
Вежамі і ўзваламі.
Вёў ён нас калонаю,
Па адным і парамі,
Вуліцай Чырвонаю,
Брукам, тратуарамі.
Захапляў не скруткамі
Старадаўняй метрыкі —
Радыёпабудкамі
І святлом электрыкі.
Зімнімі пацёмкамі
Праз завеі бурныя
Пасылаў з пуцёўкамі
Нас у хаты курныя.
Ставіў нам умоваю.
Ён не дэкларацыю,
А — абавязковую
Цемры ліквідацыю.
Той, якая крыжыкі

Абвясціла б нашымі,
Калі б мы не выжылі,
Калі б трасцы княжылі.

Месца поўна зменамі
І не толькі гэтымі я —
Тэхнікума сценамі,
Тэхнікум — паэтамі.
Можа вас палохае
Слова? Гучна сказана?
Хай!..
Яно з эпохаю
Больш, чым з лірай, звязана.
Варухні газетныя
Сховішчы, часопісы —
Хлынуць запаветныя
Даты, вершы, допісы.
Раскруці палотнішчы
Друку акруговага —
Замільгаюць прозвішчы
Васіля Барвовага,
Янкі Бурапеннага,
Міхася Праменнага,
Тых, што з сэрца тленнага
Праглі іскры высячы...
Тысячы іх, тысячы! —
Пасланцамі племені,
Руху маладняцкага,
Рынуліся з цемені
Да агню мастацкага.
Хай вартуюць дзіўныя
Вершы маладняцкія
Сховішчы архіўныя —
Іх магілы брацкія,
Хай радкі ўспрымаюцца
Сёння, як гарэзія,—
Сэнс у іх хаваецца
Большы, чым паэзія.

Што за цуд —
уласнае

Слова друкаванае!
Хай і не выразнае,
Хай сабе — займанае.
Хай яно, падплотнае,
Свеціць сталай лысінай —
Пачатковец лётае
З ім, як з торбай пісанай.
І яго на лавачцы
Пры начным ліхтарыку
Ён чытае Клавачцы...
І відаць па тварыку,
Як яна аглушана
Вершам непісьменнага
Пастуха з-пад Грушына
Кастуся Раменнага.

Ён жа ходзіць, раіцца
З лепшымі паэтамі —
Гарадское раніцы
Гордымі прыкметамі.

Юлі Гоман!..
Гэтага
Эпіка і лірыка
Мела за адпетага
Нелюдзіма-схімніка
Гарадская вуліца...
Ён ідзе, разважлівы,
Як манах сутуліцца,
Да зямлі няўважлівы.
Што яму абочыны
З рознымі спакусамі?
Пэўна, заклапочаны,
Размаўляе з музамі.
Галава апушчана,
Да пляча нахілена,
Губы, як у Пушкіна —
Паслядоўнік выліты.

Яркія, адметныя
Гальштукі і запанкі —

Вось штрыхі партрэтныя
Змітрака Прытапенкі.
Патайнымі спратамі,
Як па лесе, гойсае
Лірык за дзяўчатамі —
Семяно мангольскае!
Твар — раскосай вежаю.
Воч байніцы коляцца.
Мае кніжку свежую —
З надпісам ад Коласа.
Сведчанне бясспрэчнае…
Грэх было б — народнаму
Даць такое сведчанне
Песняру нягоднаму.

Трэцім з пералічаных
Слухачоў Раменнага
Быў зямляк з-за Крычава,
Таленту адменнага,
Як сказала б Клавачка.

Эх ты, слава, славачка!
Быў табой залучаны
Я, і ў рад залічаны
Трубачоў са Случчыны,
Полаччыны, Меншчыны.
Можа быць, з паштоваю
Гадавой падпіскаю
Дойдзе ў глуш вясковую
Верш, Дудой падпісаны,
Той, які дэталямі
Не багат, не бліскае
Яркімі крышталямі,
Знай, страха не блізкая,—
Ён табою хрышчаны,
Хвошчаны ляшчынамі,
Глушаны ігрышчамі,
Смалены лучынамі!

**Парыж і Версаль**

На Віхры ўзбярэжжах

Гарадок далёкі,
Хоць і цесны ў межах,
Марай быў — шырокі.
Ён назваў дасціпна,
Выдумкай багаты,
Можа і не сціпла,
Нашы інтэрнаты.
Стаў адзін —
Парыжам,
А другі —
Версалем,
На здзіўленне хіжым
Еўрапейскім далям.
Месца даў уласнай
Воляю законнай
Ён ім на сучаснай
Вуліцы Чырвонай.
Вуліца, як слава,
Вуліца, як дрэва:
Сам Версаль —
направа,
Сам Парыж —
налева.
А што тычыць Сены,
Рэчкі выдатнейшай —
Ёй няма замены,
Чым Віхра, гучнейшай.
Чыстая, як вока,
Працай занятая,
Мые грунт глыбока...
Дзе там Сена тая!
Шчупакоў і плотак
Не палічыш — сіла!
Тысячы б падплотных
Парыжан карміла.
Крызіс там лютуе.
Беспрацоўным рыбку
Кінула б, як тую
Манну на падтрымку.
Гэтак разважалі
Мудра я і Клава,

Што жыла ў Версалі,
Тым, які направа.
Выбар тэм шматлікі
У вясновай далі —
Мы нібы залікі
Па чарзе здавалі...

Гарадком,
спавітым сном,
Мне дарогу значыць
Тратуар дашчаны ў дом
З нумарам шаснаццаць.
Пэўна, стрэне там мяне
Строга Гоман Юлі,
Упікнуць не праміне:
Што, маўляў, за гульні?
Што ж ты, брат, забыў сціло,
Карандаш, паперы,
Сам, як тое памяло,
Падмятаеш скверы?
Застанешся без парток —
Свежая палітра.
А Прытапенка Змітрок
Усміхнецца хітра.
Гэта, скажа, сапраўды
Не зусім дарэчы,
Прызначаеш не тады,
Калі трэба, стрэчы.
Прызначаў бы іх, чумны,
Днём святой нядзелі,
А не ў вечар, калі мы
З Мінску прышумелі.
Ты забыў пра наш ваяж,
Нашыя намеры?
Мы ж вазілі на кірмаш
І твае паперы.
Дом!.. Куток сяброўскіх мар,
Гоман і Прытапенка.

Дом... Лягла на тратуар
Асвятлення лапінка,

Як ад фары, ад акна...
Хмара тытунёвая
Ад вачэй завалакла
Хлопцаў з іх размоваю.

— Як там справы?
— А нішто.
— Не такія дрэнныя.
— Што ні дзверы, што ні стол —
Пакупцы адменныя.
— Ну, а вынік... вынік спраў?
— Сам Хадыка нас прымаў,
Як сябрам, патрос руку...
— Што за ён, Хадыка?
— Белабрысы, пры кійку,
Крышачку заіка.
Вершам даў належны шлях,
Адаслаў наборшчыкам,
Не залежвацца ў сталах
Ім, як тым нябожчыкам.
Адаслаў і твой, Дуда,
Ёсць, сказаў,
жывінка...

Толькі з подпісам бяда,
Выйшла ўсё ж замінка.
Хай друкуе пад сваім,
Рве, казаў ён, з гульнямі.
Хай радок —
не псеўданім —
Пахне тымі гумнамі.
Гэта, брат, не толькі ў твой
Адрас крыўдна сказана...
— Упікаў, што ў нас з зямлёй
Сувязь не завязана.
— Гаварыў, што вершы ў нас
Іншы раз, як прысак.
Менш бы ім гарэлых фраз,
Больш — яскравых рысак...

— Іх, нібы раслінку,

Грэй, казаў ён, працаю,
Вынаходзь жывінку,
Рэж —
сухую рацыю.

Гарадок далёкі —
Нашыя пенаты,
Думкай быў шырокі,
Справамі багаты.

Мы ў ім гартавалі
Сэрцы не для цішы,
Хто — ў сваім Версалі,
Хто — ў сваім Парыжы.

З інтэрнацкай койкі,
З дарагое кніжкі
Мы Парыж далёкі
Бачылі, як з вышкі.

Верныя навукам
Нашых мар атрады
Неслі яго брукам
Сцяг на барыкады.

Там, у даўнім часе,
Маніфеста клічам
Справа пачалася,
Што сваёй мы лічым,—

Што пад неабсяжнай
Раніцаю юнай
Стала песняй нашай,
Мы — яе Камунай.
Штаб сяброўскі. Той жа дом
З нумарам шаснаццаць.
Тая ж тэма: як з жыццём
Сувязь нам намацваць?
Шумны тэхнікум прыціх,
Змоўкла аўдыторыя.
Пад страху бацькоў сваіх

Едуць некаторыя.
Як жа мне? А як жа ім
Хлопцам заклапочаным
Сёння клопатам другім —
Планамі рабочымі?
Я б нанёс бацькам візіт
З імі. Дзе ж тут — новае?..
Ды й настаўніцкі іх быт
Крыху абмяжоўвае.

Ёсць куток, што я сваім
Верным сэрцам слухаю,
Дзе няўдалы псеўданім
Быў прыдуман пугаю.
Там ёсць хата, дзе я рос,
Што не забываецца.
З ёй мяне нялёгкі лёс
Разлучыў.
Бывае так!
Прамінула тры гады —
Гэта ж вечнасць цэлая!
Так і просіцца туды
Прага зразумелая.

Сэрцам поспех чую —
Пэўная фатыга...
Кут свой прапаную,
Як зямлю Хадыка.
Мінскі?
Не! Што родам
З Коласа паэмы.
— Рушым, хлопцы, бродам
Да гушчарнай тэмы.
Больш не знаць вам скрухі,
Быць вам дударамі.
Хай ядзяць вас мухі,
Мухі з камарамі!

Пераход не гладкі:
Будзем піць з вядзерца,
Есці не аладкі,

Спаць, дзе давядзецца.

Ногі пакрывавім
Там аб рэбры лесу,
Шкельцамі ў канаве,
Каменем, жалезам.

Хлопцы не сляпыя,
Знаюць гэта самі:
— Хай ядзяць нас тыя
Мухі з камарамі!..

Пыльны шлях,
як скрутак, лёг
Полем, лесам, кручаю.
Шлях адзін тры пары ног
Крокамі раскручваюць.
Дакаціўся гул глухі.
Бліскавіца з хмарамі
Недзе лес сячэ сухі,
Пыл мяце папарамі.
Як паэт сказаў бы нам:
Голыя і босыя,
Танцавалі хмары там,
Дзеўкі чарнакосыя.

**Агледзіны**

Як рубеж,
праз рэчку мост
Перайшоў з сябрамі...
Падышоў юнацкі ўзрост
Да маленства брамы.
Адпачыць на прызбу сеў,
Грабянуў пясочак,
Быццам выкапаць хацеў
Залаты слядочак.
Палыну,
што рос пры ёй,
Пачапаў лісточкі —
Пахам горычы былой

Прычасціўся моўчкі.
Адпачыў каля дзвярэй...
Перад хатай роднаю
Строгім рухам сцёр з вачэй
Слабасць мімалётную.
Здаўся нізкім уваход,
Печ здалася нізкай,
Той вушак, дзе кожны год
Адзначаўся рыскай.
Стаў да іх —
чало ў чало —
Як суддзя да сведак.
Так!..
Жыццё перарасло
Даўнасць гэтых метак.

З пінжакоў бясконцы шлях
Выбілі да цалі
Падарожнікі.
І — трах! —
Рынуліся ў хвалі.
З рэчачкі мясцовае
Вылезлі, гатовыя
На агляд зямлі,
Да якой прыйшлі.
Запрашай, Тадораўна,
Да стала людзей —
Вёрстамі не зморены
Дружны наш ліцэй!

Вечарам агледзіны
Пачалі. А днём
Лета пад павецямі
Нас змарыла сном.
Тут і думаць нечага,
Тут ніхто б, бадай,
Не ўспароў хлапечага
Сну, каб не Дунай.
Пёс набыў падплотныя
Звычкі шчанюком.
Не забыў — нягодныя —

Стаўшы юнаком,
Не палепшыў норава...
Сядзе — гаў ды гаў! —
Спаць так доўга сорамна,
Уставай, маўляў.
Гаў ды гаў!..— ад ярасці
Аж трасецца хвост.
Гаў! — пара ў гушчар ісці.
Гаў! — пара на мост.

А на ім — з прычыны
Той, што бубен знае —
Сёння вечарына
Не абы-якая!

Стрэча на платформе
Нашага прыезду,
Гучная —
па форме,
Людная —
па зместу.

Гучнай формай — скокі,
Пыл, як на папары.
Ну, а змест глыбокі
Ёсць у кожнай пары.
Я іх знаў па лузе,
Па двары сумежным,
Па адной дзярузе,
Па агні начлежным,
Па няшчасцю, шчасцю...

Сёння, як і ўчора,
Мне смяецца Насця,
Штурхае Хадора.
З Паўлам і Якубам
Аб былым гаворым,
Мост нам служыць клубам
Гэтак,
як і ўчора,
Клубам без задухі,

Клубам пад вятрамі...
Хай ядзяць нас мухі,
Мухі з камарамі!

Не мастак на гульні,
Далікатным тонам
Сціплы Гоман Юлі
Размаўляў з Антонам,
Трактарыст вядомы,
Зух, танцор заўзяты,
Інтэрв'ю такому
Быў не вельмі рады.

Але госць! І як там
Не гарыць вантроба,
Мусіш яму з тактам
Гаварыць,— як робіш,
Ці цяжкая справа
Кіраваць «Манархам»?..

А Змітрок рухавы —
Той не быў манахам.
Вывучаў Хадоры
Строгія дэталі
З вопытам, каторы
Танцы дазвалялі.
А яна, як знала,
На калені села.
— Пойдзем,— зашаптала,
Начаваць на сена?..

Хай не спакушае
Гэта запрашэнне
Тым, што абяцае
Ноч ці дзве на сене.
Звычай, па якому
Спалі так дзяўчаты,
Тут даўно вядомы —
Сценам кожнай хаты.
Спалі з хлопцам вартым,
Сэрцу любым, дужым,

Што служыў ім вартай,
Што мог стаць ім мужам.
А як хто залішне
Порсткі да дзяўчыны —
Загрыміць з іх вышкі
Рэбрамі драбіны.

Гулкім клубам, пад якім
Булькатала рэчка,
Пад спляценнем векавым,
Дзе ў дупле гняздзечка,
Школьным паркам, цераз гай,
Той, дзе безліч венікаў,
Вёў сяброў маіх Дунай —
Маладых пісьменнікаў.
За два тыдні,
што адным
Днём перакаціліся,
Усяго хапіла ім —
Добра пагасціліся.
Не злічыць адменных страў
Баразны-разорыны.
Летні вечар частаваў
Песняю Тадораўны,
Той, што рэчачкай цячэ
Пад вярбы галінамі.
Ночка — сенам, а яшчэ —
Ліха ім! — драбінамі.
На ўвесь век, а не на год,
Хопіць хлопцам трапезы.
Як збанок з віном, блакнот
Распіраюць запісы.
Тэм прыдбаных цаліна
Развінецца некалі!
Вунь!.. Запыхкала адна
З іх —
дымком... паехалі!
А другая ўслед за ёй...
Узнялі палосачку,
Разам з дзедаўскай мяжой
Панясліі за вёсачку.

Нехта там крычыць здалёк,
За штурвалам седзячы:
— Не цурайся, Змітрачок,
Прыязджай на сеначка!..
Гэта — крошачкі стала
Кплівая Хадорачка,
Як сарока, разнясла
Па сваіх задворачках.
Хай пацешыцца — не страх!..
Жарт дзявочых вышачак
Не забудзецца ў дварах
Іх блакнотных кніжачак.

Я — рукой, хвастом — Дунай,
З-пад крыла бярэзіны,
Памахалі ім. Бывай,
Гучны час — адведзіны!
Потым лес, што ўчуў іх крок
Шчупальцамі голымі,
Адказаў гасцям здалёк
Кукавання голасам.
Зычыў ён, з-пад шат сваёй
Ветлай нерухомасці,
Доўгіх вёрст дарозе той,
Запісам — вядомасці...

На гады бясхмарныя
Шаты не скупіліся...
Доўгія, гушчарныя
Гукі ў сэрцах біліся.
А яны не ведалі,
Што ў гадах прызначаных
Лёс іх скруціць бедамі,
Спіша ў кнігу страчаных,—
Што ляжаць ім суджана
Пад спляценняў ценямі
З сонечнымі, з дужымі
Рук сваіх спляценнямі,—
Што шумець ім пырнікам,
Безназоўнай былкаю,
Не зязюлі вырыкам,

Не яе памылкаю.

У каго — як зорка век,
У каго — камета.
Чалавеку чалавек
Друг —
не жарты гэта.
Знік твой друг за небакрай
Стратай нечаканай —
Зоркай стань, не пакідай
Справы ім абранай.
А як следам за адной
Знічкаю — другая...
Хай іх зоркаю двайной
Твая вернасць ззяе.
Адшукай зямлі грудок —
Той, пад небам родным,
Той, дзе ўпаў іх аганёк
Каменем халодным.
Не забудзь з яго, як брат,
Пыл нікчэмны сцерці,
Высеч святасць блізкіх дат:
Нараджэння — смерці.
А не знойдзеш, дзе сябры,
Дзе іх пахаванне —
Ты ў сваё іх забяры,
Калі час настане.
Побач з прозвішчам сваім
На адным граніце
Ты пакінь і месца ім...
Толькі так дружыце!..

**Князёўна**

Бег між тым юнацкі час!..
Новыя турботы,
Як магніт, цягнулі нас
У свае вароты...

Колькі іх, сяброў былых! —
Што гулі, як пчолы,

Малалеткамі ў адных
Сценах роднай школы.

Кожны рваўся ў даль дарог
З марай — днём ці вечарам
Перайсці яе парог
Юнаком дасведчаным.

Зноў зірнуць на панскі дом,
Дзе яна ўладкована,—
Рэвалюцыі пяром
З першых дзён заснована.
Як калоны? Тыя ж? Так! —
Не згнілі падпорыны.

Потым рушыць цераз парк
Проста да Тадораўны.
З ёй жылі мы пад страхой
Блізкай, як пад матчынай,
Сталаваліся адной
Небагатай складчынай.
З кухняй мелі перакрут —
З бульбаю, з лушпінамі.
Як чыгунчык, гэты кут
Повен успамінамі.
З тых часоў перабыла
Мара не адзіная
Тут.
Запросіць да стала
Куханька гасцінная.
Пра сяброў спытае госць,
Той, што за талерачкай.
Адрасы? А як жа ёсць!
Ліст нясе з куфэрачка
Гаспадыня, як адказ.
Адрасы жаданыя!..
Што ні слова, што ні сказ —
Вестачкі чаканыя!
За сталом смакуеш ты
Іх, як бэры з грушыны.

Ад Князёўны так лісты
Я чытаў, узрушаны.
Пошты штэмпель — Ленінград...
Што ні слоўца — новае...
Здаў залікі адрасат
Сэсіі чарговае.
Паступіў у камсамол —
Рысачка не лішняя...
Вось, напісаны зімой
Ліст... прагулка лыжная.
Ліст вясенні... культпаход
У тэатр... каталася
Па Няве... Вучыцца год,
Толькі год — засталася!
Надышла і ёй чарга,
Год — і ўжо настаўніца.
Так, далей, далей... Ага!
Пра мяне пытаецца.
Так, далей... і — навіна:
Піша, ў лета гэтае
Да Тадораўны яна
Прышуміць... наведае!

Дні ідуць. Яе няма.

Што ж, як не збіраецца
Магамет — гара сама
Пойдзе, каб параіцца.

Вёрст да вёсачкі Князі
Менш, чым да Аўстраліі.
Стрэнеш дзядзьку:
— Падвязі
Поля магістралямі!
А як не, такой бяды!
Як калісьці з вудаю,
Ты мінеш рубеж вады
З млынам і запрудаю,
Акіян пераграбеш
Жыта нечапанага...
Лес — апошні твой рубеж

Да сяла жаданага.

Будзеш менш чым за паўдня
Пад яго нябёсамі,
Без сустрэчнага каня
З дзядзькам і калёсамі.

Крок прыціш.
З дарогі злазь,
Што ўвапрэцца ў весніцы,
За якімі кожны — Князь
Па фамільнай лесвіцы.

Саўка Князь не меў каня,
Шчасцем падкаванага,
Князь Андрэй, яго радня —
Семя канаплянага.
Князь Кузьма ў трубу трубіў —
Выхваляўся пошчакам.

А Князёўны бацька быў
Князем — палясоўшчыкам.
Жыў у вёсцы Князь Тарас,
Дзе дзяўчыну нашую
Не Князёўнаю якраз
Звалі ўсе, а — Сашаю.

Сустракай жа шумам, млын,
Лес, густымі веццямі!
Я на гэты раз адзін
На свае адведзіны
Выхаджу.
У новы свет,
У пару бяссонную!..

А насустрач Магамет
Сам сваёй персонаю.
Пасярод майго двара
Зблізіліся тварамі
Магамет з гарой, гара
З ім, а мара —

з мараю.
Не! Не доўга на двары
Вочы пазнаваліся...

Абняліся,
як сябры,
А пацалаваліся,
З нечаканасці такой,
Так, што крышку сорамна
Стала вокнам хаты той...
— Як жа там Тадораўна,
Дзе яна?
— Вартуе сад
Школьны, што, дарэчы,
Арандуе Ленінград.
Можа, дзеля стрэчы
Пакаштуем яблык тых?
— Пачакай. Я не да іх,
Да цябе, з візітам —
Дзе ляском, дзе жытам...
Не здзіўляйся!..
Як Дуда
Баляваў з сябрамі
Пад крылом свайго гнязда,
Чутна за барамі.
Я пачула — распякла
Пяты зайздрасць — здорава!

Запрашала да стала,
Як прыйшла — Тадораўна.
Чым карміць нас? Чым паіць? —
Лётае чумная.
Дзе нас разам пасадзіць,
Дзе лажыць — не знае.
Дзень скаціўся ўжо з гары.
На дваіх пасцелю,
Звычай помнячы стары,
Рукі яе сцеляць.
Толькі гэта — клопат наш,
Наша падуладдзе.
Даспадобы нам шалаш

Вартаўнічы ў садзе.
Хоча горад Ленінград
Сам у ноч такую
Вартаваць са мною сад,
Той, што арандуе.

Пры начлежным аганьку,
Даўнімі сябрамі
З ёй сядзім — шчака ў шчаку.
Кружыцца над намі
Рой іскрынак залаты...
— А скажы, ці помніш ты
Песню аб крынічаньцы,
Што хлапец капаў
З жалем па дзяўчыначцы,
Што кахаў — не ўзяў?..
— Як забыць? Не сцёрся след.
Помню: жыта, сосны...
З песняй той цябе мы ў свет
Правялі дарослы.
— Восем вас было ў той час;
Ты, Кандрат, Лявон, Панас,
Сцёпка, Казік, Стась, Ігнась.
— Ты была а дна...
— Так і звалі людзі нас —
Восем і адна.
Вы баяліся тады,
Што разлука назаўжды,
Што ў дарослай, вам чужой,
Патану я хвалі.
— Не, другі ў нас быў настрой
Шчасця мы жадалі!..
— Не крыві душой, Дуда.
Слёзы развітання,
Вашы слёзы —
не вада.
Мусіць, да скanання
Не забыць мне гэтых слёз!
Заўтра зноў мне ў вырай...
Не трывожся за мой лёс,
Спадарожнік шчыры.

Не трывожся,
я жыву,
Не забралі людзі.
Палажыла галаву
Мне яна на грудзі.
А ва ўсім сусвеце ціш —
З полюса да полюса.
Я маўчу. Прыціх, як мыш,
Варухнуцца боязна.
— Свет дарослы... Пальца ў рот
Не кладзі — дарослыя!..
Мы ж з табой — другі народ,
Мы ж з табой — не розныя.
Быццам ты — як я сама,
Крыўдна не гаворачы.
Добра мне з табой! Няма
Ні трывог, ні горычы.
Я такая, як была,
Я другой не стала,
Я падзякаваць прыйшла...
Вось і ўсё сказала!

Выпраўляліся мы з ёй
Днём святой нядзелі.
Ля млына
з яго вадой
Разам пашумелі.
Шлях па лесе, як у сне...
Частаваў малінай
Лес яе,
пасля — мяне
Пад сваёй ялінай.

А вяртаўся, сам не свой,
Снамі тымі ж самымі —
Размаўляла сэрца з ёй
Дзятла тэлеграмамі.
Адсылаў іх рэчкай млын,
Крыламі лапочачы,
Перакатным рэхам плынь
Разнасіла поначы.

Адчыняў далёкі дом
Перад імі весніцы...

Засілі іх, ноч, каўшом
Зорнае Мядзведзіцы,
Нахілі яго:
няхай
З неба неагляднасці
Льюцца, льюцца цераз край
Тэлеграмы радасці!

Гнаў тым часам з посвістам
Жнівень свой састаў.

Яблыкам апошнім
Сад на дол апаў,
Спакаваўся ў тару...
Пад канвоем вос,
Ленінград, як мару,
Лета з саду вёз.

## Лісты

А праз год мяне ў паход
Зноў пазвала лета.

Жыў я ў Мінску гэты год
На правах паэта,
Гэтаксама, як сябры...
Як сказала б Клава:
Пакацілі гусляры —
Эх ты, слава, слава!
Там, па Розе Люксембург,
Месца меў завулак,
На якім сяброўскі круг
Адшукаў прытулак.
Тратуар, хаця і быў
Якасцяў дашчаных —
Вёў, аднак, да перспектыў
Кніжак друкаваных.
Свет, куды выводзіў ён

З цеснага пакою,
Ззяў нам тысячай акон
Светлага настрою.
Шумны Мінск пары тае —
З вершам, з перакладам —
Перапіску меў з яе
Людным Ленінградам.
Ліст адтуль, прысланы ёй
Мне, чытаў я ўпотай,
Там трымцела восень той
Летняю лістотай.
Мне прыносіла зіма
З ветрам пошты скорай
Пошум саду, шум млына
Над рачной прасторай.
А вясной раптоўна сціх
Пошты вецер. З саду
Не прыносіў больш сваіх
Вестак адрасату.
Не ляцеў з паштавіком,
Як раней. Хоць рэжце!
Бэз адцвіў і лічыць гром
Лета дні.
Нарэшце,
Сам пра ўсе ёй напісаў,
Не таіў сакрэту
Свайго сэрца. Адрас даў,
Той, куды я еду.

Тут усё, як год назад:
Школа, хата, рэчка, сад.
Павітаўся праз парог
З ветлай гаспадыняй.
Бачу: стол, канверта рог
Пад сурвэткай сіняй.
Прачытаў я.

Тым жа днём,
Не з прычыны шлюбу,
Лес наладзіў нам прыём:
Паўлу, мне, Якубу,

Каб маглі мы ў цішыні
Памянуць маленства дні.
Ёсць цяпельца.
Што яшчэ?
Не раскошуй вельмі!
Яйкі з салам лес пячэ
На сваёй патэльні.
Тры паўлітры на траіх
У кустах. Даволі
Для хлапцоў, што доз такіх
Не пілі ніколі.
Слухаў дуб, нагнуўшы сук,
Пасля першай шклянкі,
Што Якубу плёў Паўлюк
Пра свае гулянкі.
Выхваляўся кожны з іх
Потым перад голлем,
Як ён трактар — лепш за ўсіх!
Водзіць родным полем.
Ну, а я? Усё маўчаў,
Не прысутны быццам.
Пэўна, чарка, што я ўзяў,
Не дае забыцца.
Налілі яшчэ сябры,
Пасля новай дозы
Захісталіся ўгары
Ветліва бярозы.
Мне б цяпер пагаварыць,
Пашумець з барамі
Аб вясёлай той пары
Нашай з дударамі.
Хай успомніць вечны дуб,
Як мы тут гасціліся.
Толькі Павал і Якуб
На вачах змяніліся.
Пазмрачнелі ўраз браты,
Што ім гэта дрэва?
Што ім гэты лес густы?..
— Хата, брат, згарэла?..
— Так… Пайшла на дым з агнём,
Яшчэ дзедам рублена.

— Хата, хата, перуном
Ты навек загублена!
— Як нам, як нам быць адным? —
Плачуць, аж канчаюцца.
Па карэнні векавым,
Па зямлі качаюцца.
— Бацька наш даўно памёр...—
Рве душу галошанне.
— Хаты, хаты...— чуе бор,—
Новай не заложана.
Маці ходзіць, як зіма,
Мы яе карміцелі...
— Ёсць вянцы...
страхі няма,
А чым будзем крыць яе?
Бор уторыць:
— Як нам быць
З пагарэлай хатаю?..
Як ім быць?
А як жа быць
Мне з маёю стратаю?

Так і ёсць.
Прыйшла бяда
З-пад страхі чужое..
«Не чакай мяне, Дуда,
Гэта ўсё — пустое...
Наляцеў, нібы віхор,
Раптам свет дарослы.
Задрыжаў ад грому бор,
Застагналі сосны.
Сцежку нашых стрэч былых
Заваліў ён дрэвамі.
Не прайду я цераз іх
З танцамі ды спевамі.
З рук яго, як з пушчы той,
Не прабіцца выйсцямі...
Свет —
не бульба, што з табой
Мы калісьці чысцілі...»
Так вось. Што ж?

Ідзі смялей!..
Ну, а я патупаю
Ад дзвярэй і да дзвярэй
Са сваёю бульбаю,
Ад святла і да святла
Са свайго сяла...
Так сказаў бы,
каб прыйшла.
...І яна прыйшла.

Неба тое ж угары,
Той жа сад таксама.

— Я прыйшла пагаварыць...
— Ты ж выходзіш замуж.
Ты, напэўна, з жаніхом
Пагасціць на лета
Прыкаціла ў матчын дом? Праўда ж?
— Праўда гэта.
— Што табе ўжо да таго,
Як шуміць тут лісце?
Як ты ў гэты свет з таго
Адшукала выйсце?
Для чаго?.. Каб я спазнаў
Горыч большай мукі?
— Каб мяне не забываў
Ты пасля разлукі.
Буду я старэць, старой
Стану, нехлямяжай,
Але толькі хай не ў той,
Не ў крынічцы нашай.
Я ў вачах яе такой,
Як сягоння ў садзе,
Быць хачу, назло ліхой
Вечнай часу ўладзе.
Што мілей табе: лісты
Вершаў з іх гарэннем,
Ці маё старанне?
— Ты,
Са сваім старэннем.
— Сівізны заўчаснай пыл,

На сям'ю заробкі
Прагу выпетраць з чарніл
Да апошняй кропкі.
Станеш сам не люб сабе,
Як згарыць іх сіла...
Не!
Агонь, што я ў табе
Змалку запаліла,
Не гасі. Ляці далей
Птушкаю маёю!..

Так я доўгіх пяць начэй
Размаўляў з сабою.
То, як снежны ком, расце,
То пячэ, як рана,
Востры боль, які ў лісце
Поштай мне прысланы.

Я чакаў. А, можа, зноў
Прыйдзе, як калісьці?
Знойдзе, можа быць, для слоў
Развітальных выйсце?
Выглядаў, тых слоў чакаў,
Як галодны стравы.
Хіба ёй да нашых спраў
Больш няма ўжо справы?
А якая быць магла
Ёй, уласна, справа?
Але я чакаў.
Прыйшла
Не яна. А Клава.

**Талака**

Мора жыта перайшоў
З ёй... Агонь на ўзлессі
Раскладай. Сухіх сучкоў
Ёсць тут колькі ўлезе.
А пакуль гараць сучкі
Дзён, што перажыты,
Назбірала два пучкі

Наліўнога жыта
Клава... Пражым і ядзім
Поля пачастунак.
Для мяне з пражмом сваім
Госця, як дарунак.
Сцерла Клава з твару, з губ
След раллі пахучай.
Я і сам счарнеў, як дуб,
Што ў вадзе пад кручай.
Дуб той мораны пілой
Увесь час пілуе
Нехта ў рэчцы пад вадой,
Ды яна не чуе.
Не ўлагодзіла рака,
Не ўсыпіла збожжа.
Тут, відаць, і талака
Памагчы не зможа.
Бачым, крочачы сялом,
Талака людская
Для Якуба з Паўлюком
Новы дом стаўляе.
Зруб, як звон, на шэсць акон,
Пад страху ўстае там.
Задае рабоце тон,
Пахаджае з метрам
Неадлучны кіраўнік
Піл, сякеркі, рэйкі
Цесля Мініч — прадстаўнік
Сельскай партячэйкі.
Крочым з Клаваю.
— Даёш! —
Запрашае Мініч,—
Хоць прыезджыя, ды ўсё ж
Са значкамі КІМа.
Я вас знаю,
вы народ,
Як і мы, заўзяты.
Справа ёсць — грамаадвод
Стаўце каля хаты!..

Вось у клубе, пад якім

Рэчка працякае,
Адзначае першы дым
Талака людская.
Покуль дым ляціць на дах,
Абжывае дранкі,
На ўвесь мост грыміць размах
Клубнае гулянкі.
Засяліўшы пад страху
Паўлюка з Якубам,
Боль мой глушыць на шляху
Талака ўсім клубам.
Пачынаюць землякі
(Я і госця Клавачка)
Вальс пад шэпты талакі:
— Гляньце, што за парачка!
— Дзе такую падчапіў?
— Так і кружыць паваю!
Хваляй вальса горда плыў
Я з красуняй Клаваю.
У разгары шумны вальс...
З-пад брывей Хадорачкі
Цікавалі пільна нас
Дзве зайздросных зорачкі.
Вось яны ўжо з-пад брывей
Дыхаюць пажарамі,
Абвяшчаюць:
— Круг шырэй!
Памяняцца парамі!
І мяне ўжо мчыць сваёй
Хваляю Хадорачка.
— Пойдзем,— шэпча мне,— са мной...
Сена... сена... горачка...
Не марудзь... Канчай хутчэй...
З прывазнымі чарамі,
Ёсць свае ў нас.
Круг шырэй!
Памяняцца парамі!
Не пад бубна ўдарамі
Мост ледзь-ледзь не рушыцца —
Гэта пад стажарамі
Ліпеньскімі кружацца

Дні, знікаюць за мяжой,
За маёй арбітаю...
Маладосць, пастой, пастой,
Вунь — за той ракітаю.
Не спяшайся! Не бяжы
Сцежкамі садовым!
Ты за круг маёй душы
З гучнымі дубровамі.
Не спяшайся зачыніць
За сабою весніцы.
Стой!.. Яшчэ на дне крыніц
Твой каменьчык свеціцца.
Стой! Яшчэ шуміць твой млын,
Вецем вабіць грушыца.
Пачакай!.. Яшчэ ўспамін
Талакой не глушыцца.

Не чакай!.. Няма ў жыцці
Тэрміна нязменнага.
Вось і Клаве час ісці
Замуж за Раменнага.
Не за мост пайшла яна,
Знікла за гушчарамі...

Ад мяне мая вясна
Адыходзіць парамі.
Адлятае назаўжды,—
З танцамі, з размовамі,
З маркамі паштовымі,—
У наступныя гады
З рысамі суровымі.
Час і мне ўжо.
За сабой
Прычыніў я весніцы.
Пачакай!.. Крыху пастой
Пад каўшом Мядзведзіцы.
Чуеш, слёз гарачы ком
Пракаціўся горлам?..
Засілі іх, ноч, каўшом
Неба, непаўторным.
Засілі і нахілі,

Парадні з зямлёю!..
Хай яны з яе раллі
Прарастуць вярбою.
Хай з вярбы жывых галін
Сталасць скруціць дудку,
Выдзьме старасць успамін
Радасці і смутку.
Кроч далей!
Праз рэчку мост
Як парог чарговы,
Перайшоў юнацкі ўзрост,
Сталым быць гатовы.

**Прыгранічча**

Камень, кінуты ў раку
З прыбярэжнай кручы,
Нагадае юнаку
Час яго мінучы.
Можа, згінуў у вадзе
Камень? Не! Кругамі
Стаўшы, гутарку вядзе
З рэчкі берагамі.

Сталасць — бераг. Час другі,
Дарагі, дзе праца
Прагна ўсмоктвае кругі
Шчодрага юнацтва.
Карандаш, які ў руках —
Завастрыла дбала...
Нас яна пад мінскі дах
З Мсціслава сабрала.
Тых, хто скончыў інстытут,
За сталы рэдакцый
Пасадзіла.
Справа тут
Ёсць. Займайся працай!
Месца ўласнае знайшоў,
Воляй перамены,
За адным з такіх сталоў
І Кастусь Раменны.

Пераехаў ён сюды
Не адзін, а з Клавай.

У газеце заняты
Неадкладнай справай.
У яго партыйны стаж,
Вопыт ёсць жыццёвы.
Ён цяпер рэдактар наш,
Не скажу — суровы.
Не да ўсіх ягоны стол
Меў, як кажуць, слабасць.
Пасміхаўся хто-ніхто —
Што, маўляў, за лапаць
Вучыць нас!
Але праз год
Зразумелі — як там? —
Хоць і лапаць, ды не бот
Новы быў рэдактар.
Бачыў вокам пастуха,
Як пасецца слова —
Дзе зярнятка, дзе труха,
Дзе адна палова.

Сталасць!.. Заняты сябры
Справай, не гулянкай.
А тым часам свет стары
Бурай-ліхаманкай
Крызіс трос. Мільёны рук
Гэты вецер хіжы
Пакаціў ужо на брук
Лондана, Парыжа.

Бачыў кожны дзень патруль
З пагранічных вышак,
Як ён гнаў да нас адтуль
Рук працоўных лішак.
Ёсць жаданне і ў сяброў
Рух пабачыць гэты,
Згодна строгіх прапускоў
Нашае газеты.

Гул натоўпу на вярсце
Той, дзе з аркі свецяць
Словы: «Камунізм змяце
Межы ўсе на свеце!»

Уляглiся пад вярбой
I спяваюць песні
Шматгалосай грамадой
Муляры і цеслі.
Кожны з пілкай, з тапаром,—
Ноччу рыхтавалі
Зброю рук, каб з ёю днём
Стаць на рыштаванні.
Каб змяніць, як шлях на шлях,
На спяцоўкі — світкі,
Днепрабуда ўзносіць гмах,
Карпусы Магніткі.
З розных вёсак талака
Тут. Народ руплівы.
Нехта з іх пазнаў шпічка —
Цеслю з дэфензівы.
Кухталёў, як мае быць,
Надавалі людзі,
Каб не змог падзарабіць
Шпік на Днепрабудзе.
Канваір яго праз лес
Вёў, пасля прыпаркі,
На заставу,— каб не лез
Пад скляпенне аркі.

Пераехала пад ёй
На вясельных колах
Моладзь вёсачкі глухой,
Каб вучыцца ў школах.
За іх поездам, ледзь свет,
Сваім ходам пешым
Перайшоў мяжу паэт
З вершаў сшыткам першым.
Будзе ён у Мінску рад
Выслухаць парады.
Панясе пасля назад

Верш — на барыкады.
Будуць словы пільнаваць
Сышчыкі і каты,
Будзе вершам пілаваць
Ён Лукішак краты.
Даляціць адтуль сюды
Іскраў рой праменны...
А чаму б не нам туды,
А? Скажы, Раменны?!.

Першыя экзамены
Сталасці трымалі мы.
Мінск грымеў вакзаламі,
Мінск звінеў трамваямі
Праз масты драўляныя,
Цеснымі завулкамі...
Пяцігодкі зданыя,
З вуліцамі гулкімі,
Абмінулі яркаю
Справай будаўнічаю
Мінск,
што жыў пад аркаю
Блізкай, прыгранічнаю,
Што не меў блакітнае
Рэчкі з параходамі,
Ні гары, набітае
З коптурам пародамі.
Але Мінск, хоць подыхам
Домен не азораны,
Жыў штодзённым подзвігам
Гучнае гісторыі.
Нёс, як воін, слаўную
Службу неабходную,
Вартаваў дзяржаўную
Ён мяжу заходнюю.
З рук яе прымаючы
Цягнікі таварныя,
Гнаў іх,
не трымаючы,
На будоўлі ўдарныя.
Праз яго праносіўся

Поезд з дыпкур'ерамі.

Мінск з мятлою восені
Крочыў ужо скверамі.
На бульвары сонечным
Убаку ад грукату
Меў аб часе сённяшнім
Я з Раменным гутарку.
— Кепска,— ён гаворыць,—
Быць у вёсцы дачнікам,
А ў сталічным горадзе
Жыць, як я — няўдачнікам.
— Ты пра што?
— Пра вершы.
Брат, не тым займаюся.
— Кінь. А хіба лепшы
Мой дэбют? — пытаюся.—
Словы, як раслінку,
Узгадоўвай працаю.
— Чуў. Шукай жывінку,
Рэж сухую рацыю.
Так і Клава радзіць,
Аднаго не ўлічвае,
Што за трыццаць, браце,
Мне... Парада лішняя.
Глупства! Клава смелая
На падставе класавай
Марна з мяне мелася
Выняньчыць Някрасава.
Рукі ёсць, а створана
Што? — глядзіць з трывогаю
Ён на рукі.— Сорамна
Ім перад эпохаю.
Не з маімі граблямі
Мець занятак з ямбамі...

Бачу я Раменнага
Рукі вузлаватыя,
Дужыя, не леныя,
Апрацоўваць вартыя
Баразны гекзаметры,

Рытм сталепракатчыка,
У лукішскай камеры
Выбіць дух з наглядчыка.
Быць ім за дарадчыка
Мне таксама сорамна.
Сапраўды, што створана?..

Чуе споведзь раніца
Горкую Раменнага,
Ціха асыпаецца
Дрэва. Лісця тленнага
На тым месцы пляміны,
Дзе прымала лавачка
Сталасці экзамены...

Эх ты, слава, славачка!

**Раменны**

Новы тэрмін свой зіма
На сталічным скверы
Адбыла.
Вясна сама
Адчыняе дзверы.
Запрашае ў голы сад,
Крокам брук намацвае,
Залічае нас у склад
Выязной рэдакцыі.

Неразлучны наш гурток
Юлі Гоман, я, Змітрок.
Едзем,
гнаныя вясной,
Выязной кампаніяй
На сустрэчу з пасяўной
Веснавой кампаніяй.

Рэдакцыйная арцель
Крочыць поля трактамі.
Снег, слата, дажджлівы дзень —
З непаладкаў фактамі.

Кожны факт — зачэпка нам
У змаганні з хмурнымі
Днямі. Факт —
на зуб радкам
Пад карыкатурамі.
Людны сход. Гудзе народ:
На штыку — нягоднікі!
Ну, а мы?..
А мы ў паход
Зноў, як адыходнікі.
Холад, голад, поле, лес,
Школы, клубы, МТС.
З непагодай барацьба,
Гразь нагамі месіцца.
Зацягнулася сяўба
Не на дні, на месяцы.
Мы вярталіся дамоў,
Як з вайны —
салдатамі.

Век на плошчах гарадоў
Брук таптаў парадамі.

Каля сцен Мадрыда,
Пад Гвадалахарай
Лоб у лоб карыда —
Бой людзей з пачварай.
Праз смурод і трупы
Пёрлі ўвачавідкі
Біцца домны Крупа
З домнамі Магніткі.
Наступала погань
Мірным дням на пяты.
Навяла эпоха
Смерці лук напяты.

Неспакойны год.
Зіма
Шастае блакнотамі
На стале маім.
Няма

Хлопцаў з іх турботамі.
Не лясных зязюль судом
І не іх памылкаю,
Прагрымеў над імі гром...
За якой развілкаю —
Сэрцы іх?..
Ляжу пластом,
Не заняты справай,
Паміж яваю і сном,
Паміж сном і явай.
Пад заслонаю павек
Круціцца няспынны
Фільм маленства: поймы рэк,
Лісцяў матыліны
Жоўты рой, мільганне ніў
Цягніка нязменны
Чую рух...
Перапыніў
Сон цяжкі Раменны.
Стол прысунуты. На ім
Шклянкі з чорнай каваю.
— Захварэў?
— Ды не зусім.
Гора нечаканае.
— Знаю. Гора.
— Як бы нам
Памагчы, Кастусь, сябрам?
— Выручаў іх. Як-ніяк —
Маю стаж у партыі,
Змалку парабак, бядняк...
Ды і хлопцы вартыя.
— Вінаваты ў чым?
—Відаць,
Нагаворы злосныя.
— А чые?
— Хто можа знаць?
Дні насталі грозныя,
Непадобны да часоў
Пасяўной кампаніі...

Не з адказамі ішоў

Век,
а з запытаннямі
Да мяне, жытла майго,
Да стала з блакнотамі...

Мінск не ведаў, што ў яго
За зімы сумётамі,
За глухім замком гадоў
З брамамі патайнымі,
Лёс — пакутных гарадоў
На зямлі Іспаніі.
Смерць кацілася адтуль
Па жывому следу
Бомб, траншэй, варожых куль..
— Я туды, брат, еду,—
Абвясціў Раменны,—
час
Надышоў, каб вызнаць
Крыж, з якім ідуць на нас.
Ёсць дазвол!
— А віза?
— Маецца. Надзейная —
Лес і ноч завейная.
Меж няма для віз такіх,
Для намеру цвёрдага.
Ваяваць за вас траіх,
За сябе — чацвёртага,
Буду я. Той край — не рай,
Дзе шчабечуць ластаўкі.
Ні Змітрок, ні Юлі, знай,
Крыжу чорнай свастыкі
Не пайшлі б маліцца, не!..
Годнасці б не страцілі,
А віселі б на сасне
Ці на перакладзіне.
Вер сябрам. Іх кніжкам вер —
Трубачы натхнёныя
Сэрцам звязаны навек
З вуліцай Чырвонаю...

Лес, як чалавецтва...

Толькі прадзярэцца
З зерня малалецтва
Маладое дрэўца
З парасткам, з лісточкам,
А ўжо за калыскай
Значыць год кружочкам,
Так, як дзеці —
рыскай.
Караням няймецца,
Ствол узносіць грудзі.
Не стаіць на месцы
Лес жывы, як людзі.
Па дарогах ценем
Ходзіць яго голле,
Сталасці насеннем
Засявае поле.
Учапіўся ў камень
Лес, узлез на гумны.
У яго вякамі
Лес з людзьмі агульны.
Адабраўшы часам
І хваробай сілу,
Лёс кладзе іх разам
У адну магілу.
Нішчыць чалавека,
Як і лес зялёны,
Хцівасць дрывасека,
Войнаў плытагоны.
Смерць ліхім нябытам,
Не цяпер, не сёння,
Гоніць плыт за плытам
Да свайго прадоння

Лёс у іх падобны,
Толькі побыт розны,
Людзі, хоць і дробны
Род, аднак — не сосны.
Іх не запалохаць
Тымі тапарамі,
Што ў крыві па локаць
Грукаюць барамі.

Для таго — і сталасць,
Для таго — і праца,
Для таго — трываласць,
Каб людзьмі застацца.
Тое, што прыдбана,
Што занатавана —
Не для акіяна,
Не для акіяна!

**Прызнанне**

Сярод бур, падзей, людзей,
Крок у крок з эпохай,
Праца рэй вядзе далей
Па дарозе строгай.
Абыходзіць слава?
Што ж,
Карандаш свой цешце,
Што яго прызнанне ўсё ж
Не міне.
Нарэшце,
Карандаш мой, што не знаў
Водгукаў хвалебных,
Быў далучаны да спраў
Для людзей патрэбных.

З пахвалы пачутых слоў
Да яго выразны
Сэнс дайшоў, што ён знайшоў
Почырк свой уласны.

Друку дружнага матыў
Падтрымала радыё...
Строгім як бы ты не быў
Да сябе, а радуе
Поспех.
Зроблены зачын
На шляху свядомым.
Але гэта толькі блін
Першы, што не комам.

Першы поспех, праз часы
Забыцця нямога,
Зноў вяртаў мне адрасы
З далечы былога.
Цёплы водгук на радкі,
Іх чытач нязменны,
Мне прыслаў з Амур-ракі
Чалавек ваенны.
Так. Кастусь Раменны.
Дні Мадрыда за спіной.
Ён цяпер на ўсходзе
Разам з Клаваю сваёй
Жыў. У поўнай згодзе.

Ліст яшчэ. Ускрыць ці не?..
У грудзях знаёма
Сэрца ные... Вестка мне
Ад яе, вядома. І зваротны адрас ёсць!
З прошласці суровай
Прыляцела маладосць
З маркаю паштовай.
Б'юцца ўсё яшчэ кругі
Дзён яе не шэрых
Ціхай хваляю тугі
Аб пясчаны бераг.
Еду!..
Коціцца агонь
Маладога свету
Па крыві, грукоча ў скронь.

Еду, еду, еду!
Але толькі не туды.
Каляінай цвёрдай
На пякучыя сляды
Сваёй мары гордай
Еду.

Тут не сцёрся, не,
Доўгімі гадамі
След радкоў, што пра мяне
Людзям нагадалі.

Прарасталі словы тут
Да свайго прызнання
З хлапчука нямых пакут,
З юнака кахання.
Помніць мост —
сяброўства клуб
Дні і леты тыя.
Не забыў вячысты дуб
Стрэчы маладыя,
А вярба — шчымлівых слёз,
Ростані трывожнай.
Я падзяку ім прынёс
З далечы дарожнай.

На страху сваю гляджу,
Крочачы па гаі.
Дзверы ў дом, нібы душу,
Насцеж адчыняю.
Дзе ж Тадораўна?
Сышла,
Дах асіраціла...
Так... Зямля яе ўзяла
І не адпусціла.

На магілу між сасён
Лёг вучнёўскай складчыны
Сціплы помнік —
вечны сон
Вартаваць прызначаны.
Не пакрыўджаная ім,
Так і спіць з тых пор яна
Пад надтруннем дарагім
З надпісам —
Тадораўна.
Дзевяць літар усяго
На граніце выбіта:
Больш нічога пра таго,
Хто пад ім, не выпытаць.
Змрочны камень —
як парог
Незваротнай страты.

Не адзін я тут.
Да ног
Гэтай вечнай хаты
Ціхі цень Князёўны лёг...

Мне наведванне яе
Не здалося дзіўным.
Адыход пары тае,
Што з-пад камня не ўстае,
Пэўна,
быў і для яе
Жалем непазбыўным.

Міма саду з ёй ішлі,
Як у дні былыя.
Сёння груш, што ў ім раслі,
Сторажам — другія.

Расказала мне яна,
Што на Халхін-Голе
Муж загінуў.
Зноў — адна.
Выкладае ў школе.
Я сказаў, што я жанат.

Вось і ўсё. І горкіх страт,
Сэрцу відавочных,
Не пазбыць. Закрыты сад
Для асоб пабочных.
Нам начлежным аганьком
Лета не пасвеціць.
Позна. Бэз адцвіў. І гром
Змоўк. І сціхнуў вецер.
Абцяжарыў дрэвы час,
Што ні сук — падпоркі,
Сад не меў дазволу нас
На працяг гаворкі
Запрасіць ні ў ноч, ні ў дзень.

Лес. Спляценняў шаты.
Запрасіў прысесці ў цень

Пень у тры абхваты.
Міма, міма... Што нам лес?
Што нам пень той самы
Без шумлівых веццяў, без
Дзятла тэлеграмы?..
Не, юнацтва, не прайшло
Ты, каб не застацца! —
Што каханне адняло,
Мне вярнула праца.

Ты прыйшло... Ты пойдзеш зноў
Ад мяне лясною
Сцежкай. Памяць тых гадоў
Будзе жыць са мною.

— Я пайду. Бывай!..
— Бывай.

Адышла, як сонца.
Адыходзіць.
Не знікай,
Сонца, за бясконцы
Далягляд не жатых ніў,
За лясныя шаты!

Час маніў, што бэз адцвіў.
Грому перакаты
Чутны, чутны — як яшчэ! —
Над дарожным пылам,
Над рачулкай, што цячэ
Следам за свяцілам.
Цяжка дню губляць цябе,
Сонца, з поля зроку.
Адпачні на той вярбе
Перад брамай змроку.
Стой! Цябе ніколі больш
Я не дазавуся.
Стой!.. Не ціхне ў сэрцы боль,
А яму да вусця
Цэлы век яшчэ плысці.
Пачакай хвілінку,

Затрымайся на трысці,
Завяжы хусцінку!..

Ад мяне пайшла яна.
Знікла на дарозе.
На наступны дзень — вайна!
Гора на парозе!
А на захад, цераз мост,
Стрыгучы бярозы,
Дымны свой цягнулі хвост
Нашы бамбавозы.

## Слава

Век свой чалавецтва
Значыць не спакойнымі
Меткамі маленства,
А калецтва войнамі.

Камень той, што прашчур
Кінуў з прашчы ўласнае,
Шлях прайшоў да прашчы,
Што затворам ляскае,
Вывучкай належнай
Горла рваць абучана.

З прывязі жалезнай
Процьма танкаў спушчана.
А на палігоны,
На франты глабальныя
Біч дзікунскі гоніць
Арміі татальныя,
Гоніць голай пусткай,
Мёртвай тэрыторыяй.

Б'ецца люд з нялюдскай
Змрочнай прадгісторыяй,
Каб свайго тварэння
Скарбы, міру верныя,
Вырваць з прыцягнення
Прашчы ненажэрнае;

Каб пазбыцца ўлады
Труннай гравітацыі,
Што ў ствале гарматы,
Бомбах — авіяцыі;
Каб закрэсліць крыжам іхнім і лапатамі
Лад іх, з тварам хіжым,
З плахамі і кратамі,
Пахаваць калецтва
За вякоў запорамі...

Выйсці з малалецтва
На парог гісторыі!

Тчэцца, тчэцца палатно
Дзён на часу кроснах.
Бой за боем. Не відно
Адпачынку ў соснах.
Карандаш снуе, як ткач
На машыне ткацкай,
Ніткі страт, радкі няўдач,
Слёзы ўдоў і сірат плач
Над магілай брацкай.
Тчэ спачатку да канца
Вызнанае гора —
Ад пятліц палітбайца
Да адзнак маёра.
Тчэ прысуд, які вайне
Вынесла адвага
Куль салдацкіх на сцяне
Чорнага рэйхстага.

Не шукаў мой карандаш
Славы. Госцю гэту
Вёў, пакінуўшы бліндаж,
Месяц май па следу
Перамогі. Мірны май!
Як ты там,
бацькоўскі край?
Пачакай, прыеду!

Вось і мост!

А вось і дом —
Без страхі, без ганка.
Перасelены агнём
З вогнішча ў зямлянку.
Засланіўся дом ад куль
Дзірваном і веццем.
Дням былым маім адтуль
Вочы сірат свецяць,
Хлеба просяць...
Не, Дуда,
Слава не ўцяшае,
Калі ёй з зямлі бяда
Рукі прасцірае.
За спіной яе — вайна,
Смерці гучны позех.
Не, не радуе яна
Так, як першы поспех.
Папялішча перад ёй
Новае,
як страта:
Гэта школа, што табой
З попелу не ўзнята.

Можа слава (сказ ідзе
Пра яе выгоду)
Добрай справай у бядзе
Пасабіць народу.
Да яе, лічы, здаўна —
Слабасць у начальства,
Асабліва, як яна
Не турбуе часта.
А тым больш, калі прыйшла
Па ахвоце ўласнай.

Запрашае да стала
З ветласцю выразнай
Сам міністр:
— Заходзь, заходзь!
Тут жа высвятляе
Неабходнасць:
— Справа ёсць?

— Ёсць. І немалая.
— Пачакай. Табе далі
Наш праект праграмы
Школьнай? Не?.. Дык мы ўвялі
У яе... той самы
Твор твой... Праўда, хто-ніхто
Быў супроць прызнання.
Калі ты па справе той,
Дык няма пытання.
Зацвярджаем не на год
Планы, як законы,
Будзьце пэўны.
— Я наконт
Будаўніцтва школы...

Перад намі на стале
Чай ужо дыміцца.
— Школа, значыцца?
— Але.
— Цяжка з будаўніцтвам!
З матар'яламі зарэз,
Цэглы малавата.
Пазмрачнеў міністр, як лес,
Глянуў вінавата:
— Сотні,
сотні гэткіх школ,
Не асіліш з ходу...
Тут кладзецца ліст на стол
З просьбай ад народу.
Нам таксама пальца ў рот
Не кладзі.
Умеем
Доказ вынайсці:
— Народ
Нас не зразумее!
— Гм... Чаму?
— Таму, што ліст
Гэта ўжо не першы.

Заклапочаны міністр
Просьбу ўзяў,

як вершы.
Палагоднеў, дачытаў
Да канца пасланне,
Далучыў да спешных спраў:
— Вось! Няма пытання.
Ну, і хват. Франтавіком
Быў. Бярэш за горла!..

Слава з твару рукавом
Кроплі поту сцёрла.

Школа будзе! Землякі
Пішуць мне пра гэта,
А яшчэ, што ёсць цвікі,
Ёсць праект і смета.
Будавацца час. А як?
Губіць бездарожжа.
Можа, з транспартам зямляк,
З цэглай дапаможа?
Па нарады ў Магілёў
З'ездзіць, можа? Што ж, гатоў!
Быў бы толькі кліч трубы,
Адгукнуцца рады.

Як у пушчу па грыбы,
Еду па нарады.
У газеты самакат
Мною не для славы
Сёння ўзяты на пракат —
Для гарачай справы.

Сонцам ззяе Магілёў
З прыдняпроўскай стромы.
Лес адкрытых устаноў
Нам ужо знаёмы.
Але ўсё ж, як не кажы,
Пошук паляўнічы —
Цэгла, транспарт.
Два кашы
Лоўчае здабычы!

Сонца свой гадзінам дня
Лік вяло дакладны.
Тут пра ўласны ўспомніў я
Клопат неадкладны.
Ёсць і час для гэтых спраў.
Злётаць можна ў Быхаў,
Каб шафёр паспачуваў,
Каб матор не чмыхаў.
Паспрыяй, кажу я, брат!

Рэдакцыйны самакат
Газануў, з гары разгон
Даў, аб'ехаў дрэва.
Мінск — направа.
Але ён
Крутануў налева.

Па шашы мяне ліхач
Паімчаў стралою
На спатканне.
Так, чытач,
На спатканне з ёю!

Быхаў, Быхаў!.. Я б не знаў
Тваіх вуліц, горад,
Каб у Мінск ты не прыслаў
Тэлеграму ўчора.
Каб не ўздумаў роўна ў пяць
Ёю на сягоння
Ты размову прызначаць
Мне па тэлефоне.

Як сцяжкамі на пастах,
Значылі галінамі
Сосны шлях
па правадах
Тэлефоннай лініі.
Беглі, лінію вялі
На размовы новыя.
У вушах гулі ствалы,
Як слупы паштовыя.

Кінуў нам пад колы мост
Свой
Дняпро прасторны.

Пяць гадзін.
Апошні пост.
Пункт перагаворны.
Роўна дзесяць зім і лет
Гэтае размовы
Прагнуў мінскі абанент.

Я парог паштовы,
Як парог вясны свае,
Сталасці вароты
Перайшоў.
Пазнаў яе.
Але што ты,
што ты,
Час, уладаю сваёй
Жорсткаю, сляпою
Нарабіў з адзінай той
102Мараю маёю?
Як зрабіць такое мог
З незабыўным імем?
Вецер пошты за парог
Сэрца маё вымеў,
Прысланіў мяне да дрэў,
Кінуў у кабіну.
— Не сустрэлі?
— Не сустрэў.
Паганяй машыну!

Падарожжа ў маладосць
На ланцуг прывязана.
Больш няма Князёўны! Ёсць
На зямлі —
Тарасаўна.

Неба коціцца, кружыцца, свеціцца,
За машынаю ледзь паспяваючы.
Твар свой хусткай лясоў закрываючы,

Плача ў небе старая Мядзведзіца.
Льюцца слёзы нячутна, няпрошана,
Льюцца, льюцца, зялёныя, сінія,
На слупы,
правады прыдарожныя,
На парваныя сувязі лініі.
Дзе той край, Аляксандра Тарасаўна,
У які нам вярнуцца заказана?

Дзе паляны сунічная лапінка,
Юлі Гоман, Князёўна, Прытапенка?

Льюцца горкія, льюцца салёныя,
Не крыўдуючы больш, не раўнуючы,
Толькі сонца ды промні ягоныя
На зямлі абяднелай шкадуючы.

Дзе, ахвярамі часу ваеннага,
Спяць палкі камандарма Раменнага?

Палягло за якімі Карпатамі
Іх маленства з насамі кірпатымі?
Льюцца палкія, льюцца халодныя,
З мар пяшчотнасці, з камня журботнасці...
Плача, плача пара незваротная
Перад тварам сваёй незваротнасці.

**Бяда**

Ехаў я.
Ляцеў услед
Трасаю надземнай
Ад Тарасаўны пакет
З крыўдай недарэмнай.
Крыўдавала, што прайшоў,
Адшумеў без ладу
Час, што прошласць нашу сплёў
Каранямі саду:
«...Што паробіш? Час прайшоў!
На жалобным фоне,
Як відаць, не да размоў

Нам па тэлефоне.
Але ж так было б прасцей!
Я не дакараю,
Проста — сувязь карацей...
Ты любіў, я знаю,
Не мяне, а маладосць.
А над ёй завея
Прашумела... Зябка штось,
Шалік мой не грэе...
Як жыла я? Што ж, скажу...
Хоць і сэнсу мала
Развярэджваць зноў душу.
Я табе пісала
Аб жыцці сваім лісты,
Як было мне горка,
Не чытаў іх, праўда, ты...
Вунь, ляжыць іх горка
На паліцы. Цэлы стос,
Пісаны гадамі!..
Менш радкоў у іх, чым слёз
Тых, што між радкамі.
Скарга, можа быць, мая
Недарэчы будзе,
Свет увесь
жыў так, як я...
Толькі ўсё ж, мы людзі,
Не хачу, каб бачыў ты
Твар мой, вочы хворыя,
Пад касынкаю густы
Попел крэматорыя.
Сеткай лагерных маршчын,
Як зямлёй, палохаць
Дарагі наш успамін
Не хачу самохаць.
Я ў вачах тваіх такой,
Як калісьці ў садзе,
Быць хачу, назло ліхой
Бухенвальда ўладзе.

Пакідаю родны край.
Не крыўдуй, як сказана,

Можа, што не так.
Бывай Назаўжды.
Тарасаўна».

«Не мяне, а маладосць
Ты любіў».
Бязмоўная
Праўда ў гэтых словах ёсць.
Ёсць!.. Але не поўная.
Маладосць любіў? Любіў!
Толькі ў маладосці
Быў свой адрас, дом свой быў,
Кут лясны, куды хадзіў
Я калісьці ў госці.
Я лістоў, радкоў сваіх
Напісаў нямала,
Каб, з другімі разам, іх
Першай ты чытала,
Ты, мой друг!
Калі гула
На зямлі навала,
Ты каля майго стала
Вартаю стаяла.
Цеплынёй была ў яго
Хаце неабжытай,
Дровы кідала ў агонь
Працы прагавітай.
Гэта ты маёй рукой,
Ты, лясное дзіва,
На паперу ратны строй
Літар вывадзіла.
Так! Нябачна ты майму
Слову памагала.
А цяпер?
Пісаць каму,
Як пісаў бывала?

Дзе ён, час былых трывог,
Пошукаў сардэчных?
Хто прыдумаць байку мог
Аб пачуццях вечных?

Як я, сэрцам дзівака,
Верыў клятвам смешным
Хлапчука і юнака
Пры агні начлежным?
Згас агонь начлежны, сціх
Вецер летуценняў,
Жар астыў. Дзе ж попел тых
Горкіх спусташэнняў?
Пуста. Нібы хто душу
Раптам вытрас з цела.

Год мінае — не пішу.
Карандаш заела.
Адвыкаюць ад стала
Думкі. Пушкін, мусіць,
Быў не праў.
Любоў прайшла,
Не прыходзіць муза.

Не бяда ідзе за мной
З напамінкам рупным,
Сам хаджу я за бядой
Ценем неадступным.
Пацягнуўся хвост даўгі
Нудных дзён за мною —
Беспрацоўнае чаргі
Змрочнай чарадою.
Не магу вярнуцца ў стан
Даўняй раўнавагі.

Валакуся ў рэстаран
Па загаду смагі...
Лета.
Пекла —
не дзянёк!

Бачу:
Юлі Гоман
І Прытапенка Змітрок —
Пры ўваходзе ў «Нёман».
Штось натхнёна, нараспеў,

Там чытае Юлі
Змітраку ў зацішшы дрэў,
Каб і тыя чулі.
Да сяброў лячу хутчэй.
Не пазналі... Сорам!

...Ім па дваццаць, як раней,
Мне з бядой — за сорак.
— Вы адтуль?..— да іх бяда
Прыстае, як дзёгаць.
Не адказваюць. Відаць,
Зразумець не могуць.
Каля здзіўленых сяброў
Я стаю без руху.
А бяда ім кажа зноў:
— Вашы кніжкі з друку
Выйшлі. Так! Між іншых кніг
Бачыла сама я
У вітрыне сёння іх!
— Стой! Ты хто такая? —
У разгубленай бяды
Хлопцы запыталі.
— Я?.. Як хто? Бяда Дуды,
Хіба не пазналі?
Дваццаць лет прайшло і зім!
Прыгадайце самі,
Як вас елі, разам з ім,
Мухі з камарамі!
На мяне глядзяць сябры.
Раптам Гоман Юлі
Засмяяўся:
— Не дуры!
— Заліваеш кулі! —
Падтрымаў Змітрок.— Ты што,
Пане, строіш смешкі?
Дваццаць год назад пад стол
Мы хадзілі пешкі!
— Ты — Дуда?
— Дальбог жа я!
— Сціхні, небарака!
Налізаўся, як свіння,

Брэшаш, як сабака!
Знай, па Розе Люксембург,
Месціцца завулак,
Там цяпер працуе друг
Наш. Яму не мулак
Стул. Ён справай заняты.
Поўны стол работы!
Не хаваецца, як ты,
Друг наш ад спякоты.

Кажа Гоман Змітраку:
— Кінь... Ён ледзьве лыка
Вяжа. Пойдзем! На ражку
Заказаў Хадыка
Ракі нам. Пайшлі, Змітрок!

Зніклі ў людным руху.
Я за імі на ражок
Грукачу па бруку.
Але там,—
замест піўной
На былым бульвары,—
Упіраўся галавой
Гмах у бераг хмары.

Дружба нас забудзе
Гвалтам ці самохаць,
Хоць і цяжка, людзі
Жыць на свеце могуць.
Нас любоў пакіне,
Горка, што паробіш,—
Чалавек не згіне,
Калі справа побач.
А як праца з дому
Выйдзе ці пярыну
Знойдзе,— лепш жывому
Легчы ў дамавіну.
Рупная заўсёднасць
Плуга, рук, паперы
Нам у нашу годнасць
Адчыняе дзверы.

Дбайнасць, хоць якая,
Хай не хлеб, а вершы
Толькі вырабляе —
Людства знак няўмершы.
А калі няўмека
Да пярын ахвочы,—
Лепш на вейкі — века,
Пятакі — на вочы.

**Лясны двор**

Зноў на ўсход падаўся я...
Зноўку на пракат
Мне дала рэдакцыя
Той жа самакат.

Мікалай Ягоравіч
Даўні сябра мой,
Не шафёр — гісторыя
Славы баявой.
Ён, вайной абкатаны,
З ходу браў Калач,
Біўся за Карпатамі
Гвардыі вусач.
— Некаму нас высячы,—
Круціць вус баец,—
Вёрст, лічы, паўтысячы
У адзін канец.
Часу трата марная...
Хіба не шкада?
Ну, была б пажарная
Справа ці бяда.
А то так, фантазія —
Едзем пагасціць...
Эх, не знаў адразу я,
Ды ўжо так і быць!..

Я маўчу. Залоціцца
Месяца сярпок.
Памяць — я, што коціцца
З вусця ў свой выток.

Што мне бухгалтэрыя
Строгая, калі
Сэрца гучна мерае
Кожны метр зямлі.
Тут усё падлічана —
Кожны дом і плот.
Уключай за Крычавам
Правы паварот!
А за тым вунь печышчам
Рухайся цішэй...
Чым далей, тым рэчышча
Нашае вузей,—
Дрогкай каляінкаю
Скача праз кусты,
Цеснай пуцявінкаю
Сунецца ў жыты,
А пасля ўпіраецца
Сцяжыной у гай,
За якім канчаецца
Магілёўскі край.
Ззаду тэрыторыя
Немалая.
Стоп!
Мікалай Ягоравіч
За рулём захроп.
За сцяной ляшчынніку
Драч, як снасць, рыпіць.
Побач на магільніку
Дзед радзіміч спіць.
Туманом адзетая,
Дрэмле ля млынка
Многа раз апетая
Куліком рака.

Над ракой, над стрэхамі
Сонца ўскінуў бор.
Брод мы пераехалі...
А цяпер, матор,
Даўняй каляінаю
Нас праз лес вязі!
Бачыш за ялінаю —

Вёсачка Князі!..

Прыпыніў маўкліва нас
Печышча рукой
Крайні дом, дзе Князь Тарас
Жыў перад вайной.
Князь Тарас у час вайны
Не цураўся дрэў —
Праз яго салдат лясны
З вёскай сувязь меў.
Дом пусціў на дым з агнём,
А на вецер — побыт
Карны гвалт. Сям'ю штыком
З вёскі выгнаў допыт.
Перад месцам, дзе з зямлі
Полымя і дым,
Попел шэры, прараслі
Палыном сівым,
Перад комінам нямым
Шапкі мы знялі...
Абступіў гасцей народ...
Дзень дакладны, месяц, год
Не забытай згубы
Занатоўвае блакнот,
Сашчаміўшы зубы.
Загубілі лесніка
З леснічыхай краты...
Прыязджала іх дачка
На памінкі хаты...
На вачах дачкі
старых
Смерць кідала ў топку...
Так! Я ў запісах сваіх
Тут паставіў кропку.
Мы паехалі далей...—
Адрас даў нам Князь Андрэй,
Той лясны салдат —
Леснічыхі сват.

Новы адрас,
шлях стары,

Езджаная справа.
Павярнулі мы ў бары
Векавым направа.
Падарожжа ад сасны
Да сасны пад веццем
Непралазным.
Дзе ж лясны
Двор, куды мы едзем?
Тут яшчэ матор заглох,
Вал яго карданны,
Як вяпрук на пуза, лёг
На грудок пясчаны.
Лес.
Крычы ці не крычы —
Хто пачуе крык?
Прастаялі б да начы
Мы,
каб не грыбнік.
Два кашы баравікоў
У руках яго.
Чалавек маіх гадоў,
Росту не майго.
Пакупец не нашых крам,
На яго, хоць рэж,
Ні касцюмаў,
ні піжам
Там не падбярэін.
Прагучыць адтуль, як здзек,
Ветлівы адказ —
Не стандартны чалавек
Вы, маўляў, для нас.

Падышоў, плячом падпёр «Волгі» кузавок.
Зрух пачуў, папёр матор
Колы на грудок.
Вылез, даўшы поўны газ.
Дзе там,
спрыт другі!
А грыбнік:
— Паўлітра з вас,
Сябра дарагі!

Што глядзіш? Не помніш?
— Не.
— Забываеш, брат.
— Недзе ж бачыў. На вайне?
— Не.
— Кандрат?
— Кандрат.
Помніш, восем нас было,
А яна адна.
— Але ж колькі год прайшло,
Ды якіх —
вайна!

Восем нас было ў той час:
Я, Кандрат, Лявон, Панас,
Сцёпка, Казік, Стась, Ігнась
І адна — яна.
Так і звалі людзі нас —
Восем і адна.
Парадзеў сяброўскі круг
Школьнае сям'і.
Не кранула куля двух,
Толькі двух — з васьмі.

З грыбнікам сядзім на пні,
Школу ўспамінаем.
Як калісьці кніжку, дні
Па чарзе гартаем.
Спавядаецца грыбнік:
— Езджу ў двор лясны.
Хату мне здае ляснік
На сезон грыбны.
Тут іх столькі, хоць касой
Рэж! Укос багаты!
— Ты адзін альбо з сям'ёй?
— Не!.. Я не жанаты.

Адналюб.
Перад вайной
Сват мой да Князёўны
Прыязджаў сюды са мной...

Хоць адказ адмоўны
Быў,
ды я сваю душу
З рук не выпускаю.
Што ні год, грыбы сушу
Тут. Надзею маю,
Можа, з'явіцца на дым!
На сустрэчу летам...
— З кім?
— Ды хоць бы, скажам... з тым
Дарагім партрэтам...
— Хіба ёсць такі?
— Але ж!
Перад шлюбам знята
З мужам. Пойдзем. Сам зірнеш.

Вось яна і хата.
Выключаецца матор...
Пасярод сядзібы
Поўны быў гасцямі двор.
На вяселлі нібы,
З гаспадыняю сядзеў
Гаспадар.
Пад шаты
Векавых зялёных дрэў
Мы дваром прыняты.
Гаспадар пачаў здалёк
Тост.
Маўчыць застолле.
— Дарагой зямлі грудок
Ёсць на Халхін-Голе.
Спіць пад ім мой брат Максім
З дзён таго паходу
Роўна столькі лет і зім,
Колькі мне ад роду.
Я не бачыў ні зямлі
Братавай, не блізкай,
Ні памінак, што прайшлі
За маёй калыскай.
Ды пра ўсіх пра нас адну
Памяць хата мае,

Дзе калыска пра труну
Век не забывае.
Піце, госцейкі!..
Пілі
Госці як хацелі,
А пасля, нібы чмялі,
Загулі, запелі
На ўвесь лес.
А ў гэты час
Са сцяны,
не пыльны,
На гасцей іканастас
Пазіраў фамільны:
Чорны прадзед —
бог сахі,
Русы дзед —
нарога,
Бацька —
бог лясной страхі
І двара ляснога.
Свой пасад займеў між іх,
Як яны, бязмоўны,
Сын і ўнук Максім —
камбрыг,
Бог зямны Князёўны.
І яна там. З-пад брывей
Свеціць мне жывая
Заклапочанасць вачэй.
— Пазнаеш? — пытае.—
Як забрыў ты ў гэты кут,
Што тут робіш, браце?..
Але я —
даўно не тут,
Я даўно ўжо ў хаце,
Пад страхой, дзе стол прывык
Дбаць аб полі ворным,
Дзе ляжыць мой чарнавік
Побач з хлебам чорным,
Дзе не госць я, дзе ў гасцях
З гэтае хвіліны
У мяне —

нябёсаў дах,
Лесніка гасцінны
Двор, яго іканастас,
Лесарубы-хлопцы,
Князь Андрэй і Князь Тарас,
Што згарэў у топцы,
Шлях зваротны, што адсюль
Лёг да ўласнай брамы…
Час, Ягоравіч,— за руль,
Мне — за стол той самы!
Насустрэчу далечы
«Волгу» паганяй!

Едзем, пакідаючы
Магілёўскі край,—
П’яныя, не п’яныя,
Куляй пераймaныя,
Танкамі таптаныя,
Сівізной убраныя,
Едзем, працай гнаныя.
Маладосць жаданая,
Нас не забывай!

## Пасляслоўе

На даляглядзе —
абрысы вусця,
А за спіною —
смуга вытоку.
Гады, якіх я
не дазавуся,
Вярнула памяць
у поле зроку.

А сёння дбае
жывая памяць
Аб летах даўніх,
што на экране:
Куды плыты іх
цяпер прычаляць?
Што іх чакае

ў акіяне?
Прымаць прывык ён
на грэбень пенны
Лёс, сярод лёсаў
людскіх, адменны,
Плыты, якія
ў гурт пазбіраны
Жыццём героя,
што ў свеце знаны.
Плыты лясныя!
Хай пагражае
Вас занябыціць
моц штармавая
Хваль акіянскіх
У крутаверці.
А вы плывіце!
А вы не верце! —
Адным стагоддзе
агнём хрысціла
Жыццё адменнае,
як і ваша,
Яго не ўсмерціць
нябыту ціна,
Наш век суровы
на дно не ляжа.
Плыты плывіце!
Яшчэ не раз ён,
Наш век трывожны,
сваім наказам
Наступным зімам,
наступным летам
У дзверы грукне,
як запаветам.

Век наш рукой намагання свайго
Месяца кратары кратае,
Але, на жаль, на аблічча яго
Воля — з іржавымі кратамі,
Мір і вайна — на зямлі, а ўгары —
Воблака з атамным воблакам...
Дзесяцігоддзі, як павадыры,

Вобмацкам, вобмацкам, вобмацкам
Выйсця шукаюць няпэўным кійком,
Век свой вядуць двухаблічны
Ў масцы старой, дзе мяжуе з жыццём
Гібелі выраз трагічны.
Побач з надзеяй суседзіць адчай,
Рупнасць — з ліхвярства канторамі.
Век наш, дзікунства забрала скідай,
Грукай у дзверы гісторыі!

Хутка па кнізе прыходнай вякоў
Прыме ў цябе дваццаць першы
Век нізлічоных тваіх жыхароў,
Працы набытак няўмершы.
Прыме ўвесь скарб на рухомай асі
З гордымі шапкамі полюсаў.
Век наш! Калі ж ты перадасі
Колас атручаны — коласу,
Разам з рукамі — наручнікаў звон
Маску сваёй двухаблічнасці,
Знай, мы парушым нябожчыцкі сон,
Трун і крыжоў акалічнасці,
Выйдзем, табой затаптаныя ў пыл,
Спаленыя ў крэматорыі,
З брацкіх магіл і не брацкіх магіл —
Грукаць у дзверы гісторыі!

Сёння гучней, чым паўвека назад,
Кліча з сусветнае вежы
Еднасць людскую братэрства набат
На трохмільярднае веча.
Люд катаваны! Жыцця ўладаром
Стань на планеце! Зямлі кулаком,
З цеснай яе тэрыторыі
Грукай у дзверы гісторыі!

Грукай у дзверы гісторыі!

## ВАРШАЎСКІ ШЛЯХ
### Паэма

**1**

Пакуль у целе чуецца душа,
Не веру я ў таемны сэнс другога
Яе жыцця. Таму дазволь, дарога,
Варшаўскі шлях, Варшаўская шаша,
Звяртацца да цябе, а не да бога
Радком, што просіцца з карандаша.

Ляціш на захад ты, з другімі ў згодзе
Шляхамі, шлях мой! Ты не знаеш меж,
Ляціш, не паду ладны перашкодзе.
Што суша? Акіян — не твой рубеж!
Ты адшукаеш трап, на параходзе
Нязвыклы грунт вінтом перагрэбеш.

Пасля таго, мой шлях, як абагнеш
Ты ўсю Зямлю, зноў з'явішся на ўсходзе,
Ляці адтуль, сяброўства сувязным,
Насустрач мне, зрабі прывал пад Доўскам,
Агонь начлежны раскладзі.
                                        Пры ім
Пагутарым аб часе, аб Твардоўскім,
Што земляком тваім быў і маім.
Пад шум агню і пералётны дым,
Сярод аблюбаванае паляны,

Пачнём свой дыялог, патрэбны ўсім,
Каб ён надзейна запеленгаваны
Быў лесам і падлескам маладым.

**2**

Мой шлях!
Вайна яшчэ не згрэбла трэсак
Тут, дзе з табой сядзім мы пры агні.
У полымя ўглядаецца падлесак.
Як помнікі, нас абступілі пні.
Шумелі тут вяршыні баравыя,
Ствол да ствала — гудзеў лясны арган.

Цяпер ён змоўк, як песні, што ў курган
З сабой забралі песняры былыя.

З такім і наш зямляк сустрэўся горам.
Як бор, ён абжываў мясцовасць борам,
Арганным рэхам бед і перамог.
Ніхто таго не дагаворыць хорам,
Што ён адзін дагаварыць бы мог...
Мог, каб, як бор той самы, не палёг.

Смерць здольны вынаходзіць век.
А лек
Ад смерці не знаходзіць чалавек.
Хварэем мы, хварэюць нашы рэкі,
Хварэе час, што чыніць гвалт і здзекі,
Планета, што пазбавілася сну
Ад вечных дум: чым адхіліць вайну —
Спыніць хваробу ў моманце крытычным?
Няпроста свет ад бед яго лячыць,
Пакуль цябе, дарога, стратэгічным
Аб'ектам не пакінулі лічыць.

**3**

Зямляк наш мог бы рукі грэць цяпельцам,
Як мы, каб з пахаванкаю сваёй
Не перапоўз дарогу рак.
Не той,
Што ў нашых ржах жывіцца тапельцам,
А той, які, нябачныя кляшні
З нябачных выпускаючы пячорак,
Перапаўзае шлях жывых каморак,
Каб доўгі век іх спапяліць за дні.

Адкуль з'явіўся непрыглядны морак?
Магчыма, ён таіўся ў глыбіні
Саміх каморак, а пара настала —
І ён пачаў, не скінуўшы забрала,
Жывіцца імі на правах радні?

Не прывыкаць паэтам да дуэлі,
Не страшна гінуць ім, папаўшы ў цэль.

Страшней, калі забойца, што ў пасцелі,
Выходзіць не жадае на дуэль,
Ад лекароў хаваючы свой вырыс.

Адкуль узяўся смертаносны вірус,
Прыстасаваўся да якіх умоў?
А можа, ён з вайны той самай вырас
І смела па слядах яе пайшоў,
Каб свой уклад
унесці ў картатэку
Заўчасных страт на ўсіх кладзішчах веку?

**4**

Няхай, мой шлях, твайго агню іскрынак
Не гасіць куль трасіруючых рой!..

Тут некалі на дзёрзкі паядынак
Выходзіў наш зямляк — з напасцю той.
Жыццё і смерць. Дуэль радкоў з крыжамі.
З вайною, не кіруючы франтамі,
На ўсіх франтах, мой шлях, ён вёў баі.
З рукамі каваля, з душой жняі,
Не раз ён тут салдатам нёс уцеху
І жартам весяліў іх, каб яны
Забыліся на змрочны жарт вайны.
Здаралася, ён ім хлусіў для смеху,
Ды не маніў ніколі для маны.
Не раз, стаіўшы плач зямлі сірочай,
Ён іх на подзвіг зваў сваёй прарочай,
Чорнарабочай
кнігай пра байца,
Не ўсімі дачытанай да канца...

З душой жняі, з рукамі каваля,
Калі ўздыхнула радасна Зямля,
Ён за яе салютам пераможным,
Як за апошнім валам агнявым,
Ішоў з байцом жывым і нежывым
І плакаў на вялікім свяце тым
За кожнага
і з кожным, з кожным, з кожным...

**5**

Ён нарадзіўся памятнай парой,
Калі зара страчаецца з зарой,
А доўгі дзень купелі бласлаўляе
На доўгі век...

Магіла, як акоп,
З натужных рук цяжар труны прымае.
Хто слёзы лье, хто слёзы выцірае.
На месцы поп, на месцы далакоп.
А хто, каб рытуалу не пярэчыць,
Пасоўваецца ціха ў першы рад,
Наіўнай і не крыўднай думцы рад,
Што можа над труной увекавечыць
Яго прысутнасць фотаапарат.

А ў гэты час, за сотні вёрст ад страты,
Дняпро плыве і сушу ліжа Сож.
І хоць ні ў чым яны не вінаваты,
Як ты і я, мой шлях,— а ўсё ж, а ўсё ж...

А ўсё ж на сэрцы блага мне, і шкода —
І крыўдна ад вядомасці тае,
Што гэтак, як раней, жыве прырода,
Што больш не зможа ўбачыць
Што больш яна, з зямлёй і небакраем,
Не варухнецца ў ім радком жывым,
Мой шлях!..

Над памяццю яго схіляем
Я — горкі верш, а ты — свой горкі дым.

**6**

На могілках спрадвечных бачыў кожны,
Чытаў на надмагільных камянях
Такі зварот: «Спыніся, падарожны!
Сваім маўчаннем ушануй мой прах.
Я дома, ты яшчэ ў гасцях».

Адгасцяваўшы, ён пайшоў дадому —

У несмяротнасць. І, відаць, нікому
З тых, у каго гасціў ён пры жыцці,
Цяпер яго парог не перайсці
Па праву і па звычаю былому.

Калі не быць сяброўскім песням там,
Дык, можа, з іх народзіцца такая
Калісьці песня, у якой пазнае
Ён голас наш і выйдзе з дому сам
Насустрач ёй, з удзячнасцю сябрам.

Мне горка ад таго, што не хапае
Не нас яму сягоння, нам — яго.
Было з кім гаварыць, было ў каго
Сумленню прыклад браць, радкам — вучыцца.
Пытаю я ў цябе, мой шлях, чаму
Магло так прычыніцца, што яму
Мы ўжо не снімся больш, а нам ён сніцца?
Такіх, як ён,
                    за ценевай мяжой,
Адна зара перадае другой.

**7**

Я не агонь начлежны раскладаю
У гонар земляка.
                    Я ўпершыню
Сябе нібы дадому выпраўляю...
Няма, як кажуць, дыму без агню.
Мы — людзі франтавога пакалення,
Знаёмыя даўно, з юнацкіх дзён.
Таму няма спакою ад здзіўлення,
Што я ў гасцях яшчэ, што дома ён.

Усё часцей, у часе весялосці
Застольнай, дзе сяджу я да зары,
Мне шэпча хтосьці:
                              «Дарагія госці,
Ці не абрыдлі вам гаспадары? »

Паддаючыся голасу чужому,
Такому аддаюся пачуццю:

А можа, сапраўды мне час дадому
Збірацца ўжо, як позняму гасцю?

Ці не пара і мне, як дзед Даніла,
Складаць пажыткі, класціся ў труну?
Тут, дзе мяне цяпельца прытуліла,
Мой шлях, я на грудзях тваіх засну.
Пара!.. Няўхільна падарожжа гэта...
Лячу, лячу, упэўнены амаль,
Што я навечна гэты боль і жаль
Пакіну на зямлі,
як гук
ракета.

**8**

На дым, што адлятае ў сіняву,
Гляджу з тугой.
Бывай, бывай, дарога!
Табе пакіну я сябе самога
З той купінай, што клаў пад галаву...
А ўсё ж, пакуль лячу, датуль жыву!

Я ў тайны сэнс свайго быцця другога
Не веру, хоць лячу.
Затое веру,
Што там, дзе я не буду жыць зусім,
Не толькі мне, не дадзена Гамеру
Сказаць аб тым, што адляцела з ім.

Ляціць ракетай дзён маіх астача,
Яшчэ мне не чужых і дарагіх,
Ляціць мая сляза, і па сваіх
Рамэо і Джульеце сэрца плача.

Прыкметны на канцы карандаша,
Ляціць мой сум, ляціць мая душа.
А разам з імі верш ляціць той самы,
Адзіны мой, ляціць, як эпілог
Яшчэ дагэтуль не пачатай драмы,
Што, можа б, напісаў, каб час памог.
І час ляціць! — для ўсіх абмежаваны

Хваробаю, нястачаю, вайной.

На купіне, сярод лясной паляны,
Я не ляжу. Лячу я разам з ёй!..

**9**

Вайна ягоны век укараціла?..
Хвароба?.. Не!
Не падуладна ім
Любоў да працы прагнай, што спаліла
Звышчалавечым высілкам сваім
Яго жыццё, нібы маланка лес,
Які ў агні самазнішчальным згінуў.

Не веру я, што Пушкіна Дантэс,
Што Лермантава некалі Мартынаў
Забіў. Не веру!
Волатаў скасіла
Паэзія, а ворагі — пасля,
Ясеніна — яна, а не пятля.

Усім такія словы гаварыла
Паэзія, калі вяла ў паход:
«Не вер, што свет шырок, ён думкам цесны.
Хай ісціны старэюць з году ў год,
Хай сэрца разрывае гук жалезны,
А ты за ўсё ў адказе, мой балесны,
За справу, за дзяржаву, за народ.
Далёкае разгледзь арліным вокам,
Лаві на слых ледзь чутны крок бяды:
Мяне абраўшы, мусіш быць прарокам.
Як не прарокам,
кім жа быць тады?
Не бойся слова гучнага — прарок! —
Прарок не бога — праўды слых і зрок.

**10**

Ратуй людзей з бяды ліхой,
іх душы
На гвалт і на адчай не пакідай,
Ты радасць ім нясі, сабе — адчай,

Ім — волю, гвалт — сабе, ты духам дужы.
Ідзі, вяшчун, па моры, як па сушы,
Калі пакліча да сябе сляза
Пякучая.
          Над прорвай па канаце
Ідзі туды, як па лязе нажа.
Крычы: «Ўставайце!» Не кажы: «Канайце!»
Аб мёртвых дбай, шануй дамоўкі іх,
З сям'ёю продкаў не жыві ў разладзе,
Іх больш, чым нас, іх большасць на парадзе,
На пераклічцы мёртвых і жывых.
Яны — мінулы час у новым часе.

І гарады ў вялікіх гарадах,
Што будаваліся на іх касцях.
Ты, як нашчадак іх, за ўсё ў адказе:
За сёлы ў сёлах і за час у часе.
Хай зрок не спіць, трывожным рог гучыць —
Ты сам гарыш, калі Зямля гарыць!..»
Штодзённай прыналежнасцю святой
Да спраў людскіх
                              паэзія паліла
Яго... І, спапяліўшы, запрасіла
І пасяліла ў дом высокі свой.

**11**

Ён пры жыцці быў крытыкам суровым
Сваім.
          Ты песням падаваў руку,
Дзе пачуццё было невыпадковым,
З непазычанай думкай у радку.

Яго дзялянка ўсім відна цяпер:
На ёй прыкметных дат і вех нямала,
Якія, апрача дзяржаўных мер,
Ягонай музы моц замацавала.

Дзве кузні, дзве вяхі дзялянкі той:
Адна — Урал, кіпіць у строфах чулых,
Другая кузня,
                         шлях Варшаўскі мой,—

Зямлячка наша, памяць дзён мінулых.
Аднак ад курнай кузні каваля,
Што чорнай бляхай ад агню абшыта,
Да рудных гор —
яшчэ не ўся зямля,
Што гм раскарчавача і абжыта.
Яшчэ — і ўтаймаванне Ангары,
Тратыл, што грудзі рве надрэчным скалам,
Зямля шляхоў, якая ад зары
І да зары спявае пад металам.
А там, а там — яшчэ за даллю даль,
За даллю даль, як шпал бясконцы шэраг.

А там і даль — апошняя, на жаль, —
Запоўнены таварышамі бераг...

**12**

Варшаўскі шлях!
На ростанях тваіх,
Падобных з вышыні на васьмінога,
Стаіць бажок у ролі сувязнога
Юдолі грэшнай і нябёс святых.
Ён не такі ўжо страшны для паклонаў,
Ён не такі ўжо лекар ад тугі
Цяпер, калі нізрынуты багі
З крыжоў сваіх,
З бажніц былых, з амбонаў.
Займаючы дарожныя пасты,
Яшчэ не пакідаючы капліччкі,
Яшчэ распяццем свянцячы крынічкі,
Не знае ён, што бог не ён, а ты.
Часовы ён.
Ты ж вечны і нязменны
Душ сувязны. Ты, як само жыццё,
Імчыш, змяніўшы толькі пакрыццё —
Парог пясчаны на парог каменны.
Ты лечыш раны, суцішаеш боль,
Надзеяй апаясваеш, дарога,
Ты шар зямны.
Таму дазволь, дазволь
Звяртацца да цябе, а не да бога.

Мне крыўдна за пакутную юдоль,
За тысячагадовыя скрыжалі,
За тых, што на магільных камянях
Свет замагільны домам называлі...

**13**

Не веру я ў той вечны дом, мой шлях!
Я падарожны, як і ўсе, бясспрэчна,
Хай немагчыма, але вечна, вечна
Быць я хацеў бы
у цябе ў гасцях.
Я знаю, каб памёршыя знайшлі
Зваротную дарогу ў свет зялёны,
То адбівалі б толькі ёй паклоны,
Маліліся б шляхам сваёй зямлі.
Зямля для ўсіх, хто там,
Для ўсіх, хто тут,—
Адзіная сапраўднасць і бясспрэчнасць,
І ёй адной — іх вечнасць і нявечнасць...

Яна адзін для ўсіх вышэйшы суд.
Мінецца ўсё: пустая слава, мода,
І застанецца толькі сэнс адзін
Тых слоў, каторым саладзей ад мёду
Банкетнага быў палявы палын.
На брустверы акопа, на зямлянцы
Ён рос і там — дзе праца рве карчы.

І толькі ён не рос на той дзялянцы,
Дзе не работу дзеляць, а харчы...
На подзвіг, а не танныя заробкі
Ішоў зямляк наш, кнігі кладучы
На шалі часу, нібы самародкі,
З пластоў глыбокіх
вымытыя працай...

**14**

І прыкладу таму рэкамендацый
Маіх не трэба. Як не трэба іх
Ні для чытацкіх сфер, ні для рэдакцый.
Пішу аб ім я згодна праў другіх...

Не для таго размова, каб часова
Развеяць зразумелую тугу
Нам блізкай страты: не скажу я слова
Цяпер — пасля, не знаю, ці змагу.
Пасля, пасля!.. А як яго не стане,
А як не будзе гэтага пасля?..

Пішу цяпер, пакуль я на паляне,
Пакуль яшчэ са мной мая зямля,
Пакуль яшчэ пры мне мае цяпельца
І часу прысак на яго не лёг...
А дагарыць агонь, прашу цябе я,
Мой шлях, — ты не падпісвай некралог,
А новы раскладзі агонь пад Доўскам...
І без мяне з вандроўнікам другім
Пагавары аб часе, аб Твардоўскім,
Як мы з табой, пры вогнішчы жывым,
На месцы тым, дзе бушавала бітва...

Няхай, як памяць вечная аб ім
Твая, як да цябе мая малітва,
Ідзе ўгару,
далоні склаўшы,
дым.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Я знаю, ты, мой шлях, перажывеш
Мяне, мой верш.
                    Дык знай, калі рубеж
Ты не мінеш, які завуць вайною,
Апошняй бітваю дабра са злом,
З тым злом, што мы пад Брэстам і Масквою
У сорак першым нішчылі з табою,—
Знай: дзень, што судным выбухне агнём,
Той дзень і нашым будзе судным днём.

Тады мяне ты ўспомні, як салдата.
А за грахі, калі яны былі,
Не дазваляй пад дулам аўтамата
Злу верш мой гнаць на мінныя палі.

Ты не дазволь, каб за маёй спіною
Зло з крыкамі зларадны́мі ішло.
Дазволь, каб верш мой мінай стаў тваёю
Там, дзе крывёю захлынецца зло.

У судны дзень дазволь радку ўзрывацца,
Сабе самому выракаць прысуд,
Дазволь загінуць для таго, каб тут,
Дзе я жыву цяпер, ты мог застацца.
Каб тут, на месцы векавых пакут,
Каб тут, дзе не загіне наша праца,
Ты, сын Зямлі, мог абдымаць Зямлю...
Варшаўскі шлях, аб тым цябе малю!

1972 г.

## *Хамуціус*

Ствараючы аблічча свету новага,
Ствараем мы і новае аблічча
Тым, хто загінуў,
М. Бакуш

*«Мой родны брат! Я пакідаю свет.*
*Пішу табе не ліст, а запавет...*
*Узняўшы бунт, народу-жабраку*
*Мы камень падалі, а не руку.*
*Мы гінем ад таго, што абяцалі*
*Зям'лю яму, а не далі ні цалі.*
*Калі затрубіць новай бітвы рог,*
*Паўстанец пакладзе на твой парог*
*Мой запавет, а ў ім — зямлю магната:*
*Тваю, маю... Раздай жа долю брата*
*Тым, хто яе арэ. На гэта права*
*Не я табе даю, а наша справа».*

*З ліста Юрася Старжыцкага*

### Пад вячыстай хвояй

Год 1862. Гасціная ў засцянковым доме.
Летняя раніца. Хвоя за акном.
Гаспадыня Г е л е н а Я м а и т услухоўваецца
ў яе вячысты пошум.
Уваходзіць сястра Гелены — Р а г н е д а
С т а р ж ы ц к а я ,
маладая, зграбная жанчына.

Г е л е н а
Рагнеда, ты? Ні свет і ні зара...
Р а г н е д а
Навіны ёсць... Геленачка, сястра,
Як маешся?
Г е л е н а
Як верны пёс руіны,
Вартую дом, дзе мы з табой раслі,

Крыжы бацькоў ды ўласныя ўспаміны.

Р а г н е д а
Здароўе як?

Г е л е н а
Тапчуся па зямлі.
А дзе ж твой муж?

Р а г н е д а
Пацеха! Пан маршалак
Не страціў спрыт да выразання палак,
Прабач яго за гэтыя дзівосы —
З карэты злез і паімчаўся, босы,
У твой ляшчыннік. Я трымаць не стала.

Г е л е н а
А,што, яму сваіх лясоў замала? —
Не выхадзіш за тыдзень.

Р а г н е д а
Гэты кут
Ён любіць. А яшчэ — сцяжынкі тыя,
Што некалі таптаў са мною тут.

Г е л е н а
Разбяр па дрэву... Забаўкі пустыя,
Магната дурасць.

Р а г н е д а
Бога не гняві.
У графа дурасць гэтая ў крыві.
Хіба, скажы, не стаў бы мастаком
Ягоны брат, каб не паўстання гром?
Ты пазмрачнела. Можа, нам не рада?

Г е л е н а
Не ўспамінай, Рагнеда, чорных дзён.
Боль непазбыты.

Р а г н е д а

Нас трывожыць ён.
Нядаўна муж ліст атрымаў ад брата.

Г е л е н а
Ад Юрася? Як гэта так? Дальбог,
Не разумею... Што за ліст?

Р а г н е д а
Мы самі
Здзіўляемся. Не ўласнымі ж рукамі
Паклаў нябожчык графу на парог
Ліст, што гучыць сягоння як паданне.
Граф быў малы, калі мяцежны рог
Паклікаў Юрася...

Г е л е н а
Правоў і звання
Пазбавілі няшчаснага бацькі
За гэта.

Р а г н е д а
А яшчэ... тваёй рукі.

Г е л е н а
Юрась мяне з сабою на паўстанне
Зваў... Не пайшла.

Р а г н е д а
Не варта шкадаваць.

Г е л е н а
Шкадуе памяць.

Р а г н е д а
Муж хацеў бы знаць,
Як жыў Юрась пасля?

Г е л е н а
Аб тым, відаць,
Вядома толькі кірмашам і путчам,
Дзе ён старцом відушчым, невідушчым

Хадзіў, быў ганчаром, быў багамазам,
Быў цыганом,— жыў з цыганамі разам.

Р а г н е д а
Ах, бедны! Лепей катарга, палон,
Чым лес такі. Сюды прыходзіў ён?

Г е л е н а
Жыў... У сялян. Хаваўся ў іх зімой
З Анэляй — спадарожніцай сваёй.
Вясной ён,. малываў з яе партрэт,
Сам, як вясна, шчаслівы, закаханы,
Не багамаз, а бог, мастак, паэт.

Р а г н е д а
Але!.. Так пачынаюцца раманы.

Г е л е н а
Трагедыі, старыя, быццам свет:
Пралог лірычны, дзеі нечаканы
Канец, а там — і змрочны эпілог
Паўстання і блукання па народзе.

Р а г н е д а
З табою толькі ў сорак трэцім годзе
Ён бачыўся?

Г е л е н а
Дзіцця на мой парог
Прынёс Юрась, як бог забраў Анэлю
З пасцелі парадзіхі ды ў пасцелю
Бязведамную.

Р а г н е д а
Пухам ёй зямля!

Г е л е н а
Жыццё было ўжо Юрасю няміла.
У лес сышоў і там прапаў пасля.

Р а г н е д а

Пад прозвішчам сваім удачарыла
Малую ты... Марыська праўду знае?

Г е л е н а
Я ёй сказала, што яна дачка
Старжыцкага. Паўстанца. Мастака.

Р а г н е д а
А больш... А пра Анэлю?

Г е л е н а
                                        Не пытае,
А можа, і сама не хоча знаць.
Яна — дзіця бясшлюбнае, я — маці
Яе, пасмешышча мясцовай знаці,
Што трэба больш? Аб чым яшчэ пытаць?
Яна маўчала, я не гаварыла,
Язык — замок, калі душа — магіла.

Р а г н е д а
Даруй, сястра, яшчэ не ўсё спытала:
Як быць з Марыськай? Пра яе так мала
Я думала. Ёй колькі год? Відаць,
Вясельны ўзрост? Есць на прыкмеце зяць?

Г е л е н а
Не смейся. Хто палічыць за выгоду
Ісці за Нёман, не спытаўшы броду.

Р а г н е д а
Марыська не без племені і роду.
Старжыцкі дзядзька ёй, а не вараг.
Я гаварыла з ім. Ён дасць пасаг.
Мы так рашылі. Што Гелена скажа?
Ці, можа быць, не верыць?

Г е л е н а
                                        Воля ваша,
А толькі...

Р а г н е д а

Што?

Г е л е н а

Пранёсся слых такі,
Што хоча граф раздаць зямлю сялянам.

Р а г н е д а

Той слых, сястра, і нас трывожыць з панам.
Хлусня!

Г е л е н а

А ўжо на графа мужыкі,
Як на святога, моляцца ў касцеле,
Ды і ў царкве.

Р а г н е д а

Пустое нехта меле.
Няпэўны час! Турбацыя адна.
(Падыходзіць да акна.)
А вунь і муж ідзе. Шчаслівы, босы,
І не адзін... З Марыськаю?

Г е л е н а

Яна.

Р а г н е д а

Вянок на галаве. А што за косы,
Як вырасла! Якія ножкі, стан!
Пры кавалеры... Гэта што за пан?
Прыемны з выгляду...

Г е л е н а

Адукаваны.
Зваць Кастусём.

Р а г н е д а

Хто пазнаёміў іх?

Г е л е н а

Вядома хто — выпадак нечаканы,
Спрадвечны спадарожнік маладых,

Стрэч і разлук нязведаная сіла.

Р а г н е д а
Гасцюе ў вас?

Г е л е н а
Марыська запрасіла.

Р а г н е д а
Даўно ён тут?

Г е л е н а
Ды ўжо чатыры дні.

Р а г н е д а
А ён ёй падабаецца. Зірні:
Між ім і ёй ідзе вачэй размова,
Пан русы, а дзяўчына чарнаброва...

Уваходзіць граф В і к т о р С т а р ж ы ц к і .
Босы, кашуля на ім расхрыстана,
у руках кіёк з ляшчыніны.
Ён шчаслівы, вясёлы.
Следам ідуць М а р ы с ь к а і К а с т у с ь К а л і н о ў с к і

С т а р ж ы ц к і
Гелена, добры дзень!
(*Цалуе руку, звяртаецца да ўсіх.*)
Хачу я ўсім
Прысутным абвясціць, у добрым часе,
Аб змене той, якая адбылася
У лесе брата, вашым і маім.
Дык слухайце, што я скажу вам... Згодна
Хадайніцтва майго, маіх сяброў,
Самім царом, за даўнасцю гадоў,
Грэх брату дараваны пасмяротна.
Яго імя не пахаваў гушчар,
Ягоны род не згінуў... Не загіне.
Марыся — больш не Ямант, а графіня
Старжыцкая. А я — не гаспадар
Таго маёнтку, што мяжуе з вамі.

Не я, а лес яго вяртае вам.
Гелена, плачаш ты? Не плач. Слязамі
Не вернеш Юрася. Хай лепей нам
Накрые стол доўгацярплівы дом!
Наш дом!.. З вячыстай хвояй за акном.

## Знаёмства

Ж а н ч ы н ы, а следам за імі М а р ы с ь к а,
праходзяць у суседні пакой.
Там яны займаюцца гаспадарчай справай —
иакрываюць стол.
Мы бачым іх, але не чуем,
бо ўвагай скіраваны на гасціную,
дзе ў гэты час размаўляюць Ві к т о р С т а р ж ы ц к
і К а с т у с ь К а л і н о ў с к і.

К а л і н о ў с к і
Нябожчыкам не трэба даравання
Былых грахоў. Калі ім сніцца сон,
То сніцца ім не тытул, а паўстанне
Наступнае. Яго набатны звон.
З марудных дыліжансаў на чыгунку
Час перасеў і ў тым імчыць кірунку,
Якога час мінулы не дасяг.
Паўстанне ўжо не за гарамі, вашаць...
А выбухне — што тытул будзе важыць,
Пазбаўлены мінулых пераваг?
Што граф? Што князь?

С т а р ж ы ц к і
Прашу вас, дзеля бога,
Цара хоць не чапайде.

К а л і н о ў с к і
Засцярога?

С т а р ж ы ц к і
Так. Я ж — маршалак.

К а л і н о ў с к і

Вас мы не чапаем.
Але ж і вы і я, хіба не знаем,
Што ўвесь наш бедны край прыйшоў у рух.
Цара і канцылярыю ўсім краем
Клянуць... А мы тут баімося ўдвух.

С т а р ж ы ц к і
Вам лёгка. Вы ад царскіх слуг далёка.
А я? Я — знатны лёкай для паслуг,
Нядрэмнае за каркам чую вока.
Дзе не ступлю, хлусню на слых лаўлю,
Ліхія чуткі, быццам я зямлю
Хачу раздаць...

К а л і н о ў с к і
Я чуў. Але не верыў.
Не веру ў філантропію намераў.
Калі б намер сур'ёзны быў у пана,
То здзейсніў бы яго ён нечакана
У зручны момант, улічыўшы ўмовы,
А не для слоў пустых.

С т а р ж ы ц к і
Святыя словы!
Ніхто не стане жартаваць з пятлёю
Намыленай.

К а л і н о ў с к і
Аднак, я чуў другое...
Не знаю, ці казаць?

С т а р ж ы ц к і
Чаму б і не?

К а л і н о ў с к і
Пра нейкую наяўнасць запавету...
Нібы яго пакінуў брат ваш.

С т а р ж ы ц к і
Мне?

К а л і н о ў с к і
Хто кажа — вам, хто кажа — камітэт
Паўстанцкаму.

С т а р ж ы ц к і
А хіба ёсць такі?

К а л і н о ў с к і
Ды рознае гавораць дзецюкі
Пра камітэт той самы і пра справу.
Нібыта граф Старжыцкі ў пэўны час,
Паўстанца-брата помнячы наказ,
Не стане спадзявацца на Варшаву
З няпэўнасцю яе, ні на Парыж,
Сам панясе пачэснай справы крыж.
Яму,— гавораць,— наш давер і зброя
Ён — сам герой, не толькі брат героя!

Словы Каліноўскага ўразілі графа.
Страх маршалка і адвага паўстанца адбіваюцца на ягоным твары.
Што пераважыць — адвага ці страх — невядома.

С т а р ж ы ц к і
Як бачыце, зусім нядобры слых.

К а л і н о ў с к і
На рэха слых падобны: быў і сціх.

С т а р ж ы ц к і
Вось брата ліст! Пасланне дзён былых,
Паслухайце… «Я пакідаю свет.
Пішу табе не ліст, а запавет…
Узняўшы бунт, народу-жабраку
Мы камень падалі, а не руку,
Мы гінем ад таго, што абяцалі
Зямлю яму, а не далі ні цалі».
Так напісаў Юрась!

К а л і н о ў с к і
Тут праўда ўся.

С т а р ж ы ц к і
Яна і вас, як бачу, ўсхвалявала.
Яна яму магілы каштавала,
А нам — заўчаснай смерці Юрася.
Фінал трагічны!

К а л і н о ў с к і
Не!.. Хутчэй завязка
Для новых дзей.

М а р ы с ь к а
*(уваходзячы).*
Прашу вас. Калі ласка!

Заклапочаны граф ідзе следам за М а р ы с ь к а й і К а л і н о ў с к і.Паступова настрой ягоны ўраўнаважваецца. І вось ужо Старжыцкі — ранейшы маршалак, задаволены госць і гаспадар. Ён падыходзіць да стала і налівае па поўнай чарцы спачатку дамам і пляменніцы Марысі, а потым — Каліноўскаму і сабе.

С т а р ж ы ц к і
Я ўсцешаны за ціхі дом, які
Сабраў нас тут, між сцен сваіх утульных.
Мы ўсе з яго гасціннае рукі,—
Хто выразаў кійкі, хто плёў вянкі,—
Адна сям'я... Па родзічах агульных...
А з Кастусём — па думках сваякі.

Р а г н е д а
Чаму па думках толькі? Ён жа госць
Марыські.

С т а р ж ы ц к і
Знаю. Густ у пана ёсць!
Да гэтага ж і хіліцца гаворка,
Каб тут жаданы госць не быў гасцём.
За шчасце!

Р а г н е д а

За Марыську з Кастусём.
*(Усе выпіваюць.)*

С т а р ж ы ц к і
Ну, што ж вы, маладыя... Горка!

Р а г н е д а
Горка!
Рашайцеся. Смялей, такой бяды!

К а л і н о ў с к і
Не згодны мы.

С т а р ж ы д к і
Між вамі нелады?

К а л і н о ў с к і
Казаць, Марыська?

М а р ы с ь к а
Так.

К а л і н о ў с к і
Раскрыем карты.
Мы гэты тост, які не жартаў варты,
Адтэрміноўваем на два гады.

Р а г н е д а
Вар'яты вы!

К а л і н о ў с к і
Для тых, хто сэрцу люб,
Не тэрмін, нават вечнасць.

Р а г н е д а
Глупства — вечнасць!
Для шчасця асцярожнасць — недарэчнасць.

К а л і н о ў с к і
А можа, шлюб?

Р а г н е д а

Хто зганіць шчыры шлюб? —
Яе пасаг — зямля, а ваш — асвета.

К а л і н о ў с к і
У нашы дні так мала значыць гэта!..

Р а г н е д а
Дзе пан Кастусь вучыўся, не сакрэт?

К а л і н о ў с к і
У Пецярбургскім універсітэце.

С т а р ж ы ц к і
Пан скончыў юрыдычны факультэт.

Р а г н е д а
Ёсць служба?

К а л і н о ў с к і

Ёсць — бадзяюся па свеце.

Р а г н е д а
Ну як-то можна жыць без пэўных спраў?
Ах, дарагі, бацькі вас білі мала.
Як можна так?

К а л і н о ў с к і

Спытайце генерала
Назімава. Прашэнне падаваў.
Адмовілі.

Г е л е н а

Без жоднае прычыны?

К а л і н о ў с к і
Адна прычына — патрыёт айчыны,
Якіх цяпер — лічыць і не злічыць
У Вільні, Гродні, тут.

С т а р ж ы ц к і

Ах, паважаны,
Я разумею вас. Нялёгка жыць,
Калі і чалавек адукаваны
Не мае дзе свой талент прылажыць...
За жарт прабачце, маладыя, нас.
Забаве час, але і справе — час.
Чакаюць коні, гасне ў небе дзень,
Чырвоны сонца кідае прамень,
Даўжэе пень, глыбее ў лесе рэха,
Пара і нам. Дык вып'ем стшэменнэго!

Усе выпіваюць. Першай пакідае пакой Р а г н е д а, за ёю, пабраўшыся за рукі — М а р ы с ь к а і К а л і н о ў с к і. Затрымліваюцца толькі Г е л е н а і г р а ф .

Г е л е н а
Я слухаю. Вы нешта мне сказаць
Хацелі?

С т а р ж ы ц к і
Каліноўскі — вам не зяць.

Г е л е н а
Як можна, граф? Адзін другому слова
Яны далі.

С т а р ж ы ц к і
Ён меціць у царкі
Мужыцкія, на месца Пугачова,
Крывавай пласе просіцца ў зяцькі.
Юрась — мой брат. Аб шлюбе сам падбаю.
Яшчэ адно сказаць Гелене маю
Для пільнасці... Даходзяць да мяне
У Гродню чуткі, пэўныя даволі,
Што нехта тут адозвы сее ў полі,
Мужык знаходзіць іх у збажыне.
І нехта ўжо чытаў іх на млыне.
Гасця свайго, Марыську папярэдзь:
Чытаць іх нельга, можна загрымець,
Ды як яшчэ!.. Мне дораг ваш спакой.
(*Выходзіць.)*

Г е л е н а
Граф помніць нас! Паводзіўся, як свой.

## Допыт

Дом Гелены Ямант. Пакой, дзе жыве Каліноўскі.
Вокны ў сад. За сталом жандарскі афіцэр.
Ён вядзе допыт. Каля дзвярэй узброены салдат.
Капітан удакладняе пратакол.

К а п і т а н
Завуць вас Каліноўскі Канстанцін,
З дваран.

К а л і н о ў с к і
Дробнапамесны дваранін.

К а п і т а н
Сюды вы з Ваўкавыскага павету
Прыехалі... Якую мае мэту
Прыезд?

К а л і н о ў с к і
Не разумею капітана:
Спачатку арышт, потым пратакол,
Хоць для каго — такое нечакана.
Між тым, мне не належыць тут ні стол,
Ні гвалтам растрыбушаная шафа.

К а п і т а н
Што гэта дом сваячаніцы графа
Я ведаю, аднак...

К а л і н о ў с к і
Вы ні ў стале
Нічога не знайшлі, ні пад падлогай.
Прыстойны дом такою мерай строгай
Вы крыўдзіце.

К а п і т а н

Не крыўдзіў бы… Але,
На жаль, мы маем факт найдакладнейшы,
Што чалавек прыезжы, не тутэйшы,
Чытаў лісток крамольны на млыне.
Па справе следства строгае вядзецца.
Ёсць сведкі адпаведныя ў мяне.

К а л і н о ў с к і
Пры чым тут я?

К а п і т а н
Лісток, які завецца
«Мужыцкай праўдай», кліча дзецюкоў
Ісці з касой, з сякерай на паноў.
Не ўсё так нечакана, як здаецца.
Вы ў ролі бунтара, а я — суддзі.

К а л і н о ў с к і
Дзе ж сведкі?

К а п і т а н
Тут. Гаўрылаў, прывядзі.
Ды не марудзь!

С а л д а т
Ёсць, ваша благароддзе!
*(Салдат казырае і выходзіць з пакоя.)*

К а п і т а н
Не апазнаюць вас, вы на свабодзе.
Хаджу пад богам, пад царом жыву.
Нікому не раблю я выключэння.
Не вінаваты — дом без прабачэння
Я не пакіну. Пратакол парву.

Уваходзяць с а л д а т і с я л я н е .
Тут і маладыя дзецюкі і сталейшага веку людзі.

Хто тут старэйшы?

А р ц ё м

Я. Арцём Яцына.

К а п і т а н
Уважліва глядзі на гаспадзіна.
З-пад Вільні Яська? Той?

А р ц ё м
Не той.

Д з я ц ю к
Не той.

Д р у г і д з я ц ю к
Чарнейшы той, з калматай барадой,
У світцы быў.

К а п і т а н
А што чытаў з лістка
Вам Яська-гаспадар?

А р ц ё м
Пра мужыка.

Д з я д ю к
Аб вольнай волі.

Д р у г і д з я ц ю к
Аб сярмяжнай долі.

К а п і т а н
І не змаглі звязаць бунтаўшчыка?

А р ц ё м
Збаяліся.

Д з я ц ю к
А раптам пры пістолі.
Яшчэ нам пра дара казаў...

К а п і т а н
Даволі!

Вы вольныя.

С а л д а т адпускае с я л я н і ўслед за імі выходзіць сам. Капітан ірве пратакол на дробныя шматкі і кідае іх у кошык.

Раблю, як абяцаў.
Жадаю вам прыемных сноў і спраў.
Даруйце... Ёсць яшчэ адно пытанне:
Марыся Ямант запрасіла вас
У госці?

К а л і н о ў с к і

Так.

К а п і т а н

Знаёмства ці каханне?
Маўчыце. Красамоўыей за адказ
Мужчынскае маўчанне.

К а л і н о ў с к і

Новы допыт?

К а п і т а н

Паверце, не. Хутчэй — службовы клопат,
Міжвольная даніна пекнаце
Марысі Ямант... Круглай сірацэ...
Вы здзіўлены? Так, так, не ў гэтай хаце
Яе, а ў лесе, нарадзіла маці,
Сама ж памерла. Круглай сіратой
Расло дзяўчо.

К а л і н о ў с к і

Гелена Ямант ёй
Не маці?.. Глупства нейкае.

К а п і т а н

Ну што вы!
Не мог архіў сакрэтны спудлаваць.
З прычыны гэтай — клопат мой службовы:
Я вам не раю масла падліваць
У той агонь, што выбухнуць гатовы.

Палітыка, дальбог, не для кахання,
Яна — цяжкі ланцуг для светлых мар.
Ёсць прыклады... Трагедыі паўстання...
К а л і н о ў с к і
Пры гэтым вы так мнагазначна ў твар
Зірнулі мне.

К а п і т а н
Што зробіш, я — жандар.

К а л і н о ў с к і
Не... Гэтак на нябожчыка трунар
Глядзіць, калі з яго здымае мерку
Для справы: на чарзе — труна і дол.

К а п і т а н
Шкадую я.

К а л і н о ў с к і
Каго?

К а п і т а н
Не вас. Паперку,
Што ў кошыку... Парваны пратакол.
Шкадую я, што выканаў фармальна
Свой доўг. Усіх не вычарпаў да дна
Магчымасцяў. А следчага віна,
Як правіла, канчаецца фатальна.
Баюся я, што і для вас яна
Так скончыцца... Прызнайцеся мне шчыра,
Прадухіліце горшую бяду.

К а л і н о ў с к і
І што далей?

К а п і т а н
Паклічу канваіра,
На год, на два за краты адвяду.
Год альбо два і нават тры — не кара,
Грашок юнацтва спішаце ў архіў.
Дзеля Марысі, не дзеля жандара,

Вы вернецеся зноў да гэтых ніў.
Вам не зашкодзяць строгія парадкі:
Лепш змрок турмы, чым чорны гвалт пятлі.
Хіба не так?.. А горкія выпадкі
У практыцы маёй, на жаль, былі.
Пад шыбеніцай, як ратунку, моляць
У суддзяў — пажыццёвых ланцугоў...

К а л і н о ў с к і
Я б не прасіў.

К а п і т а н
Ну, што ж... Ах, моладзь, моладзь
Шкадую вас! Бывайце. Я пайшоў.

К а п і т а н пакідае пакой.
Праз некалькі хвілін уваходзіць
устрывожаная Г е л е н а Я м а н т.

Г е л е н а
Што адбылося?

К а л і н о ў с к і
Непаразуменне.
Жандар прасіў у пані прабачэння?

Г е л е н а
Але, прасіў... Нішто сабе манера,
Пад выглядам гасдя і кавалера,
Ашукваць дом. Не сорам, ягамосць?
Я так мяркую: вы для нас — не госць,
А мы для вас — не тайная кватэра.

К а л і н о ў с к і
Прабачце.

Г е л е н а
Прабачэння не прымаю.
Былі вы на млыне?

К а л і н о ў с к і

Не адмаўляю.
Не ашуканец я. Не вораг вам.
Дазвольце мне, я тлумачэнне дам
Марысі, як не вам.

Г е л е н а
Забараняю.

К а л і н о ў с к і
Як можна?

Г е л е н а
Каліноўскі Канстанцін,
Не я вас разлучаю з ёй, а — млын!

Абураная Г е л е н а выходзіць. Каліноўскі паволі асоўваецца на канапу. Да яго паціху падыходзіць А р ц ё м  Я ц ы н я. Зазірнуў у твар. Падобна на тое, што Кастусь прыдрамнуў. Арцём здзіўлена паківаў галавой, пасля асцярожна вынес з-за стала крэсла. Так яны і сядзяць: Кастусь, а на супраць яго ў крэсле — Яцына. Але вось Каліноўскі ачнуўся.

К а л і н о ў с к і
Хто гэта тут?

А р ц ё м
Пан не пазнаў Арцёма?
Яцыну?

К а л і н о ў с к і
Ты?.. Пазнаў, пазнаў, вядома.
Яшчэ тут нехта быў...

А р ц ё м
Хто ж быў?.. Сяляне,
Жандарскі афіцэр. Ён вёў дазнанне,
Пасля яго была Гелена ў вас.

К а л і н о ў с к і
Я не пра іх... Мне гэта сном якраз
Здаецца ўжо... А іншае яскравай,

Хоць і далёкай, падаецца явай.
Тут лес шумеў... Тут чалавек між дрэў
Стаяў. Ды на мяне ён не глядзеў,
А на магілу свежую, і слёзы
Яго цяклі на крыж, на ліст бярозы,
Што ўжо жаўцеў на тым лясным грудку.
Дзіцё грудное, стоячы ўбаку,
Трымала бабка... Пэўна павітуха.
А лес шумеў так безнадзейна глуха...
Ты пабляднеў, Арцём? Цябе здзіўляе
Мой прывід?.. То не прывід, а такая
Хвароба... Нервы... Нечаканы ўдар.

А р ц ё м
Ах, Яська, Яська! Яська-гаспадар
З-пад Вільні! Хіба жартаваць так можна
З жыццём... Лісткі чытаць не асцярожна.
Каб мы не згаварыліся гуртом,
Гарэў бы, Яська!

К а л і н о ў с к і
Ведаю, Арцём.

А р ц ё м
Хадзем са мной. Жаню я заўтра сына.
Пасля хаўтур, што стацца тут маглі,
Вяселле Яську памагчы павінна.

К а л і н о ў с к і
Але ж, збірацца трэба.

А р ц ё м
Дык пайшлі.

## Дажджавік

Ганак хаты Арцёма Яцыны. Падворак. З трох бакоў яго абступілі хвоі, якія далей пераходзяць у бор. Праз расчыненыя вокны далятае людская гамана, песні, музыка. Вяселле. З хаты выходзяць, а пасля ідуць падворкам М а р ы с ь к а і К а л і н о ў с к і .

К а л і н о ў с к і
Прыйшла!

М а р ы с ь к а
Ад нас да гэтай хаты блізка,
Вярста, не больш, калі ісці напрост.

К а л і н о ў с к і
Адна вярста? Не! Тысячаю вёрст
Учора мне мой кожны крок, Марыська,
Здаваўся, калі я пакінуў дом
З тваім акном, што над маім акном.
Не думаў я, хоць мне сказаў Арцём,
Што ты таксама прыйдзеш на вяселле.
А ты прыйшла. Якраз насупраць села.
Не верыў я... Не ведаў, што скажу,
Пакуль сляза твая не паглядзела
Праз дым застолля на маю слязу.
Я ўдзячны ёй.

М а р ы с ь к а
За што?

К а л і н о ў с к і
Слязе маёй
Твая сляза сказала без вагання,
Што, варты ганьбавання і выгнання,
Я ўсё ж не вінаваты перад ёй.

М а р ы с ь к а
Я ведаю, што не ліхі намер
Цябе ў наш дом прывёў, куды цяпер
Табе навек заказана дарога.
А ўсё ж, Кастусь, чаму ты мне нічога
Не гаварыў?

К а л і н о ў с к і
Для рызыкоўных спраў
Разумная не шкодзіць засцярога.

М а р ы с ь к а

Пра млын маўчаў.

К а л і н о ў с к і
Я хіба не казаў
Табе аб грознай навальнічнай хвалі,
Якая можа знішчыць караблі,
Не толькі човен той, што мы абралі?
А слова, а зарок, што мы далі
На два гады з табой адзін другому,
Хіба яны — не прадчуванне грому
Таго, які над намі прагрымеў?
Дык радуйся. Яшчэ маланка дрэў
Не спапяліла! Нельга вінаваціць
За гэта лёс.

М а р ы с ь к а
Ты не баяўся страціць
Мяне.

К а л і н о ў с к і
Прабач. Я сам таму не рад.

М а р ы с ь к а
То як нам быць? Як мне пазбыцца страт
Невідавочных... тых, якіх нямала
Вакол мяне? Хіба не бачыш ты,
Не заўважаеш — я ўжо іншай стала.
Душу рассеклі мне на два пласты.
На зоркі дзве. Адна з іх счэзне znічкай...
Але якая?.. Я табе мілей
Графіняю, Кастусь, альбо мужычкай?

К а л і н о ў с к і
Ты для мяне адна, як і раней.
Як і раней, ты для мяне — дзяўчына,
Якую навучаў Арцём Яцына
Зямлю араць і слаць у лузе лён.
З якой гуляў ягоны сын Лявон
У хованкі на бацькавым гарышчы
Тады, як быў, як ты, яшчэ малым,
З якім ты бульбу ў вогнішчы лясным

Пякла і танцавала на ігрышчы.

М а р ы с ь к а
Я так і знала. Сядзем.

К а л і н о ў с к і
Пасядзім.

Яны садзяцца на паграбню. Земляны верх яе зарос густой, наўмысля не пакошанай травой. Зацішна тут і ўтульна пад зялёным крылом бярозы.

М а р ы с ь к а
Нам не зашкодзіць даўняе суседства
Ляснога дрэва, цёплай паграбні.
Я тут сядзець любіла з малалецтва,
З бярозкай размаўляць у цішыні.
З ёй уяўлялі мы гушчар глыбокі
І племя невядомых нам бяроз,
Дзе, можа быць, і мой пачаўся лес,
Для сэрца блізкі, для вачэй далёкі,
І таямнічы для міжвольных слёз.
Да дрэў, як да калысак, цягне, браце,
Народжаных у лесе, а не ў хаце.

К а л і н о ў с к і
Ты пра сябе гаворыш?

М а р ы с ь к а
Не. То — сон,
А можа, летуценне даўніх дзён.
Мне плакаць бы цяпер, ды я не плачу,
Хоць і выразна ў цёмных хмарах бачу
Наступны дзень... Ужо ахутаў змрок
Сланечнікі... Хадзем туды, мой любы,
Каб іх пялёсткі апалілі губы,
А іх пылок мне вочы завалок,
Марыся Ямант не баіцца згубы.

К а л і н о ў с к і
Ты не павінна гэтак гаварыць.

Пылок... пялёсткі... Што яшчэ за спевы?
Адкуль такія?

М а р ы с ь к а
Ад прабабкі Евы
Хутчэй за ўсё. Адкуль яшчэ ім быць?

К а л і н о ў с к і
Забудзь іх. Супакойся. Прытуліся
Да сэрца, як да цёплай паграбні.
Пабудзь са мной, як у былыя дні.
Ты для мяне адна... адна... Марыся.
Дагарэла ў небе зара. Праспявалі пеўні.
Змаўкае вясельная музыка,
І ў вокнах гасне святло.
Ноч ахутала падворак, але ненадоўга.
Пачынае світаць.
Першыя промні сонца застаюць Марыську
і Каліноўскага на тым жа месцы. Яны цалуюцца.

М а р ы с ь к а
Нас бачыць сонца — сорам! Час дадому.

К а л і н о ў с к і
Пара і мне.

М а р ы с ь к а
А можа б, пачакаў?..

К а л і н о ў с к і
Не зручна мне.

М а р ы с ь к а
Чаму?

К а л і н о ў с к і
Казаў Арцёму
Я, што пайду.

М а р ы с ь к а
Аднекуль, з-пад Пастаў,

Вандроўныя прыехалі музыкі.
У іх, я чула, танцаў кош вялікі!
Застанься! Не адзін гуляюць дзень
Вяселле ў нас.

К а л і н о ў с к і
Я на яго наклікаць
Магу бяду, як з'явіцца мой цень —
Нядрэмны капітан, яго Вялікасць
Жандар... (Цалуе Марыську.) Пайду!

М а р ы с ь к а
А сонечны прамень
Так і цікуе нас праз радкалессе.
Ах, бедны, бедны! — я яму скажу...
Сачы за намі, сонца, колькі ўлезе,
Не бойся, я прыстойнасці мяжу
Не перайшла! Ад сораму ніколі,
Як не згарэла ўжо, то не згару.

К а л і н о ў с к і
Няўжо?

М а р ы с ь к а
Маўчы. Я з сонцам гавару!

К а л і н о ў с к і
Пагавары са мной. А з ім —даволі.

М а р ы с ь к а
Ты ж ведаеш і сам, які цяжар
На плечы мне ўзвалілі. Я — тавар,
А мой пасаг — разменная манета.
Мне ўжо сватоў падшуквае Рагнеда.

К а л і н о ў с к і
Раздай зямлю сялянам. Жаніхі
Адваляцца, як п'яўкі... У спакоі
Пакінуць кут, што пад аховай хвоі.

М а р ы с ь к а

Зямля, зямля... Як гром на лес сухі,
Як костка ў горле! Я лічыцца мушу
Са згодай маці, будучага мужа...
Абмежавалі круг маіх правоў
Казённыя паперы і атрамант.
Лягчэй было нашмат Марысі Ямант
Не мець зямлі, не думаць пра сватоў.
Паны не для давання, а для брання...

К а л і н о ў с к і
Нічога, пачакай... І наш ланцуг
Не вечны, рассячэ яго паўстанне,
Мяжу пераарэ мяцежны плуг.

М а р ы с ь к а
Ці ж будзе так?

К а л і н о ў с к і
А іншага ў нас выйсця
Няма. Надзей на іншае няма.

М а р ы с ь к а
А раптам... Раптам катарга, турма —
Яны часцей здараліся калісьці.
Зрабі прасцей. Забудзь няпэўны шлях
Дзеля мяне, калі я сэрцу міла.
Пажэнімся, я б маці ўгаварыла.

К а л і н о ў с к і
Мне трэба ты, а не чужы пасаг.
Мне без Марысі Ямант свет — магіла.

М а р ы с ь к а
Маўчы. Яе ты ўчора пахаваў,
Як пачуццю адкрытаму не даў
Быць не цнатлівым, грэшным і шчаслівым.
Яе ты зблытаў з полем неўрадлівым,
Яна ж магла б раджаць на зайздрасць нівам,
Калыскі калыхаць, як каласкі.
Чым лепш ты за цара таго, які
Даў ёй зямлю, але пазбавіў долі,

Сялянам волю даў — зямлі не даў?
Ты не яе, сябе пашкадаваў,
Збаяўся, што апынешся ў няволі
Сланечнікаў яе. Не ганарыся
Бязгрэшнасцю, ты не Хрыстос.

К а л і н о ў с к і
Марыся!
За што мяне ты крыўдзіш? Сэрца стыне
Ад слоў такіх.

М а р ы с ь к а
Яны мае аднак.

К а л і н о ў с к і
Не веру я. Гаворыць іх графіня
Старжыцкая.

М а р ы с ь к а
Няхай сабе і так!
Ты ўлады прагнеш. Не баішся кары.
Што ж мне рабіць?.. Чуваць грымот удары,
За хмары сонца свой хавае твар.
Мне час дамоў! Там ходзіць адзінота
З кута ў куток, чарнейшая ад хмар.
Ну што ж, праводзь мяне, калі ахвота.
Не, лепш не трэба... Лепей пустата
У вокнах засцянковых, як і ў лесе.
Сама дайду! Тут усяго вярста,
Не тысяча — як некаму здалося.

К а л і н о ў с к і
Я правяду!

М а р ы с ь к а
Праз два гады прыходзь.

К а л і н о ў с к і
Прыйду раней, насуперак парогу...

М а р ы с ь к а

Бывай, Кастусь!

М а р ы с ь к а пакідае падворак. Да Каліноўскага падышоў А р ц ё м  Я ц ы н а .

А р ц ё м
Куды так рана госць
Сабраўся ўжо?

К а л і н о ў с к і
Куды ж, як не ў дарогу.

А р ц ё м
Чаму так хутка? Бражка ёсць яшчэ...

К а л і н о ў с к і
Вы ж знаеце прычыну.

А р ц ё м
Глупства, Яська!
Прычына ўбачыць гурт, сама ўцячэ.
Грымяць грымоты... Недзе дождж сячэ...

К а л і н о ў с к і
Зайду пасля вяселля.

А р ц ё м
Калі ласка!

К а л і н о ў с к і
Я не адзін прыйду. Мы цішыню
Парушыць можам.

А р ц ё м
Я не праганю.

К а л і н о ў с к і падаўся на лясную дарогу. З супрацьлеглага боку спяшаецца М а р ы с ь к а . У руках дажджавік. Задыхалася. Убачыла Арцёма.

М а р ы с ь к а

Пайшоў?

А р ц ё м
Пайшоў.

М а р ы с ь к а
А я вось дажджавік
Нясу... Даўно пайшоў?

А р ц ё м
Нядаўна.

М а р ы с ь к а
Знік!..
О дзядзечка, як можаш, дагані!

А р ц ё м
Не даганю ўжо.

М а р ы с ь к а
Дзядзечка мой шчыры!
Не ён пайшоў — майго юнацтва дні.
Іх менш, чым пальчыкаў на пяцярні
Было... Чатыры дні... ўсяго чатыры...
Калі не іх, дык хоць яго вярні.
Я, дзядзечка, люблю яго, дурная.
Не вернецца... Яму я брыдкіх слоў
Нагаварыла.
*(Марыська прыпадае да грудзей Арцёма. Плача.)*

А р ц ё м
Сціхні. Раз такая
Бяда... То, можа, лепш, каб не прыйшоў.

З хаты на ганак выйшлі м у з ы к і. Зайгралі запрашальны марш. Немаведама адкуль пачалі збягацца х л а п ч у к і і п а д л е т к і , сыходзяцца х л о п ц ы і дз я у ч а ты. Паважна ўзышоў на падворак жандарскі а ф і ц э р і салдат Г а ў р ы л а ў . На нейкі момант музыкі пакінулі іграць. Але тут жа, нібы не заўважыўшы няпрошаных гасцей, хвацка ўрэзалі танец-песню «Каробушку». Пад гэтую музыку, якая прыйшла

здалёк і, пэўна, не так даўно бытуе тут, пайшлі танцаваць людзі. Капітан заўважыў Марыську, што самотна стаіць каля прасла. Падышоў, запрасіў. Усё гучней і гучней чуваць удары грому, бліжэй і бліжэй насоўваецца хмара. Вяселле танцуе «Каробушку».

## Арцём Яцына

У хаце Яцыны. Гаспадар сядзіць на ўслоне, побач з ім салдат Гаўрылаў. За сталом жандарскі афіцэр.

К а п і т а н
Ты не марудзь лепш, падпішы наперу,
Праўдзівым патрабуе быць закон.

А р ц ё м
Не згодны я... «Мужыцкай праўды» ён
Нам не чытаў.

К а п і т а н
Чытаў. Я вам не веру.
Не забывайся, я не на гулянку
Сюды з'явіўся.

А р ц ё м
Знаю, не п'яны.

К а п і т а н
Гаўрылаў, выйдзі! Пасядзі на ганку!
*(Салдат выходзіць.)*
Не хочаш сведак? Мы цяпер адны.
Падпісвайся.

А р ц ё м
Не ўмею я.

К а п і т а н
Здарэнні
Былі й такія... Закапчу пятак
Над свечкаю... Пакінеш пальцаў знак
Пад дакументам.

А р ц ё м
Плямы на сумленні
Поп не даруе.

К а п і т а н
Крыжычак пастаў.
Царква даруе богаўгодны вышук.
Бяры пяро...

А р ц ё м
Баюся, каб той крыжык
Вялікім крыжам нада мной не стаў.

К а п і т а н
Хітруеш... На свае не хочаш плечы
Адказнасць браць. Ну што ж, ты не адзін
Быў на млыне... Былі браты... Дарэчы,
Вы прышлыя? Адкуль, з якіх мясцін
Вы збеглі? Ад каго?

А р ц ё м
Уласнай воляй
Мне і братам маім даў волю князь.
Ёсць грамата.

К а п і т а н
А часам не Юрась
Старжыцкі прыгразіў яму пістоляй?
Ці не былі і вы ў яго атрадзе?
Мне хтось казаў...

А р ц ё м
А пан і веры даў?

К а п і т а н
Падпісвай лепш, пакуль мінулых спраў
Не варухнуў я. То ў маёй уладзе.
Я ўжо дазнаўся: трыццаць год назад,
Тады, як быў разбіты ўшчэнт атрад
Старжыцкага, з'явіўся тут Яцына

Арцём з братамі...

А р ц ё м
Для таго прычына
Была ў нас.

К а п і т а н
Так. Я ж і кажу — была.
Гелена Ямант лесу вам дала
На хаты.

А р ц ё м
Мы за лес сплацілі працай.

К а п і т а н
Зямлю ў арэнду... Без рэкамендацый
Хіба? Адкуль такая дабрата?
Тут нешта ёсць... Я чуў, былі сябрамі
Гелена і Юрась.

А р ц ё м
Як у Хрыста
За пазухай, яна жыла за намі.
Мужык апошні хлеб свой аддае
За дабрату.

К а п і т а н
Шануючы яе,
Паверыў я. Не даў падзеям ходу,
Бунтаўшчыка не затрымаў дарма.
Зрабіў не на карысць вам, а на шкоду...
Памылка... Каліноўскага сама
Прагнала Ямант. Ты аб гэтым знаеш?
Горш, калі госць зноў прынясе лісткі...

А р ц ё м
Не прынясе. Мы з ім не сваякі.

Адчыняюцца дзверы. На парозе — К а л і н о ў с к і.

К а п і т а н

А!.. Вось і той, каго ты не чакаеш.

К а л і н о ў с к і
Не да яго, да вас я, капітан.
Я аб візіце вашым да сялян
Даведаўся нядаўна выпадкова.

К а п і т а н
Прыемна ведаць — на лаўца і звер...

К а л і н о ў с к і
Не, капітан. Вы не лавец цяпер,
На гэты раз са мной мая ахова.

У з б р о е н ы я  л ю д з і вядуць у хату с а л д а т а. Рукі ў Гаўрылава звязаны. Капітан схапіўся за зброю, але пісталет у яго адабралі. Каліноўскі бярэ са стала пратакол допыту.

К а л і н о ў с к і
Зноў пратакол. Знаёмая размова,
Запозненыя пошукі ахвяр.

Пратакол перадаецца з рук у рукі.
Людзі чытаюць, абураюцца.

М а л а д ы  п а ў с т а н е ц
Чаго тут думаць. Гада на асіну!

П а ж ы л ы
Спакою людзям не дае жандар.
Звязаць яго!

К а л і н о ў с к і
Чакайце. Я Яцыну
Хачу спытаць.

А р ц ё м
Ён — чалавек службовы,
Па справе тут.

М а л а д ы  п а ў с т а н е ц

У багну і — канец!
Шкадуеш маскаля?

А р ц ё м
Пустыя словы.
Ёсць жонка, дзеці ў пана...

К а п і т а н
Я ўдавец.
Дзяцей не маю, Смерць прыняць гатовы.

К а л і н о ў с к і
Не, капітан... Я не магу пятлёй
Вам пагражаць. Гуляць у жмуркі годзе:
Я з вашай ласкі сёння на свабодзе.
Салдат Гаўрылаў помніць арышт мой.

С а л д а т
Так точна. Помню, ваша благароддзе!

К а л і н о ў с к і
Мяне з-пад варты вызвалілі вы.
За дабрату плачу я дабратою.
*(Да людзей)*
Частуйце іх віном! Вярніце зброю!
Глядзіце, каб не ўпала з галавы
Ні валаска, ні гузіка — з мундзіра.
Мы не забойцы.

Людзі Каліноўскага развязалі рукі салдату.

С а л д а т
Дзякую вам шчыра.

К а л і н о ў с к і
*(да капітана)*
Разыдземся, як даўнія сябры.
А хто рашыў, што — вось яно! — паўстанне,
Той памыліўся... Мы на паляванне
Ішлі, ды заблудзіліся ў бары.
*(Дружны смех)*

Вядзіце іх, частуйце на двары!

Хата апусцела. Засталіся. толькі Каліноўскі і Валеры Урублеўскі.

У р у б л е ў с к і
Дакладваю: ўсе сотнікі са мною,
Паўстанцы ў пушчы.

К а л і н о ў с к і
Вольна, генерал.

Каліноўскі і Урублеўскі абдымаюцца, смяюцца.

У р у б л е ў с к і
Ты з Гродні?

К а л і н о ў с к і
Так.

У р у б л е ў с к і
Які даваць сігнал?
Трубіць у рог?

К а л і н о ў с к і
Іграць сігнал адбою.

У р у б л е ў с к і
Хто так распарадзіўся? Не сакрэт?

К а л і н о ў с к і
Цэнтральны Нарадовы Камітэт.
Ганец з Варшавы зразумець мне даў,
Што план, які Дамброўскі Яраслаў
Распрацаваў, быў ЦНК сарваны...
Змяніўся склад яго, а з ім —-і планы.
Рух, скіраваны на сумесны рух
Сіл вызваленчых Польшчы і Расіі,
Ярмо царызму меўся скінуць з шыі.
Мяцеж у войску, поціск братніх рук —
Такі быў план.

У р у б л е ў с к і
Дамброўскага ідэя?

К а л і н о ў с к і
Дамброўскага і Патабні Андрэя.

У р у б л е ў с к і
Наш аднадумец?

К а л і н о ў с к і
Рускі афіцэр.
Прыхільнік Герцэна, «Зямлі і Волі».
Я сустракаўся з ім.

У р у б л е ў с к і
Дзе ён цяпер?

К а л і н о ў с к і
Ад арышту хаваецца ў падполлі...
План гэты скасаваны.

У р у б л е ў с к і
Недаверам,
Адрасаваным рускім афіцэрам?..

К а л і н о ў с к і
Але.

У р у б л е ў с к і
Хіба, паўстанню на бяду,
Заняўся хтось гульнёй у чахарду
Амбіцый, намінацый, дэкларацый?
Няўжо не зразумеў бяспечны пан
Пасля мінулагодніх дэманстрацый,
Што Польшча — не курган, а ўжо — вулкан?
Так, так, вулкан, які дыміцца зноў
Над кратарамі польскіх гарадоў!
Вулкан, які рукамі дэманстрантаў
Шпурляў каменне ў твар паліцыянтаў.

К а л і н о ў с к і
Уздым патрыятычны, то — не рэч
Для забавак.

У р у б л е ў с к і
Вулкан дыміць пагрозна,
А выбухне не ў час, то будзе позна
Накіраваць Агонь яго і Меч
У рэчышча Свабоды.

К а л і н о ў с к і
Так, Валеры,
Стыхійны рух, які не знае меры,
Служыць і праўдзе можа і мане.
Што станецца, калі ён захлісне
Сваім атрутным старапольскім чадам
Славянскае яднанне брата з братам?
Калі да ўлады той жа ЦНК
Запросіць графа, а не мужыка?

У р у б л е ў с к і
Братэрства, роўнасць і свабода нам
Дэкляраваны.

К а л і н о ў с к і
Кім дэкляраваны?

У р у б л е ў с к і
Варшаваю.

К а л і н о ў с к і
Што парушае планы?
Дзеля чаго?.. Каб дагадзіць панам,—
З іх марамі аб адраджэнні славы,
Што некалі грымела на ўвесь свет,—
Альбо народу?.. Мне ганец з Варшавы
Прагаварыўся, што прывёз пакет
Ад князя Н... Старжыцкаму Віктору.
Я думаў, граф староніцца падзей,
А ён, хутчэй, за спінамі людзей
Хаваецца, падобна рэжысёру.

Рыхтуюць бой... Рыхтуйся да адпору...
У Вільню еду я.

У р у б л е ў с к і
Які загад
Мне пакідаеш?

К а л і н о ў с к і
Распускай атрад.
Без шуму толькі.

У р у б л е ў с к і
Што сказаць, не знаю,
Мне людзям тым, якіх пазваў я ў бор?

К а л і н о ў с к і
Скажы, была праверка баявая,
Агляд наяўных сіл... Ваенны збор...
Падзякуй за парадак, дысцыпліну...

У р у б л е ў с к і
Да хуткіх стрэч!

К а л і н о ў с к і
У лепшую гадзіну!

Яны развітваюцца. Каліноўскі зморана апускаецца на ўслон.

На сэрцы блага... Нудны боль, тупы...

А р ц ё м
*(уваходзячы)*
Па хатах раз'язджаюцца паўстанцы

К а л і н о ў с к і
Адкуль вядома?

А р ц ё м
Бачу, не сляпы.

К а л і н о ў с к і

Дзе капітан?.. Салдат?

А р ц ё м
Іх на фурманцы
Павезлі п'яных. Недзе на палянцы
Пакінуць спаць, як на мяжы снапы.

К а л і н о ў с к і
Прачнецца капітан, то на дазнанне
Не прыйдзе ўжо... Ад сораму згарыць.

А р ц ё м
Перахітрылі, што і гаварыць.
А толькі зноў няпэўнасць. Зноў чаканне.

К а л і н о ў с к і
Хіба Арцём чакае на паўстанне?

А р ц ё м
Каб хто сказаў: твая зямля... бяры,
Не ўседзеў бы і я, хоць і стары.

## Партрэт Анэлі

Хата Яцыны. Гаспадар і Каліноўскі працягваюць размову.

А р ц ё м
Хто я? Адкуль? — цікавіўся жандар.
То я рашыў, хай лепей спавядае
Арцёма Яська...

К а л і н о ў с к і
Дзякуй, гаспадар.
А граф, як ён?..

А р ц ё м
Вяльможны пан не знае,
Што ліст ад брата на яго парог
Я палажыў... Я ўсё зрабіў, што мог.
Вось ліст яшчэ...
*(Перадае Каліноўскаму ліст.)*

К а л і н о ў с к і
«Народ абрабаваны!
Мой ліст да брата, гербам змацаваны,—
Той запавет, які ты знойдзеш тут,—
Перадае на твой вышэйшы суд
Паўстанец мой...» Хіба Арцём не рады,
Што граф Марысі даў пасаг?

А р ц ё м

Мана
Яго пасаг. Пазбавіў ён улады
Марысю над маёнткам і зямлёй.
Я ўсё скажу... Гелена Ямант ёй
Не маці. Граф забыўся аб Анэлі.

К а л і н о ў с к і
Ты знаў яе?

А р ц ё м
Яна мая сястра!
Не для Гелены Ямант мы гібелі...
Ды што тлумачыць, волю даць пара
Нявольніцы, замкнёнай у куфэрку.

Арцём дастае з куфэрка партрэт Анэлі.
Гэта карціна, маляваная масленымі фарбамі.
На ёй можна пазнаць двор Яцыны,
паграбню і — яшчэ малую— бярозку,
каля якой стаіць сястра Арцёма.

А р ц ё м
Сястра!.. Хто на партрэт зірне хоць раз,
Марыську ўбачыць быццам у люстэрку.

К а л і н о ў с к і
Якая пекната!

А р ц ё м
Чым не абраз?
Пісаў Юрась.

К а л і н о ў с к і
Мастак, не багамаз!

А р ц ё м
Так, так...

К а л і н о ў с к і
(*гледзячы на карціну*)
Заходзяць і ўзыходзяць дні
Над паграбнёй... Бярозка карані
Пускае ў грунт. У зрэбнай даматканцы
Стаіць каханне! За яго спіной
Вясна-красуня крочыць па палянцы,
Зграбаючы зіму пад засень хвой.
Прабач мне, гаспадар... Хоць пяць хвілін
Хачу пры ім я пасядзець адзін.

А р ц ё м на дыбачках выходзіць з хаты. Каліноўскі абапёрся рукой на стол, глядзіць на карціну. Але нечакана ён задрамаў. Заходзіць сонца. Промні яго падаюць праз расчыненае акно на падлогу, дзелячы хату на дзве палавіны: светлую і цямнейшую. У зацемненай паласе вырысоўваецца лясная палянка. Відаць засыпаны снегам магільны грудок з крыжам і бярозамі над ім. А побач, стоячы ў яме, чалавек сячэ рыдлёўкай мёрзлы грунт. На снезе ляжыць ягоны кажух і пісталет... Гэта ўсё прымроілася Кастусю Каліноўскаму.

К а л і н о ў с к і
Цяпер я знаю, хто ты. Ты — Юрась,
Каму каля Анэлінай магілы
Капаеш дол?

Ю р а с ь
Сабе на гэты раз.
Капаю дол, бо жыць не маю сілы.

К а л і н о ў с к і
Я б не рабіў так. Шкода белы свет,
Зямлю, людзей з іх доляю жабрачай.
На снезе твой кажух і пісталет...

Страляцца будзеш?

Ю р а с ь
Я рашыў інача́й.
У ямку лягу. Зверху кажухом
Накрыюся. Засну пад спеў мяцелі,
І думаць буду — гэта спеў Анэлі.

К а л і н о ў с к і
Хто ж пахавае?

Ю р а с ь
Можа быць, Арцём.

К а л і н о ў с к і
А як не знойдзе?

Ю р а с ь
То бяда малая...—
Засыпле снег, а цёплы дождж вясной
Абмые, грунт размые, пахавае
І прашуміць травой над галавой.
Хто субяседнік мой? Чаго жадае?

К а л і н о ў с к і
Ты — час былы, я — час наступны твой,
Нас падзяліў рубеж святла і ценю.
Ты не пакінуў мне і зерня жменю...

Ю р а с ь
Пакінуў я...

К а л і н о ў с к і
Не шмат. Адзін партрэт
Анэлі.

Ю р а с ь
Я пакінуў запавет.

К а л і н о ў с к і
Ты запавет не мне пісаў, а брату.

Ю р а с ь
Як брат адмовіцца, то на расплату
З адступнікам я даў табе дазвол.
Са зброяй разам пакладзі на стол,
Адхілены, аддадзены знявазе,
Мой ліст!

К а л і н о ў с к і
Твой запавет — адчаю крык.

Ю р а с ь
Я знаю: брат мой — пан, а ты — мужык.
Варожасць паміж вамі пачалася
Не сёння і заціхне не цяпер,
І, можа быць, перажыве цябе.
Хто ведае? А можа, ёй і ў часе
Канца няма?.. Маўчыш? Не забывай:
Калі адчай, то ў гэтым — мой адчай.
Каліноўскі ачнуўся.
Побач з ім на ўслоне сядзіць гаспадар.

К а л і н о ў с к і
Яцына?

А р ц ё м
Я.

К а л і н о ў с к і
Нядаўна тут са мной
Хтось размаўляў?

А р ц ё м
Не. Яська сам з сабой
Тут гаварыў. Так, як у сне гавораць.
Стаміўся... Сном кароткім не агорачь
Дарог, трывог з відна і да цямна.

К а л і н о ў с к і
Марыська дома?..

А р ц ё м
Тут яшчэ яна.
З маёнтку наязджае рэпецітар,
Што граф наняў. Цалюткі дзень амаль
Чытае кніжкі… Так… З-за чорных літар
Не бачыць свету белага, на жаль.

К а л і н о ў с к і
Выходзіць, не ў настроі.

А р ц ё м
Не ў настроі.
Сланяецца змрачнейшая ад хмар.
Перасялілася, жыве ў пакоі
Тым самым, дзе дазнанне вёў жандар.

К а л і н о ў с к і
Як нам сустрэцца з ёй?.. Хоць на паўслова.

А р ц ё м
Крый божа! Не карай яе сурова!
Яна, як пакахае, то ні вір
Не страшны ёй, ні жвір, ні манастыр.
Яна, як маці… Свет забыць гатова.
Ты пашкадуй яе, мой камандзір!
Я ўжо на ты, як свой… і прабачэння
Не папрасіў…

К а л і н о ў с к і
Кажы, Арцём, кажы…

А р ц ё м
Я ведаю, у Яські ёсць сумленне.
Не пераходзьце страшнае мяжы…
Перачакай,яна перачакае,
А можа, і забудзецца.

К а л і н о ў с к і
Наўрад.

А р ц ё м

Не кліч.

К а л і н о ў с к і
Хай так!.. А пра мяне спытае,
Скажы — я слова не бяру назад!

*«Ледзь толькі мы склікаць на бой атрады,*
*Варшаву падтрымаўшы, пачалі,*
*Інтрыгамі і коштам чорнай здрады*
*Да ўлады ў Вільні белыя прыйшлі.*
*Яны застацца прагнуць на чале*
*Паўстання, намі ўзнятага... Але*
*Хамуціус, хоць змушаны панамі*
*Пакінуць Вільню, праз сваіх людзей*
*Падтрымлівае з Гродні сувязь з намі,*
*Мы — з вамі. Так і будзе надалей.*
*Не трацім мы надзей у абцугі*
*Дваранства ўзяць. Хамуціус Другі».*

З ліста Малахоўскага ў атрад Віславуха

## Змова

Канец лютага, год 1863. Вільня. Касцёл. У захрысным пакоі сабраліся на нелегальную сустрэчу прадстаўнікі камітэта «белых» — Гейштар, Аскерка, Яленскі, і камітэта «чырвоных» — . Каліноўскі, Малахоўскі, Чаховіч, Сход вядзе камісар з Варшавы — Дзюлеран.

Д з ю л е р а н
Цішэй, сябры! Адну мы варым кашу.

М а л а х о ў с к і
Але ядзім з катла не аднаго.

Д з ю л е р а н
Пан Малахоўскі, на сустрэчу нашу
Я вас паклікаў не дзеля таго,
Каб зноў распачынаць старыя спрэчкі.
Час, ведаеце самі, не такі...
Пан Гейштар, пан Яленскі не ваўкі,

А вы і Каліноўскі не авечкі.
Паўстанне ўзняўшы, вы не свой урад
У Вільні абвясцілі, а — разлад!
Я вас пазваў... Чаму не ў поўным складзе
Ваш камітэт? Дзе Длускі Баляслаў?

К а л і н о ў с к і
У Ковенскіх атрадах. На пасадзе
Начальніка.

Д з ю л е р а н
Дзе Козел?

К а л і н о ў с к і
Я паслаў
У Пецярбург яго па ваяводу.

Г е й ш т а р
*(да Дзюлерана)*
Хто ж гэта?

Д з ю л е р а н
Серакоўскі. Даў ён згоду
Заняць у нас пачэсны свой пасад.

Г е й ш т а р
Дзяржаўны муж.

А с к е р к а
Герой!

Я л е н с к і
Я вельмі рад.

Д з ю л е р а н
Дзе ксёндз Мацкявічус?

К а л і н о ў с к і
У Панявежы.

М а л а х о ў с к і

Адтуль чакаем мы на вецер свежы...
Пазваў да лесу шляхту і сялян
Карэва ў Троках. Круціць завіруха
Пад Лідаю. Паўстанцы Віславуха
Сутычку з войскам мелі ля Свенцян.

Д з ю л е р а н
Дык вось... Я склікаў вас не для нарады.

М а л а х о ў с к і
А для чаго?

Д з ю л е р а н
Для перадачы ўлады.

К а л і н о ў с к і
Вам?

Д з ю л е р а н
Гейштару. Чытайце, ёсць загад
З Варшавы — распусціць Часовы ўрад,
Стварыць «Аддзел».

К а л і н о ў с к і
*(Бярэ загад.)*
А кіраваць «Аддзелам»
Не нам прапанавана тут, а белым.

Д з ю л е р а н
Іначай, Каліноўскі, не магло
І быць. І вам лічыцца трэба з фактам.

А с к е р к а
«Чырвонае» ці левае, ці, як там
Яшчэ,— рэвалюцыйнае крыло
Для справы адраджэння — костка ў горле.

Я л е н с к і
Традыцыі шляхецкія не ўмёрлі,
Зноў будзе так, як некалі было.

К а л і н о ў с к і
Не прызнаём!

А с к е р к а
Як так? То воля ўрада
Цэнтральнага.

К а л і н о ў с к і
То ганьба!

М а л а х о ў с к і
Здрада!

Ч а х о в і ч
Здрада!
То гвалт!

Г е й ш т а р
Прашу зважаць на цішыню.
Мне загадана — быць за старшыню!

К а л і н о ў с к і
А пану Дзюлерану пры «Аддзеле»
За камісара. Ён і тут, як свой:
«Чырвоныя» раптоўна «пабялелі»,
Ці не за вашай, старшыня, спіной
Адбыўся дуд свяцейшы ў афарбоўцы?

М а л а х о ў с к і
Пан Дзюлеран прыслўгачам у іх!

К а л і н о ў с к і
Але, як гаварылі ў Якушоўцы,
Няма дурных, паны!.. Няма дурных!
Заместа Малахоўскага — Аскерка...
Вось ваш загад! Бярыце, Дзюлеран!
Я чуў, што не здароў на шлунак пан,
Яму згадзіцца тонкая паперка.

Д з ю л е р а н
Ну, гэта ўжо — нахабства!

А с к е р к а

Крымінал!

Я л е н с к і

Як слухаць можна, я не разумею!
Адступніка аддаць пад трыбунал!

Д з ю л е р а н

Аддадь!

К а л і н о ў с к і

Судзіць сабраліся ідэю
Братэрства, роўнасці... Чаму б і не?
Любы прысуд ваш — гонар для мяне.
Судзіце. За братэрства я гатовы
На той памост, дзе кат сячэ галовы.

Г е й ш т а р

Вы супраць нас?

М а л а х о ў с к і

Мы супраць чорнай змовы.

Г е й ш т а р

Адступніцтва не сыдзе гладка з рук
Адступнікам. Ёсць жорсткія законы
На гэты конт. Пра вашыя імёны
Мы знаць дадзім праз наш, замежны друк.

Каліноўскі, які нешта піша, седзячы за столікам, насцярожваецца.

К а л і н о ў с к і

Выходзідь, нас — жандарам на расправу,
А нашыя імёны — на няславу?

Г е й ш т а р

Выходзіць, так! На гэта ёсць правы.
Мы з вамі памяняліся на ролі:
Мы — штаб паўстання, радавыя — вы.

Закон ваенны парушаць даволі!
Што скажа Каліноўскі?

К а л і н о ў с к і
Я не стану
Адказваць пану. Я на гэты раз
Варшаве, не яму, даю адказ.
І трапіць ён не вам, а Дзюлерану
У рукі, Гейштар!

Г е й ш т а р
Красамоўны жэст!

К а л і н о ў с к І
Вазьміце, Дзюлеран. Тут наш пратэст!
З ім разам выпраўляецца ў дарогу
Паўстання лес. *(Да Гейштара.)* А вас прашу
к парогу.
Шаноўныя.

Я л е н с к і
Вы чулі?

А с к е р к а
Што за тон!

К а л і н о ў с к і
Так, так, паны... Я застаюся богу
Маліцца тут. Я дзіўны бачыў сон...
Хто разгадаць яго мне дапаможа,
Ды так, каб сон нядобры — не ў руку?
Па Вільні ехаў на чацверыку,
Хто б думалі? — вядомы ўсім вяльможа.
Сядзеў на козлах знакаміты пан...
Яленскі з Гейштарам караннікамі
Былі ў яго, і, стрыгучы вушамі,
Аскерка — справа, злева — Дзюлеран.
А ззаду воз жандар штурхаў рукамі.
На возе — дамавіна. У труне
Ляжаў мужык, даўно знаёмы мне.
Ён, бедны, век галеў, зямлі чакаў,

А дабрадзей, што коней паганяў,
Рашыў яму адмераць тры аршыны.
О, божа літасцівы мой, адзіны,
Перакулі на брук жалобны воз,
Зрабі, каб крэўны брат мой уваскрос!

Абураныя Г е й ш т а р , Я л е н с к і , А с к е р к а і Д з ю л е р а н пакідаюць касцёл. З бакавых дзвярэй уваходзяць к с ё н д з і А н т а н а с М а ц к я в і ч у с , таксама ў адзенні ксяндза. Яны спыніліся, слухаюць Каліноўскага.

Уваскрасай, народзе мой сярмяжны,
З маўклівых курганоў і дамавін.
Паўстань для новай бітвы, дух адважны,
Як з каменю агонь, як дым з агню.

М а ц к я в і ч у с

Амін!

К а л і н о ў с к і

Мацкявічус? Адкуль ты?

М а ц к я в і ч у с

Костас, браце,
Што за скандал у богаўгоднай хаце?
Выходзячы, паны крычалі: — Хам!
Хто іх пакрыўдзіў?

К а л і н о ў с к і

Негасцінны храм.

М а л а х о ў с к і

Не так было. Тут хам самога бога,
Каб выгнаць іх, хаўруснікам зрабіў.

М а ц к я в і ч у с

Хамуціусам грэшніка такога
Я б за кашчунны ўчынак ахрысціў.
Хамуціус і Хам — не проста цёзкі.
Хамуціус! Хіба не выклік дзёрзкі
У гэтым імені?

К а л і н о ў с к і
Яно нашмат
Гучнейшае.

М а ц к я в і ч у с
Ну так! (*Да ксяндза.*) Ідзі, мой брат,
У спіс касцёльнай кнігі спавядальнай
Хамуціуса прозвішча ўпішы.
Ён грэх прызнаў. Здымі з душы апальнай
Той грэх. Дай супакой яго душы!

К с ё н д з
Іду!..

К с ё н д з выходзіць.

К а л і н о ў с к і
Ты з Панявежу? З поля бітвы?

М а ц к я в і ч у с
Яшчэ ў нас ціха. Я для пільных спраў
Сюды прыехаў... Бог, відаць, малітвы
Твае пачуў і вось мяне праслаў.
Я з весткай, што замежныя дзяржавы
Рашылі падтрымаць нас і дэмарш
Цару рыхтуюць.

К а л і н о ў с к і
Гэта слых?

М а ц к я в і ч у с
З Варшавы
Прывёз такую вестку біскуп наш,
Што ў Ворні.

К а л і н о ў с к і
Што ж, цяпер мне зразумела,
Чаму паны спяшаліся ў касцёл,
А Дзюлеран паводзіўся так смела.
З замежнымі дзяржавамі за стол

Жадаюць сесці! Не благія планы!

М а л а х о ў с к і
Стаць на чале паўстання, то — разлік!..

К а л і н о ў с к і
Яны не спадзяюцца, што мужык
Для іх пачне цягаць з агню каштаны.
Дык вось адкуль — высакародны гнеў,
Паток патрыятычных слоў узнёслых!

М а л а х о ў с к і
А ты, Кастусь, як у ваду глядзеў...

К а л і н о ў с к і
Так... Так... Іх падганяючы, сядзеў
Сам граф Старжыцкі на высокіх козлах!

## Граф

Апошнія дні красавіка. Дом Старжыцкага ў Гродні. Кабінет на першым паверсе з выхадам на тэрасу. За столікам каля каміна сядзяць граф Старжыцкі і Аскерка. Старжыцкі дачытвае ліст, які толькі што прынёс яму слуга.

С т а р ж ы ц к і
Хто ліст прынёс?

С л у г а
Чарноцкі.

С т а р ж ы ц к і
Я такога
Не знаю.

А с к е р к а
Знаеце.

Аскерка нахіляецца да графа і нешта шэпча яму на вуха.

С т а р ж ы ц к і
Не можа быць!

А с к е р к а
Я запэўняю... Горай чорт нічога
Не мог прыдумаць.

С л у г а
Што сказаць?

С т а р ж ы ц к і
Прасіць.

С л у г а
Цяпер прасіць?

С т а р ж ы ц к і
Пасля таго, як дам
На тое знаць.

С л у г а выходзіць.

А с к е р к а
Шаноўны граф, не раю
Прымаць яго. ЁН несусветны хам!..
Фанатык!

С т а р ж ы ц к і
Фанатычных паважаю.

А с к е р к а
Што ён для вас?.. Звычайны камісар,
Што скача ў брычцы з гушчару ў гушчар.
Мы ў Вільні ўсе яго апале рады.
Пазбаўлены былой сваёй улады,
ЁН нам намнога карысней, дальбог,
На Гродзеншчыне... Тут... На полі бою.

С т а р ж ы ц к і
Ён думаў, што за вашаю спіною
Я вёў з ім несумленны дыялог.

Ён кінуў выклік. Выклік я прымаю.

А с к е р к а
Адкіньце гонар. Ваша хата — з краю.
Я хама не пусціў бы на парог.

С т а р ж ы ц к і
Я змушаны. Не будзем траціць часу.

А с к е р к а
То лепей мне прайсціся на тэрасу.

С т а р ж ы ц к і
Як хочаде.

А с к е р к а
(*Адчыняе дзверы на тэрасу.)*
На Гродзеншчыне ў вас
Ужо сады цвітуць... Цудоўны час!
Цвітуць, цвітуць — на ўдачу ці няўдачу?
Я пагуляю, граф. Прайдуся ў сад.
Аскерка прычыніў за сабою дзверы.

С т а р ж ы ц к і падышоў да каміна, пачакаў, пасля падняў над сталом званок і пазваніў. У кабінет заходзіць К а л і н о ў с к і.

С т а р ж ы ц к і
*(ідучы насустрач)*
Прызнацца, не чакаў! Каго тут бачу,
Вось дык сустрэча! Вельмі, вельмі рад.
Сам-насам з панам мы не размаўлялі
Даўно.

К а л і н о ў с к і
Даўно.

С т а р ж ы ц к і
Амаль што год назад.
Дзе ж пан цяпер?

К а л і н о ў с к і
Хіба вы не чыталі
Ліст Юрася, што я падаў?

С т а р ж ы ц к і
Чытаў.
Я, помніцца, калісьці цытаваў
Па памяці яго.

К а л і н о ў с к і
Так. Цытавалі,
Але не ўвесь.

С т а р ж ы ц к і
Бываюць дні, што век
Нам помняцца... Хадзілі мы па жыце,
Марыся, вы і я... На глум, на здзек
Усё пайшло. Дзе дзелася, скажыце?
Марысю заручае лес з другім,
А вам — усватаў прозвішча другое.
Але, калі не думаць пра благое,
Той дзень, напэўна, дораг нам усім.

К а л і н о ў с к і
Не знаю, граф. Сюды я не за тым
Наведаўся, каб варушыць старое.
Той дзень асобна ад мяне жыве,
Як сонца ў хмарах, як рака ў тумане.
Я сёння — там, дзе па былой траве
Свой след крывавы валачэ паўстанне,
А месяца танюткі веташок
Знікае з неба ў непраглядны змрок.
Адтуль — і ліст...

С т а р ж ы ц к і
(*Чытае ўслых.*)
«Народ абрабаваны!
Мой ліст да брата, гербам змацаваны,
Той запавет, які ты знойдзеш тут,—
Перадае на твой вышэйшы суд...»
То пан Чарноцкі, можа быць, мяне

Судзіць сабраўся?

К а л і н о ў с к і
Не.

С т а р ж ы ц к і
Няславіць?

К а л і н о ў с к і
Не...
Хоць гэты ліст, калі б надрукаваны
ЁН быў, здзівіў бы Лондан І Парыж
І пэўны ўплыў зрабіў бы на прэстыж...

С т а р ж ы ц к і
Дазвол на ганьбаванне, паважаны,
Патрэбна мець.

К а л і н о ў с к і
Юрась нам даў дазвол,
Са зброяй разам палажыць на стол
Свой запавет. А друк сягоння — зброя.
Граф знае гэта. І не горш, чым я.
Хіба не так?

С т а р ж ы ц к і
Я памяці героя
Не зганьбаваў: пляменніца мая
У спадчыну маёнтак атрымала.
Я над яе зямлёй не гаспадар.

К а л і н о ў с к і
Не аб героі ваша светласць дбала,
Аб іншым... Турбаваўся граф, што дар
За дзейнасць недазволеную можа
Аддадь пад суд Старжыцкага — крый божа!
Тады — ланцуг, тады — сям'я ў бядзе,
Тады зямля ўся — невядома дзе,
Тады Марысі спадчына — дарэчы...
Я разумею ўчынак чалавечы:
Граф год назад радню застрахаваў

Ад грозных дзён.

С т а р ж ы ц к і
У вас няма падстаў
Так разважаць.

К а л і н о ў с к і
Няўжо князь Ч. з Парыжа
Ужо лістоў Старжыцкаму не піша?
Няўжо князь Н. таксама перастаў
Яму з ганцом навіны слаць з Варшавы?

С т а р ж ы ц к і
Цішэй... Цішэй...

Размову перапыняе слуга. Ён ставіць на столік перад камінам каву і каньяк і выходзіць з кабінета.

С т а р ж ы ц к і
Прашу гасця да кавы.

К а л і н о ў с к і
Не той настрой.

С т а р ж ы ц к і
То зараз будзе той.
*(Налівае ў чаркі каньяк.)*
Давайце... Каб палепшала ў настроі,
Як некалі, пад шум вячыстай хвоі,
За Кастуся!

К а л і н о ў с к і
Хіба што па адной.
*(Выпіваюць.)*

С т а р ж ы ц к і
Хто ўласнай ахвяруе галавой,
Той аб сям'і падумаць права мае.
Я рад, што пан Чарноцкі гэта знае.

К а л і н о ў с к і

Ён знае больш.

С т а р ж ы ц к і
Дык, пэўна, скажа мне?

К а л і н о ў с к і
Хаўтурны звон у гэтай навіне...
Разбіты Серакоўскага паўстанцы,
Не ўзята імі крэпасць Дынабург,
Французскі корпус не прыйшоў на Буг,
Не высадзілі свой дэсант брытанцы.

С т а р ж ы ц к і
Дзе Серакоўскі, ваявода наш?

К а л і н о ў с к і
Цяпер ужо не наш ён і не ваш.
Ён у цяжкім палоне... А ў ахвяры
Двайны палон: турмы і дум аб кары.

С т а р ж ы ц к і
Бяда ўслед за бядой! За звонам звон
Хаўтурны!..

К а л і н о ў с к і
Там, дзе мяцяжу пажары
Шугаюць, ліхаманкава закон
Касуе паншчыну. Цар думае, што ён
Тым самым пераб'е паўстанню ногі.

С т а р ж ы ц к і
Ход змушаны.

К а л і н о ў с к і
Але разумны ход.
Граф, калі вы сапраўдны патрыёт,
Не з-за мяжы чакайце дапамогі.

С т а р ж ы ц к і
Хто ж гэты край пазбавіць змрочных крат?

К а л і н о ў с к і
Ліст Юрася — у ім адказ. Ваш брат
Сваю руку падаў вам для ратунку,
Не адхіляйце верную руку.
Век перасеў даўно ўжо на чыгунку,
Яго не абагнаць чацверыку.
Ад зрэбнай світкі бітвы лёс залежа.
Тых, што хітруюць з ёй, народ кляне,
Асудзіць час — аддасць зямлю казне,
А ім ланцуг — казённае жалеза.
Падумаць раю!

С т а р ж ы ц к і
Як звязацца з вамі? ,

К а л і н о ў с к і
У графа ёсць падручны — Дзюлеран.
Ён звяжацца, як не са мной, з сябрамі
Маімі ў Вільні.

К а л і н о ў с к і выходзіць з кабінета. Праз тэрасу.

С т а р ж ы ц к і
Моц адчуў! Мужлан.
Ён знае: мужыкі панам на слова
Не вераць больш. Надзелы наразаць
Ён хоча іх дварам, адначасова
З паўстаннем. Хоча ім зямлю раздаць
Без выкупу, без чыншаў, без аброкаў.
Галетнікаў склікае, абібокаў!
Мы вастраўкі ў іх цёмным акіяне,
Аазісы ў халодных іх пясках.
Нас хваля змые, смерч засыпле прах.
Што станецца на свеце, як паўстане
Нястрымная стыхія ў поўны рост?
Не, лепш зямлю — казне, чарцям пад хвост
Маёнткі ўсе, чым злыбяда ліхая!
Я напішу ў Варшаву... Князю Н.
(*Садзіцца за стол. Піша.*)
«Шаноўны князь! Для адбудовы сцен
Прышліце мне — была такая ўмова! —

Шэсць дужых дзецюкоў з-пад Аўгустова,
Дасведчаных умельцаў і майстроў,
Такіх, каб тысячы адзін быў варты.
Дом старажытны рушыцца. Не жарты…
Выдаткі ўзяць я на сябе гатоў».
Князь зразумее, ратнікаў прышле —
Шэсць тысяч! А не знойдзе ваяводу
Для іх, то сам я стану на чале
Змагання!

Адчыняюцца дзверы, што вядуць на тэрасу.
Уваходзіць разгублены А с к е р к а .

А с к е р к а
Граф, я трапіў у прыгоду
Найпрыкрую. Мяне заўважыў ён
Ды так зірнуў, што горшага нічога…

С т а р ж ы ц к і
Пан Аляксандр! Бывае горш намнога
Тады, калі трапляюць у палон.
Вы гаварылі — едзеце ў Варшаву…
Нялёгкую вам даручаю справу.
Ліст тэрміновы князю Н…

А с к е р к а
Сакрэт?

С т а р ж ы ц к і
Пан будзе заўтра знаць яго з газет.

А с к е р к а
Няшчасце?

С т а р ж ы ц к і
Так. Пан вернецца — адразу
Хай знаць дае… Выходзьце праз тэрасу,
Пасля — праз сад. Там ёсць патайны лаз.

А с к е р к а
*(выходзячы)*

Я ведаю.

С т а р ж ы ц к і

Чакаю на адказ!
Няпраўда, Каліноўскі! Мы яшчэ
Жывём!.. З Парыжа мне той самы Ч.,
Шаноўны, урачыста пацвярджае,
Што ў чэрвені — праз месяц! — наш Арол,
Як роўны, сядзе за агульны стол
З брытанскім Львом, з аўстрыйскаю каронай,
А над былой дзяржаваю ягонай
Не будзе больш ні бур, ні чорных хмар.
Так, так, шаноўны!

С л у г а
(*уваходзячы)*

Граф, да вас жандар!
І не адзін...

Слуга прыбірае на паднос чаркі, каньяк, накрывае іх сурвэткай. У дзвярах ён сутыкаецца з ж а н д а р с к і м   а ф і ц э р а м. Гэта той самы к а п і т а н, які некалі дапытваў Каліноўскага.

К а п і т а н
Дзень добры, паважаны
Віктар Старжыцкі! Вы арыштаваны.
Вышэйшай канцылярыяй была
На гэты конт інструкцыя даслана:
Трымаць пад хатнім арыштам васпана.
І дапытаць. Прашу вас да стала!
Што гэта за пісьмо?

Капітан заўважыў на стале ліст, які не паспеў прыбраць слуга.

С т а р ж ы ц к і
Слугу спытайце.

К а п і т а н
Чыё пісьмо?

С л у г а
Не знаю. Праз акно,
Я думаю, падкінута яно.

К а п і т а н
Пісьмо ад Юрася… Так, так… Ступайце!

*С л у г а выходзіць.*

Пакуль гарыць камін, я знішчыць вам,
Граф, дазваляю падазроны хлам.

С т а р ж ы ц к і
Нішто сабе дазвол. Нязграбна сеці
Пляце павук.

К а п і т а н
Шаноўны, мы не дзеці.
Я следчы ваш, а вы, я чуў, мастак,
Разбяр па дрэву.

С т а р ж ы ц к і
Дылетант. Аматар.

К а п і т а н
Кіёчкі выразаеце?

С т а р ж ы ц к і
Ну так.
Які ж тут грэх?

К а п і т а н
Не грэх. Сам губернатар
Назімаў іх прымаў не раз, як дар…

С т а р ж ы ц к і
Сардэчны дар, па зручнаму выпадку…
То ў чым бяда?

К а п і т а н
З кійкамі ўсё ў парадку.

Яны сяброўскі дар, пакуль разбяр
Пад арыштам. Пакуль не на вяроўцы!
А трапіць на вяроўку — па галоўцы
Жазлом сваім пагладзіць гасудар
Назімава за,слабасць да кійкоў.
У тайніках уласнымі рукамі
Зрабіце вобыск, граф.

С т а р ж ы ц к і
Я тайнікоў
Для выпадку такога не завёў.

К а п і т а н
Тым лепш, тым лепш... А пісьмяцо часамі
Прынёс не Каліноўскі Канстанцін?
Ён і Марыся некалі сябрамі
Лічыліся.

С т а р ж ы ц к і
Пакуль гарыць камін,
Ліст, што турбуе вас, спаліце самі.

К а п і т а н
Наадварот! Пісьмо, то — козыр наш!
Падкінулі паўстанцы... Вымаганне
Ад графа — далучыцца да паўстання.
Кваліфікую гэта, як шантаж...
У следчага ў руках закон, як дышла...
Марыся замужам?

С т а р ж ы ц к і
Яшчэ не выйшла.
Вы з ёй хіба знаёмы?

К а п і т а н
Вельмі рад
Быў пазнаёміцца... Выпадак мелі
Шчаслівы... Танцавалі на вяселлі.

С т а р ж ы ц к і
Вось як! Пан не жанаты?

К а п і т а н
Быў жанат,
Ды аўдавеў... Так, так... Не галадранцам,
Марысі Ямант граф аддаў зямлю.
Факт гэты ў следстве будзе новым шанцам
Для вас. Марысі зла я не зраблю!

## Думкі

Дом Гелены Ямант. Сад глядзіць у вокны таго пакоя, дзе некалі жыў Каліноўскі. Ён і цяпер тут: нешта піша за сталом. На канапе сядзіць Арцём Яцына.

К а л і н о ў с к і
Зямля!.. Людзей спакою пазбаўляе
Яна на гэтым свеце і на тым.
Зямлёю стаўшы, на зямлю жывым
Свае правы нябожчык прад'яўляе.
Вядуць за ўласнасць цёмную вайну
Нашчадкі між сабой на свеце гэтым,
Сумленне, што пярэчыць прагным мэтам,
Шляхетны гонар кладучы ў трупу.
Паны зямлю сваім прыгонным хлудам,—
Ад мора і да мора даўжынёй,—
Зрабілі, падзялілі між сабой.
Зямля!.. Адным хіба цыганскім будам
Яна яшчэ здаецца нічыёй —
Гвалтоўным межам непадлеглым дудам.

А р ц ё м
Здарожыўся?.. Змарыўся?..

К а л і н о ў с к і
Не, Арцём,
Мне шлях — не страх. Стамляюць думкі толькі.
Іх больш, чым вёрст, пад коламі двухколкі
Намерана за тыя дні, што сном
Здаюцца неадчэпным... Ноччу, днём
Крывёй сцякалі думкі, як атрады,
Што даць бядзе сваёй не могуць рады.

Не спыніш думак, не пераімчыш...

А р ц ё м
Дзе Яська быў?

К а л і н о ў с к і
Гуляў са смерцю ў жмуркі,
На рызманах паўстання латаў дзюркі
То там, то тут... За ўсім не даглядзіш...
Наведаў бацьку, родныя мясціны,
Магілу маці, брата свежы крыж.
Адтуль сюды прыехаў. Да Яцыны.
Ці не пара братам яго пачаць
Дзяліць на трох зямлю Гелены Ямант?
Маўчыш? Не хочаш, каб пачаўся лямант
І гвалт?.. Вось акт. Пад ім стаіць пячаць
Паўстанцкая.

А р ц ё м
Без гвалту дамагліся
Мы праўды.

К а л і н о ў с к і
Як?

А р ц ё м
Гелена і Марыся
Братам паабяцалі, што зямлёй
Надзеляць іх... Жадаюць за сабой
Пакінуць толькі хвою векавую
Ды старажытны дом, што я вартую.

К а л і н о ў с к і
Вартуеш дом... А можа быць, Арцём
У ім захоча жыць?

А р ц ё м
Я мужыком
Радзіўся і памру.

К а л і н о ў с к і

А сын, Лявон?

А р ц ё м
Пакуль жыву, таго не зробіць ён.
І ўнук мой не зняважыць памяць дзеда
Мянушкай графа альбо міраеда,
На звод пайшлі паны!

К а л і н о ў с к і
О не, Арцём!
Магната ўнук, зямлю прадаўшы, стане,
Як не ранейшым панам, то купцом.
Махлярскае адродзіць панаванне
Над мужыком яго гандлярскі дом.
Мужык і пан. Пан і мужык. Не ў слове
Хаваецца іх сутнасць, а ў аснове,
З якой яны, як з плесені грыбы,
Растуць... Дзе ўладары, там — і рабы.
О не, Арцём! Зямля яшчэ не ваша.
З Геленай Ямант я пагавару.
А раптам перадумае, дакажа
Жандарам дабрадзейка, не ў пару,—
Хто вы такія тут? Скуль узяліся?

А р ц ё м
Не зробіць так!

К а л і н о ў с к і
Глядзі не пралічыся.
Ёсць пэўнасць?

А р ц ё м
Поўнай пэўнасці няма.
Хіба што проста так, для інтарэсу,
Пастраш, пакуль паны баяцца лесу...
Пагавары, каб знаць, што недарма
Гнаў Яська брычку да майго парога

К а л і н о ў с к і
Пагавару. Пабачыш веставога
Майго, то загадай, каб запрасіў

Гелену да мяне.

А р ц ё м
Ледзь не забыў,
Дэпешу ён мне даў... Прабач старога...

А р ц ё м дастае з кішэні пакет і, аддаўшы яго, выходзіць.

К а л і н о ў с к і
Зямля, зямля!.. Хвалюецца стары.
Зямля — непрачытаная дэпеша.
(Распячатаў пакет. Прачытаў ліст.)
У Вільню зноў завуць мяне сябры!
Так!.. Лес змагання болей не залежа
Ад тых, хто чорнай змоваю сваёй
Прыйшлі да ўлады. Толькі я не рады
Няшчасцю іх... Цяпер за іх спіной
Не графа цень, а Мураўёва краты.
Стараліся, каб не аддаць зямлі
Аратаму. А што ўзамен знайшлі?
Здань шыбеніцы ў іх над галавою,
А пад нагамі бездань. За сабою
Яны астатніх цягнуць... Памагчы
Паўстанню цяжка. Кружаць крумкачы
Над полем бою. Яська, нам з табою
Вядома тое!.. У глухой начы
То здрада нас пільнуе, то няўдача.
А час — шалёны конь — нястрымна скача.
Каліноўскі расчыніў насцеж акно
і зняможана сеў на канапу.
Падобна на тое, што яму не хапае паветра...
У пакоі паступова цямнее.
З паўзмроку вырысоўваюцца галіны саду.
Расхінуўшы іх, да акна набліжаецца ц ы г а н к а
Села на падаконнік і не зводзіць вачэй
з Каліноўскага... Але гэта ўжо не ява, а сон.

К а л і н о ў с к і
Цыганка Стэфа?.. Зноў паваражыць
Прыйшла? На жаль, я звонкае манеты
Не маю, каб руку пазалаціць.

Як і раней, не скажаш праўды мне ты.

С т э ф а
Не Стэфа я. Мяне дарэмна з ёй
Ты блытаеш. Я з табару другога.
Вандроўніца. Я — неадчэпны рой
Тых дум, што растрывожыла дарога.

К а л і н о ў с к і
Ты прывід... Да мяне з імглы зімы
Юрась прыходзіў так.

С т э ф а
Мы не хімеры,
Не прывіды, а думкі. Ты за дзверы
Нас гоніш, праз акно заходзім мы.
Юрась і я, мы — з аднае кібіткі,
Якой кіруе час.

К а л і н о ў с к і
Чаму ж тады,
Задымыўшы дзень, з'явілася сюды
Ты ў вобразе знаёмай варажбіткі?

С т э ф а
Дзівак. А сам ты пад мянушкай Світкі
Не вандраваў? А Яська-гаспадар,
Хамовіч, Макарэвіч, камісар
Чарноцкі — хто?

К а л і н о ў с к і
То прозвішчы мае.

С т э ф а
Пяць прозвішчаў, як пяць падсудных лёсаў..

К а л і н о ў с к і
Ты чуеш, недзе жаўранак пяе,
Раллю ўслаўляе пад страхой нябёсаў?
Пяць прозвішчаў — пяць жаўранкаў, іх ніць
Не рвецца і ўначы.

С т э ф а
То запрашэнне
У вечны змрок.

К а л і н о ў с к і
О не! На ўваскрашэнне
Жыцця. Хоць ноч, а жаўранак звініць,
Світальнай песняй славячы зямлю!
Пакінь мяне. Пад спеў яго пасплю
Перад дарогай.

С т э ф а
Засынай шчасліва
З надзеяю. Няхай і ў змрочны час
Той жаўранак не пакідае нас.
Каліноўскі ачнуўся. Летні дзень за акном.
Побач з Кастусём на канапе сядзіць Марыська.

К а л і н о ў с к і
Марыська!

М а р ы с ь к а
Я.

К а л і н о ў с к і
Адкуль ты?.. Вось дык дзіва!
Няўжо са мной нядаўна ты вяла
Размову тут, як не было святла?

М а р ы с ь к а
Ты сам сабе тут задаваў пытанні.

К а л і н о ў с к і
Якія?

М а р ы с ь к а
Разабраць я не магла.

К а л і н о ў с к і
І жаўранак спяваў, як на світанні?

М а р ы с ь к а
Спяваў, я чула, за акном тваім.

К а л і н о ў с к і
А можа, ты — не ты, а прывід з пушчы?

М а р ы с ь к а
Заплюшчы вочы! Так. Цяпер расплюшчы.
Пазнаў Марысю Ямант?

К а л і н о ў с к і
Не зусім.
Яна, са мной заручаная ўчора,
Сягоння заручаецца з другім.

М а р ы с ь к а
Адкуль такія чуткі?

К а л і н о ў с к і
Ад Віктора
Старжыцкага. Ад графа. Так ці не?..

М а р ы с ь к а
Граф пад замком. Пасаг мой не ў цане.
Зноў я з табой. Зноў сэрцы нашы з намі.
Мае — за год адбіла пяць атак
Рагнеды на чале з яе сватамі.
Ты да мяне, Кастусь? Ці проста так,
Каб глянуць на забыты дом дзявочы,
Наведаць той пакой, дзе жыў раней,
І пакаціць далей?

К а л і н о ў с к і
Заплюшчы вочы.
Ну, а цяпер расплюшчы іх хутчэй.
Пазнала?

М а р ы с ь к а
Не.
*(Каліноўскі цалуе Марыську.)*

О, родны мой! Той самы...

К а л і н о ў с к і
Хто?

М а р ы с ь к а
Пацалунак. Паліць, як агонь...
Ад хмелю галава ў Марысі Ямант
Зноў кружыцца і кроў штурхае ў скронь.
Цвіце сланечнік... Помніш?

К а л і н о ў с к і
Я нічога
Не забываў. Той самы я, што быў...
Ты толькі прозвішча майго былога
Не ўспамінай. Забудзь. Як я забыў!

М а р ы с ь к а
Забыць яго? Навекі?

К а л і н о ў с к і
Мне паўстанне
Вярнуць яго павінна.

М а р ы с ь к а
Альбо суд
Ваенна-палявы праз пакаранне?
Застанься тут. Сібіры ржавых пут
Ты не парвеш.

К а л і н о ў с к і
Бяры вышэй!.. Збаіцца
Пад свой нагляд прыняць мяне Сібір.
*(Падыходзіць да шафы.)*
Пакойчык ціхі... Кніжная паліца...
Твая?

М а р ы с ь к а
Мая. Тут Гётэ і Шэкспір.

К а л і н о ў с к і

Тут лёсы нашы... Каб маглі праліцца
Слязьмі, то затапілі б паўзямлі.
Хто мы з табой? Бед непазбытых дзеці.
Мантэкі гнеў, нянавісць Капулеці
Вякі з парогаў нашых не змялі.

М а р ы с ь к а
Няшчасці паграджаюць нам распраавай...
За грэх які? За шчасце спаць на правай
Тваёй руцэ. Спаць бесклапотным сном.
Мой любы! Я сама прыйшла ў твой дом,
На двор шырокі — лёгкаю хмарынкай,
На ціхі ганак — дробненькім дажджом,
У ложак твой — маленькаю дзяўчынкай.
Цяпер ты гаспадар мой, а не госць.
Пакойчык наш утульны прыбірала
Не я, а служка верная — мілосць.
Цябе чакала я... і прычакала,
Кастусь!

К а л і н о ў с к і
Я за Геленай пасылаў
Ганца,не за табой.

М а р ы с ь к а
Мне ўсё вядома.
Ганец твой запрашэнне перадаў
Мне, а не ёй... Не асуджай Арцёма...

К а л і н о ў с к і
Арцём асудзіць нас.

М а р ы с ь к а
Няхай. Маўчы.
Лес не для слоў прызначыў нам спатканне.
Я дзверы ўсе замкнула, а ключы
Каханню аддала на захаванне.

К а л і н о ў с к і
Ты плачаш?

М а р ы с ь к а
Глупства. То замілаванне,
Мой любы, а не горыч льецца з воч.
Каб ты не бачыў слёз, мы зробім ноч:
Акно зачынім і апусцім штору,
Насуперак Старжыцкаму Віктору.

## Сватанне

Той жа пакой. Акно расчынена.
Марыська і Кастусь сядзяць на падаконніку.
Яны развітваюцца.

К а л і н о ў с к і
Звініць паветра ад чмялёў і пчол!

М а р ы с ь к а
Спакой.

К а л і н о ў с к і
Лясная ціхая старонка...
У Вільні будзеш, з'явішся ў касцёл,
І скажаш: — Я Хамуціуса жонка.

М а р ы с ь к а
Хамуціус! Хто ён такі — латыш?
Ці, можа, грэк?

К а л і н о ў с к і
Пад гэтай клічкай знае
Ксёндз Кастуся. Табе ён, дарагая,
Дасць адрас мой. Прыедзеш?.. Што ж маўчыш?

М а р ы с ь к а
Кастусь!.. Ты чуеш, пошчак барабанны?
Салдаты.

К а л і н о ў с к і
Так.

М а р ы с ь к а

Спяшайся, мой каханы!

К а л і н о ў с к I
Я не паспею. Брычка на двары.

М а р ы с ь к а
Бяжы праз сад! Майго каня бяры,
За брамкаю стаіць ён, асядланы.
Кастусь пацалаваў Марыську.
Саскочыў з падаконніка ў сад.
Ідзе спакойна. Куляй пагарджае.
За брамку выйшаў. Конь яго вітае
Іржаннем ціхім, тыцкае ў далонь
Вільготнай пысай. Пэўна, чуе конь,
Што ўжо — сваім жыццём і новай доляй
Тутэйшым нівам не належыць болей.

Уваходзіць А р ц ё м. У руках ягоных куфэрак, які ён асцярожна ставіць на стол.

А р ц ё м
Пакінуў нас Кастусь. Марыська, з ім
Ты гаварыла?

М а р ы с ь к а
Дзядзечка, аб чым?

А р ц ё м
Няўжо ты выйдзеш замуж за другога?

М а р ы с ь к а
То клопат мой... Граф піша, што ў пятлю
Сваёй нязгодай я яго пашлю.
Рагнеда, як жабрачка ля napora,
Ратунку просіць... Сёння сам жаніх
З Геленай будзе тут. Я мушу іх
Прыняць.

А р ц ё м
Не схіб. Яны жадаюць долю
Тваю распяць на графавым крыжы.

М а р ы с ь к а
Свой крыж нясу. Цягнуць на крыж чужы,
Хаця б і залаты, я не дазволю
Сябе, Арцём.
*(Заўважыла куфэрак.)*
Прынёс куфэрак ты?

А р ц ё м
Як абяцаў... Дар Юрася святы...
Жадаў ён, каб вісеў партрэт Анэлі
Залогам шчасця на тваім вяселлі.
У горкі час такі даваў наказ
Мне бацька твой.

М а р ы с ь к а
Арцём, здымі абраз,
Павесь партрэт. Бог крыўды на мужычку
Не будзе мець.

Арцём здымае абраз і на яго месцы вешае партрэт Анэлі.
Адыходзіць. Хрысціцца.

А р ц ё м
Абраз!

М а р ы с ь к а
Цяпер, Арцём,
Пакуль няма Гелены з жаніхом,
Паўстанца Кастуся каня і брычку
Ад іх вачэй дапытлівых схавай.

А р ц ё м выходзіць. Марыська глядзіць на карціну.

Пад засень дрэў зіму зганяе май...
Стаіць каханне ў зрэбнай даматканцы!
Жыццё мне даўшы, на лясной палянцы,
Анэля, ты бязведамнай зямлёй
Не стала. Ты жывеш!.. Нібы паўстанцы,
На варце хвоі за тваёй спіной
Стаяць.

Уваходзяць Г е л е н а і ж а н д а р с к і а ф і ц э р Капітан вітаецца, цалуючы руку Марыські.

К а п і т а н
Марыі Юр'еўне сардэчны
Праз следчага прывет перадае
Віктар Старжыцкі, апякун яе!

М а р ы с ь к а
Як граф?

К а п і т а н
Нішто... Перыяд небяспечны
Не скончыўся. Але міне, дасць бог.
Віктор, нарэшце, трапіў у астрог.

Г е л е н а
Ён вінаваты?

К а п і т а н
Доказаў няма
У следчага.

Г е л е н а
Чаму ж тады турма?

К а п і т а н
Граф сувязь меў, гаворачы між намі,
З даволі падазронымі сябрамі,
Так, так... Быў пад наглядам асабняк...
А хатні арышт, то не ўвагі знак
Да графа, а капкан, падрыхтаваны
Для доказаў магчымых, ад якіх
Своечасова граф ізаляваны
Законнай мерай, што ў руках маіх.
Цяпер, калі Назімаў Мураўёву
Здаў справы, нам — не да сяброў былых.

Г е л е н а
Пайду. А вы працягвайце размову.

Г е л е н а выходзіць.

К а п і т а н
Марысі дваццаць. Мне ўжо трыццаць пяць.
Ёсць розніца ва ўзросце. Разумею.
Але прашу, пакіньце мне надзею.
Хоць год, хоць два гатовы я чакаць...

М а р ы с ь к а
Пытанне можна, капітан, задаць?

К а п і т а н
Прашу.

М а р ы с ь к а

Кар'ера следчага ў зеніце...
Навошта рызыкуеце?

К а п і т а н
Лічыце,
Што я люблю вас болей, чым цара.

М а р ы с ь к а
Даўно?

К а п і т а н
З тых пор, як пасярод двара
Сялянскага ў шалёнай каруселі
З Марысяй мы кружылі на вяселлі.
Ні дождж спыніць не мог нас, ні віхор.
Калі маланка асвятляла двор,
Я вочы бачыў, што з тугой глядзелі
У змрок... Не кропелькі дажджу на іх
Былі, а слёзы.

М а р ы с ь к а
Той віхор не сціх
Дагэтуль.

К а п і т а н

Знаю, знаю... Ах, Марыя
Свет Юр'еўна, абранцу вашых мар
Зайздросціў я тады, хоць і жандар.
Але, паверце, грозных дзён стыхія
Усё змяце. Яму не абмінуць
Дарог, дзе косіць дрэвы навальніца.
Магчыма, потым будзе ганарыцца
Ім свет, аднак не зможа свет вярнуць
Таго, што пад сабою пахавае
Дрыгва, дзірван, бур'ян, халодны жвір.
Няўжо Марыся спадзяванне мае
На нейкі цуд?

М а р ы с ь к а
О не! На манастыр.

К а п і т а н
Прашу вас: маладосці не губіце!
Як любіце другога, то любіце.
Я не рашэнне выслухаць прыйшоў,
Пабачыцца... Як раб, чакаць гатоў
Я волі неба, што кіруе намі.

М а р ы с ь к а
Надзей няма ў вас, ведаеце самі.
Другому слова я дала даўно
На ўсё жыццё. Не зменіцца яно.
Бывайце, капітан!

К а п і т а н
Ну, што ж, прызнанне
Чыстасардэчнае перад судом
Суровае змяншае пакаранне.
Як і раней, пакорлівым рабом
Я застаюся.

К а п і т а н казырае і выходзіць. З'яўляецца Г е л е н а.

Г е л е н а
Што ты нарабіла!

М а р ы с ь к а
Адмовіла.

Г е л е н а
Ён змрочны, як магіла,
Быў з выгляду. Віктора пагубіла
Твая нязгода, жорсткі твой адказ.
Граф наш сваяк. Мы хлеб ягоны елі,
Так, так... Ты не дачка мне!

М а р ы с ь к а
На абраз
Зірніце.

Г е л е н а
Божа мой! Партрэт Анэлі...

М а р ы с ь к а
Купляюць, прадаюць маю душу.
Я чалавек? О не! Я — горш, чым быдла.
Не плачце, маці. Вам самой абрыдла
Глядзець на гнюсны торг. Я адпішу
Маёнтак вам. За гэта папрашу,
Не крыўдзячы крыжы сваіх бацькоў,
Пакіньце ім для вечнага спакою
Язьмін і бэз, і гучных салаўёў,
А жаўранкаў над даллю палявою —
Маім дзядзькам: Арцёму і братам...

Г е л е н а
А ты?

М а р ы с ь к а
Бог знае, ды не скажа нам.

## Сустрэча з генералам

Куча хворасту на краі ляснога балота. З супрацьлеглага берага далятае страляніна. Пасецца ў бары конь. Хвоя. Да яе прывязаны Каліноўскі. На паляну выходзяць р у с к і я с а л д а т ы і а ф і ц э р

П е р ш ы  с а л д а т
Балота непралазнае...

Д р у г і  с а л д а т
Чароту,
Дрыгве — канца і краю не відаць.

П а р у ч н і к
Ад хвоі чалавека адвязаць!

П е р ш ы с а л д а т
Ёсць адвязаць!

Салдаты выконваюць загад.

П а р у ч н і к
Цяпер ідзіце ў роту!

Салдаты выходзяць.

Уласны конь?

К а л і н о ў с к і
Уласны.

П а р у ч н і к
Мой патруль
Гаспадара прызнаў за канакрада.
Я спадзяюся: вы з таго атрада,
Што гіне за балоцінай ад куль?

К а л і н о ў с к і
Паручнік здагадаўся. Я адтуль.
А вы той афіцэр, што памагчы
Жадае нам?..

П а р у ч н і к
На гэты бераг выйсці
Ці зможа пад аховаю начы
Атрад? Калі не зможа, то карысці

Не прынясе намер мой.

К а л і н о ў с к і
План такі
Не проста здзейсніць.

П а р у ч н і к
Тут праваднікі
Патрэбны, знаю. З багны і трысця
Без іх не выйдзеш.

К а л і н о ў с к і
Прага да жыцця,
Адвага і адчай праваднікамі
Былі заўсёды, ведаеце самі.
Прывесці можна прыклад не адзін...

П а р у ч н і к
Я адыду. Мая на маршы рота.
Не будзем траціць дарагіх хвілін.

К а л і н о ў с к і
Паручнік знае, што за ўзнагарода
Яго чакае?

П а р у ч н і к
Братняга народа
Падзяка.

К а л і н о ў с к і
Альбо куля ад цара.

П а р у ч н і к
Тут назбірана хворасту гара...
Каб даць сігнал?

К а л і н о ў с к і
Але.

П а р у ч н і к
*(Падпальваючы хвораст.)*

Няхай шугае
Агонь, хай людзям, што на тым баку,
Працягвае гарачую руку,
На вольны бераг кладкі асвятляе.
Бывайце!

К а л і н о ў с к і
Дарагі грамадзянін,
Як ваша імя?

П а р у ч н і к
Крупскі Канстанцін.

П а р у ч н і к пакідае паляну. Да Каліноўскага падыходзіць в е с т а в ы.

В е с т а в ы
Як кажуць, свет вялік і ўсё бывае.
На захад афіцэр салдат павёў.
Пашчасціла!

К а л і н о ў с к і
Як бачыш.

В е с т а в ы
Галубоў
Паштовых з данясеннем ад разведкі
Час, мусіць, выпускаць на волю з клеткі?
З атрадам так умоўлена было.

К а л і н о ў с к і
Спяшайся, покуль сонца не зайшло
За край зямлі, а шчасце за палеткі
Не адышло раптоўна ў змрочны цень.
Спяшайся! Вестка даляцець павінна
Да берага таго, дзе трэці дзень
Надзеі нашы косіць страляніна.
Героі там! Атрад перадавы
Гісторыі. Спяшайся, веставы,
Атрад чакае!

В е с т а в ы выходзіць. На лясной паляне з'яўляюцца ц ы г а н ы. Кожны нясе пасільную ношу на агонь. Да Каліноўскага падыходзіць ц ы г а н к а С т э фа

С т э ф а
Слухай,гаспадар,
ты — хто?

К а л і н о ў с к і
Не пазнаеш?

С т э ф а
Не помню ў твар...

К а л і н о ў с к і
Забылася?

С т э ф а
Знаёмыя — не коні,
Я не па выгляду, а па далоні
Іх пазнаю.

К а л і н о ў с к і
Як выгляду майго
Не помніш, то далонь не дапаможа.

С т э ф а
*(разглядаючы, далонь)*
Пабачым... Лінія жыцця твайго
Кароткая. Ды быць даўжэйшай можа.
Ты хочаш жыць і хочаш вольным быць...
Змяні галоп на ціхі рып калёсаў
Цыганскіх, змрочны брук — на сінь нябёсаў,
Тлум — на спакой, як хочаш вольна жыць.

К а л і н о ў с к і
Не ўводзь у зман. Былых дзяцей прыроды
Па свеце гоніць, як гусей са шкоды,
Землеўладання хлуд. Бізун даўгі.

С т э ф а

Успомніла. Табе на пастаялым
Двары я варажыла... Там другі
Дзяцюк з табою быў... Ён генералам
Не стаў?

К а л і н о ў с к і
Не стаў.

С т э ф а
Няпраўда. Не мані.
Ты разам з ім па стромкай кручы скачаш,
Я знаю. На далонь сваю зірні,
На ёй, як на зямлі, не перайначыш
Ні сцежак шчасця, ні шляхоў пакут,
Ні рысак смерці.

К а л і н о ў с к і
Хутка будзе тут
Твой генерал. Сама яго пабачыш.
Прыслухайся, ідуць...

П е р ш ы  ц ы г а н
*(Гучна.)*
Ідуць!

Д р у г і ц ы г а н
*(Змрочна.)*
Ідуць.

В е с т а в ы
*(падыходзячы да Каліноўскага)*
Ідуць.

П е р ш ы  ц ы г а н
Жывыя раненых нясуць.

Д р у г і  ц ы г а н
Нябожчыкаў.

П е р ш а я  ц ы г а н к а
На бераг іх кладуць.

Д р у г а я  ц ы г а н к а
О, божа, колькі іх! Што ж гэта будзе?

П е р ш а я  ц ы г а н к а
Вяртаюцца дадому з кірмаша...
Яшчэ душа... Яшчэ адна душа...

П е р ш ы  ц ы г а н
Апошняга нясуць.

Д р у г і  ц ы г а н
Паклалі.

У р у б л е ў с к і
*(падыходзячы да агню)*
Людзі!
Мы на сабе прынеслі сто магіл.
Але ні часу, ні лапат, ні сіл
Няма ў нас развітацца з дзецюкамі
Так, як належыць...

П е р ш ы  ц ы г а н
Пахаваем самі.

У р у б л е ў с к і
Мы пакідаем іх без дамавін
І без крыжоў. Капайце дол глыбокі
Адзін на ўсіх. Як зможаце, адзін
На ўсіх пастаўце крыж.

Д р у г і  ц ы г а н
Паставім крыж.

У р у б л е ў с к і
Зрабіце ласку. Пахавайце. Мы ж
Ісці павінны, хоць цяжкія крокі
І раны не даюць далей ісці.
Як толькі мясам нашыя шкілеты,
А раны скурай змогуць абрасці,
Атрад — людзьмі,— мы ўспомнім бераг гэты.

Успомнім, каб не сцежкай па трысці
Прайсці, а ў ногі пакланіцца хвоі,
Дзе дзецюкі ў абдымках лесу спяць,
Каб небу, як не схоча іх прыняць,
У твар халодны выпусціць набоі.
Мы іх не пакідаем. Не зямлі
Іх аддаём, а песням, а цымбалам,
А водгуллю ў бары.
*(Да паўстанцаў.)*
Цяпер пайшлі
Далей, сябры!

С т э ф а
*(гледзячы ўслед)*
Ён будзе генералам.

На шырокім лясным пні сядзяць Каліноўскі і Стэфа.

К а л і н о ў с к і
(*устаючы)*
Развіднела. Паўзе з трысцяў туман...
Ну вось і ўсё. Няма смяротных ран,
Вачэй, зашклёных смерцю. Пад сабою
Сто лёсаў пахаваў нямы курган.

С т э ф а
Чакай. Мінулагодняю вясною,
Варожачы табе, я ў варажбе
Праўдзівай не была, дзяцюк, з табою.

К а л і н о ў с к і
Пашкадавала, мусіць?

С т э ф а
Не цябе,
Дзяўчыну, што была ў дарозе з вамі.
Хоць і варожым мы, але і самі
Жахаемся, чытаючы ў вачах
Дзявочых за людзей любімых страх.
Ах, людзі, людзі, каб наперад зналі
Вы шлях, крывёй паліты і слязьмі,

То не пакутвалі б і не кахалі,
Не плакалі і не былі б людзьмі.

К а л і н о ў с к і
Навошта ж знаць,табе?

С т э ф а
Здымі калоду!
Хачу я паглядзець на абразкі,
Што іншы раз выказваюць нязгоду
З тым, што паказвае пісьмо рукі.

К а л і н о ў с к і здымае калоду. Пакідае паляну.

С т э ф а
Панёсся, уцякае на кані
Ад дум сваіх, як быццам ад пагоні,
Ад слоў маіх. Ад лёсу, што на пні
Перада мной ляжыць, як на далоні.
*(Глядзіць на карты )*
Дарога... Конь, які дарогу чуе...
Кароль... І дом казённы караля
Бубновага, якога каранує,
На трон дашчаны, вядучы, пятля.

*«Марыська чарнабровая мая,*
*Дзе шчасце, доля ясная твая?*
*Усё прайшло і не збылося ў часе,*
*Адна страшэнна горыч засталася*
*І каменем на сэрца смутак лёг.*
*Калі ўжо нас за нашу праўду бог*
*Пачаў караць і, з вісельняй у згодзе,*
*Нам прападаць прызначыў пры ўваходзе*
*У вечны сад, то мы хутчэй загінем,*
*Чым скардзіцца пачнем на марны лес,*
*Хутчэй ад шчасця і саміх нябёс*
*Адмовімся, а праўды не пакінем».*

З ліста Каліноўскага да Марысі

## Канец следства

Турма ў Вільні. Камера. За сталом разбярыць Старжыцкі. Наглядчык упускае ў камеру наведвальніка, апранутага ў цывільную вопратку.

Н а в е д в а л ь н і к
Дзень добры!.. Выразаеце кійкі
У вольны час? Разбярыце?

С т а р ж ы ц к і
Разбяру.

Н а в е д в а л ь н і к
Вітаю майстра ходкага тавару.

С т а р ж ы ц к і
Прабачце, хто вы?

Н а в е д в а л ь н і к
Прыяцель, які
З'явіўся, каб палепшыць вязню ўмовы.

С т а р ж ы ц к і
Няйначай,следчы новы?

Н а в е д в а л ь н і к
Што вы, што вы,
Не маю дачынення. Я з купцоў.
*(Паказвае пропуск.)*
Чытайце.

С т а р ж ы ц к і
Пропуск.

Н а в е д в а л ь н і к
Подпіс?

С т а р ж ы ц к і
Мураўёў.

Н а в е д в а л ь н і к
Як бачыце, вядома ў коле вузкім
Маё імя.

С т а р ж ы ц к і
То чым магу служыць?

Н а в е д в а л ь н і к
Хацеў бы на маёнтак пад Бабруйскам
Я з панам пагадненне заключыць.
Граф не супроць?

С т а р ж ы ц к і
Супроць не я, а краты.

Н а в е д в а л ь н і к
Яснавяльможны пан не вінаваты,
Вядома мне, ні ў чым, апроч размоў.

С т а р ж ы ц к і
Аднак я тут.

Н а в е д в а л ь н і к
Часова. Хто не вёў
Пустых размоў за шклянкаю гарбаты?
Хай не здзіўляе графа мой прыход...
Я — той, хто рыхтаваў для следства глебу,
Як сейбіт для раллі. Дазнання ход
Спрыяльны быў... Дык дзякуйце не небу,
Не следчаму... Ён радавы салдат,
Рабіў і робіць тое, што дыктуе
Вышэйшы чын, мой кампаньён — Загад.

С т а р ж ы ц к і
Не можа быць!

Н а в е д в а л ь н і к
То колькі двор каштуе?
Сто тысяч? Болей?.. Сотні паўтары?
*(Старжыцкі маўчыць.)*
Належыць суму гэтую на тры

Дзяліць. За трыццаць тысяч я куплю
Маёнтак пана. Згодны?

С т а р ж ы ц к і
На грабеж?

Н а в е д в а л ь н і к
На клопат.

С т а р ж ы ц к і
Я не набіваўся.

Н а в е д в а л ь н і к
Знаю.
Прыкіньце, я не парушаю меж
Магчымага. Барыш дзялю законна,
Не ганьбячы прафесію сваю:
Не крыўджу ні сябе, ні кампаньёна,
Зямлю купляю, волю прадаю.
Яна не тысяч вартая. Мільёна!

С т а р ж ы ц к і
Хто ён, нябачны цень ваш — кампаньён?

Н а в е д в а л ь н і к
Не трэба турбавацца, граф: не ён,
А я, гаворачы на вашай мове,
Ягоны цень.

С т а р ж ы ц к і
А ён?

Н а в е д в а л ь н і к
Пры Мураўёве,
Як я — пры ім... Рашайцеся хутчэй.

С т а р ж ы ц к і
На волі пагаворым.

Н а в е д в а л ь н і к
Тут зручней.

С т а р ж ы ц к і
Не для мяне.

Н а в е д в а л ь н і к
Баюся, каб размовы,
Што вы з Аскеркам, з Гейштарам вялі,
У выніку разваг, не набылі
Характар пратакольны, папяровы.
Сягоння канчатковае рашэнне
Па справе графа прыме Мураўёў.
То як?

С т а р ж ы ц к і
Я — вязень.

Н а в е д в а л ь н і к
Пойдзеце дамоў
Сягоння.

С т а р ж ы ц к і
Калі так, то пагадненне,
Хоць з ведзьмаром, я падпісаць гатоў.

Н а в е д в а л ь н і к
Усё яшчэ не верыце? Паверце,
Такім, як вы, дзяцей калышуць чэрці.
Есць ром?

С т а р ж ы ц к і
Няма.

Н а в е д в а л ь н і к
Шкада! Абмылі б справу.
У друк мясцовы неадкладна я
Аб продажы маёнтка дам аб'яву...—
Вядома, граф, ад вашага імя.

С т а р ж ы ц к і
Як хочаце.

Н а в е д в а л ь н і к
Сем тысяч. Мой задатак —
Для пэўнасці. Парадак ёсць парадак.

Кладзе на стол пачак грошай. Выходзіць. Старжыцкі хавае грошы ў тумбачку. Дастае адтуль бутэльку рому і дзве чаркі. На парозе з'яўляецца н а г л я д ч ы к .

С т а р ж ы ц к і
Прашу на чарку!

Н а г л я д ч ы к
*(Нерашуча.)*
Граф, я пры пістолі.

С т а р ж ы ц к і
Не першы раз!.. Што новага на волі?

Старжыцкі налівае чарку наглядчыку і сабе. Чокаюцца. П'юць.

Н а г л я д ч ы к
У горадзе аблавы. Ноччу, днём.

С т а р ж ы ц к і
Злавілі ваяводу?

Н а г л я д ч ы к
На свабодзе.
Цяпер яго іначай у народзе
Завуць.

С т а р ж ы ц к і
Ну, ну!..

Н а г л я д ч ы к
*(пераходзячы на шэпт)*
Мяцежным каралём!
Дыктатарам Літвы і Белай Русі.

С т а р ж ы ц к і
За што такая чэсць?

Н а г л я д ч ы к
Не дабяруся
Паняція...

С т а р ж ы ц к і
*(наліваючы чаркі)*
Яшчэ?

Н а г л я д ч ы к
Магу.

С т а р ж ы ц к і
А ўсё ж?
*(Чокаюцца. Выпіваюць.)*

Н а г л я д ч ы к
Закон дыктуе свой: за здраду — нож,
Кінжалы ў ход пусціў...

С т а р ж ы ц к і
*(хмялеючы)*
Кароль, Дыктатар
Яшчэ?

Н а г л я д ч ы к
Магу... З ног збіўся губернатар,
Злуецца... Калі гэтая напасць,—
Гаворыць,— пакрасуецца з паўгода,
То дар абвесціць роўнасць для народа...
Усе маёнткі мужыкам раздасць.

С т а р ж ы ц к і
*(П'е.)*
Як імя караля?

Н а г л я д ч ы к
Цішэй. (П'е.) Хто знае?

С т а р ж ы ц к і
А прозвішча?

Н а г л я д ч ы к
Бог ведае адзін.

С т а р ж ы ц к і
Відаць, часцей, чым падышах жанчын,
Імёны ён і прозвішчы мяняе.

Н а г л я д ч ы к
То я пайду.

С т а р ж ы ц к і
Чакай.

К а п і т а н
*(Уваходзячы.)*
Прынёс загад!

С т а р ж ы ц к і
Свабода?

К а п і т а н
Так!

С т а р ж ы ц к і
Не думайце, што рад
Я навіне.
(*Налівае чарку каштану, потым — сабе.)*

К а п і т а н
Забараняю. Досыць.

С т а р ж ы ц к і
Ах, любы капітан! Мой дом — астрог.
Не сам іду, мяне адсюль выносіць
Гісторыя… Нагамі за парог.

## Асабняк у Вільні

Кабінет на другім паверсе. Гарыць камін. Каля яго, седзячы ў крэсле, вяжа Рагнеда. У крэсле насупраць яе — Віктор.

С т а р ж ы ц к і
Сябры ў бядзе. Не можна адкупіцца
Ад мук сумлення. «Годзе ныць, Віктор»,—
Шапчу, а ў сэрцы пуста. Я — званіца
Нямая. Языкі званам віхор
Павыдзіраў. Я — абабраны двор,
Пастух без пугі, посуд без палуды.
Заместа чарады, ля ачага
Сямейнага пасу свае пакуты.
А нехта кайданы там, дзе тайга,
Пасе і двор мой на Беразіне,
Што я прадаў, каб вольным быць, кляне…
Як свішча сівер у ягоных словах!

Р а г н е д а
Беразіна!.. Мы страцілі, на жаль,
Не грошы — тры вярсты бароў сасновых
І больш чым тры вярсты нястрымных хваль.

С т а р ж ы ц к і
Гісторыя!.. Патокам дзён імклівых
Яна падобна сёння на раку —
Імчыць, нас пакідаючы ўбаку,
Ад нас хавае твар у неўрадлівых
Сялянскіх нівах… Некалі была
Пакорлівай, цяпер грыміць: скарыся!..
Адзін свой двор я сам аддаў Марысі,
Другі — турма гвалтоўна адняла,
Не зняўшы з твару марадзёрскай маскі.
Як не было маёнткаў — двух'з пяці!

Р а г н е д а
Жыццё пражыць — не поле перайсці.

С т а р ж ы ц к і
Яшчэ не ўсё. З чыёй, Рагнеда, ласкі
Цураюцца, як чорнае чумы —
Так, так! — знаёмыя майго парога?

Р а г н е д а

Баяцца крат. Тут дзіўнага нічога
Няма.

С т а р ж ы ц к і
Яшчэ не ўсё. Калі з турмы
Выходзіў я, рукамі капітана,
Гісторыя свой ліст перадала
На подпіс мне. Аж белы свет імгла
Ахутала! Чытай жа. Рана, рана
Нам баляваць. *(Перадае ліст.)* Уважліва чытай.

Р а г н е д а
Ты падпісаць павінен адрачэнне
Ад мяцяжу? Для друку?

С т а р ж ы ц к і
Мне сумленне
Не дазваляе цераз ганьбы край
Пераступіць. Лепш ланцугом па бруку
Звінець, чым бачыць сорам свой у друку.
Што скажуць людзі?

Р а г н е д а
Праўда. Божа мой,
Што скажуць тут? Што скажуць за мяжой?
Прыкінься хворым. (*Вяртае ліст.)*
Можа, ўсё тым часам
Міне.

С т а р ж ы ц к і
Сягоння зойдуць за адказам.

Р а г н е д а
Твой следчы?

С т а р ж ы ц к і
Іншы распарадчык лёсаў.
Ад Мураўёва.

Р а г н е д а
Хто?

С т а р ж ы ц к і
Палкоўнік Лосеў.

С л у г а
*(уваходзячы)*
Да вас!

С т а р ж ы ц к і
Ну вось!

С л у г а
Купец… Па важнай справе.

Р а г н е д а , прыбраўшы з крэсла вязанне, ідзе ў суседні пакой.

С т а р ж ы ц к і
Ты б мог сказаць: — Няма гаспадара…
Ён — захварэў.

С л у г а
Не сцяміў.

С т а р ж ы ц к і
А пара.

С л у г а выходзіць, прапускаючы ў кабінет Каліноўскага.

К а л і н о ў с к і
Граф, бачу, не чакаў. Я — па аб'яве
Аб продажы Бабруйскага двара.

С т а р ж ы ц к і
(Разгублена.)
Двор куплены… Атрыманы задатак…
Сем тысяч.

К а л і н о ў с к і
Усяго? Куш не вялік.
Мне трэба больш.

С т а р ж ы ц к і
Чарноцкі — рабаўнік?
Забаўна.

К а л і н о ў с к і
Прыкусіце, граф, язык.

С т а р ж ы ц к і
Не разумею.

К а л і н о ў с к і
Я прыйшоў падатак
Рэвалюцыйны з пана спаганяць.

С т а р ж ы ц к і
Не разумею... Цішыня ды гладзь
На моры. Улягліся хваляванні
Мінулыя, а новых — не відно.

К а л і н о ў с к і
Яшчэ судно не канула на дно,
А ўжо з яго ўцякаюць спадзяванні,
Як пацукі, трымаючы ў зубах
Паперачкі свае аб пакаянні,
Прашэнні аб не гучных ланцугах.
А ці не так і графа спадзяванне
За стырнавога быць на караблі
Не здзейснена?.. Французы, англічане
Надзей не апраўдалі. Падвялі.

С т а р ж ы ц к і
Няпраўда... Ходзіць слых аб каралі
Мяцежным. Хіба гэта не надзея?
Хвала таму, хто з палубы не ўцёк.
Вы, часам,— не кароль?

К а л і н о ў с к і
За казначэя
Я ў караля. Выкладвайце даўжок!..
Старжыцкі дастае з шуфляды стала пачак грошай,

і перадае яго Каліноўскаму.

С т а р ж ы ц к і
Сем тысяч тут.

К а л і н о ў с к і
*(уручаючы распіску)*
Нам трэба болей. Дзесяць.
Наяўнымі.

С т а р ж ы ц к і
*(Садзіцца за стол. Піша.)*
Паверце, я гатоў
За крыўды незлічоныя павесіць
Цара ў пятлі мужыцкай між слупоў —
Каб першы слуп быў Гродняй, а другі
Быў Вільняю. Сам рваў бы ланцугі
Для гэтай мэты.

К а л і н о ў с к і
Для яе замала,
Граф, двух слупоў. Ёй трэба, каб шугала
Народная рашучасць, гнеў жывы,
Каб ён на часткі рваў турэмны кратар
Імперыі... Так думае дыктатар
Сярмяжнай Беларусі і Літвы,
А казначэй яго дае распіскі
У тым.

С т а р ж ы ц к і
Ён — на кані, а пад канем —
Яго даўжнік. Трымайце.
*(Дае Каліноўскаму запіску.)*
Аканом
Аплоціць доўг мой падаўцу запіскі.
Куды ж вы? Пачакайце.

К а л і н о ў с к і
Час ісці.

С т а р ж ы ц к і

Мне сорак год. У кожнага ў жыцці
Ёсць свой палын. Цяпер, пасля астрога,
Калі майго цураюцца парога,
Свабода — мой палын... Сяджу адзін,
Спрабую размаўляць,— калі камін
Гарыць,— з гісторыяй. Не пазнае
Мяне яна чамусьці, я — яе.
Знаць хочаце, аб чым у нас размова?..

К а л і н о ў с к і
Не, граф. Ёй важна справа больш, чым слова.
*(Выходзіць.)*

С т а р ж ы ц к і
Рагнеда!

Р а г н е д а
*(уваходзячы)*
Я. Што ты хацеў сказаць?

С т а р ж ы ц к і
Я — нуль для іх! Я — дойная карова,
Горш нават — шалудзівая каза.
Хто б думаць мог? О не! Я прычакаю
Сваёй чаргі. Тады і пагляджу,
Чаго іх гонар варты, як адчаю
Апошняга пяройдзе ён мяжу.
Пабачу: спадзяванні іх ці — самі
Яны ў тым труме стануць пацукамі.
Каб так мяне зняважыць!

Р а г н е д а
Ты аб кім,
Віктор? Аб чым?

С т а р ж ы ц к і
Аб чым?.. Ды ўсё аб
Што дарагім было, што не збылося,
Не збудзецца.

*Уваходзіць с л у г а .*

С л у г а
Да вас палкоўнік Лосеў.

С т а р ж ы ц к і
Прасі!

С л у г а выходзіць.

Р а г н е д а
*(Перад тым, як выйсці.)*
Віктор, ты знаеш: я чакаю
Дзіця... Не забывай...

С т а р ж ы ц к і
Ідзі. Я знаю,
Як мне трымацца. Госць непажаданы
Цяпер не страшны мне.

Л о с е ў
*(уваходзячы)*
Вы ўсхваляваны,
Шаноўны граф. Хацеў бы ведаць чым?
Візітамі?

С т а р ж ы ц к і
Становішчам сваім.
Няпэўнасцю.

Л о с е ў
Няпэўнасць і адмова
Нам паспрыяць — сюрпрыз для Мураўёва,
А за сюрпрыз — сюрпрыз: ланцуг, Сібір.

С т а р ж ы ц к і
У нас вайна, палкоўнік, а не мір.
Я паспрыяю вам, і я — нябожчык:
Злачынны акт! На вуліцах, на плошчах
І ў друку — палітычны рэзананс,
Патрэбны вам...

Л о с е ў
Не думайце за нас.

С т а р ж ы ц к і
Я за сябе... Вы ж чалавек, палкоўнік.

Л о с е ў
Я дома чалавек, а тут чыноўнік.

С т а р ж ы ц к і
Я паміж двух агнёў.

Л о с е ў
Не засталося
Кінжалынчыкаў. Усе яны ў пятлі,
Кінжалы ў шафах.

С т а р ж ы ц к і
Ах, палкоўнік Лосеў,
Каб так!.. Яны нядаўна тут былі.

Л о с е ў
Жартуеце. Марудзіце з адказам,
Забылі, хто мяне прыслаў сюды.
Я вас згнаю ў астрозе з жартам разам.
Дзе доказ? Доказ!

С т а р ж ы ц к і
*(працягваючы распіску)*
Вось яго сляды.

Л о с е ў
Як прозвішча?

С т а р ж ы ц к і
Не знаю. Не пытаўся.

Л о с е ў
Рост?

С т а р ж ы ц к і

Я не мераў.

Л о с е ў
Што там?

С т а р ж ы ц к і
Не прыглядаўся.

Л о с е ў
Узяў сем тысяч?

С т а р ж ы ц к і
Роўна. У мяне
Больш не было.

Л о с е ў
За рэштаю, вядома,
Ён з'явіцца сюды?

С т а р ж ы ц к і
Да аканома
Майго. Маёнтак — на Беразіне.

Л о с е ў
Распіска. А пад ёй стаіць пячаць:
Літоўскі камітэт. Свабода. Роўнасць.

С т а р ж ы ц к і
Грашовы дакумент.

Л о с е ў
Я захаваць
Хачу для Справы гэткую каштоўнасць.
Не пашкадуеце... Даю ўзамен
Дазвол, паперцы гэтай раўназначны —
У Гродню ехаць, падалей ад сцен
Турэмных, што на твары вашым значны.
Гаспадара чакае родны дом,
І вольны Нёман, і сцяжынкі ў садзе.

С т а р ж ы ц к і

А ліст для друку? Подпіс пад лістом?..

Л о с е ў
*(спяшаючыся)*
Пасля, пасля… Няхай сабе ў шуфлядзе
Да лепшых дзён спакойна адпачне,
Пакуль маёнтак на Беразіне
Не дапаможа мне, маёй засадзе
Па тонкай нітцы разматаць клубок,
На віленскі натрапіць адрасок…

Л о с е ў выходзіць з кабінета. Старжыцкі падкідвае паліва ў камін. Вяртаецца Р а г н е д а і займае сваё месца ў крэсле. Вяжа.

С т а р ж ы ц к і
Што новага.

Р а г н е д а
Ёсць вестка ад Гелены.

С т а р ж ы ц к і
Турботная?

Р а г н е д а
Там адбыліся змены —
Марыся ёй маёнтак адпісала.

С т а р ж ы ц к і
Ну што ж, ну што ж. Турбацыі тут мала.

Р а г н е д а
Марыся ў Вільню едзе. Асабняк.
Належыць ёй… Ты ж ведаеш…

С т а р ж ы ц к і
Так, так.
Ну што ж, і гэты клопат не вялік.
Нас заўтра ў Гродню паімчыць ямшчык.

Р а г н е д а

Віктар, няўжо?!

С т а р ж ы ц к і
Вяртаемся назад
Да дарагіх лясоў, палёў, прастораў!..
Пазбавіцца б хутчэй ад Вільні... Ад
Кінжальшчыкаў, жандараў, марадзёраў.
За брамай, на якой вісіць замок —
Жалезны знак кандальнае эпохі,
Ты будзеш зноў вязаць свае панчохі,
А я разматваць змрочных дзён клубок.

## Напярэдадні Новага года

Касцёл. Захрысны пакой. Каліноўскі і Парфіяновіч — паўстанскі камісар па Магілёўскай губерні.

К а л і н о ў с к і
Лес чорны ў снежні. Луг у снежні белы.
Зіма. Дрымотны сон намнога дзён.
Араты сніць мізэрныя надзелы,
Якія са стала свайго прыгон,
Што костку, кінуў згаладалым вёскам.
Абшар дваранскі мроіцца палоскам
І думкам іх спакою не дае.
Тым думкам зброю даць — і стануць войскам.

П а р ф і я н о в і ч
Такіх салдат нам сёння нестае!..

К а л і н о ў с к і
Пад кіраваннем белага «Аддзела»
Паўстанне ў нас, як мокры хмыз гарэла.
Зракліся справы, безнадзейна хворай,
Прэлаты каталіцкіх кансісторый.
Вернападданніцкія адрасы
Падпісвае здрадлівай рукою
Цару дваранства. Надышлі часы
Цяжкія. Сівер агаліў лясы —
Пяць тысяч інсургентаў склалі зброю.

П а р ф і я н о в і ч
А іншыя?..

К а л і н о ў с к і
Літоўскі камітэт
Паспеў ім выдаць адпускны білет,
Як восень — птушкам. З выраю вясною
Яны да гнёздаў вернуцца назад.
Пакуль жывём, для іх і наш загад
Жыве. Аднак, чакаючы на гэта,
Не маем права ў цёплы колер лета
Мы фарбаваць халодны снегапад.
Даводзіцца ўсё аднаўляць спачатку:
Паролі, яўкі, апарат, пячатку.
Расце графа выдаткаў, як на грэх.
Збірайце грошы... Неабходны сродкі
Нам, як паветра, гэтак жа, як снег
Патрэбны вольным рэкам для паводкі...
Рад касу Магілёва падтрымаць,
А чым? Хоць горад свой, але — не блізкі.
Запіска ёсць... Праз падаўца запіскі
Ці зможаце тры тысячы спагнаць?

П а р ф і я н о в і ч
*(беручы запіску)*
Маёнтак графа. На Беразіне.
Знаёмы двор. Не па дарозе мне.
Мяркуеце, што гэта небяспечна?
На візіцёра могуць там чакаць
Не грошы, а наручнікі?

К а л і н о ў с к і
Бясспрэчна,
Ёсць рызыка.

П а р ф і я н о в і ч
Гатоў рызыкаваць.

К а л і н о ў с к і
Ад пастак, ад жандарскага этапу
Нікога я, на жаль, не ўсцерагу,

Таксама, як нікога не магу
Зрабіць мядзведзем, каб смактаў ён лапу
Зімовых сноў у цёплым берлагу.

П а р ф і я н о в і ч
Я сёння ад'язджаю.

К а л і н о ў с к і
Год стары
Мінае. Можа, на маім парозе
Адзначым Новы год?

П а р ф і я н о в і ч
Яго ў дарозе
Я прывітаю бомамі ў бары.
Згадаю Светаянскія муры,
Парог далёкі вашае кватэры,
Храм гэты.

К а л і н о ў с к і
Што ж, тады я адамкну
Касцёла дзверы ў добрыя намеры,
У Новы год, і ў новую вясну.
Фарсіруйце ж хутчэй Беразіну!
Каліноўскі выпускае з касцёла Парфіяновіча.
З бакавых дзвярэй заходзіць к с ё н д з .

К с ё н д з
На вуліцах спакойна. Паступова
Жыццё старыя рэчышчы свае
Знаходзіць, ёлкі дзецям дастае,
Танцуе пад аркестры Мураўёва,
Наладжвае патрыярхальны быт.
Няўжо канец?

К а л і н о ў с к і
Сягоння расстраляны
Не пад аркестры, а пад барабаны,
Былы паплечнік мой Далеўскі Ціт.
Нядаўна ў Коўне смерцю пакараны
Мацкявічус.

К с ё н д з
А летам — ксёндз Ішора,
Калышка, Серакоўскі. Слёз і гора
Не бачыць бог!

К а л і н о ў с к і
Не ўмею суцяшаць.
Але магу, пакуль не позна, зняць
З таго, хто суцяшае, даручэнне
Па справе нашай ехаць за мяжу.
Служыце богу, дбайце пра імшу!
Ад бізуна патрэбна суцяшэнне
Пакорлівай спіне.

К с ё н д з
Я не прашу
Збавення для сябе. Адна бяда нас
Звязала. За адступніцтва Антанас
Мацкявічус мяне б пракляў навек
На свеце тым. О, гэта чалавек
Вялікі быў! Зямелька паглынула,
На жаль, яго. Не верыў ён панам,
Не давяраўся членам капітула,
Хоць быў ксяндзом. Ён верыў толькі вам.
Не раз, не два мой небагаты храм
Чуў ад яго: «Каб мільён талёраў
Я меў, то, божы занядбаўшы сан,
Наймаў бы генералаў, каб сялян
Вучылі за мяжой на афіцэраў...»
Здагадвацца магу, што даручэнне
У Кенігсберг паехаць, дачынення
Не мае да маіх духоўных спраў.

К а л і н о ў с к і
Так... Малахоўскі, Длускі Баляслаў
Чакаюць сродкаў, неабходных школе
Ваеннай.

К с ё н д з
І яны ў маім касцёле

Былі не раз!.. Цяпер мы толькі ўтрох
Тут засталіся: вы, ды я, ды бог.

К а л і н о ў с к і
Бог, кажаце? Не, пробашч! Я мяркую,
Што ён даўно аглух для нашых слоў,
Аслеп для праўды нашай, за якую
Загінулі найлепшыя з сяброў.
Хіба не іх, бязлітаснай рукою
З яго дазволу вешаў Мураўёў
І засыпаў бязведамнай зямлёю?
Цяпер ім — без магіл і без крыжоў,
Заказана ў спрадвечны сад дарога.
То дзе ж ён, бог?.. Тут, апроч нас, нікога
Няма, айцец. Бог з храма выгнаў бога!

К с ё н д з
Калі для нас аглух ён і аслеп,
Дык як жа ў Вільні аднаго пакіну
Я ваяводу ў чорную часіну?

К а л і н о ў с к і
Якіх выпрабаванняў есці хлеб
Мы будзем праз гадзіну ці хвіліну,
Хто ведае?
Чуваць настойлівы стук у дзверы.
Ксёндз зірнуў у акно.

К с ё н д з
Грэх нейкую дзяўчыну
На споведзь мне прыслаў. *(Адмыкае дзверы.)*
Дачка мая,
Спазніліся. Замкнёны дзверы звонку.
Касцёл ужо закрыты... Хто вы?

М а р ы с ь к а
*(уваходзячы)*
Я
Хамуціуса жонка.

## Новы год

Асабняк у Вільні. Той жа кабінет. Каліноўскі і Марыська.

К а л і н о ў с к і
Хто б спадзявацца мог, што так сустрэнем
З табой мы Новы год?

М а р ы с ь к а
Адны.

К а л і н о ў с к і
Але.

М а р ы с ь к а
Зноў ява абнялася з летуценнем.
Гарыць спакойна свечка на стале.
Гарачы пацалунак, стаўшы ценем,
Не астывае на марозным шкле.
Чаму ж, Кастусь, ад саменькага рання
Рвуць кіпцюры цяжкога прадчування
Маю душу?

К а л і н о ў с к і
Марыська, доўгі шлях
Стаміў цябе.

М а р ы с ь к а
Шчаслівых падарункаў
Пад нашу ёлку добры Дзед Мароз
Не пакладзе ўжо...

К а л і н о ў с к і
З дарагіх малюнкаў
Што-кольвеч ён і нам з табой прынёс.
Ты толькі глянь, як пабяліў ён дахі,
Аздобіў шкло, нябёсы падсініў!

М а р ы с ь к а
(*падыходзячы да акна)*
Ва ўзорах шкла вачам вярзуцца жахі,

Якіх не бачыў ты, ды і не сніў.
Прыгледзься... Паміж дзвюх ямшчыцкіх станцый
Стаіць бяроза.

К а л і н о ў с к і
Так.

М а р ы с ь к а
На ёй паўстанцы
Удаўкай задушылі мужыка.

К а л і н о ў с к і
Што ты пляцеш?

М а р ы с ь к а
А вунь, з таго ляска,
Вядуць на шлях паўстанца-дзецюка
Пад вартай мужыкі. Заплюшчы вочы,
Каб у святле станцыйных ліхтароў,
Як я, не ўбачыць раптам сярод ночы
Крывавы ланцужок яго слядоў.
А вунь, а вунь... Яшчэ адзін узор
Відаць на шкле акна... Заезны двор.
Той самы дом, дзе некалі, вясною,
Выпадак пазнаёміў нас з табою.
Упершыню Урублеўскі, я і ты
Там стрэліся... А сёння дом пусты
І непрытульны. Злосны ведер дзверы
Тармосіць дзень і ноч. Глыбокі снег
Замёў мясціну майскую да стрэх.
Дзе ён цяпер, таварыш наш? Валеры?

К а л і н о ў с к і
Дзе ж быць салдату, як не на вайне.

М а р ы с ь к а
Жывы?

К а л і н о ў с к і
Напэўна.

М а р ы с ь к а
Там яму і мне,
Ды і табе, цыганка варажыла.
Сказала праўду нам, тваю — ўтаіла.
Але, зірнуўшы на мяне, адкрыла
Маім вачам нядобры свой сакрэт.
Я прачытала ў іх... Крывавы след...

К а л і н о ў с к і
І ўсё ж мяне ты ў госці запрасіла?

М а р ы с ь к а
Ах, не жартуй, не смейся, так было...

К а л і н о ў с к і
Ты не хвалюйся. Не глядзі на шкло.
Дай мне руку. Я пагашу святло.
*(Гасіць свечку. Абдымае Марыську.)*
Гарыць камін. Святла яго даволі
Для пас з табой! Няхай у час такі
Падвойны цень наш зыбаюць па сталі
Каміна трапяткія языкі,
Малюнкі шкла не смуцяць сэрца скрухай.

М а р ы с ь к а
Не суцяшай мяне, а лепш даслухай...
На тым двары, дзе нас знаёміў май,
На гэты раз мяне да чорнай кавы
Граф запрасіў. Ён быў такі ласкавы
З Марысяй, хоць да раны прыкладай.
Пасля таго, як кампліментаў міску
Я з'ела, граф Віктор мне расказаў,
Што даў табе грашовую запіску...

К а л і н о ў с к і
Пашкадаваў?

М а р ы с ь к а
Ну так... Нібыта з Мінску,
Перад ад'ездам з Вільні, атрымаў
Ад некага ён вестку... аб засадзе

Магчымай...

К а л і н о ў с к і
*(Устрывожана.)*
Дзіўна! Ад каго пачуў
Такое граф? Няўжо на вуха здрадзе
Сам аб ліхой магчымасці шапнуў?
Ад'ехаўся — і мучае сумленне?..

М а р ы с ь к а
Дзівак, дзівак!.. Не можа быць сумнення
Ты ў пастцы! Для дябе, як для ваўка,
Раскідана здрадлівая прынада,
Цікуе шпік, выследжвае засада
Па храмах, па кутках асабняка,
Дзе, рукі склаўшы, я цяпер сяджу,
Не ведаючы, што рабіць з бядою.
Я чула, ёсць дыктатар над табою,
Кароль, які паехадь за мяжу
Дае дазвол? Сама яго ўпрашу...

К а л і н о ў с к і
Не трэба. Ён пакінуць поле бою
Дазволіць можа ўсім, апроч мяне.

М а р ы с ь к а
Няўжо кароль адчай мой адштурхне?
Усіх правоў яго Марысі права
Вышэйшае.

К а л і н о ў с к і
*(прыслухоўваючыся)*
Я чую стук.

М а р ы с ь к а
Аблава!

К а л і н о ў с к і
*(апранаючы паліто)*
Не бойся. Адчыняй.

М а р ы с ь к а
Не адчыню!

К а л і н о ў с к і
Я праз акно — на дах. Не ўпершыню!

К а л і н о ў с к і вылез на дах, прычыніў за сабой акно. Запаліўшы свечку, М а р ы с ь к а ідзе на грукат, які не змаўкае на ніжнім паверсе асабняка. Вяртаецца ў суправаджэнні жандарскага а ф і ц э р а. К а п і т а н а.

М а р ы с ь к а
Праходзьце. Не чакала.

К а п і т а н
З Новым годам
Вітаць Марыю Юр'еўну я рад!

М а р ы с ь к а
І не адзін, як бачу, а са ўзводам...

К а п і т а н
Дарэмны страх. Я адпусціў салдат.
Нядаўна я мужчынскі бачыў профіль
На шкле акна. Хто гэта?

М а р ы с ь к а
Мефістофель,
Напэўна.

К а п і т а н
Дзе ж ён?

М а р ы с ь к а
Знік праз дымаход.
То першы цуд яго на Новы год.

К а п і т а н
Адказ хоць і містычны, але шчыры.
Ды я не стану вобыск учыняць.

М а р ы с ь к а
Чаму ж?

К а п і т а н
Мне не выгодна цуд штурхаць
На шлях, які канчаецца ў Сібіры,
А пачынаецца раней — з турмы...
Папераджаю, што шукаем мы
Дыктатара Літвы і Беларусі.
Так. Ён жа — Каліноўскі... Спадзяюся,
Астрог Марыю Юр'еўну міне.
За вас баюся... Пасвяціце мне!

М а р ы с ь к а вядзе капітана па выхад. К а с т у с ь паказаўся ў акне. Адчыніў яго, саскочыў з падаконніка. Сеў каля каміна. Увайшла М а р ы с ь к а .

М а р ы с ь к а
А ты ўжо тут?

К а л і н о ў с к і
Азяб. Вярнуўся з даху,
Што з полюса.

М а р ы с ь к а
Дрыжыш?

К а л і н о ў с к і
Але, дрыжу
Ад холаду.

М а р ы с ь к а
І я дрыжу... Ад страху...
Нам трэба ехаць. Ехаць за мяжу!
Нам трэба ашукаць абавязкова
Яе...

К а л і н о ў с к і
Каго?

М а р ы с ь к а

Бяззубую каргу,
Якая зноў махнуць касой гатова.
Паедзем. Не пярэч.

К а л і н о ў с к і
Я не магу.
Не маю права.

М а р ы с ь к а
Гэта канчаткова?

К а л і н о ў с к і
Але.

М а р ы с ь к а
Сагрэўся?

К а л і н о ў с к і
Не.

М а р ы с ь к а
Што ж!.. Чаркай рому
Сагрэем, Яська, кроў... Тут недзе ром
Пакінуў граф... Памінкі па Арцёму
Нам трэба справіць.

К а л і н о ў с к і
Як?.. Памёр Арцём?..

М а р ы с ь к а
Паўстанцы пакаралі... Так, мінула
Сягоння сорак дзён... Спіць, дзе заснула
Яго Мальвіна непрабудным сном.
Яна мяне калісьці малаком,
Як я маленькаю была, карміла.
Далёкая, забытая магіла!..
Арцём, калі ад кулі паміраў,
То мне і ўсёй радні сваёй жадаў
Жыць доўга, не спяшацца з дамавінай
Так і сказаў: — Чым будзеце радзей
Вы засяляць клады мае з Мальвінай,

Тым будзе нам з ёй спачываць лягчэй..

К а л і н о ў с к і
За што ж яго?

М а р ы с ь к а
Гаўрылава... салдата,
Каб ён не трапіў сотніку ў палон,
Арцём схаваў, пашкадаваў, як брата.
Памянем жа! Мінула сорак дзён.
*(Моўчкі выпіваюць.)*
Ах, Яська, Яська, дарагі мой госць,
Любіў Яцына паўтараць, бывала.

К а л і н о ў с к і
Але, любіў... Чаму ты не сказала
Адразу мне?

М а р ы с ь к а
Бо Яську шкадавала.
Цяпер кажу. Знай праўду ўсю, як ёсць.
Мне Яську шкода. Караля не шкода!..
За ўладу ён усіх панішчыць рад.

К а л і н о ў с к і
Пры чым тут я?

М а р ы с ь к а
Не ты, дык твой загад
Штурхнуў Арцёма ў ямку, ваявода!
Адважыўся штурхнуць — трымай адказ!
Я на паўстанне мела спадзяванне
Адзінае. Цяпер само паўстанне,
О, божа, не за нас, а супраць нас!
Свет — наш Мантэкі, час — наш Капулецці!
Мы ўладай іх асуджаныя дзеці.
Пераараная іх лемяхамі,
Знясіленая злом, стаю адна.
Арцём, Арцём!.. Чаму ты паміж намі
Сцяною вырас? Да нябёс сцяна!
О, божа, стыне кроў мая ад жаху!

К а л і н о ў с к і
Сябе я вінаватым не лічу...

М а р ы с ь к а
Ты барабаншчыку і трубачу,
Якія павядуць цябе на плаху,
Скажы лепш гэта... Ты цяпер караеш
Мяне. Сябе. Хацела б знаць віну
Сваю перад табой?

К а л і н о ў с к і
Ты праклінаеш
Мяне?

М а р ы с ь к а
Ідзі!.. Не я цябе кляну,
А дзеці, што каханнем не зачаты,
А сонда, што ўставала над зямлёй,
Калі мы цалаваліся з табой
На паграбні каля зычлівай хаты,
Вяселле, што тады не знала бед,
Грымоты, пад якімі танцавала
Я, плачучы, цябе правёўшы ў свет!
Яшчэ кляне цябе твой кожны след,
Які пасля дажджу я цалавала...
Ідзі хутчэй, пакуль я не кляну
Сама цябе. Пакінь мяне адну!

## Канцылярыя Мураўёва

Мураўёў і чыноўнік Масолаў.

М у р а ў ё ў
З цікавасцю чытаў я дзённік ваш.
Мне спадабаўся ў ім запал юначы,
Жывое слова, бойкі карандаш.
Што ж, бласлаўляю і жадаю ўдачы
Далейшай нашаму карандашу,
Каб ён у апісанні мяцяжу
Трымаўся летапіснага настрою,

Заходзіў за парадай да мяне.
Дзярзайце!.. Што, дарэчы, за мяжою
Апошнім часам пішуць аб вайне
З паўстанцамі?

М а с о л а ў
З'явілася паэма,
Напісаная прозаю. А тэма
Яе — пакуты інсургентаў. Кроў,
Якая льецца пад выццё ваўкоў,
Свіст куль...

Му р а ў ё ў
...I каламбуры Мураўёва.
Чытаў. Не адмаўляю, пачуццёва
Напісана. Ніяк не могуць слоў
Забыць маіх: што я хоць Мураўёў,
А толькі выпаў гонар мне належыць
Да Мураўёвых, не да тых, якіх
Калісьці вешалі, а да жывых,
Прыбыўшых з місіяй караць і вешаць.
Паэма ў прозе... Не заціхла бура
Ваяк-пісак у шклянцы каламбура.
Паэма — што? Была карыкатура,
Дзе над Расіяй я — хто б думаць мог!
Пяньковую пятлю, як німб, трымаю,
Мяцеж — апірышча яе! — з-пад ног
Пакутніцы абцасам выбіваю.
Ідэя знамянальная!.. Я знаю,
З якіх яна пазычана галоў.
То «Колокол», то Герцэн, Агароў!..
Мяцежных блых набраліся ў іх будцы
Тутэйшыя, чырвоныя давудцы,
Цяпер вярнуць Расіі хочуць іх.
Запомніце. Не выпадковы штрых!
Ён нарысіста з важнай думкай звяжа..

Уваходзіць а д ' ю т а н т .

А д ' ю т а н т
Дазвольце патрывожыць?

М у р а ў ё ў
Што там?

А д' ю т а н т
Ваша
Правасхадзіцельства, ёсць навіна,
Якой даўно чакалі. Вось яна!
(Працягвае тэлеграму.)
Зрабіце ласку глянуць, а таксама
Рашэнне адпаведнае прыняць
Па тэлеграме.

М у р а ў ё ў
З Мінска тэлеграма,
Ад Лосева... Ну што ж!.. Удакладняць
Не будзем. Светаянскія муры
Салдатамі надзейна ачапіце.
Бярыце роту, дзве, а мала — тры.
Схапіце Каліноўскага! Судзіце!
*(Ад'ютант выходзіць.)*
Закончыўся, як быццам, паспяхова
Жандарскага палкоўніка ваяж.
Разблытаўся клубок!.. За вамі слова,
Масолаў. Навастрыце карандаш,
Запісвайце ў свой дзённік, літаратар:
Нарэшце ў сеці трапіў нам Дыктатар,
Кароль мяцежны!.. Я яго злаўлю,
І світы каралеўскае пазбаўлю,
І кропку, што падобна на пятлю,
Ваенна-палявым судом пастаўлю
На аркушы апошнім мяцяжу.
Што трэба больш? Запісвайце.

М а с о л а ў
Пішу.
Камера № 3
Дамініканскі будынак. Камера № 3.
Каліноўскі і Масолаў.

М а с о л а ў

Вы знаеце прысуд свой, безумоўна?

К а л і н о ў с к і
Але.

М а с о л а ў
Я разумею, не тактоўна,
Ды і не час пытанні задаваць.
Я скромны нарысіст. Хачу пісаць
Пра час наш успаміны.

К а л і н о ў с к і
Мне ўсё роўна.
Прывык да следства. Можаце пытаць.

М а с о л а ў
Наш час — арэна боек... Як пасмелі
Вы, раб яго, не бог, а чалавек,
Аддаць жыццё юнацкае на здзек
Уладару вядзьмарскай каруселі?
Дужэйшыя скарыць яго хацелі,
Ды не змаглі. Не выйгралі вайну.

К а л і н о ў с к і
Я ім не стаўлю гэтага ў віну.
Яны ляглі ў зямлю, мы следам ляжам.
Ды нехта ж прыйдзе, стаўшы мсціўцам нашым,
І скруціць д'яблу рог, як барану.
Не раджу адпяваць нас канчаткова.
Чакае зерне наша на ўзыход
З раллі.

М а с о л а ў
На ўвазе маеце народ?..

К а л і н о ў с к і
Яшчэ свайго не вымавіў ён слова.

М а с о л а ў
Але чаму?.. Пакуль з Варшавай вы
Спрачаліся за ўладу, за правы

Сярмяжнай Беларусі і Літвы,
Па вёснах, пад наглядам Мураўёва,
Цар касаваў прыгонныя правы.

К а л і н о ў с к і
Страх касаваў. Тут не цара заслуга:
Збаялася сякер мужыцкіх пуга
Прыгонніцтва. Праз мутны Рубікон,
Не цар, паўстанні страшны след праклалі.
Яны крывёю фарбавалі хвалі
Ракі, пад назвай д'ябальскай — Прыгон.
Ён многіх паглынуў. Мы можам згінуць,
Кат можа нам заткнуць зямлёю рот,
Але сякеры, пушчаныя ў ход,
Ужо з крутога берага не скінуць,
Не сцерці наш, на ім прыкметны, знак.

М а с о л а ў
Яшчэ хачу спытаць. Хто вы? Паляк
Альбо літвін? Ці беларус, якога
Не ведае ніхто, апроч лясоў,
Ды лесуноў, ды курнага парога?..
Хто будзеце?

К а л і н о ў с к і
Мне дваццаць шэсць гадоў.
Край беларускі, з матчынай калыскі
Да гэтых дзён, мне дарагі і блізкі.
Я сын яго і ганаруся тым,
Што з ім паветрам дыхаю адным.
Я знаю, маюць права ўсе народы
На ўвагу праўды, шчасця і свабоды.
Я зычу ўсім дабра.

М а с о л а ў
А рускім, нам?

К а л і н о ў с к і
Я прыяцель Расіі, той, якая
Дабра жадае нам, а не панам
Сваім і польскім, той, што не жадае

Свайму народу згубнага жыцця,
Бурлацкіх стогнаў, катаргі кандальнай.
Яшчэ пытанні ёсць?

М а с о л а ў
Не!.. Спавядальнай
Размовай, бачу, злоўжываю я.
Хто вы — я зразумеў. Вы — сацыяльнай
Сусветнай рэвалюцыі дзіця.

М а с о л а ў выходзіць з камеры. Каліноўскі садзіцца за стол, дзе для яго патрэб стаіць чарніліца, ляжыць папера. Бярэцца за пяро. Піша. Незаўважаны ім, у камеру ўвайшоў к а п і т а н.

К а п і т а н
Дазвольце прывітаць!

К а л і н о ў с к і
А! Капітан!

К а п і т а н
Пазналі?.. Не заслаў яшчэ туман
Стрэч нашых вольных светлыя хвіліны?

К а л і н о ў с к і
Няўжо і ў вас таксам а выспеў план
Пісаць аб днях мінулых успаміны?

К а п і т а н
Крый бог!.. Славеснасць, кажучы банальна,
Супрацьпаказана са школы мне.

К а л і н о ў с к і
Прыйшлі ў былой пакаяцца віне,
Што скончылася для мяне фатальна?
Прыйшлі, каб дакараць? Не траццё слоў.
Як і раней, магу я капітану
Сказаць, што не прасіў, прасіць не стану
У суддзяў пажыццёвых ланцугоў.
Ці, можа, што суду няясна?

К а п і т а н
Ясна
Усё. Даўно. Ствараючы зямлю,
Бог даў на гора людзям адначасна
Дабро і зло, каханне і пятлю...
Прыйшоў, каб вызваліць, пакуль не позна,
З астрога Кастуся... Марыся слёзна
Прасіла. Я адмовіць ёй не мог.

К а л і н о ў с к і
Не веру.

К а п і т а н
*(паказваючы прадпісанне)*
Што ж, зірніце на паперу.
Загад?

К а л і н о ў с к і
Загад.

К а п і т а н
Фальшывы... Бачыць бог,
Іду дзеля Марысі на падлог,
На крок недаравальны афіцэру.
Я вызваляю вас, мяне яна
Ратуе, як злачынца, за мяжою,
Паабяцаўшы жонкай стаць маёю.
Як бачыце, нас трох бяда адна
Звязала непазбежнасдю адною.
Другіх, на жаль, магчымасцяў няма.

К а л і н о ў с к і
Узяць Марысю капітан гатовы
У рабства?

К а п і т а н
Папікаеце дарма.
Не я, яна прадыктавала ўмовы,
Я — толькі раб няшчаснай прапановы.
Не я цяпер рашаю лес яе,—
Заложніцы святой любві свае,

Любві, якой не мне даваць парады,—
Над ёй адказ ваш мае сілу ўлады.
Прымаеце свабоду?

К а л і н о ў с к і
Не прыму.

К а п і т а н
Няўжо Марысю кінеце ў турму?
Так, так!.. У манастыр!.. І вам не шкода
Красы, якой аздобіла прырода
Яе?.. А я — гатоў маліцца ёй,
Аб косах марыць, як сляпы аб цудзе!

К а л і н о ў с к і
Зазнаўшы лес нявольніцы, не будзе
Марыся ўжо Марысяю былой.
А я, аддаўшы глуму і пакуце
Усё, што сэрца лічыць дарагім,
Хіба не стану для яе чужым?
Не!.. Хай даруе мне высакародны
Злачынец, толькі ў час перадсмяротны
Я за сваю свабоду не прадам
Яе свабоду!..

К а п і т а н
Што сказаць мне вам?
Я не шкадую, што пабачыў вас,
Шкадую толькі — што ў апошні раз!

К а п і т а н пакідае камеру. Каліноўскі падыходзіць да закратаванага акна.

К а л і н о ў с к і
Там, за акном — абрыс пятлі мае...
Жыцця, што праўдзе я аддаў дазвання,
Не шкода... Шкода толькі ў час расстання
Мне вол і ў полі, як народ пяе,
На небе сонца, на зямлі кахання.
(*Бярэ са стала ліст да Марысі. Чытае ўслых.)*
«Марыська чарнабровая мая,

Дзе шчасце, доля ясная твая?
Усё прайшло і не збылося ў часе.
Адна страшэнна горыч засталася
І каменем на сэрца смутак лёг.
Калі ўжо нас за нашу праўду бог
Пачаў караць і, з вісельняй у згодзе,
Нам прападаць прызначыў пры ўваходзе
У вечны сад, то мы хутчэй загінем,
Чым скардзіцца пачнём на марны лес,
Хутчэй ад шчасця і саміх нябёс
Адмовімся, а праўды не пакінем...»

Каліноўскі зноў сеў за стол. Абапёрся на яго рукой... У камеру, пакінуўшы незачыненымі дзверы, увайшоў м а л а д ы ч а л а в е к... Але гэта ўжо не ява, а сненне.

К а л і н о ў с к і
Тут адзіночка, а не прахадны
Двор... Госць дзвярэй, з падвойнымі замкамі,
Не;зачыніў.

М а л а д ы ч а л а в е к
Так. Кастуся яны
Цяпер з астрога выпускаюць самі.
Пайшлі са мной.

К а л і н о ў с к і
Куды? Я не ўяўляю
Хто ты такі. Мяне ты знаеш?

М а л а д ы ч а л а в е к
Знаю
І помню Кастуся даўно, з часоў
Свайго маленства. Я магу паймённа
Пералічыць усіх яго сяброў,
Арцёма, і Мальвіну, і Лявона,
І іншых... Я па сцежках тых блукаў
Над Нёманам, дзе ён гуляў з Марысяй,
Вянкі і пальцы, як вянкі, сплятаў.
Здзіўляешся? Дарэмна. Не дзівіся.

К а л і н о ў с к і
Адкуль ты можаш ведаць гэта?

М а л а д ы ч а л а в е к
З кніг.

К а л і н о ў с к і
А!..

М а л а д ы ч а л а в е к
І яшчэ са следчых пратаколаў.
Чаму ты пазмрачнеў ад слоў маіх?
Хадзем ад мёртвых продкаў да жывых
Патомкаў! Не схіляй на грудзі голаў.

К а л і н о ў с к і
Чакай... Жыццё, на жаль, у нас адно...

М а л а д ы ч а л а в е к
Бяры пяро, паперу, верш прачуты,
Што ты Марысі склаў, а за адно
Вазьмі з сабою і яе пакуты,
Вынось адгэтуль і цяжкі свой крыж,
Нічога тут не пакідай... Ты спіш?
Паспі перад дарогай... Заўтра рана,
Пад гук трубы і пошчак барабана,
Цябе канвой на плошчу павядзе.
Натоўп расступіцца і прагудзе
Трыццацітысячнымі галасамі.
Пасля, калі яго бязладны хор
Пачне сціхаць, бядзе наперакор,
Вясёла страсянуўшы валасамі,
Ты смела ўзыдзеш на круты памост
І станеш перад смерцю ў поўны рост...
Праз мутнае акно сваёй пятлі
Зірнеш у вочы людзям, а калі
Зямлю асвеціць сонца, што ў засадзе
Таілася да гэтае пары,
Ты ўчуеш песню жаўранка ўгары,
Убачыш мужыка на даляглядзе
З канём і сошкай, і шапнеш:

## Эпілог

1871 год. Парыж. Вясна. У вестыбюлі гасцініцы, то тут то там, спяць на падлозе федэраты — байды Парыжскай Камуны. Світае. З другога паверха спускаецца М а р ы с ь к а ў апратцы манашкі, з драўляным распяццем па грудзях. Углядаецца ў твары федэратаў, нібы некага шукаючы сярод іх. Заўважыла крэсла, у якім дрэмле чалавек. Адна рука ягоная, як перабітае крыло, звісае долу. Падышла. Гэта Урублеўскі. Адчуўшы на сабе ўважлівы позірк, ён ачнуўся. Глядзіць на Марыську.

М а р ы с ь к а
Не можаце пазнаць?.. А я пазнала
Парыжскае Камуны генерала.

У р у б л е ў с к і
Няўжо Марыська?..

М а р ы с ь к а
Так.

У р у б л е ў с к і
Даруйце, цяжка
Вачам згадзіцца... Не! Вы не манашка
Для іх... А незабыўная радзіма,
Якой да твару не пасуе схіма.
Даруйце... І расказвайце хутчэй,
Ну як там Нёман наш?.. Як і раней,
Ён у Балтыйскае ўпадае мора?

М а р ы с ь к а
Сама хацела б ведаць... Я не ўчора
Прыехала сюды з манастыром
Візантыйскім. Ён цяпер — мой дом,
Мой край, мой Нёман.

У р у б л е ў с к і
Што на барыкады

Марыську прывяло?

М а р ы с ь к а
*(гледзячы на камунараў)*
Трывожным сном
Спяць перад новым боем федэраты,
З рук стрэльб не выпускаючы сваіх.
Я Кастуся шукаю сярод іх.
Ён, пэўна, тут? Даведацца прыйшла...
*(Урублеўскі маўчыць.)*
Сем доўгіх год не верыць сэрца страце.
Я Кастуся калісьці пракляла,
Ён мне назад вярнуў мае пракляцце.
Больш, чым сябе, ён, грэшных нас любіў...
На злосць манастыру і змрочным ночкам
Не раз мне ў снах з'яўляўся ён Чарноцкім,
А ў ясны дзень у марах — Яськам быў.
Здаецца, што і тут я размаўляю
З ім, як з жывым. Ён не памёр. Я знаю,
Ён тут павінен быць.

У р у б л е ў с к і
Каб не прысуд
Смяротны, каб не смерць, ён быў бы тут.

М а р ы с ь к а
Ах, генерал! Маўчыце. Я не веру.

Перадсвітальную цішыню парушыў гул гармат. Затрымцелі шыбіны ў вокнах. Прахапіліся камунары.

П е р ш ы ф е д э р а т
Зноў Цьер паспаць не даў.

Д р у г і ф е д э р а т
Паспім, сябры,
Пасля, як зубы абламаем Цьеру
Аб форт Іўры.

У р у б л е ў с к і
Усе на форт Іўры!

Вестыбюль гасцініцы апусцеў.
Недзе непадалёк часцей і часцей кладуцца снарады.
Парахавы дым засцілае вокны.

М а р ы с ь к а
*(прыслухоўваючыся да гукаў бою)*
Хамуціус, Хамуціус!..

## Некаторыя звесткі аб асобе Кастуся Каліноўскага і яго паплечніках

М у ж ы ц к а я п р а ў д а (1862-1864 гг.) — першая нелегальная беларуская газета, якая выдавалася Каліноўскім пры ўдзеле Валерыя Урублеўскага. Свае матэрыялы ў газеце Каліноўскі падпісваў псеўданімам «Яська гаспадар з-пад Вільні». Западозраны ў распаўсюджванні «Мужыцкай праўды», Каліноўскі летам 1862 года пераходзіць на нелегальнае становішча.

У р у б л е ў с к і В а л е р ы (1836-1908 гг.)—дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Энергічны паўстанцкі камандзір у 1863—1864 гг. Па прапанове Каліноўскага Урублеўскі быў прызначаны ваяводай Гродзенскай губерні. Урублеўскі ў далейшым — генерал Парыжскай Камуны, член Генсавета I Інтэрнацыянала.

Д а м б р о ў с к і Я р а с л а ў (1836-1871 гг.)—польскі рэвалюцыянер, дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху. У дні Парыжскай Камуны галоўнакамандуючы ўсіх яе ўзброеных сіл. Загінуў у баі з версальцамі. Ленін пісаў: «Памяць Дамброўскага і Урублеўскага непарыўна звязана з найвялікшым рухам пралетарыяту ў XIX веку...» (У. І. Ленін. Творы, т. 6, стар. 420).

П а т а б н я А н д р э й (1838-1863 гг.)—рускі рэвалюцыянер. Афіцэр. Адзін са стваральнікаў «Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы». Загінуў радавым паўстанцам у баі з царскімі войскам!.

ЦНК—1 Цэнтральны нацыянальны (нарадовы) камітэт у Варшаве. 22 студзеня 1863 года ЦНК абвясціў сябе Часовым нацыянальным урадам і 29 студзеня звярнуўся са спецыяльнай адозвай да жыхароў Літвы (пад «Літвой» у той час разумелася Літва і Беларусь):

«Вузел усёй справы — у Літве, і паўстанне Літвы вырашыць пытанне аб уваскрашэнні Польшчы...»

Л і т о ў с к і к а м і т э т — рэвалюцыйная арганізацыя ў Вільні, якую ўзначальваў Каліноўскі і яго сябры «чырвоныя». 1 лютага 1863 года Літоўскі камітэт абвясціў сябе паўстанцкім Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі.

К а м і т э т « б е л ы х » у В і л ь н і — арганізацыя буйныхі сярэдніх землеўладальнікаў. Члены гэтага камітэта, напалоханыя рэвалюцыйна-дэмакратычным кірункам паўстання ў Літве і Беларусі, змовіліся з прадстаўніком паўстанцкага ўрада Варшавы, камісарам Несцерам Дзюлеранам. Дзюлеран, які раней супрацоўнічаў з «чырвонымі», перакінуўся на бок «белых».

Літоўскі камітэт загадам з Варшавы быў распушчаны і, створаны замест яго, «Аддзел» кіраўніцтва правінцыямі Літвы ўзначаліў Я. Гейштар.

К р у п с к і К а н с т а н ц і н (1838-1883 гг.) — рускі афіцэр, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў арміі. Бацька Н. К. Крупскай. У 1863 годзе, будучы камандзірам роты, дапамагаў паўстанцам. Х а м у ц і у с (ад «хам», у значэнні — мужык, просталюдзін) — адна з нелегальных, хутчэй за ўсё сяброўскі-жартоўных, клічак Каліноўскага.

С е р а к о ў с к і С і г і з м у н д (1826-1863 гг.)—дзеяч польскага і рускага рэвалюцыйнага руху.

М а ц к я в і ч у с А н т а н а с (1828-1863 гг.)—літоўскі рэвалюцыянер. Вёў рэвалюцыйную прапаганду ў народзе, будучы ксяндзом. На пачатку паўстання ўзначаліў шматлікі сялянскі атрад. Пасля гібелі Серакоўскага Каліноўскі прызначыў яго паўстанцкім ваяводай Ковенскай губерні. Быў схоплены і расстраляны.

М а л а х о ў с к і У л а д з і с л а ў — саратнік Каліноўскага, паўстанцкі начальнік горада Вільні. У 1871 годзе — удзельнік Парыжскай Камуны.

Л і с т да М а р ы сі. Седзячы ў турме, Каліноўскі напісаў вершаванае пасланне да Марысі. Аднак, хто такая Марыся — гісторыкамі да гэтага часу не высветлена.

1 8 6 4 г. Л о н д а н . На рабочым мітынгу заснавана Міжнароднае Таварыства рабочых (Першы Інтэрнацыянал). Паводле слоў К. Маркса, паўстанне 1863 года і рабочы рух салідарнасці, які ўзнік у сувязі з паўстаннем, былі зыходным пунктам для ўтварэння Інтэрнацыянала.

1964 г. У першым томе шасцітомнай «Гісторыі КПСС» Каліноўскі, побач з імем Т. Шаўчэнкі, называецца ў ліку «актыўных дзеячаў рэвалюцыйнага лагера эпохі падзення прыгоннага права».

## ЗМЕСТ

Валянціна Куляшова. «Зайздрошчу я мастам...»

**ВЕРШЫ**

*Мая Бесядзь*
Бывай
Дарогі
«Як дзень адыходзіць...»
Маладосць
Воблака
Ельнік
Карусель
На сотай вярсце
Шэршні
Бюро даведак
Млын
Хатка
Магілёўская хмарка
Ранак
Вуліца Маскоўская
«Плыла, цалавалася хмара з зямлёй...»
Паведамленне ТАСС
Мая Бесядзь

*Пасведчанне*
Крылы
Дом
Колас
Чмель
Сланечнік
Вяселле
Каменка
Лісты
Навагодняя ёлка
Зямля
Пасведчанне
Балада пра вока
Балада аб жывой газеце
Размова з патомкам
Маё сэрца ў бары
На пасадзе цяжкой

*На полі бою*

Млынар
Балада аб чатырох заложніках
Над брацкай магілай
Ліст з палону
Віцебская махорка
Маці
Камсамольскі білет
Быль аб цымбалах і цымбалісце
Пад восеньскім небам
Галубкі.
Бярозка
Адказ
Балада аб знойдзенай падкове
Алёнка
На полі бою

*На паўмільярдным кіламетры*
Аб любві
Аб рэўнасці
Ты і я
Вянок
Маё пасведчанне
Пра восень
« Калі вясною закукуе…»
«Чалавек юбілейнага ўзросту…»
Да паэзіі
Элегія
«Ужо даўно абрус зімовы…»
«Чужой любві я не зайздрошчу…»
«Спакойнага шчасця…»
«Нібы здраду салдат…»
Перад падарожжам
«Я пісаў бы, як раней пра зоры…»
Пра Марс
Пра вечнае пяро
Апошняя кніга
На паўмільярдным кіламетры
«Завея лісцяў у сняжынак пух…»
«Падлетак я — ад пят і да валос…»
«Ужо з другім заручана дзяўчынка…»
«Мы славу параўноўваем з вінам…»
«Калі заслужаная слава…»
«Калі каханне абвянчае…»
«Людское сумленне за грошы…»
«На абшарпаную халупу…»

«Лес адпалаў і чорным стаў ад страты...»
Пра асіны
Зіма ўцякае начамі
«Я з юнацкіх дзён лічуся вязнем...»
7 лістапада 1966 года
«Пасля хваробы доўгай і цяжкой...»
«Сноп апошні залатога жыта...»
Пра боль
«Пашанцавала тройчы мне...»
«Глыбокі лістапад у Белавежы...»
Сасна і бяроза
«Даўно закончыліся спрэчкі...»
«Не сустракацца мне больш ніколі...»
Над спаленай вёскай
Пад гарою
Балада

*Снапы*

«Есць у паэта свой аблог цалінны...»
«Усім бароznам, раўчукам, кюветам...»
«Ад шчасця сэрца скача, як дзіця...»
«Гадзіннік мой — не сонца, што ў зеніце...»
«За годам год ляцяць дзесяцігоддзі...»
«Нябёсы — акіян, я знаў даўно...»
«Шторм акіянскі стрэў на трэці дзень я...»
«Сышлося неба з акіянам блізка...»
«Стаю і з пачуццём неўтаймаваным...»
«Адвечны час з нябачных нам дарог...»
«Ты згасіш, сонца, час, але не згіне...»
«Сама Зямля не вечна — час даводзіць...»
«Сцвярджае час: заўжды жыццю на змену...» .
«Калі з зямлі на белай хмары ў неба...» .
«Парушыўшы законы прыцягнення...»
«Мне сніўся сон: ты адляцела ў вечнасць.
П раз дзесяць год ты з'явішся з-за хмары
«Я ў лузе кветкі не сарваў ніводнай...» .
«Не старадаўні бард, але ўсё роўна...» .
«Таварыш соснам, караедам вораг...» .
«Маёй рукой пасаджанай бярозе...» .
«Я гіну ад бяздзейнасці не месяц...» . .
«Мне кожны год, нібы жыццём другім...»
«Не злуйся, акіян, калі патраплю...» .
«Палын не трэба ні млынам, ні зводкам..
«Я хаце абавязаны прапіскаю...» . . .
«Я музу параўнаў бы з роднай маці...» .

«Салдатаў веку, што па грозных цэлях..
«Сябры, каго вайна скасіла кулямі...» .
«Бег цень мой на гару, каціўся з кручаў..

*Маналог*
«Калі і дзе, я ўдакладняць не стану...» . .
«Сябры мае!..»
«Быў кожны з вас адважных стартаўварты.
«Не бачыўся я ўсё жыццё амаль...» . . .
«Як мне сябрам паклон адважыць нізкі...»
«Глядзіце без дакору і пагарды...» . . .
«Так, мы — сябры па сэрцу і па зброі...» .
«Адзіным дрэвам дружбы мы раслі...» . .
«Адзін памёр ад тыфусу брушнога...» . .
«Яны ў мае наведваліся сны...» . . . .
«Датуль мне ў снах з'яўляліся яны...» . .
«Хваробу, што здароўе падкасіла...» . .
«Мой маналог, як палымяны конь...» . .

*Хуткасць*
Адзіны серп на сённяшнім жніве
Слова пра вала
Пра славу
Пастух
Парада сабе самому . . . .
«Не з горшых той сусед...» . .
«Зайздрошчу я мастам...» .
Слова невядомага салдата . .
Запісная кніжка
Хуткасць
Мой Новы год

**ПАЭМЫ**

Крыўда
Хлопцы апошняй вайны
Сцяг брыгады
Прыгоды цымбал
Цунамі
Далёка да акіяна
Варшаўскі шлях
Хамуціус
Некаторыя звесткі

**Куляшоў А.**

Паміж наступным і былым: Вершы, паэмы/Уклад. і прадм. В. Куляшовай.— Мн.: Маст. літ., 1995.— 542 с., іл.— (Б-ка беларус. класікі).

ISBN 5-340-01383-9.

У гэтай кнізе народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова (1914—1978) чытач знойдзе лепшае з творчай спадчыны выдатнага пісьменніка, які ўзбагаціў нашу літаратуру рамантычна адухоўленай, высокаметафарычнай, напоўненай багаццем філасофскіх вобразна-асацыятыўных сувязей і адначасова ў найвышэйшых сваіх праявах глыбока інтымнай, прапушчанай праз жывое трапяткое сэрца паэзіяй.

Літаратурна-мастацкае выданне

Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч

Паміж наступным і былым
В е р ш ы, п а э мы

Рэдактар В. М. Хлебавец
Мастак М. С. Будавей
Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт
Тэхнічныя рэдактары Г. Г. Федарук, Г. П. Тарасевіч
Карэктар Л. М. Маслоўская

Здадзена ў набор 16.03.94. Падгі. да друку 20.12.94. Фармат 84х108 /з2. Папера друк. № 2. Гарнітура кудрашоўская. Ум. друк. арк. 28,56. Ум. фарб.-адб. 28,56. Ул.-выд. арк. 26,75. Тыраж 8000 экз. Зак. 842.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.